У. С. Кошалеў

# СУСВЕТНАЯ ГІСТОРЫЯ НОВАГА ЧАСУ

## XIX – пачатак XX ст.

**Вучэбны дапаможнік**
**для 9 класа агульнаадукацыйных устаноў**
**з беларускай мовай навучання**

3-е выданне,
дапоўненае і перагледжанае

*Дапушчана Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*

Мінск
«Выдавецкі цэнтр БДУ»
2010

УДК 94(100)(075.3=161.3)
ББК 63.3(0)я721
К76

Метадычнае забеспячэнне
*Н. В. Байдаковай*

Рэцэнзенты:
кафедра ўсеагульнай гісторыі ўстановы адукацыі
«Магілёўскі дзяржаўны ўніверсітэт імя А. А. Куляшова»
(кандыдат гістарычных навук дацэнт *У. В. Барысенка*;
кандыдат гістарычных навук дацэнт *А. А. Вараб'ёў*);
настаўнік гісторыі вышэйшай катэгорыі
дзяржаўнай установы адукацыі
«Гімназія № 146 г. Мінска» *Н. І. Стэльмах*;
рэктар установы адукацыі
«Брэсцкі дзяржаўны ўніверсітэт імя А. С. Пушкіна»,
доктар гістарычных навук, прафесар *М. Э. Часноўскі*;
дацэнт кафедры гуманітарных дысцыплін прыватнай установы адукацыі
«Інстытут прадпрымальніцкай дзейнасці» *П. М. Гламбоцкі*

**ISBN 978-985-476-867-0**

## АД АЎТАРА

Паважаныя юныя чытачы!

У 9-м класе вы прадоўжыце вывучаць гісторыю Новага часу і азнаёміцеся з другім перыядам гэтай эпохі. Але перш чым выправіцца ў думках у падарожжа па краінах XIX — пачатку XX ст., задумаемся яшчэ раз над тым, што ёсць гісторыя. Якое месца займае яна ў жыцці чалавека? Заканамерныя ці выпадковыя падзеі, што адбыліся? Што вызначае ход часу? Можа, гісторыя — гэта ўсяго толькі мы, людзі? На гэтыя і многія іншыя пытанні вам дапаможа адказаць ваш настаўнік, бо без яго падарожжа ў гісторыю — усё адно, што плаванне на караблі без капітана.

Кніга складаецца з пяці раздзелаў: «Заходняя Еўропа», «Адна Амерыка — два светы», «Расійская дзяржава. Славянскія краіны», «Краіны Азіі і Афрыкі», «Першая сусветная вайна». Яны ў сваю чаргу падзяляюцца на параграфы.

У канцы параграфаў прапануюцца пытанні і заданні для праверкі ведаў. Матэрыялы рубрык «Раім абмеркаваць» і «Гэта цікава» дапамогуць вам развіць здольнасць да актыўнага мыслення і крытычнага асэнсавання гістарычных падзей.

Уважліва азнаёмцеся з вучэбным дапаможнікам. Вы ўбачыце, што асаблівым **тлустым шрыфтам** выдзелены даты, якія неабходна запомніць, і тэрміны, якія больш падрабязна тлумачацца ў «Слоўніку гістарычных тэрмінаў і паняццяў». Ключавыя словы, на якія варта звярнуць асаблівую ўвагу, пададзены *светлым курсівам*, а імёны вядомых прадстаўнікоў Новага часу — ***паўтлустым курсівам***. «Храналагічная табліца» дапаможа вам запомніць самыя важныя падзеі гэтага перыяду. А тым, хто імкнецца пашырыць свой кругагляд і ўдасканаліць веды, прапаноўваецца спіс дадатковай літаратуры.

Ён стане для вас своеасаблівым компасам у моры кніг па сусветнай гісторыі. Каб прачытанае надоўга засталося ў памяці, раю вам весці дзённік чытача.

Пры падрыхтоўцы дамашняга задання выкарыстоўвайце ілюстрацыі, картасхемы, схемы, графікі і табліцы. Выконвайце заданні да кожнага ўрока адказна і старанна.

Шчыра жадаю вам поспеху ў вучобе!

*Умоўныя абазначэнні:*



**раім абмеркаваць** — дакументальны матэрыял і тэмы для абмеркавання;



**гэта цікава** — займальны тэкст для чытання

*Скарачэнні, прынятыя на картасхемах:*

| | | | |
|---|---|---|---|
| а-вы | астравы | Злуч. | Злучаныя |
| арх. | архіпелаг | КАР. | каралеўства |
| аўт. | аўтаномны | Нов. | Новы |
| в. | востраў | Паўд. | Паўднёвы |
| ВОБЛ. | вобласць | Паўн. | Паўночны |
| воз. | возера | прал. | праліў |
| Вял. | Вялікі | РЭСП. | рэспубліка |
| ДЗЯРЖ. | дзяржава | спрэчн. | спрэчны |
| Зах. | Заходні | Усх. | Усходні |

*Абазначэнні дзяржаўнай прыналежнасці тэрыторый:*

| | | | |
|---|---|---|---|
| Арг. | Аргенціне | Іт. | Італіі |
| Асм. | Асманскай імперыі | Нід. | Нідэрландам |
| Бельг. | Бельгіі | Парт. | Партугаліі |
| Брыт. | Вялікабрытаніі | Рас. | Расіі |
| Герм. | Германіі | Фр. | Францыі |
| Дан. | Даніі | Яп. | Японіі |
| Ісп. | Іспаніі | | |

# УВОДЗІНЫ

## § 1. СВЕТ У XIX — ПАЧАТКУ XX ст.

**Успомніце**

1. Якія перыяды сусветнай гісторыі вы ведаеце і чым яны адрозніваюцца адзін ад аднаго?

2. Калі ўзнікла паняцце «Новы час»? Што яно азначае?

3. Адзначце найбольш характэрныя рысы заходнееўрапейскай і ўсходніх цывілізацый у XVI—XVIII стст.

Другі перыяд *Новага часу* ахоплівае XIX — пачатак XX ст. Ён пачынаецца з напалеонаўскіх войнаў і завяршаецца Першай сусветнай вайной 1914—1918 гг. Гэта вайна ў той жа час адкрывае эпоху, якую мы называем гісторыяй Навейшага часу.

Пачынаючы вывучэнне другога перыяду Новага часу, важна ведаць, на падставе чаго XIX ст. вылучаецца ў асаблівы перыяд сусветнай гісторыі.

**1. Насельніцтва свету.** У найстаражытнейшыя часы і ў эпоху Сярэдневякоўя насельніцтва Зямлі павялічвалася вельмі марудна. У 1000 г. на планеце пражывала 265 млн чалавек — столькі ж, колькі ў сучасных Вялікабрытаніі, Францыі і Расіі, разам узятых.

У XIX ст. тэмпы росту насельніцтва рэзка паскорыліся. Яно павялічылася з 900 млн да паўтара мільярда чалавек. Пры гэтым рассяленне па кантынентах было нераўнамерным (табліца «Рассяленне людзей па краінах, рэгіёнах і кантынентах на мяжы XIX—XX стст.»). Больш за ўсё людзей жыло ў Азіі, пераважна ў Індыі і Кітаі. Упершыню ў гісторыі колькасць насельніцтва асобных краін, рэгіёнаў і кантынентаў пачала павялічвацца за кошт еўрапейскай **эміграцыі**. Каля 60 млн чалавек перасяліліся ў Паўночную і Лацінскую Амерыку, Аўстралію і Паўднёвую Афрыку. Большая частка (90 %) насельніцтва займалася сельскай гаспадаркай, і толькі кожны дзясяты жыхар свету быў гараджанінам.

*Табліца*

**Рассяленне людзей па краінах, рэгіёнах і кантынентах на мяжы XIX—XX стст.**

| Тэрыторыя | Насельніцтва, млн чал. |
|---|---|
| Азія | 950 |
| Еўропа | 290 |
| Расія | 130 |
| Афрыка | 110 |
| Паўночная Амерыка | 81 |
| Лацінская Амерыка | 64 |
| Аўстралія і Акіянія | 6,8 |

**2. Нараджэнне індустрыяльнай цывілізацыі.** У XIX ст. адбыўся адзін з самых буйных пераваротаў у гісторыі чалавецтва — традыцыйная аграрная **цывілізацыя** змянілася *індустрыяльнай*, або машыннай, *цывілізацыяй*.

Вывучаючы гісторыю ў папярэдніх класах, вы пазнаёміліся ўжо з многімі цывілізацыямі, такімі непадобнымі адна на адну, як, напрыклад, Егіпет і Старажытны Рым, Кіеўская Русь і імперыя інкаў, сярэдневяковая Еўропа і Кітай. Але, нягледзячы на ўсе адрозненні, паміж імі было нямала агульнага. Аб'ядноўвала іх перш за ўсё тое, што асновай жыцця грамадства з'яўлялася сельская гаспадарка. Вось чаму гэтыя цывілізацыі сталі называць *аграрнымі*.

Усе багацці ў іх ствараліся пры дапамозе мускульнай сілы чалавека і жывёлы. Прылады працы не змяняліся на працягу многіх стагоддзяў, а гаспадарка мела натуральны характар. Прырода ў значнай ступені ўплывала на



*У 1851 г. у лонданскім Хрустальным палацы адкрылася Сусветная прамысловая выстаўка, якая стала сімвалам еўрапейскага прагрэсу*

жыццё і дзейнасць людзей. Рэлігія, звычаі і традыцыі вызначалі жыццёвы шлях чалавека ад нараджэння да самай смерці. У аграрных цывілізацыях дзяржава ажыццяўляла цэнтралізаваны кантроль над грамадствам. Улада правіцеляў была практычна неабмежаванай.



*Першы цягнік у Германіі. Малюнак 1835 г.*

Краіны Азіі і Афрыкі, г. зн. усходнія цывілізацыі, і ў XIX ст. захоўвалі сваё традыцыйнае аблічча. Яны заставаліся шмат у чым такімі ж, як і стагоддзі таму.

Толькі Заходняя Еўропа змянілася да непазнавальнасці. У XVI—XVIII стст. яна імкліва вырвалася наперад у сваім развіцці. Асновы традыцыйнага грамадства разбураліся пад уплывам навукова-тэхнічных дасягненняў і **прамысловага перавароту**. Гэты працэс атрымаў назву **мадэрнізацыі**.

Абнаўленне закранула ўсе бакі жыцця грамадства. Мадэрнізацыя праявілася ў небывалым росце гарадоў (*урбанізацыя*), выкарыстанні машын у вытворчасці (*індустрыялізацыя*), хуткім назапашванні ведаў, дэмакратызацыі палітычнага жыцця, усталяванні вальнадумства і атэізму. Асновай індустрыяльнай цывілізацыі сталі капіталістычныя эканамічныя адносіны, для якіх характэрны *рынак, прыватная ўласнасць, канкурэнцыя, наёмная праца, імкненне да максімальнага прыбытку.*

У адрозненне ад чалавека традыцыйнага грамадства, які быў упэўнены ў нязменнасці навакольнага свету, еўрапеец жадаў і нават лічыў неабходным яго кантраляваць і відазмяняць. Невыпадкова для эпохі мадэрнізацыі характэрны рэвалюцыі і шматлікія спробы змянення і пераўладкавання свету гвалтоўным шляхам.

**3. Панаванне Еўропы.** У эпоху Новага часу неад'емнай рысай еўрапейскай цывілізацыі стала каланіяльная **экспансія**. Дзяржавы феадальнай, а затым і капіталістычнай Еўропы праводзілі палітыку, накіраваную на захоп чужых тэрыторый і рабаванне карэннага насельніцтва Амерыкі, Азіі і Афрыкі. Нават некалі магутныя і цывілізаваныя краіны Усходу ў XIX ст. ператварыліся ў калоніі і паўкалоніі еўрапейскіх дзяржаў. Еўропа стала валадаркай свету. Гісторыя яшчэ не ведала выпадку, калі адна цывілізацыя ўсталявала б кантроль над усімі іншымі. Толькі Японія ўстаяла перад еўрапейскім націскам. Яна здолела прыстасавацца да новых умоў, шмат што пераняла ў еўрапейцаў і сама стала на шлях каланіяльнай экспансіі.

Такім чынам, XIX ст. займае асаблівае месца ў гісторыі не толькі Еўропы, але і ўсяго свету. Менавіта ў гэты час завяршыўся тэрытарыяльны падзел Азіі і Афрыкі. Гісторыя набыла сапраўды сусветны характар. Сучасныя сродкі сувязі і інфармацыі, а таксама шляхі зносін і транспартныя сродкі, якія імкліва развіваліся, злучылі самыя аддаленыя куткі зямнога шара. Рашэнні, што прымалі еўрапейскія палітыкі, прамыслоўцы і фінансісты, непасрэдна ўплывалі на лёсы азіяцкіх і афрыканскіх народаў.

**4. Стагоддзе надзей і расчараванняў.** Гісторыя XIX ст. складаная і шматстайная, яе маштабы не перастаюць здзіўляць нас і сёння.

Істотна паўплывала на гэты перыяд Французская рэвалюцыя 1789—1799 гг. Менавіта пад лозунгам «Свабода, Роўнасць, Братэрства» разгортваліся асноўныя гістарычныя падзеі. Доўгая чарада еўрапейскіх рэвалюцый стала своеасаблівым працягам буржуазнай рэвалюцыі ў Францыі. Феадалізм здаваў пазіцыі па ўсіх напрамках. Фарміравалася новае буржуазнае грамадства.

Ідэалам XIX ст. стала *дэмакратыя*. Яна прадугледжвала адсутнасць прывілеяў і прызнанне народа крыніцай улады. Свабодалюбівыя мысліцелі лічылі дэмакратыю гаючым сродкам ад усіх грамадскіх бед і заган. Але яна не змагла пакласці канец беднасці і галечы. Чалавек, які працаваў па найме, не быў цалкам вольны. Супярэчнасці капіталістычнага грамадства прывялі да ўзнікнення сацыялістычнага руху.

**5. Навука і тэхніка.** Дзевятнаццатае стагоддзе адзначана незвычайнымі дасягненнямі ў навуцы і тэхніцы. Яшчэ ў другой палове XVIII ст. пачаўся пераход да машыннай вытворчасці — прамысловы пераварот. Шмат з таго,



*Машынабудаўнічы і сталеліцейны заводы. Карціна сярэдзіны XIX ст.*

што раней рабілі людзі, сталі выконваць машыны. Прамысловы пераварот у XIX ст. выліўся ў сапраўдную рэвалюцыю. Еўропа пачала ператварацца ў адзіную фабрыку. З часам гэты працэс пашырыўся на ўсе краіны свету.

У жыцці людзей адбыліся значныя змены. Паступова чалавек стаў вызваляцца ад улады прыродных сіл. Так нарадзілася ідэя панавання чалавека над прыродай. У XIX ст. яшчэ не былі заўважнымі разбуральныя наступствы прамысловай рэвалюцыі. І людзі ў той час нават не маглі ўявіць, што ў будучым **навукова-тэхнічны прагрэс** можа прывесці да паступовага разбурэння навакольнага асяроддзя, а перад чалавецтвам паўстане праблема аховы прыроды.

**6. Цана прагрэсу.** У другой палове XIX ст. высветлілася, што свет цесны для прагных да славы дзяржаў. Пачалася барацьба за яго перадзел. У яе былі ўцягнуты Вялікабрытанія, Францыя, Расія, ЗША, Японія і іншыя капіталістычныя краіны. Яны ліхаманкава ўзбройваліся, удасканальвалі старую і вынаходзілі новую зброю, стваралі ваенна-палітычныя блокі. У выніку да пачатку XX ст. Еўропа ператварылася ў вялізны ўзброены лагер. Канкурэнтная барацьба і супярэчнасці паміж вялікімі дзяржавамі прывялі да разбуральнай Першай сусветнай вайны 1914—1918 гг.

**Пытанні і заданні**

1. Растлумачце значэнне паняцця «Новы час» і дайце яго перыядызацыю. Начарціце з гэтай мэтай стужку часу.
2. Якія змены адбываліся ў розных сферах жыцця грамадства ў эпоху нараджэння індустрыяльнай цывілізацыі?
3. Як складваліся адносіны Еўропы з іншымі цывілізацыямі свету ў другі перыяд Новага часу? Паспрабуйце даць уласную ацэнку падзеям, што адбываліся ў той час.
4. Чаму краіны Азіі, Амерыкі і Афрыкі не змаглі супрацьстаяць еўрапейскай экспансіі?



Як вы думаеце, чаму назва апошняй часткі параграфа «Цана прагрэсу» гучыць так па-сучаснаму? Калі гэта папярэджанне, то аб чым? Калі заклік, то да чаго?



У маі — кастрычніку 1851 г. у лонданскім Хрустальным палацы праходзіла Сусветная прамысловая выстаўка — своеасаблівая энцыклапедыя «цудаў» еўрапейскай прамысловасці. Адным з іх стаў сам Хрустальны палац, пабудаваны са шкла і жалеза. Шэсць мільёнаў чалавек, у тым ліку англійская кара-

лева, наведалі выстаўку. Расія на выстаўцы была прадстаўлена ўзорамі сваіх незлічоных сыравінных рэсурсаў. Аўстрыя, нямецкія і італьянскія дзяржавы — у асноўным прадметамі раскошы. Злучаныя Штаты Амерыкі здзіўлялі таннымі вырабамі хатняга ўжытку, гарамі зубнога парашку і мыла, тэхнічнымі навінкамі кшталту жняяркі Маккорміка або рэвальвера Кольта. Францыя ўразіла наведвальнікаў падводнай лодкай. Дэманстраваліся таксама дасягненні фатаграфіі, вынайдзенай французам Луі Дагерам у 1839 г. Але лепш за ўсіх выглядала Вялікабрытанія, якая лічылася «майстэрняй свету». Усеагульнае захапленне выклікала англійская машына (станок) для вытворчасці машын.

*На падставе тэксту складзіце спіс асноўных навукова-тэхнічных дасягненняў XIX ст.*

Раздзел I

# ЗАХОДНЯЯ ЕЎРОПА

Гісторыя Заходняй Еўропы XIX ст. адзначана шматлікімі рэвалюцыямі. Але ніводная з іх не можа параўнацца па сваіх маштабах і наступствах з рэвалюцыяй прамысловай, без якой цяжка ўявіць сабе еўрапейскую цывілізацыю.

Прамысловая рэвалюцыя суправаджалася бурным ростам гарадоў. Па тэмпах прыросту насельніцтва Еўропа ў XIX ст. апярэджвала іншыя рэгіёны свету. Колькасць яе насельніцтва за стагоддзе ўзрасла больш як у два разы.

Але побач з Еўропай прамысловых цэнтраў і гарадоў існавала яшчэ адна Еўропа. Большасць еўрапейцаў да пачатку XX ст. усё яшчэ жылі ў вёсках і займаліся сельскай гаспадаркай. Гэта была цяжкая, знясільваючая праца. Зямлі не хапала, і многія сяляне сыходзілі ў гарады. Некаторыя назаўсёды пакідалі Еўропу ў пошуках шчасця і, як правіла, выязджалі ў Злучаныя Штаты Амерыкі.

Гаворачы пра гісторыю XIX—XX стст., мы часцей за ўсё разважаем аб войнах, рэвалюцыях і іншых сацыяльных узрушэннях, якія суправаджаліся вялікімі чалавечымі ахвярамі і разбурэннямі. Такія падзеі не робяць гонару цывілізаванаму грамадству, таму людзі ўважліва вывучаюць іх са спадзяваннем не дапусціць чарговага грамадскага бедства.

## § 2. ЗАХОДНЯЯ ЕЎРОПА Ў ПАЧАТКУ XIX ст.

**Успомніце**

Калі і як Напалеон Банапарт прыйшоў да ўлады ў Францыі?

Пачатак XIX ст. прайшоў у кровапралітных войнах. Імператар французаў ***Напалеон Банапарт*** падпарадкаваў амаль усе краіны Заходняй Еўропы, але «спатыкнуўся» аб Расію і не змог утрымаць пад сваім кантролем заваяваныя



*Напалеон на імператарскім троне. Мастак Ж. А. Д. Энгр. 1806 г.*

тэрыторыі. Крах напалеонаўскай імперыі змяніў палітычную карту Еўропы і прывёў да стварэння новай сістэмы міжнародных адносін.

**1. Устанаўленне дыктатуры Напалеона Банапарта ў Францыі.** У 1799 г. генерал Напалеон Банапарт ажыццявіў у Францыі дзяржаўны пераварот і заявіў, што «рэвалюцыя скончана». У краіне пачаўся паступовы пераход ад рэспублікі да імперыі. У снежні 1799 г. была прынята новая канстытуцыя, паводле якой заканадаўчая ўлада стала цалкам залежнай ад урада. Вышэйшая выканаўчая ўлада перадавалася тром консулам. Але толькі адзін з іх — Напалеон Банапарт — меў рэальную ўладу. Толькі ён валодаў правам зацвярджаць законы, прызначаць міністраў, афіцэраў арміі і флоту, членаў мясцовай адміністрацыі, кіраваць унутранай і знешняй палітыкай. У яго было больш улады, чым у караля па канстытуцыі 1791 г. У 1802 г. Напалеон Банапарт стаў пажыццёвым першым консулам з правам прызначаць сабе пераемніка. Яго дзень нараджэння быў абвешчаны дзяржаўным святам. У **1804 г.** Банапарт перайшоў да манархічнай формы праўлення і абвясціў сябе «імператарам французаў». Гэту акцыю падтрымалі не толькі «новыя багацеі», але і сяляне, якія выкупілі землі дваран-эмігрантаў.

Такім чынам, рэспубліканская Францыя вярнулася да манархічнай формы праўлення. Але гэта была асаблівая манархія — не феадальная, а буржуазная. **Буржуазная манархія** перш за ўсё адстойвала інтарэсы ўзмацнелай буржуазіі. Знакаміты *Грамадзянскі кодэкс (Кодэкс Напалеона)* замацоўваў буржуазную мадэль маёмасных адносін, спадчыннага права і становішча наёмнага работніка. Кодэкс Напалеона захаваў найважнейшыя заваёвы рэвалюцыі: роўнасць грамадзян перад законам, свабоду веравызнання, недатыкальнасць асобы і ўласнасці.

**2. Напалеонаўскія войны.** На час прыходу да ўлады Напалеона ў **1799 г.** Францыя ўжо знаходзілася ў стане вайны з Расіяй, Вялікабрытаніяй, Аўстрыяй, Турцыяй і інш. Умацоўваючы сваё становішча ў краіне, Напалеон адначасова праводзіў агрэсіўную знешнюю палітыку. Асноўным кірункам гэтай палітыкі сталі заваёўніцкія войны супраць еўрапейскіх манархаў. Перамога над аўстрыйскімі войскамі ў Паўночнай Італіі ў 1800 г. паклала пачатак панаванню Напалеона ў Еўропе. У 1805—1807 гг. напалеонаўская армія разграмі-

ла Аўстрыю і Прусію, зневажальны мір вымушана была падпісаць Расія. Наступныя пяць гадоў сталі гадамі росквіту напалеонаўскай імперыі, у якую ўваходзілі ўсе краіны Заходняй Еўропы, акрамя Англіі, што была непрыступнай на сваім востраве.

У эпоху напалеонаўскіх войнаў палітычная карта Еўропы кардынальна змянілася. Напалеон кроіў і перакройваў яе паводле ўласнага меркавання. Трое яго братоў сталі каралямі заваяваных краін Еўропы. Спыніла існаванне Свяшчэнная Рымская імперыя германскай нацыі. Яе імператар цяпер здавольваўся тытулам імператара Аўстрыі. А на тэрыторыі Паўднёвай і Заходняй Германіі 16 германскіх дзяржаў утварылі Рэйнскі саюз пад пратэктаратам Напалеона. З прыналежных Прусіі польскіх зямель было створана Варшаўскае герцагства.

На народы заваяваных краін Еўропы непасільным цяжарам ляглі напалеонаўскія паборы і **кантрыбуцыі**. Асабліва цяжкім быў «падатак крывёй» — так называўся абавязак пастаўляць салдат у напалеонаўскую армію. Балюча ўдарыла па эканоміцы еўрапейскіх краін «кантынентальная блакада», якая забараняла ўсім у Францыі і ў залежных ад яе еўрапейскіх дзяржавах гандляваць і падтрымліваць усялякія адносіны з Англіяй. Абвясціўшы **байкот** Брытанскім астравам, Напалеон разлічваў знішчыць эканамічную магутнасць свайго асноўнага саперніка.

Аднак захопніцкія войны Напалеона адыгралі не толькі адмоўную ролю. Рух Напалеона па Еўропе суправаджаўся распаўсюджваннем ідэй Французскай рэвалюцыі, адменай феадальных прывілеяў, усталяваннем свабоды друку і грамадзянскай роўнасці. У залежных ад Францыі краінах уводзіўся Кодэкс Напалеона. Праўда, разбурэнне асноў феадальнага грамадства ў Італіі, Германіі і Іспаніі праводзілася ў гвалтоўнай форме, што прывяло да ўздыму вызваленчага руху ў гэтых краінах. Але нават аднаўленне старых парадкаў пасля развалу імперыі Напалеона Банапарта не змагло перакрэсліць станоўчыя вынікі пераўтварэнняў.

Фатальнай памылкай Напалеона быў напад на Расію, што стаяла на шляху ўстанаўлення ўсееўрапейскай гегемоніі Францыі. «Вялікая армія» заваёўніка, якая складалася з «двунадзесяці моў», была разгромлена. Перамога рускага народа ў Айчыннай вайне 1812 г. садзейнічала ўздыму вызваленчай барацьбы прыгнечаных народаў Еўропы. У ваенных паходах 1813—1815 гг. на баку Расіі выступілі нядаўнія саюзнікі напалеонаўскай Францыі — Аўстрыя і Прусія, а таксама Вялікабрытанія і Швецыя. На палях Еўропы зноў адбыліся кровапралітныя бітвы. Можна было б пазбегнуць гібелі соцень тысяч людзей, а Напалеону — захаваць уладу ў Францыі. Аднак палітычнае чуццё пад-



*Трыумфальнае ўступленне саюзніцкіх войскаў Аўстрыі, Прусіі, Расіі і Вялікабрытаніі ў Парыж у 1814 г. Літаграфія 1815 г.*

вяло яго. З маніякальнай упартасцю імператар збіраў усё новыя і новыя сілы і аказваў бессэнсоўнае супраціўленне і, зразумела, пацярпеў знішчальнае паражэнне. Вясной **1814 г.** саюзніцкія войскі на чале з рускім царом Аляксандрам I увайшлі ў Парыж.

Па рашэнні манархаў краін-пераможцаў Напалеон быў адпраўлены ў ссылку на востраў Эльба. Аднак у сакавіку 1815 г. імператар французаў здзейсніў няўдалую спробу рэваншу. З захапленнем сустрэты насельніцтвам, ён пратрымаўся на чале ўлады ўсяго сто дзён. І гэтым разам Напалеон ахвяраваў дзеля ідэі аднаўлення сваёй імперыі тысячамі чалавечых жыццяў. У бітве пры Ватэрлоа пад Бруселем 18 чэрвеня **1815 г.** французская армія была разгромлена англа-галандска-прускімі войскамі. З абодвух бакоў загінула каля 50 тыс. чалавек. Саюзнікі захавалі Напалеону жыццё, але пазбавілі яго імператарскага тытула і адправілі ў ссылку на востраў Святой Алены ў Атлантычным акіяне. Так завяршылася напалеонаўская авантура, якая каштавала толькі адной Францыі больш за мільён чалавечых жыццяў. Усяго ж у эпоху напалеонаўскіх войнаў у Еўропе загінула каля 4 млн чалавек.

**3. Венскі кангрэс і стварэнне Свяшчэннага саюза.** У верасні **1814 г.** прадстаўнікі ўсіх еўрапейскіх дзяржаў з'ехаліся на Венскі кангрэс, які доўжыўся да чэрвеня **1815 г.** Краіны — удзельніцы кангрэса пачалі абмеркаванне пасляваеннага ўпарадкавання Еўропы і падзелу напалеонаўскай імперыі. Рашэнні, прынятыя ў Вене, ляглі ў аснову новага міжнароднага парадку, які атрымаў назву «венская сістэма», і заставаліся ў сіле да Крымскай вайны сярэдзіны XIX ст.

Пасляваенныя межы і дзяржаўны лад пераможцы вызначалі на аснове прынцыпаў легітымізму (аднаўлення законных правоў ранейшых манархаў, якія страцілі свае ўладанні), балансу сіл і ўзнагароджвання пераможцаў.




*Еўропа ў 1815 г.*

Францыя здолела захаваць статус вялікай дзяржавы на чале з аднаўленай на троне дынастыяй Бурбонаў. Переможцы прызналі ўсе пераўтварэнні, праведзеныя ў краіне ў гады рэвалюцыі і імперыі, і ўстанавілі межы Францыі паводле стану на 1792 г. Гэта быў вялікі поспех французскай дыпламатыі, асабліва калі ўлічваць, што Аўстрыя і Прусія выношвалі планы максімальнага аслаблення і нават падзелу Францыі. Замест Свяшчэннай Рымскай імперыі стварыўся Германскі саюз з 39 дзяржаў, сярод якіх буйнейшымі былі Аўстрыя і Прусія.

Усе ўдзельнікі вызвалення Еўропы атрымалі «ўзнагароджанне». Да Расіі адышла значная частка Варшаўскага герцагства пад назвай Каралеўства Польскага. Прусіі дасталіся багатыя і эканамічна развітыя Рэйнская воб-



*Падзел свету. Карыкатура 1815 г.*

ласць і Вестфалія, а таксама заходнія польскія землі, Аўстрыі — італьянскія вобласці Ламбардыя і Венецыя, Швецыі — Нарвегія. Вялікабрытанія атрымала востраў Мальта і былыя галандскія калоніі — востраў Цэйлон і Капскую зямлю на поўдні Афрыкі.

З мэтай падтрымання палітычнай раўнавагі ў Еўропе і непахіснасці існуючых рэжымаў, засцеражэння Еўропы ад рэвалюцый і войнаў і «ў імя рэлігіі» імператары Расіі і Аўстрыі, а таксама кароль Прусіі ў верасні **1815 г.** заключылі Свяшчэнны саюз.

У далейшым да Саюза далучыліся іншыя еўрапейскія дзяржавы. Яго арганізатары абяцалі ахоўваць «венскую сістэму» міжнароднага парадку ўсімі сродкамі — ад прапаганды міру да ваеннай **інтэрвенцыі**. Па сутнасці вялікія дзяржавы прысвоілі сабе права ўмешвацца ва ўнутраныя справы іншых дзяржаў, што і адбылося ў далейшым — у перыяд еўрапейскіх рэвалюцый 1820—1840-х гг. Свяшчэнны саюз змог падтрымліваць мір у агульнаеўрапейскім маштабе на працягу 40 гадоў, але спыніць рэвалюцыйны і нацыянальна-вызваленчы рух яму не ўдалося.

**Пытанні і заданні**

1. Ахарактарызуйце працэс пераходу Францыі ад рэспублікі да імперыі.
2. Чаму Напалеон Банапарт, прыйшоўшы да ўлады ў Францыі, працягваў весці захопніцкія войны ў Еўропе? Чым яны скончыліся?
3. Пакажыце на карце краіны, з якімі Францыя ваявала ў 1805—1815 гг.
4. Які ўплыў аказалі напалеонаўскія войны на еўрапейскую гісторыю?
5. Якія былі галоўныя мэты ўдзельнікаў Венскага кангрэса?

6. Як на Венскім кангрэсе было вырашана пытанне аб межах? Запоўніце табліцу «Тэрытарыяльныя змены, устаноўленыя Венскім кангрэсам». Зрабіце выснову аб характары гэтых змен.

| Краіны-пераможцы | Тэрыторыі, атрыманыя па рашэнні Венскага кангрэса |
|---|---|
| | |

7. Дайце ацэнку міжнароднаму парадку «венская сістэма».



Аўстрыйскі дыпламат, сакратар Венскага кангрэса Ф. Генц выказаў наступнае меркаванне аб мэтах кангрэса: «Пышныя фразы аб „аднаўленні грамадскага парадку“, „абнаўленні еўрапейскай палітычнай сістэмы“, „трывалым міры, заснаваным на справядлівым размеркаванні сіл“ і г. д. гаварыліся для таго, каб унушыць спакой народам... але сапраўднай мэтай кангрэса быў падзел паміж пераможцамі адабранай у пераможанага здабычы».

*Якое ваша меркаванне аб мэтах Венскага кангрэса?*



Аб выніках работы Венскага кангрэса Ф. Генц заявіў: «Ад гэтага сходу чакалі рэформы палітычнай сістэмы Еўропы, гарантыі вечнага міру і, нарэшце, вяртання залатога веку. Ён прынёс толькі рэстаўрацыі, загадзя прадвызначаныя сілай армій, здзелкі паміж вялікімі дзяржавамі».

*Ці згодны вы з такой ацэнкай?*



Адзін з міністраў перасцерагаў Напалеона напярэдадні паходу «Вялікай арміі» ў Расію: «Гасудар, я Вас малю, у імя Францыі, у імя Вашай славы, у імя Вашай і нашай бяспекі пакладзіце меч у ножны, успомніце пра Карла XII».

## § 3. АСНОЎНЫЯ РЫСЫ ЭКАНАМІЧНАГА РАЗВІЦЦЯ

**Успомніце**

1. Растлумачце значэнне паняццяў «капіталізм», «фабрыка», «прамысловая рэвалюцыя», «прыватная ўласнасць», «прагрэс».
2. Назавіце асноўныя формы капіталістычнай вытворчасці.

Асноўны змест эканамічнага развіцця Еўропы ў XIX ст. вызначыла прамысловая рэвалюцыя. Яна стала адной з найвялікшых з'яў сусветнай гісторыі. Значэнне гэтага перавароту настолькі вялікае, што яго параўноўваюць



*Паравы молат.*
*Малюнак сярэдзіны XIX ст.*

з неалітычнай рэвалюцыяй, якая ператварыла паляўнічых і збіральнікаў у земляробаў і рамеснікаў і прывяла да ўзнікнення старажытных цывілізацый. Прамысловая рэвалюцыя змяніла аблічча Еўропы, ператварыла яе з аграрнай у індустрыяльную. Але ў той жа час яна садзейнічала праяўленню «цывілізаванага варварства»: стварэнню страшэннай разбуральнай зброі, нанясенню непапраўнага ўрону навакольнаму асяроддзю.

**1. Прамысловая рэвалюцыя.** Прамысловы пераварот уяўляў сабой працяглы і складаны працэс пераходу ад рамесна-мануфактурнай ступені матэрыяльнай вытворчасці да машыннай з усімі сацыяльнымі і эканамічнымі наступствамі. *Тэхнічны бок* рэвалюцыі складалі новыя сродкі працы — машыны, укараненне новых тэхналогій, змяненне арганізацыі вытворчасці і стварэнне фабрычна-заводскай сістэмы, удасканаленне транспарту і сістэмы фінансаў.

*Сацыяльная сутнасць* прамысловай рэвалюцыі заключалася ў фарміраванні новых **грамадскіх класаў** і груп — буржуазіі, пралетарыяту, тэхнічнай **інтэлігенцыі**, новых палітычных і сацыяльных інстытутаў. Рэвалюцыя прывяла да дэмакратызацыі дзяржаўнага і грамадскага жыцця, да ўзнікнення **прафсаюзаў** і правядзення сацыяльных рэформаў, да пашырэння выбарчых правоў насельніцтва, да барацьбы рабочых, жанчын, нацыянальных меншасцей за свае правы, да паступовага ўздыму ўзроўню і якасці жыцця ў еўрапейскіх краінах і інш.

**2. Эканамічны рост і індустрыялізацыя ў Еўропе.** *Індустрыялізацыя* — працэс ператварэння Еўропы аграрнай у Еўропу прамысловую, або індустры-

яльную, мела рэвалюцыйны характар, паколькі суправаджалася радыкальнымі зменамі ў жыцці людзей і грамадства.

Першай краінай, якая ажыццявіла пераход да сучаснай прамысловасці і эканамічнага росту, была Англія. Ужо ў другой палове XVIII ст. яна з'яўлялася вядучай гандлёвай і фінансавай дзяржавай свету, у якой існавалі найбольш спрыяльныя эканамічныя і палітычныя ўмовы для прадпрымальніцкай дзейнасці. У 1850—1860-я гг. Вялікабрытанія дасягнула піку эканамічнай магутнасці. Палова жалеза і вугалю, што выпрабляліся ў свеце, прыпадала на долю краіны, насельніцтва якой складала ўсяго 2 % ад агульнай колькасці насельніцтва Зямлі. Больш чым трэць гандлёвага флоту свету належала Англіі.

Пасля Вялікабрытаніі наступнай еўрапейскай краінай, якую ахапіла прамысловая рэвалюцыя, стала Бельгія. Тут пераўтварэнні ў сферах прамысловасці і эканомікі пачаліся ў 1820—1830-я гг. У Францыі індустрыяльны прагрэс праходзіў больш павольна. Развіццё *цяжкай прамысловасці* (вытворчасць машын) ішло з адставаннем. Больш інтэнсіўна эканоміка стала развівацца ў другой палове XIX ст.

У Германіі працэс індустрыялізацыі стрымліваўся палітычнай раздробленасцю. У 1871 г. пасля аб'яднання краіны становішча змянілася ў лепшы бок. Сэрцам германскай эканомікі стаў прамысловы цэнтр Рур. Менавіта тут, на металургічных заводах фабрыканта Крупа, стваралася індустрыяльная моц Германіі. Тут жа была пачата вытворчасць зброі вялікай разбуральнай сілы.

Бельгія, Германія, Францыя і Швейцарыя дагналі ў сваім прамысловым развіцці Вялікабрытанію ў 1870-я гг. Праз два дзесяцігоддзі Германія ўжо займала вядучае месца ў свеце па вытворчасці электратэхнікі і ў хімічнай прамысловасці. У гэты ж час сур'ёзнымі канкурэнтамі капіталістычным краінам Еўропы станавіліся Злучаныя Штаты Амерыкі і Японія.

Аднак не ва ўсіх краінах індустрыялізацыя ішла такімі хуткімі тэмпамі. У Італіі, Партугаліі, Іспаніі, Аўстра-Венгрыі, на Балканах і ў Расіі прамысловасць развівалася вельмі марудна. Гэтыя краіны ўсё яшчэ заставаліся пераважна аграрнымі.

**3. Прамысловая рэвалюцыя і навука.** Сваімі поспехамі індустрыялізацыя шмат у чым абавязана навуцы. У той жа час прамысловая рэвалюцыя садзейнічала навукова-тэхнічнаму прагрэсу, усяляк стымулюючы вынаходніцкую дзейнасць. Адкрыцці еўрапейскіх вучоных у галіне электрычнасці і вынаходства рухавіка ўнутранага згарання прывялі да стварэння электратэхнічнай і аўтамабільнай прамысловасці. Шматлікія навукова-тэхнічныя



*Адзін з першых аўтамабіляў*



*Збор ураджаю з дапамогай машын. Малюнак 1889 г.*

дасягненні (радыё, тэлефон, кінематограф і інш.) аказвалі непасрэднае ўздзеянне на лад жыцця людзей.

**4. Аграрная рэвалюцыя.** Прамысловы пераварот вельмі істотна паўплываў на развіццё сельскай гаспадаркі. Хоць і больш павольнымі тэмпамі, чым у прамысловасці, у ім таксама адбываліся важныя змены, якія ўвайшлі ў гісторыю пад назвай **аграрнай рэвалюцыі**.

У XIX ст. у Еўропе значна павялічылася плошча апрацаваных зямель і іх прадукцыйнасць. Значную дапамогу сельскай гаспадарцы аказвалі навука і тэхніка.

На працягу стагоддзя паступова ўкараняліся разнастайныя тэхнічныя навіны: сеялкі, вынайдзеныя англічанамі ў XVIII ст., жняяркі, касілкі, сенаразбівалкі і г. д. Пастаянна ўдасканальваліся металічны плуг і паравая малатарня, якая атрымала шырокае распаўсюджанне ў другой палове XIX ст.

Аднак нельга перабольшваць ступень механізацыі сельскай гаспадаркі. Укараненне новых машын ажыццяўлялася марудна. У некаторых рэгіёнах Еўропы архаічная тэхніка захоўвалася да сярэдзіны XX ст.

**5. Сацыяльныя праблемы.** Прамысловая рэвалюцыя суправаджалася паскораным ростам колькасці насельніцтва і гарадоў, міграцыяй людзей на вялікія адлегласці, узнікненнем новых сацыяльных праблем і супярэчнасцей.

Асабліва абвастрыліся адносіны паміж прадпрымальнікамі і рабочымі, якія ў пачатковы перыяд індустрыялізацыі бязлітасна эксплуатаваліся. Напрыклад, у Лондане — сталіцы самай багатай на той час краіны свету — існавалі самыя ўбогія халупы Еўропы, заселеныя працоўным людам.

Не дзіва, што ўсё дзевятнаццатае стагоддзе ў Заходняй Еўропе прайшло пад знакам барацьбы рабочых за паляпшэнне жыццёвых умоў. Ад «вайны» з машынамі (*лудзізм*, ад імя легендарнага рабочага Неда Луда) да арганізаванага руху са сваімі прафсаюзамі і палітычнымі партыямі — такі шлях, пройдзены еўрапейскім пралетарыятам да пачатку XX ст.

**6. Пераход ад свабоднай канкурэнцыі да манаполіі.** Да канца XIX ст. у эканамічным развіцці перадавых краін Еўропы і Амерыкі адбыліся важныя зрухі. Развіццё **капіталізму** ў яго класічнай форме завяршылася. Пачаўся пераход да *манапалістычнага этапу развіцця*, які характарызаваўся ўтварэннем **манаполій** і ўзмацненнем умяшання дзяржавы ў эканамічнае жыццё.

Стварэнне новых галін вытворчасці і буйных прадпрыемстваў абумовіла з'яўленне акцыянавання як новай формы арганізацыі капіталу. Акцыянаванне дало магчымасць сканцэнтраваць у адных руках масу індывідуальных капіталаў, у тым ліку грашовыя зберажэнні працоўных. Да канца стагоддзя пануючае становішча ў гаспадарчым жыцці занялі **акцыянерныя прадпрыемствы**. Канцэнтрацыя капіталу адкрывала шырокія магчымасці для стварэння гіганцкіх па сваіх памерах **карпарацый**. У ходзе канкурэнтнай барацьбы ўладальнікі гэтых прадпрыемстваў часта прыходзілі да пэўных пагадненняў, якія гарантавалі ім атрыманне высокіх прыбыткаў.

Так ствараліся ўмовы для ўтварэння буйных манапалістычных аб'яднанняў: картэляў, сіндыкатаў, трэстаў, канцэрнаў. *Картэль* — гэта аб'яднанне прадпрыемстваў, якія, захоўваючы вытворчую і фінансавую самастойнасць, дамаўляліся аб цэнах, падзеле рынкаў збыту, рэгуляванні аб'ёмаў вытворчасці і інш. *Сіндыкаты* ўтвараліся з мэтай сумеснага збыту прадукцыі. Прадпрыемствы, якія ўваходзілі ў *трэст*, цалкам аб'ядноўвалі ўласнасць для сумеснай вытворчасці і збыту прадукцыі. *Канцэрны* ўяўлялі сабой аб'яднанні трэстаў або буйных прадпрыемстваў.

Такім чынам, манапалісты дамаўляліся аб тым, колькі прадукцыі вырабляць, дзялілі паміж сабой рынкі збыту, штучна падтрымлівалі высокія цэны на тавары. Менавіта яны дамагаліся ад урада ўвядзення высокіх мытных тарыфаў на замежныя вырабы. **Пратэкцыянізм**, які выцесніў палітыку свабоднага гандлю, прывёў у 1890-я гг. да сапраўдных «мытных войнаў» паміж некаторымі дзяржавамі.

Вынікам канцэнтрацыі і манапалізацыі вытворчасці стала канцэнтрацыя і цэнтралізацыя капіталу ў банкаўскай справе. Буйныя банкі паглыналі больш дробныя і слабыя, пранікалі ў прамысловасць, транспарт, гандаль і сферу паслуг, станавіліся саўладальнікамі прадпрыемстваў, а часам і цэлых галін. У выніку канкурэнтнай барацьбы ўтварыліся магутныя фінансавыя цэнтры, якія імкнуліся да лідарства ў эканамічным жыцці краіны. З'явілася *фінансавая алігархія*, якая валодала таксама вялізнымі магчымасцямі палітычнага ўплыву.

Фінансава-прамысловую алігархію ў ЗША прадстаўлялі сем'і Ракфелераў (нафта), Морганаў (фінансы), Карнегі (сталь), у Германіі — В. фон Сіменс



*Біржа па куплі і продажы каштоўных папер у Парыжы. Малюнак XIX ст.*

(электратэхнічная прамысловасць), А. Тысен і Ф. Круп (металургічная прамысловасць).

Аднак перарастанне капіталізму свабоднай канкурэнцыі ў манапалістычны капіталізм не ліквідавала асноўнай хваробы рыначных адносін — **эканамічных крызісаў**. У пачатку XX ст. яны сталі яшчэ больш частымі і разбуральнымі. Панаванне манаполій прывяло да абвастрэння канкурэнтнай барацьбы за захоп калоній, рынкаў збыту тавараў і крыніц сыравіны. Этап развіцця капіталізму, які характарызаваўся ўзнікненнем і панаваннем манаполій, а таксама абвастрэннем барацьбы за эканамічны і тэрытарыяльны падзел свету, увайшоў у гісторыю пад назвай **імперыялізму**.

**Пытанні і заданні**

1. Растлумачце значэнне паняццяў «індустрыялізацыя», «аграрная рэвалюцыя», «імперыялізм».
2. Назавіце асноўныя рысы прамысловай рэвалюцыі.
3. Якія сацыяльныя наступствы прамысловай рэвалюцыі?
4. Дакажыце, што ў прамысловасці і сельскай гаспадарцы да пачатку XX ст. адбыліся вялікія змены.
5. Чаму па ступені ўплыву на развіццё чалавечага грамадства прамысловую рэвалюцыю можна параўнаць з неалітычнай рэвалюцыяй?
6. Як змянілася роля навукі ў эпоху прамысловай рэвалюцыі?

7. На падставе тэксту параграфа і «Слоўніка гістарычных тэрмінаў і паняццяў» сфармулірыйце асноўныя прыметы імперыялізму.
8. У чым заключаліся прычыны росту гарадоў?
9. Прааналізуйце даныя табліцы «Удзельная вага найбуйнейшых краін у сусветнай прамысловай вытворчасці».

| **Краіны** | **1860 г., %** | **1913 г., %** |
|---|---|---|
| Вялікабрытанія | 36 | 14 |
| Францыя | 12 | 6 |
| ЗША | 17 | 36 |
| Германія | 16 | 16 |
| Астатні свет | 19 | 28 |

Якія высновы можна зрабіць з прыведзеных лічбаў?



Сучаснікі не адразу ацанілі чыгуначныя шляхі зносін. Вось вытрымка з пратэсту, апублікаванага ў адной з англійскіх газет: «У Англіі... птушкі будуць забіты дымам, у кароў малако сапсуецца і скісне... коні вымруць, пасевы фермераў будуць выпалены іскрамі, што падаюць з лакаматываў; паветра будзе атручана пахам, што ідзе ад машыны; жывёла, якая пасвіцца на палях, памрэ ад страху пры гэтых агідных гуках і свістках».

*Якія трывогі сучаснікаў адлюстраваны ў гэтым пратэсце? Ахарактарызуйце як станоўчыя, так і адмоўныя вынікі прамысловага развіцця.*



У пачатку XIX ст. у прамысловасці часта выкарыстоўвалася дзіцячая праца. У 1840 г. для вывучэння гэтага пытання ў Англіі была створана парламенцкая камісія. Яна выявіла абуральныя факты: на каменнавугальных рудніках (капальнях) дзеці часта пачыналі працаваць з чатырох гадоў. Стоячы ў маленькай нішы, яны павінны былі адчыняць дзверы, каб прапусціць ваганетку з каменным вугалем, а затым зачыняць іх зноў. Гэта было неабходна для прадухілення выбуху газаў. Дзеці падымаліся ў тры гадзіны раніцы, спускаліся ў шахту і знаходзіліся пад зямлёй у цемры да пяці-шасці гадзін вечара.

Васьмігадовыя дзеці вазілі на сабе ваганеткі з каменным вугалем. Паколькі дах капальні быў нізкім, яны абвязвалі вакол цела вяроўку і паўзком цягнулі ваганетку. Прыведзеныя факты зрабілі ашаламляльнае ўражанне, і ў хуткім часе былі прыняты законы, якія абмяжоўвалі выкарыстанне дзіцячай працы.

# § 4. ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ Ў XIX — ПАЧАТКУ XX ст.

**Успомніце**

1. Калі пачалося фарміраванне парламенцкай манархіі?
2. У якой краіне і калі пачалася прамысловая рэвалюцыя? Растлумачце значэнне паняццяў «парламент», «рэформа», «фермер», «каланіялізм».

Англія выйшла пераможцай у той упартай барацьбе, якую яна вяла супраць Францыі з канца XVIII ст. Аднак знясільваючыя войны не прайшлі бясследна. Краіна сутыкнулася з сур'ёзнымі эканамічнымі цяжкасцямі.

**1. Эканамічнае развіццё.** Толькі ў 1820-я гг. Вялікабрытанія ўступіла ў перыяд устойлівага прамысловага ўздыму. Бурна развівалася тэкстыльная вытворчасць, значных поспехаў дасягнула цяжкая прамысловасць. У 1810—1830-я гг. вытворчасць металу ўзрасла з 250 да 680 тыс. т.

У 1830—1840-я гг. у Вялікабрытаніі завяршыўся прамысловы пераварот — машыны выцеснілі ручную працу, пачалося хуткае развіццё капіталізму. Характэрнай рысай эканамічнага ўздыму стаў паскораны рост цяжкай прамысловасці, машынабудавання і караблебудавання. У перыяд з 1830 па 1850 г. выплаўка чыгуну ўзрасла з 680 да 2250 тыс. т.

**2. Дзяржаўны лад.** Да пачатку XIX ст. у Вялікабрытаніі склалася канстытуцыйная, або парламенцкая, манархія. Асноўны змест гэтай формы дзяржаўнага ладу адлюстроўвае прынцып: «Кароль царствуе, але не кіруе». Рэальная ўлада перайшла да парламента, які складаўся з прадстаўнікоў буржуазных партый. Партыя, што атрымлівала большасць месцаў у палаце абшчын, фар-




*Англійская фабрыка. Малюнак сярэдзіны XIX ст.*

міравала ўрад, або кабінет міністраў, на чале з прэм'ер-міністрам. Урад і суддзі былі незалежныя ад караля. Міністры падпарадкоўваліся толькі парламенту.




*Членскі білет трэд-юніёна рабочых газавых заводаў. 1889 г.*

Парламент складаўся з дзвюх палат: ніжняй — *палаты абшчын* і верхняй — *палаты лордаў*. Палата лордаў фарміравалася з прызначаных пажыццёва каралём *пэраў* (прадстаўнікоў вышэйшага пласта дваранства) і *духоўных лордаў* (прадстаўнікоў вышэйшага англіканскага духавенства). Палата абшчын складалася з дэпутатаў, якія выбіраліся невялікай часткай насельніцтва.

У пачатку XIX ст. выбарчая сістэма патрабавала рэфармавання. На 1815 г. права голасу мелі ўсяго 160 тыс. чалавек з амаль 20-мільённага насельніцтва. Выбарчых правоў не мелі не толькі рабочыя, але і многія прадстаўнікі прамысловай буржуазіі. Новыя індустрыяльныя цэнтры былі пазбаўлены прадстаўніцтва ў парламенце. Затое невялікія гарадкі, што абязлюдзелі да пачатку XIX ст., па-ранейшаму маглі пасылаць у палату дэпутатаў пэўную колькасць прадстаўнікоў. Гэтым так званым «гнілым мястэчкам» належала палова месцаў у парламенце. Прычым галасамі выбаршчыкаў у такіх гарадках, як правіла, распараджаўся гаспадар зямлі — *лендлорд*.

Амаль уся першая трэць XIX ст. у Англіі прайшла пад знакам руху за ўсеагульнае выбарчае права і парламенцкую рэформу. Асноўнымі формамі барацьбы сталі дэманстрацыі і масавыя мітынгі. Актыўнымі ўдзельнікамі руху выступалі рабочыя, якія змагаліся за павышэнне заработнай платы і паляпшэнне ўмоў працы. Асцерагаючыся рэвалюцыйнага выбуху, улады пайшлі на ўступкі. У 1825 г. яны адмянілі закон, які забараняў арганізоўваць рабочыя саюзы. Пасля гэтага ў Англіі пачалі стварацца **трэд-юніёны** — прафесійныя саюзы, прызначаныя абараняць інтарэсы рабочых.

У 1830 г. да ўлады прыйшла партыя вігаў, якая падрыхтавала законапраект аб парламенцкай рэформе. Нягледзячы на ўпартае супраціўленне лендлордаў у абедзвюх палатах парламента, Біль аб рэформе быў прыняты. *Парламенцкая рэформа 1832 г.* урэзала прывілеі палаты лордаў, пазбавіла большасць «гнілых мястэчак» права прадстаўніцтва, вылучыла месцы ў парламенце буйным прамысловым цэнтрам. Аднак высокі маёмасны цэнз пазбаўляў выбарчых правоў рабочых і дробных уласнікаў. Ніжэйшыя пласты насельніцтва не маглі

трапіць у парламент. Захоўвалася адкрытае галасаванне, што давала магчымасць лендлордам па-ранейшаму ўплываць на вынік выбараў. Выбарчая рэформа 1832 г. забяспечыла перавагу ў парламенце прамысловай буржуазіі.

**3. Чартысцкі рух.** У 1834 г. быў прыняты *закон аб бедных*. У адпаведнасці з гэтым законам спецыяльны падатак, які спаганяўся з прадпрымальнікаў на карысць бедных, адмяняўся. Усе беднякі накіроўваліся ў работніцкія дамы, умовы жыцця ў якіх мала чым адрозніваліся ад турэмнага зняволення. Знясільваючая праца і галеча былі доляй значнай часткі беднага люду Вялікабрытаніі. Маламаёмныя пласты насельніцтва лічылі, што менавіта іх прадстаўнікі ў парламенце змогуць нешта змяніць у лепшы бок.

Гэтыя надзеі выклікалі да жыцця *чартызм* (ад англ. *charter* — грамата, хартыя) — масавы рабочы рух **1830—1850-х гг.** за выбарчую рэформу. У 1838 г. чартысты апублікавалі «Народную хартыю» — праект увядзення ўсеагульнага выбарчага права для мужчын. Першую петыцыю (прашэнне) аб «Народнай хартыі» падпісалі больш за 1 млн чалавек. Яна была дастаўлена ў парламент, але палата абшчын адхіліла яе. Той жа лёс напаткаў яшчэ дзве петыцыі. І кожны раз, калі парламент адхіляў іх, краіну ахоплівалі дэманстрацыі, мітынгі, стачачны рух. Улады адказвалі рэпрэсіямі і арыштамі кіраўнікоў чартыстаў.

Большасць чартыстаў былі прыхільнікамі негвалтоўных метадаў барацьбы. Але некаторыя выступалі за прымяненне «фізічнай сілы», г. зн. за рэвалюцыйнае звяржэнне палітычнага і сацыяльнага ладу і ліквідацыю эканамічнай і палітычнай няроўнасці. У 1848 г. сталі гучаць заклікі да ўзброенага паўстання. Аднак у Лондан былі ўведзены войскі, і запланаваныя маніфестацыі не адбыліся. Адначасова ўрад пайшоў на ўступкі — скараціў рабочы дзень да 10 гадзін, абмежаваў дзіцячую працу, павысіў заработную плату кваліфіка-



*Дэманстрацыя чартыстаў. Гравюра XIX ст.*

ваным рабочым. Разумеючы непазбежнасць рэформаў, урад пазней адмяніў маёмасны цэнз для дэпутатаў парламента і ўвёў тайнае галасаванне. Усё дарослае мужчынскае насельніцтва гарадоў атрымала права голасу. Гэтыя пераўтварэнні ўзмацнялі веру працоўных у магчымасць паляпшэння свайго становішча шляхам рэформаў.

**4. Вялікабрытанія ў другой палове XIX — пачатку XX ст.** У 1850—1870-я гг. Вялікабрытанія ўступіла ў паласу эканамічнага росквіту. Гэта дзяржава ператварылася ў вялізную каланіяльную імперыю, якую пачалі называць «майстэрняй свету». Яе сусветная моц адлюстравалася ў словах нацыянальнага гімна: «Кіруй, Брытанія, морамі!»

У краіне канчаткова склалася двухпартыйная сістэма. Партыя *торы* стала называцца *Кансерватыўнай партыяй*, а партыя *вігаў — Ліберальнай партыяй*. Зямельная арыстакратыя і дзеячы англіканскай царквы падтрымлівалі кансерватараў, гандлёва-прамысловая буржуазія — лібералаў. Кожная з гэтых **палітычных партый** то прыходзіла да ўлады ў палаце абшчын, то прадстаўляла апазіцыю. Сур'ёзных разыходжанняў паміж імі не было. Абедзве ўсведамлялі неабходнасць правядзення рэформаў у адпаведнасці з духам часу.

Лідар кансерватараў Б. Дызраэлі і лідар лібералаў У. Гладстан сталі «бацькамі» рэформаў 1860—1880-х гг. Спачатку кансерватары, а затым лібералы правялі праз парламент 2 законы аб выбарчай рэформе, у выніку якой колькасць выбаршчыкаў павялічылася да 5,5 млн чалавек. Праўда, жанчыны права голасу так і не атрымалі. Былі прыняты таксама законы аб трэд-юніёнах, якія атрымлівалі права на судовую абарону і правядзенне стачак, аб тайным галасаванні пры выбарах у парламент, аб 54-гадзінным рабочым тыдні і забароне прымаць на работу дзяцей, маладзейшых за 10 гадоў.

У канцы XIX ст. трэд-юніёны актывізавалі сваю дзейнасць, паступова ўцягваючыся ў палітычную барацьбу. Рабочыя патрабавалі пераходу на 8-гадзінны рабочы дзень, увядзення пенсіённага забеспячэння, свайго прадстаўніцтва ў парламенце. У 1900 г. самая масавая прафсаюзная арганізацыя — Брытанскі кангрэс трэд-юніёнаў (БКТ), заснаваная яшчэ ў 1868 г., стварыла Камітэт рабочага прадстаўніцтва. У 1906 г. апошні быў пераўтвораны ў *Лейбарысцкую партыю*. Так у Вялікабрытаніі ўзнікла *сацыялістычная партыя*, якая стаяла на пазіцыях рэфармізму. Адным з яе кіраўнікоў быў Дж. Р. Макдональд.

Уздым рабочага руху вымусіў кіруючыя колы Вялікабрытаніі пайсці на правядзенне новых сацыяльных рэформаў. Ініцыятарам пераўтварэнняў у імя класавага міру стаў прадстаўнік Ліберальнай партыі Д. Лойд Джордж, які ўвайшоў у склад урада ў 1905 г. Лібералы правялі праз парламент законы аб увядзенні дапамог пры няшчасных выпадках на вытворчасці і пенсій для ста-

рых, якія дасягнулі 70 гадоў, аб страхаванні па хваробе, інваліднасці і беспрацоўі, аб усталяванні 8-гадзіннага рабочага дня для гарнякоў.

**5. Знешняя палітыка.** Вядомы брытанскі дыпламат лорд Пальмерстан вызначыў асноўныя прынцыпы знешняй палітыкі Вялікабрытаніі наступным чынам: «У нас няма ні вечных саюзнікаў, ні пастаянных сяброў, але вечныя і пастаянныя нашы інтарэсы, і абараняць іх — наш абавязак». Традыцыйны курс знешняй палітыкі Вялікабрытаніі быў накіраваны на захаванне раўнавагі ў Еўропе.

У адпаведнасці з гэтым курсам брытанскія дыпламаты процідзейнічалі ўзвышэнню то Францыі, то Расіі, то Германіі, бачачы ў іх асобе сваіх супернікаў, прэтэндэнтаў на лідарства ў Еўропе. У саюзе з Францыяй і Турцыяй Вялікабрытанія ваявала з Расіяй у Крымскай вайне сярэдзіны XIX ст., а затым падтрымлівала Італію ў барацьбе супраць Францыі ў перыяд праўлення імператара Напалеона III. Калі ж стаў відавочны рост магутнасці аб'яднанай Германіі, Вялікабрытанія прыклала немалыя намаганні для стварэння антыгерманскага ваенна-палітычнага блока, які атрымаў назву *Антанта*. Спачатку быў заключаны ваенны саюз з Францыяй (1904), а затым падпісана пагадненне з Расіяй (1907).

Важнай асаблівасцю знешняй палітыкі Вялікабрытаніі ў XIX — пачатку XX ст. быў яе каланіяльны характар. Краіна вяла захопніцкія войны ў Індыі, Кітаі, Іране і Афганістане. У пачатку 1850-х гг. Вялікабрытанія захапіла Паўднёвую Бірму, а затым і ўсю Малаю. Адначасова працягвалася каланізацыя Аўстраліі і Новай Зеландыі, асваенне Канады.

У 1876 г. англійская каралева Вікторыя была абвешчана імператрыцай Індыі. Так Вялікабрытанія стала імперыяй. Барацьба за пашырэнне каланіяль-



*Брытанскія войскі ў Кітаі. Малюнак 1850 г.*

ных уладанняў узмацнілася ў 1880—1890-я гг. Англічане акупіравалі Егіпет, авалодалі Бірмай у Азіі, Нігерыяй, часткай Самалі, Кеніяй і іншымі тэрыторыямі ў Афрыцы. Каланізацыя Паўднёвай Афрыкі прывяла да вайны з бурамі — нашчадкамі галандскіх, французскіх і нямецкіх каланістаў. Каланіяльныя захопы суправаджаліся імперыялістычнай прапагандай. Нават творчасць таленавітых пісьменнікаў, напрыклад Р. Кіплінга, была прасякнута англійскім **шавінізмам** — гэтай вельмі агрэсіўнай формай нацыяналізму.

У пачатку XX ст. Брытанская імперыя займала тэрыторыю 35 млн км$^2$ з насельніцтвам звыш 400 млн чалавек. Барацьба за захаванне гэтай імперыі стала адной з прычын Першай сусветнай вайны.

**Пытанні і заданні**

1. Назавіце вышэйшыя органы ўлады ў Вялікабрытаніі. Вызначце іх паўнамоцтвы.
2. Якія буржуазныя партыі існавалі ў Вялікабрытаніі і чые інтарэсы яны выказвалі?
3. Раскажыце аб эканамічным развіцці краіны.
4. Растлумачце прычыны ўзнікнення чартызму.
5. У чым заключаліся задачы трэд-юніёнаў? Параўнайце дзейнасць трэд-юніёнаў з чартызмам і вызначце адрозненне.
6. Калі ўзніклі БКТ і Лейбарысцкая партыя? Якія мэты яны ставілі перад сабой?
7. Ахарактарызуйце галоўныя задачы знешняй палітыкі Вялікабрытаніі.
8. Што прымусіла Вялікабрытанію ўступіць у саюзныя адносіны з Францыяй і Расіяй?
9. Якое значэнне Вялікабрытанія надавала каланіяльнай палітыцы? Якія калоніі і на якіх кантынентах уваходзілі ў склад Брытанскай каланіяльнай імперыі?



Па тэмпах прамысловага развіцця Вялікабрытанія адставала ад ЗША і Германіі. У гэтай краіне марудна развіваліся новыя галіны прамысловасці: хімічная, электратэхнічная, аўтамабілебудаўнічая і інш. Больш танныя нямецкія і амерыканскія вырабы выцяснялі англійскія тавары з рынкаў іншых краін. У 1870—1913 гг. доля Вялікабрытаніі ў сусветным гандлі зменшылася з 25 да 15 %. У той жа час да 1914 г. англійскія банкі ўклалі ў будаўніцтва замежных аб'ектаў або прадаставілі ў выглядзе пазык 4 млрд фунтаў стэрлінгаў. Гэта прыносіла ім штогод 200 млн фунтаў стэрлінгаў прыбытку, што ў 5 разоў перавышала даходы ад вывазу тавараў.

*Аб чым сведчаць прыведзеныя лічбы і факты?*



Адзін з англійскіх часопісаў апублікаваў звесткі пра даходы розных груп насельніцтва Англіі ў 1910 г.:

«Жабракі. Даход — 18 шылінгаў у тыдзень. Жыллё — трушчобы, падвал або пакой; ніякай уласнай мэблі. Занятак — нерэгулярная работа.

Некваліфікаваныя або малакваліфікаваныя рабочыя. Даход — 25 шылінгаў у тыдзень. Жыллё — не больш як чатырохпакаёвая кватэра, бедная, але дастаткова мэбляваная. Занятак — некваліфікаваная праца; гэта чорнарабочыя і г. д.

Кваліфікаваныя работнікі. Даход — 45 шылінгаў у тыдзень. Жыллё — пяціпакаёвая кватэра (дом) з гасцёўняй, сціплая, але зручная мэбля. Заняткі — вельмі разнастайныя; гэта кваліфікаваныя рабочыя, майстры, дзясятнікі, малодшыя афіцэры, дробныя дзяржаўныя чыноўнікі і да т. п.

Вышэйшая інтэлігенцыя і адміністрацыйны клас (г. зн. чыноўнікі). Даход — 600 фунтаў стэрлінгаў у год. Жыллё — дом за 60—80 фунтаў стэрлінгаў у год. Занятак — члены кіраўніцтва прадпрыемстваў, прадпрымальніцкіх фірмаў, асобы вольных прафесій, якія займаюць салідныя пасады ў адміністрацыйным апараце.

Багатыя. Даход — 2000 фунтаў стэрлінгаў у год і вышэй. Занятак — кіраўнікі фірмаў, прамыслоўцы, невялікае кола асоб, якія жывуць на жалаванне».

1 фунт стэрлінгаў быў роўны 20 шылінгам.

*Прааналізуйце прыведзеныя факты і зрабіце высновы аб умовах жыцця розных пластоў насельніцтва.*



У 1880 г. ірландскія арандатары ўпершыню прымянілі як спосаб барацьбы за паляпшэнне свайго становішча адкрытае непадпарадкаванне (спыненне работы) у адносінах да кіраўніка англічаніна Ч. К. Байкота. З тых часоў гэта прозвішча стала хадзячай назвай, а слова «байкот» атрымала шырокае распаўсюджанне.

## § 5. ФРАНЦЫЯ Ў XIX — ПАЧАТКУ XX ст.

**Успомніце**

1. Якія былі рашэнні Венскага кангрэса адносна Францыі?
2. Растлумачце значэнне паняцця «імперыялізм».

У адрозненне ад Вялікабрытаніі, Францыі не ўдалося пазбегнуць рэвалюцыйных узрушэнняў. У XIX ст. краіна перажыла 4 рэвалюцыі — усяго на адну менш, чым Іспанія. І толькі пасля гэтага Францыя стала на шлях эвалюцыйнага развіцця.

**1. Эканамічнае і палітычнае развіццё.** Эканамічнае развіццё Францыі адбывалася пад уплывам прамысловай рэвалюцыі. У краіне з'явіліся фабрыкі, будаваліся чыгункі. Аднак індустрыяльны прагрэс праходзіў больш павольна, чым у Англіі. Развіццё цяжкай прамысловасці (вытворчасць машын) ішло з адставаннем. Аб'ёмы здабычы вугалю ўзрасталі, але яго ўсё роўна не хапала. Таму вугаль даводзілася ўвозіць з-за мяжы. Затое працвітала тэкстыльная прамысловасць. У першай палове XIX ст. Францыя пераўзышла ўсе астатнія еўрапейскія краіны па вытворчасці шаўковых тканін.

Больш інтэнсіўна эканоміка пачала развівацца ў 1850—1870-я гг. Тым не менш Францыя па-ранейшаму ўвозіла з Вялікабрытаніі і Германіі сыравіну і вугаль, машыны і абсталяванне. На **экспарт** ішла ў асноўным прадукцыя лёгкай прамысловасці і прадметы раскошы. З другога месца па паказчыках прамысловай вытворчасці Францыя перайшла на чацвёртае пасля Вялікабрытаніі, ЗША і Германіі. Вядучую ролю ў эканоміцы дзяржавы працягвала адыгрываць сельская гаспадарка, у якой было занята 70 % насельніцтва. Таму да пачатку XX ст. Францыя была яшчэ аграрна-індустрыяльнай краінай.

Нягледзячы на запаволеныя тэмпы эканамічнага развіцця, у Францыі ў канцы XIX ст. пачаўся пераход ад свабоднай канкурэнцыі да манапалістычнага капіталізму. Некаторыя акцыянерныя таварыствы сталі манаполіямі. Найбуйнейшая з іх — сусветна вядомы канцэрн «Шнэйдэр». Адначасова ўзніклі буйныя банкаўскія канцэрны. Сапраўднымі гаспадарамі краіны былі нешматлікія прадстаўнікі фінансавай алігархіі, якая складалася прыблізна з двухсот сем'яў. Невыпадкова Францыя займала другое месца ў свеце па вывазе капіталу, з'яўляючыся буйнейшым крэдыторам нават для такіх краін, як Расія, Вялікабрытанія і ЗША.

**2. Рэвалюцыі XIX ст. у Францыі.** *Ліпеньская рэвалюцыя 1830 г.* Пасля разгрому ў 1814 г. арміі Напалеона каралём Францыі стаў ***Людовік XVIII***. Рэстаўрацыя Бурбонаў не азначала аднаўлення дарэвалюцыйных парадкаў. Кароль праводзіў кампрамісную палітыку і ліберальныя рэформы. Згодна з новай канстытуцыяй 1814 г. у краіне ўсталёўваўся канстытуцыйна-манархічны рэжым. Улада караля абмяжоўвалася двухпалатным заканадаўчым органам, пры гэтым выбарчым правам з 30-мільённага насельніцтва карысталіся каля 100 тыс. чалавек. Улада ў краіне належала буйным землеўладальнікам і вузкім вярхам буржуазіі. Здавалася, нішто не прадвяшчала рэвалюцыйных узрушэнняў.

Аднак спроба ***Карла X***, які стаў каралём у 1824 г., вярнуцца да ранейшых парадкаў выключыла магчымасць эвалюцыйнага развіцця Францыі. Імкнучыся задушыць апазіцыйны рух, легкадумны і ўпарты кароль ажыццявіў


*Луі Філіп I. Мастак Ф. Жэрар. 1834 г.*

у ліпені 1830 г. дзяржаўны пераварот. У парушэнне канстытуцыі ён падпісаў указы аб роспуску палаты дэпутатаў, адмене свабоды друку і свабоднага выдання газет. **27 ліпеня 1830 г.** у Парыжы пачаліся першыя дэманстрацыі, якія перараслі ў барыкадныя баі з урадавымі войскамі. **29 ліпеня 1830 г.** паўстанцы — рабочыя, рамеснікі, дробныя крамнікі і студэнты — занялі каралеўскі палац Цюільры. Карл X спешна адрокся ад прастола і ўцёк у Англію.

*Ліпеньская манархія.* Рэвалюцыя перамагла. Палата дэпутатаў прапанавала карону Францыі ***Луі Філіпу Арлеанскаму*** — прадстаўніку малодшай галіны каралеўскай дынастыі Бурбонаў.

Луі Філіпа называлі каралём-буржуа. Ён быў буйным лесаўладальнікам і фінансістам. Перыяд яго праўлення атрымаў назву *Ліпеньскай манархіі*. У гэтыя гады ўлада караля была значна абмежавана, а паўнамоцтвы парламента — пашыраны. Манарх ужо не меў заканадаўчай ініцыятывы. Палата пэраў стала выбарнай, зніжаліся ўзроставы і маёмасны цэнзы. Абвяшчалася свабода слова і сходаў. Праўда, колькасць выбаршчыкаў (каля 250 тыс.) складала мізэрную лічбу ў параўнанні з агульнай колькасцю насельніцтва. Рэальная ўлада знаходзілася ў руках *фінансавай буржуазіі* — банкіраў і біржавікоў. Сярэднія пласты прамысловай буржуазіі, інтэлігенцыя і наёмныя работнікі былі незадаволены рэжымам Ліпеньскай манархіі.

У асабліва жахлівым становішчы знаходзіліся фабрычныя рабочыя. Даведзеныя да адчаю нястачай і голадам, двойчы ўзнімаліся на паўстанне *ліёнскія ткачы*. Для падаўлення паўстанняў у Ліёне ў 1831 і 1834 гг. урад пасылаў шматтысячнае войска з артылерыяй і кавалерыяй. Паўстанні рабочых былі бязлітасна падаўлены і ў іншых гарадах. У краіне ўзмацніўся рэспубліканскі рух. Узніклі тайныя рэспубліканскія таварыствы. Адно з іх на чале з Л. А. Бланкі ставіла сабе за мэту насільны захоп улады вузкай групай змоўшчыкаў і абвяшчэнне рэспублікі. Усё гэта сведчыла аб крызісе Ліпеньскай манархіі.

*Рэвалюцыя 1848 г.* У ноч на 23 лютага **1848 г.** у Парыжы ўспыхнула ўзброенае паўстанне. На наступны дзень паўстанцы захапілі каралеўскі палац і на плошчы Бастыліі спалілі каралеўскі трон. Народ патрабаваў адрачэння караля і абвяшчэння рэспублікі. Луі Філіп адмовіўся ад сваіх правоў і збег



*Паўстанне ў Парыжы ў лютым 1848 г.*

у Англію. Часовы ўрад, у склад якога ўвайшоў нават прадстаўнік рабочых, выдаў дэкрэты аб прадастаўленні выбарчага права мужчынам, што дасягнулі 21 года, аб адмене дваранскіх тытулаў, аб свабодзе друку і палітычных сходаў. Аднак новая ўлада не змагла палепшыць становішча працоўных і вырашыць праблему беспрацоўя. Больш таго, чэрвеньскае паўстанне парыжскіх рабочых было патоплена ў крыві, а дэмакратычныя пераўтварэнні — прыпынены.

У снежні 1848 г. прэзідэнтам рэспублікі быў абраны пляменнік Напалеона Банапарта ***Луі Напалеон Банапарт***, які атрымаў вялікія паўнамоцтвы.

Рэвалюцыя 1848 г. мела буржуазна-дэмакратычны характар. Усталяваны ў яе выніку **рэжым** атрымаў назву *Другой рэспублікі*. Але ўжо 2 снежня 1852 г. славалюбівы Луі Напалеон абвясціў сябе імператарам пад імем ***Напалеона III***. Так у Францыі ўмацаваўся палітычны рэжым *Другой імперыі.*

*Вераснёўская рэвалюцыя*. Нягледзячы на вялікія поспехі ў прамысловым развіцці і пэўную дэмакратызацыю рэжыму Другой імперыі, у краіне нарастала рэвалюцыйнае хваляванне. Ліберальная буржуазія і інтэлігенцыя лічылі існуючую ўладу незаконнай, а самога імператара — *узурпатарам*. Усеагульнае незадавальненне выклікалі вялізныя ваенныя расходы ўрада. Асяроддзе Напалеона III прыйшло да высновы, што ў існуючых умовах умацаваць уладу дапаможа пераможная вайна з Прусіяй. Абодва бакі лічылі вайну непазбежнай, але першай яе абвясціла Францыя 19 ліпеня **1870 г.** Вайна скончылася катастрофай для французаў. 2 верасня Напалеон III разам са сваёй арміяй вымушаны быў здацца на міласць пераможцы. Прускія войскі рушылі ў глыб Францыі.

У адказ на гэтыя падзеі ў Парыжы пачалося паўстанне. **4 верасня 1870 г.** парыжскія дэпутаты абвясцілі *Трэцюю рэспубліку* і ўтварылі *часовы ўрад.*

Францыя вымушана была заключыць перамір'е, а затым зневажальны Франкфурцкі мір **1871 г.**, паводле якога Германскай імперыі, абвешчанай у ходзе вайны, перадаваліся Эльзас і частка Латарынгіі і выплачваліся 5 млрд франкаў кантрыбуцыі. Блакада асаджанага Парыжа скончылася, але становішча ў сталіцы заставалася бядотным.

*Парыжская Камуна.* Спроба ўрада раззброіць нацыянальных гвардзейцаў прывяла да стыхійнага паўстання. У выніку **18 сакавіка 1871 г.** уладу ў свае рукі ўзяў Цэнтральны камітэт федэрацыі Нацыянальнай гвардыі. Урад спешна перабраўся з Парыжа ў Версаль.

У канцы сакавіка паўстанцы правялі выбары ў *Парыжскую Камуну* — орган гарадскога самакіравання. Сярод яе членаў было шмат прыхільнікаў сацыялістычных ідэй. Яны шчыра верылі, што можна стварыць справядлівае грамадства шляхам насілля. Версальскі ўрад разглядаў камунараў як бунтаўшчыкоў. З самага пачатку паміж двума цэнтрамі ўлады пачаліся жорсткія ўзброеныя сутыкненні, якія перараслі ў сапраўдную грамадзянскую вайну. 21 мая версальскія войскі ўварваліся ў Парыж і на працягу тыдня расправіліся з паўстанцамі. Вуліцы горада былі заліты крывёй. **28 мая 1871 г.** стала апошнім днём Парыжскай Камуны. Больш за 30 тыс. камунараў загінулі ў баях або былі расстраляны без суда і следства.

Сучаснікі па-рознаму ацэньвалі Парыжскую Камуну. Адны ўслаўлялі яе як подзвіг, здзейснены ў імя пабудовы грамадства сацыяльнай справядлівасці. Іншыя разглядалі як бунт, анархію і паўтарэнне якабінскай дыктатуры.

**3. Трэцяя рэспубліка ў 1870—1918 гг.** Трэцяя рэспубліка праіснавала да пачатку Другой сусветнай вайны. Такім чынам, Францыя прайшла праз шэраг рэвалюцый, перш чым у ёй канчаткова зацвердзілася рэспубліканская форма праўлення.

У **1875 г.** *Нацыянальны сход* Францыі прыняў канстытуцыю. Згодна з гэтым дакументам, заканадаўчая ўлада належала парламенту. Аднак верхняя палата парламента (сенат) выбіралася не насельніцтвам, а чыноўнікамі мясцовай адміністрацыі. Прэзідэнт, які атрымліваў вялікія паўнамоцтвы, таксама выбіраўся не насельніцтвам, а на сумесным пасяджэнні палаты дэпутатаў і сената. Прэзідэнту і міністрам належала ўся паўната выканаўчай улады.

Пасля прыняцця рэспубліканскай канстытуцыі ў Францыі сталі праводзіцца дэмакратычныя рэформы. Былі зацверджаны законы аб свабодзе друку і сходаў, дазваляліся свабодная дзейнасць прафсаюзаў і забастоўкі, муніцыпальныя саветы атрымалі права выбіраць свайго мэра. Школа аддзя-



*Абвяшчэнне Трэцяй рэспублікі ў Францыі. Літаграфія 1870-х гг.*

лялася ад царквы, адукацыя станавілася свецкай, уводзіліся дзяржаўныя праграмы навучання.

Палітыка рэформаў прадоўжылася, і ў пачатку XX ст. у Францыі было прынята працоўнае заканадаўства. Рабочыя атрымлівалі права на кампенсацыю за вытворчыя траўмы і абавязковы штотыднёвы адпачынак. Згодна з законам 1910 г. уводзіліся пенсіі для рабочых і сялян, якія дасягнулі 65-гадовага ўзросту.

У канцы XIX ст. у Францыі вялікай папулярнасцю сталі карыстацца сацыялістычныя ідэі. У 1880 г. была ўтворана *Рабочая партыя Францыі*, а ў 1905 г. — *Аб'яднаная сацыялістычная партыя*, лідарам якой стаў выдатны дзеяч сацыялістычнага руху Ж. Жарэс.

**4. Знешняя палітыка.** Знешняя палітыка Францыі была накіравана на стварэнне каланіяльнай імперыі і вяртанне Эльзаса і Латарынгіі, далучаных да Германіі ў выніку франка-прускай вайны. У 1881 г. французскія войскі ўварваліся ў Туніс, і краіна была ператворана ў калонію. Напярэдадні Першай сусветнай вайны Францыя акупіравала Марока і ўстанавіла над ім свой **пратэктарат**. Французы захапілі таксама вялікія тэрыторыі ў Заходняй Афрыцы — Сенегал, Дагамею, частку Судана, Маўрытанію і іншыя дзяржавы.

Каланіяльная палітыка, якую праводзіла Францыя, выклікала абвастрэнне супярэчнасцей з Англіяй і Германіяй. У канцы XIX — пачатку XX ст. Францыя прыняла актыўны ўдзел у стварэнні ваенна-палітычнага блока, накіраванага супраць Германіі і яе саюзнікаў. Ідэя рэваншу падштурхоўвала кіруючыя колы Францыі да вайны з Германіяй.

**Пытанні і заданні**

1. Назавіце прычыны і вынікі рэвалюцый у Францыі 1789—1799, 1830, 1848, 1870 гг.
2. У чым заключалася карэннае адрозненне Парыжскай Камуны 1871 г. ад папярэдніх рэвалюцый?
3. На падставе даных табліцы і тэксту параграфа дакажыце, што ў Францыі ў XIX ст. адбыўся значны эканамічны ўздым.

| Год | Насельніцтва, млн чал. | Колькасць паравых машын, шт. | Працягласць чыгунак, км | Вытворчасць пшаніцы, млн т |
|---|---|---|---|---|
| 1830 | 32 | 2450 (1839 г.) | 37 | 4 |
| 1870 | 38 | 27 088 | 17 929 | 7,4 |

4. Дакажыце, што ў Францыі ў канцы XIX — пачатку XX ст. адбылося пашырэнне дэмакратычных свабод.
5. У чым заключаліся асаблівасці палітычнага развіцця Францыі ў гэты перыяд? Пры адказе выкарыстайце даныя табліцы «Рэспублікі і імперыі ў Францыі».

| Назва рэжыму | Гады існавання | Падзеі, якія прывялі да змены рэжыму |
|---|---|---|
| Першая рэспубліка | 1792—1804 | Дзяржаўны пераварот 1799 г. і абвяшчэнне імперыі ў 1804 г. |
| Першая імперыя | 1804—1815 | Ваеннае паражэнне |
| Другая рэспубліка | 1848—1852 | Дзяржаўны пераварот |
| Другая імперыя | 1852—1870 | Рэвалюцыя |
| Трэцяя рэспубліка | 1870—1940 | Паражэнне ў вайне |

6. Параўнайце знешнюю палітыку Францыі і Вялікабрытаніі. Што ў ёй можна адзначыць агульнага?



У адной з работ французскага гісторыка гаворыцца пра Луі Філіпа: «Нават стаўшы каралём, ён працягваў свае прагулкі па Парыжы, спыняўся паразмаўляць з рабочымі, нават паціснуць ім руку і нават выпіць з імі шклянку віна... Часам каралева... прымала наведвальнікаў, не выпускаючы з рук іголкі... Усё гэта падабалася багатым буржуа, якіх Луі Філіп прыцягваў да сябе, умела ігра-

ючы на струнках іх ганарыстасці, любові да міру і матэрыяльнага дабрабыту. А між тым кароль валодаў цэльным і цвёрдым характарам, незвычайнай упартасцю і прагай да славы».

*Луі Філіпа, арыстакрата па паходжанні, называлі «кароль-буржуа». Як вы думаеце, якую галоўную мэту ставілі перад сабой кароль і каралева, дэманструючы такія паводзіны?*



Французскі палітык Жуль Феры сказаў: «Францыя зацікаўлена ў каланіялізме... Стварэнне калоній — гэта ўтварэнне новага рынку. Пара заявіць адкрыта, што вялікія расы валодаюць асаблівымі правамі адносна рас ніжэйшых».

*Ці згодны вы з меркаваннем французскага палітыка?*



Адна з найбольш яркіх палітычных фігур Францыі канца XIX — пачатку XX ст. — сацыяліст Жан Жарэс. Ён быў вядомы сваёй сумленнасцю і непадкупнасцю, ніколі не ішоў ні на якія здзелкі. Жарэс актыўна змагаўся супраць каланіялізму і вайны, што наспявала. На мітынгу 25 ліпеня 1914 г. ён гаварыў: «У час, калі нам пагражаюць забойствы і варварства, у нас ёсць толькі адна магчымасць захаваць мір і выратаваць цывілізацыю — пралетарыят павінен з'яднаць свае сілы, якія налічваюць вялікае мноства братоў — французаў, англічан, немцаў, італьянцаў, рускіх, і мы заклікаем гэтыя дзясяткі тысяч людзей аб'яднацца, каб аднадушнасць іх сэрцаў развеяла страшны кашмар». Антываенная дзейнасць Жарэса выклікала нянавісць ультрапатрыётаў і нацыяналістаў. За дзень да пачатку Першай сусветнай вайны ён быў забіты двума стрэламі ва ўпор у адным з парыжскіх кафэ.

## § 6. РЭВАЛЮЦЫІ 1848—1849 гг. У ІТАЛІІ, АЎСТРЫЙСКАЙ ІМПЕРЫІ, ГЕРМАНІІ

**Успомніце**

1. Як ажыццяўляўся тэрытарыяльны перадзел Еўропы па рашэнні Венскага кангрэса?
2. Назавіце прычыны і вынікі рэвалюцыі 1848 г. у Францыі.

У канцы 1840-х гг. магутная рэвалюцыйная хваля захліснула Еўропу. Рэвалюцыі адбыліся ў Францыі, Італіі, Аўстрыйскай імперыі і германскіх дзяржавах.

**1. Абвастрэнне сацыяльных супярэчнасцей.** Да рэвалюцый 1848—1849 гг. у Італіі, Аўстрыйскай імперыі і Германіі прывялі так званыя «галодныя саракавыя», якія жорстка ўдарылі па ўсіх пластах еўрапейскага насельніцтва. Неўраджайныя гады (1845—1847) выклікалі рэзкі рост цэн на прадукты харчавання. Сяляне цярпелі ад разаральных падаткаў і ліхвярства. Многія з іх сыходзілі ў гарады, дзе папаўнялі рады беспрацоўных і жабракоў.

Сітуацыю пагоршыў сусветны прамысловы крызіс, які ахапіў Еўропу ў 1847 г. Неўраджаі і пагроза голаду давялі абурэнне самых бедных пластоў насельніцтва да крытычнай мяжы. Рабочыя, жыццёвы ўзровень якіх быў вельмі нізкі, дабіваліся павышэння аплаты працы.

У гэтых умовах усё больш чутны былі галасы лібералаў, якія ўзмацнілі крытыку феадальна-абсалютысцкіх парадкаў. У той жа час эканамічна ўзмацнелая буржуазія імкнулася да палітычнай улады.

**2. Лібералізм і рэвалюцыя.** У пачатку XIX ст. у Еўропе ўзнікла новае палітычнае вучэнне — **лібералізм**. Яго прадстаўнікі былі прыхільнікамі ліберальных ідэй, імкнуліся да свабоды і незалежнасці чалавечай асобы. У галіне палітыкі лібералы былі прыхільнікамі канстытуцыйнай манархіі і перадачы заканадаўчай улады выбарным органам народнага прадстаўніцтва. Яны патрабавалі прадастаўлення выбарчых правоў матэрыяльна забяспечаным людзям і прапаведавалі роўнасць людзей перад законам, раўнапраўе жанчын, адмену саслоўных прывілеяў, раўнамернае размеркаванне падатковага цяжару шляхам увядзення справядлівага падаходнага падатку. Лібералы адстойвалі свабоду слова, веравызнання, адукацыі, друку. У эканамічнай галіне яны выступалі з лозунгам «Дайце нам свабоду дзейнічаць» супраць абмежаванняў свабоды гандлю і прадпрымальніцкай дзейнасці з боку дзяржавы. Лібералы лічылі недапушчальным любое дзяржаўнае ўмяшанне ў эканамічныя адносіны. Дзяржаве адводзілася роля гаранта ў захаванні свабод і правоў грамадзяніна.

Сваіх мэт лібералы разлічвалі дасягнуць шляхам правядзення памяркоўных рэформаў і пераўтварэнняў, а не рэвалюцыйных дзеянняў. У рэвалюцыі лібералы бачылі пагрозу грамадскаму парадку і інтарэсам буйных уласнікаў. Але ў тых краінах, дзе лібералізм праследаваўся, яго прыхільнікі далучаліся да розных тайных суполак і ў шэрагу выпадкаў выкарыстоўвалі метады ўзброенай барацьбы, як, напрыклад, у Італіі.

Распаўсюджванне ліберальных ідэй адыграла значную ролю ў барацьбе супраць феадальна-абсалютысцкіх парадкаў.

**3. Перамогі і паражэнні рэвалюцый.** Падзеі лютага 1848 г. у Францыі паслужылі штуршком для рэвалюцыйных хваляванняў у асобных германскіх

і італьянскіх дзяржавах, а таксама ў Аўстрыйскай імперыі.


*Дж. Гарыбальдзі*

*Італія*. У Італіі рэвалюцыя мела нацыянальна-вызваленчы характар. Па рашэнні Венскага кангрэса Італія, аб'яднаная Напалеонам I, зноў была раздроблена на 8 каралеўстваў і герцагстваў, а яе паўночная частка далучана да Аўстрыйскай імперыі. Ва ўсіх італьянскіх дзяржавах была адноўлена манархічная ўлада.

У 1820—1830-я гг. у італьянскіх дзяржавах узмацніўся рух тайных рэвалюцыйных таварыстваў *карбанарыяў*. Яны ставілі сабе за мэту звяржэнне аўстрыйскага прыгнёту і пераўтварэнне самадзяржаўных манархій у канстытуцыйныя. Выдатную ролю ў барацьбе італьянскага народа за аб'яднанне краіны і ператварэнне яе ў дэмакратычную рэспубліку адыгралі ***Джузепе Гарыбальдзі*** (1807—1882) і ***Джузепе Мадзіні*** (1805—1872).

Рэвалюцыя ў Італіі пачалася 12 студзеня 1848 г. з паўстання ў Палерма (Сіцылія). Неўзабаве яна распаўсюдзілася па ўсёй краіне. Італьянскія манархі не адважыліся процістаяць волі народа. Вясной па ўсёй Італіі, акрамя аўстрыйскіх тэрыторый, былі ўведзены канстытуцыі. У сакавіку 1848 г. паўстала і абвясціла сябе рэспублікай Венецыя, кіруемая Аўстрыйскай імперыяй. Доўгі час яна стрымлівала націск аўстрыйскіх войскаў, але ў жніўні 1849 г. вымушана была скласці зброю.

Важнай падзеяй рэвалюцыі стала паўстанне ў Рыме ў канцы 1848 — пачатку 1849 г., у ходзе якога была скасавана ўлада папы рымскага і абвешчана рэспубліка. Супраць Рымскай рэспублікі выступілі войскі некалькіх дзяржаў: Аўстрыі, Францыі, Іспаніі і Неапалітанскага каралеўства. У гераічнай абароне горада, якая доўжылася больш за два месяцы, праславіліся салдаты генерала Дж. Гарыбальдзі.

Італьянская рэвалюцыя скончылася паражэннем: Рымская і Венецыянская рэспублікі палі, але барацьба за аб'яднанне Італіі працягвалася. Пасля падаўлення рэвалюцыі ліберальны рэжым захаваўся толькі ў Сардзінскім каралеўстве (П'емонт). З цягам часу каралеўства ўзмацнілася і стала цэнтрам барацьбы за стварэнне адзінай Італіі.

У 1859 г. П'емонт у саюзе з Францыяй разграміў Аўстрыю. Аўстра-італа-французская вайна выклікала ўздым нацыянальна-вызваленчай барацьбы. Ваенныя дзеянні атрадаў Дж. Гарыбальдзі і арміі П'емонта завяршыліся ства-




*Аб'яднанне Італіі*

рэннем у **1861 г.** адзінага Італьянскага каралеўства. Затым была вызвалена Венецыя (1866). У **1870 г.** італьянскія войскі занялі Рым, які стаў сталіцай каралеўства.

*Аўстрыйская імперыя.* Імперыя была шматнацыянальнай і шматканфесійнай дзяржавай. Акрамя Аўстрыі ў яе склад уваходзілі Венгрыя, Чэхія, Славакія, Славенія, Харватыя, а таксама частка тэрыторыі сучасных Румыніі, Польшчы, Італіі і Украіны. Кіруючая *дынастыя Габсбургаў* праводзіла абмежавальную палітыку ў галіне эканомікі, не дапускала палітычных свабод, усяляк перашкаджала імкненню падуладных ёй народаў да нацыянальнай незалежнасці. Такая палітыка не мела падтрымкі ні ў буржуазіі, ні ў ніжэйшых пластоў насельніцтва. Яна і прывяла ў рэшце рэшт Аўстрыйскую імперыю да глыбокага палітычнага крызісу і рэвалюцыйнай сітуацыі.

*Паўстанне ў Вене* ўспыхнула 13 сакавіка 1848 г., у хуткім часе пасля звяржэння манархіі ў Францыі. На барыкады выйшлі рабочыя, рамеснікі, студэнты. Паўстанцы патрабавалі прыняцця канстытуцыі і змены ўрада. Імператар Фердынанд I быў вымушаны склікаць сход для выпрацоўкі канстытуцыі, праект якой апублікавалі ў красавіку 1848 г. У ім абвяшчалася свабода слова, сходаў і друку, прадугледжвалася стварэнне парламента. Быў сфарміраваны ўрад, адказны перад будучым парламентам. Але венцы працягвалі бунтаваць, патрабуючы больш дэмакратычнай канстытуцыі і ўсе-



*Нацыянальная гвардыя разганяе паўстанцаў. Вена. 1848 г.*

агульнага выбарчага права. Фердынанд І адрокся ад прастола на карысць свайго пляменніка Франца Іосіфа. Новы імператар увёў канстытуцыю, якая замацоўвала цэласнасць імперыі, і пачаў падаўленне рэвалюцыйных і нацыянальна-вызваленчых выступленняў. У чэрвені 1848 г. было падаўлена паўстанне ў Празе.

Бурныя падзеі адбываліся ў *Венгрыі*. Тут рэвалюцыя пачалася 15 сакавіка 1848 г. Сфарміраваны самастойны венгерскі ўрад скасаваў паншчыну і царкоўную дзесяціну, перадаў у рукі сялян адну трэць апрацоўваемых зямель. Усе народы Венгерскага каралеўства атрымалі палітычныя свабоды. На падаўленне рэвалюцыі былі кінуты імператарскія войскі, але яны не змаглі справіцца з непакорлівай Венгрыяй. Тады Франц Іосіф звярнуўся па дапамогу да рускага цара Мікалая І. У выніку рэвалюцыя ў Венгрыі была падаўлена войскамі Аўстрыі і Расіі.

Рэвалюцыйны рух у імперыі Габсбургаў пачаў заціхаць. У 1851 г. Франц Іосіф адмяніў дараваную раней канстытуцыю. Але ў адносінах з Венгрыяй ён пайшоў на кампраміс. Паводле аўстра-венгерскага пагаднення 1867 г. імперыя Габсбургаў пераўтваралася ў двуадзіную манархію — *Аўстра-Венгрыю*. Венгрыі вярнулі канстытуцыю 1848 г., а ў Аўстрыі выдалі новую канстытуцыю. Аўстра-Венгерская імперыя стала канстытуцыйнай манархіяй.

*Германія.* У гэты час Германія ўяўляла сабой саюз, які складаўся з 35 суверэнных манархій і 4 вольных гарадоў. Прадстаўнічым органам Германскага саюза з'яўляўся бундэстаг, які засядаў у Франкфурце-на-Майне, але рашэнні



*Баі на барыкадах Берліна 18—19 сакавіка 1848 г.*

бундэстага не былі абавязковымі для членаў саюза. За лідарства ў Германскім саюзе сапернічалі Аўстрыя і Прусія.

Рэвалюцыі ў Францыі і Італіі паслужылі штуршком для хваляванняў у розных германскіх дзяржавах. Аднак галоўныя рэвалюцыйныя падзеі разгарнуліся ў Прусіі. 18 сакавіка 1848 г. пачалося паўстанне ў Берліне. У вулічных баях прынялі ўдзел рабочыя, рамеснікі, студэнты, служачыя і нават заможныя бюргеры. Кароль вымушаны быў уступіць. Ён вывеў войскі са сталіцы і абяцаў правесці рэформы. Перамогай завяршыліся паўстанні і ў некаторых іншых германскіх дзяржавах. Там былі сфарміраваны новыя ўрады і абраны парламенты з удзелам лібералаў.

Важнейшым у ходзе рэвалюцыі было пытанне аб аб'яднанні Германіі. 18 мая 1848 г. у Франкфурце-на-Майне ў саборы Святога Паўла адкрылася першае пасяджэнне агульнагерманскага парламента — *Франкфурцкага нацыянальнага сходу*. Большасць дэпутатаў парламента лічылі, што Германія павінна аб'яднацца вакол Прусіі. У сакавіку 1849 г. парламент прыняў канстытуцыю, паводле якой германскія дзяржавы аб'ядноўваліся ў адзіную імперыю на чале з наследным манархам і двухпалатным рэйхстагам (парламентам). Канстытуцыя, напісаная на ўзор французскай Дэкларацыі правоў чалавека і грамадзяніна, абвяшчала грамадзянскія правы і свабоды, роўнасць перад законам, адмяняла саслоўныя прывілеі і феадальныя павіннасці. Аднак аб'яднанне Германіі рэвалюцыйным шляхам не адбылося. Прускі кароль адмовіўся ад кароны імператара. Кіраўнікі многіх германскіх дзяржаў таксама адхілілі ідэю канстытуцыйнага праўлення.

На гэтым рэвалюцыя ў Германіі скончылася. Народныя выступленні ў абарону канстытуцыі былі падаўлены з дапамогай прускай арміі, а Франкфурцкі парламент разагнаны ў чэрвені 1849 г. Рэвалюцыя ў Германіі не вырашыла асноўнай задачы — аб'яднання краіны.

Такім чынам, ні адна з рэвалюцый **1848—1849 гг.** не ўвянчалася поспехам. Нягледзячы на гэта, рэвалюцыйныя падзеі спрыялі ўмацаванню парасткаў новага дэмакратычнага грамадства і пацвердзілі неабходнасць рэформаў. Ліберальныя і сацыялістычныя ідэі атрымалі далейшае распаўсюджанне па ўсёй Еўропе. Былі створаны перадумовы для з'яўлення новых нацыянальных дзяржаў — Італіі і Германіі.

**Пытанні і заданні**

1. Растлумачце прычыны абвастрэння сацыяльных супярэчнасцей у Еўропе ў сярэдзіне XIX ст. Як гэтыя супярэчнасці былі звязаны з развіццём капіталізму?
2. Пакажыце на карце краіны, у якіх захоўвалася палітычная раздробленасць.
3. Якія задачы стаялі перад нацыянальнымі рухамі ў Германіі і Італіі? Чым яны адрозніваліся ад нацыянальных рухаў у Аўстрыйскай імперыі?
4. Дайце характарыстыку лібералізму першай паловы XIX ст., яго мэтам і задачам.
5. Якія былі заваёвы рэвалюцыйнага руху ў Італіі, Аўстрыйскай імперыі, Германіі?
6. У чым выявілася паражэнне рэвалюцый? Растлумачце яго прычыны.
7. Складзіце храналагічную табліцу найважнейшых падзей, якія адбываліся ў 1848—1849 гг. у Германіі, Аўстрыйскай імперыі і Італіі. Зрабіце выснову аб іх палітычным значэнні.



У Германіі было распрацавана некалькі праграм, якія прадугледжвалі правядзенне пераўтварэнняў.

| **Лібералы** | **Рэвалюцыянеры** |
|---|---|
| Аб'яднанне Германіі або вакол Прусіі, або вакол Аўстрыі, або ў форме саюза (федэрацыі) дзяржаў, але пры абавязковым захаванні манархічнага праўлення | Знішчэнне ўсіх манархій, аб'яднанне германскіх дзяржаў у адзіную рэспубліку |
| Пашырэнне выбарчага права, выключэнне беднякоў з ліку выбаршчыкаў | Увядзенне ўсеагульнага выбарчага права |
| Захаванне пастаяннай арміі | Усеагульнае ўзбраенне народа |
| Адмена без выкупу другарадных феадальных павіннасцей і за выкуп — асноўных | Адмена без выкупу ўсіх феадальных павіннасцей |
| Недатыкальнасць прыватнай уласнасці | Перадача ў рукі дзяржавы княжацкіх і дваранскіх маёнткаў, шахтаў, каналаў, пошты |

*Абмяркуйце асноўныя пункты дзвюх праграм: буржуазна-ліберальнай і рэвалюцыйна-пралетарскай. Параўнайце іх змест. Якое вырашэнне праблем, ліберальнае або рэвалюцыйнае, здаецца вам найлепшым?*



Адзін з прускіх лібералаў казаў: «Мая сістэма ў цэлым заключаецца ў тым, што найбагацейшыя людзі дзяржавы павінны мець пераважны ўплыў у дзяржаве, а буржуазіі неабходна аб'яднацца з дваранамі супраць чэрні».

*Як вы ацэньваеце гэта выказванне? Інтарэсы якога грамадскага класа адстойвалі лібералы?*



Джузепе Гарыбальдзі (1807—1882) — народны герой Італіі, генерал — змагаўся за аб'яднанне сваёй радзімы. Яму былі ўласцівы бясстрашнасць і гуманныя адносіны да людзей.

Калі Гарыбальдзі быў яшчэ васьмігадовым хлопчыкам, ён выратаваў жанчыну, якая танула ў глыбокім віры. Юнаком ён ненадоўга апынуўся ў Марселі. Даведаўшыся, што ў горадзе эпідэмія халеры, Джузепе тут жа накіраваўся ў шпіталь даглядаць хворых. Аднойчы, рызыкуючы жыццём, ён кінуўся ў гушчу бітвы, каб выратаваць жыццё непрыяцельскаму салдату, які ўразіў яго сваёй храбрасцю.

«Каштоўнасць зерня, — пісаў Гарыбальдзі ў старасці, — вызначаецца яго ўраджайнасцю; каштоўнасць чалавека — той карысцю, якую ён можа прынесці сабе падобным».

Адзін з батальёнаў, якія змагаліся ў 1936—1938 гг. у рэспубліканскай Іспаніі, насіў імя Гарыбальдзі. А ў 1943—1945 гг. імем гэтага героя былі названы партызанскія атрады, якія ваявалі з нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

## § 7. ГЕРМАНІЯ Ў ДРУГОЙ ПАЛОВЕ XIX — ПАЧАТКУ XX ст.

**Успомніце**

1. Якія краіны Еўропы ў сярэдзіне XIX ст. заставаліся раздробленымі?
2. Чаму ў час рэвалюцыі 1848—1849 гг. не адбылося аб'яднання Германіі?

Асноўнай праблемай краін Цэнтральнай і Паўднёвай Еўропы ў XIX ст. з'яўлялася іх адставанне па ўзроўні эканамічнага развіцця ад Вялікабрытаніі і Францыі. Асабліва актуальнай гэта праблема была для тых народаў, якія валодалі вялікімі патэнцыяльнымі магчымасцямі, але не маглі рэалізаваць іх з-за распаду на дробныя дзяржавы і абмежаванасці рэсурсаў для мадэрнізацыі. Палітычная спадчына Сярэдніх вякоў у найбольшай ступені паўплывала на развіццё Італіі і Германіі.

Таму найважнейшай вяхой еўрапейскай гісторыі другой паловы XIX ст. стала ўзнікненне новых нацыянальных дзяржаў. Нацыянальна-вызваленчая вайна ў Італіі завяршылася стварэннем адзінага Італьянскага каралеўства. Аб'яднанне Германіі праводзілася «зверху». Кіруючую ролю ў аб'яднанні нямецкіх зямель адыграла Прусія, а не Аўстрыя, якая таксама прэтэндавала на лідарства ў будучай адзінай германскай дзяржаве.

**1. Аб'яднанне Германіі.** Германія, як і Італія, да сярэдзіны XIX ст. не была адзінай дзяржавай. Аб'яднанне Германіі шмат у чым стала магчыма дзякуючы экспансіі самай моцнай і найбольш квітнеючай нямецкай дзяржавы — Прусіі. Гэты працэс заняў некалькі этапаў і праходзіў шляхам складаных палітычных манеўраў і войнаў. Тут, як і ў выпадку з Італіяй, асноўнай «ахвярай» аб'яднання стала Аўстрыя.

У другой трэці XIX ст. эканамічная інфраструктура Прусіі (прамысловасць, банкаўская сістэма, дарогі і чыгуначныя зносіны) імкліва развівалася. У выніку Прусія ператварылася ў самую моцную з нямецкіх дзяржаў. Яна стала ініцыятарам стварэння *Германскага мытнага саюза* (1834). Аўс-




*Аб'яднанне Германіі*



*Ота фон Бісмарк*

трыя, наадварот, была выключана з мытнага саюза. Яна адставала ў эканамічным развіцці, што падрывала яе традыцыйнае вяршэнства ў Германскім саюзе.

У 1861 г. каралём Прусіі стаў ***Вільгельм I*** (1797—1888), правіцель з дынастыі Гогенцолернаў. Ён лічыў, што нацыянальнае аб'яднанне краіны можа адбыцца толькі ўзброеным шляхам. «Хто хоча правіць Германіяй, павінен яе сабе заваяваць», — сцвярджаў кароль. Вільгельм I пачаў рэфармаванне прускай арміі з мэтай павышэння яе баяздольнасці. Аднак Заканадаўчы сход Прусіі быў супраць дадатковых ваенных расходаў. Для ўмацавання сваіх пазіцый Вільгельм I прызначыў на пасаду міністра-прэзідэнта (кіраўніка ўрада) вопытнага палітычнага дзеяча ***Ота фон Бісмарка*** (1815—1898).

О. фон Бісмарк адыграў ключавую ролю ў аб'яднанні Германіі. Непераўзыдзены майстар «Realpolitik», г. зн. палітыкі любымі сродкамі, ён лічыў, што адзінства Германіі трэба дабівацца не словамі, а «жалезам і крывёю» (невыпадкова яго называлі «жалезным канцлерам»).

Важным крокам на шляху да аб'яднання Германіі сталі войны Прусіі з Даніяй і Аўстрыяй. У 1864 г. Прусія ў саюзе з Аўстрыяй разграміла Данію, а ў 1866 г. справакавала вайну супраць свайго нядаўняга саюзніка — Аўстрыі. Пераможаная Аўстрыя выйшла з Германскага саюза, і яе ўплыў на нямецкія дзяржавы быў канчаткова ліквідаваны. Аднак узвышэннем Прусіі была незадаволена Францыя, якая ў адзінай Германіі бачыла пагрозу свайму лідарству ў Еўропе. Імкнучыся прадухіліць аб'яднанне германскіх дзяржаў, Францыя першая абвясціла вайну Прусіі. У ходзе франка-прускай вайны была абвешчана адзіная нямецкая дзяржава — *Германская імперыя*.

У **студзені 1871 г.** у Люстраной зале Версальскага палаца прускі кароль Вільгельм I быў абвешчаны імператарам Германіі, а яе рэйхсканцлерам стаў О. фон Бісмарк. У новую імперыю ўвайшлі ўсе германскія дзяржавы і былыя французскія правінцыі Эльзас і Латарынгія, якія былі далучаны да Германіі паводле мірнага дагавора. Акрамя таго, Германія атрымлівала вялізную кантрыбуцыю. Так у Еўропе зацвердзілася новая цэнтралізаваная дзяржава з мілітарысцкімі памкненнямі і эканомікай, якая бурна развівалася. Умовы мірнага дагавора, што завяршыў франка-прускую вайну,

сталі прычынай працяглага проціборства паміж Францыяй і Германскай імперыяй.

З'яўленне на карце Еўропы дзвюх новых буйных дзяржаў — Германіі і Італіі — прывяло да значных змен у міжнародным жыцці. Францыя жадала рэваншу і імкнулася вярнуць страчаныя тэрыторыі. Палітычнае становішча ў Еўропе станавілася напружаным. У хуткім часе ўтварыліся блокі, што супрацьстаялі адзін аднаму: *Траісты саюз*, які складаўся з Германіі, Аўстра-Венгрыі і Італіі, і *Антанта*, куды ўвайшлі Францыя, Расія, Вялікабрытанія. Узмацненне супярэчнасцей паміж гэтымі двума блокамі ў рэшце рэшт прывяло да Першай сусветнай вайны.

**2. Палітычны лад.** Германская імперыя ўяўляла сабой *манархію паўабсалютысцкага тыпу*. У склад новай дзяржавы ўвайшлі 22 манархіі, якія захавалі **аўтаномію**, і 3 вольныя гарады. *Канстытуцыя 1871 г.* замацоўвала кіруючую ролю Прусіі ў імперыі. Імператарам мог быць толькі прускі кароль. Яму падпарадкоўваліся ўзброеныя сілы. Толькі ён вырашаў пытанні вайны і міру, прызначаў і адпраўляў у адстаўку кіраўніка ўрада (рэйхсканцлера), зацвярджаў усе законапраекты, склікаў і распускаў імперскі парламент.

Парламент складаўся з дзвюх палат — верхняй і ніжняй. Члены верхняй палаты — *бундэсрата* — прызначаліся ўрадамі манархій і вольных гарадоў. Дэпутаты ніжняй палаты — *рэйхстага* — выбіраліся мужчынамі (акрамя ваеннаслужачых), якія дасягнулі 25 гадоў.

**3. Эканамічнае развіццё.** У 1870-я гг. пачалося хуткае эканамічнае развіццё Германіі, а ў 1880-я гг. завяршыўся прамысловы пераварот.

Якія ж былі прычыны такога імклівага поспеху гэтай краіны? Перш за ўсё варта адзначыць, што аб'яднанне Германіі садзейнічала фарміраванню адзінага ўнутранага рынку краіны. У выніку франка-прускай вайны Германія





*Завод Крупа ў 1818 г. (злева), ён жа ў 1912 г. (справа)*

атрымала ад пераможанай Францыі на працягу трох пасляваенных гадоў велізарную кантрыбуцыю — 5 млрд франкаў і землі, багатыя жалезнай рудой і каменным вугалем. Германскія прадпрымальнікі паспяхова выкарыстоўвалі вопыт іншых краін, укараняючы ў вытворчасць найноўшыя тэхналогіі, дасягненні навукі і тэхнікі. Паскаралі прамысловую рэвалюцыю і такія характэрныя для нямецкага народа якасці, як пачуццё абавязку, памяркоўнасць, паважлівае стаўленне да працы.

Вялікі скачок наперад Германія зрабіла ў 1890-я гг. У краіне ўзніклі буйныя банкаўскія і прамысловыя карпарацыі. Некаторыя з іх сталі манаполіямі. Напрыклад, у вытворчасці зброі, лакаматываў, чыгуначных рэек панавала магутная фірма Крупа. Развіваліся новыя галіны прамысловасці — хімічная і электратэхнічная. Германскія тавары і капіталы актыўна накіроўваліся за мяжу.

Значныя змены адбываліся ў вёсцы. Узмацнілася маёмаснае расслаенне. Сяляне страчвалі зямлю, станавіліся парабкамі ў памешчыцкіх (юнкерскіх) або фермерскіх гаспадарках. Трэць зямель, што апрацоўваліся, знаходзілася ў руках прускіх **юнкераў**. Многія сяляне сыходзілі ў горад. У пачатку XX ст. трэць насельніцтва Германіі жыла ў гарадах.

Германія стала другой пасля ЗША індустрыяльнай дзяржавай свету, што сур’ёзна непакоіла Францыю і Вялікабрытанію.

**4. Унутраная і знешняя палітыка.** Да самага канца 1880-х гг. *унутраная палітыка* ў Германіі вызначалася О. фон Бісмаркам. «Жалезны канцлер» актыўна змагаўся з унутранай апазіцыяй, прадстаўленай сацыял-дэмакратамі і рабочымі прафсаюзамі, што знаходзіліся пад іх уплывам.


*В. Лібкнехт*

Першыя рабочыя партыі ўзніклі ў Германіі ў 1860-я гг. У 1875 г. адбылося іх аб’яднанне і стварэнне адзінай Сацыялістычнай рабочай партыі Германіі. З 1890 г. яна атрымала назву *Сацыял-дэмакратычнай партыі Германіі (СДПГ)*. Узначалілі працоўны і сацыялістычны рух ***Вільгельм Лібкнехт*** і ***Аўгуст Бебель***. Праграма СДПГ мела сваёй мэтай стварэнне «свабоднай народнай дзяржавы» мірным шляхам на аснове сацыяльнай справядлівасці, свабоды і роўнасці. На выбарах у рэйхстаг у 1877 г. сацыял-дэмакраты атрымалі 12 дэпутацкіх месцаў, што сведчыла аб росце ўплыву партыі.

О. фон Бісмарк бачыў у **сацыял-дэмакратыі** пагрозу грамадскаму парадку. У 1878 г. ён правёў праз рэйхстаг часовы «Закон супраць грамадска небяс-

печных імкненняў сацыял-дэмакратаў». У выніку СДПГ знаходзілася пад забаронай 12 гадоў. Праследуючы сацыял-дэмакратаў, Бісмарк у той жа час шукаў шляхі нейтралізацыі палітычнай актыўнасці грамадзян. Ён прыйшоў да высновы аб неабходнасці сацыяльных рэформаў і ўвядзення рабочага заканадаўства. Пры яго актыўным удзеле ў 1880-я гг. былі прыняты законы аб страхаванні рабочых на выпадкі хваробы, калецтва, старасці і няздольнасці да працы. Такім чынам, па сацыяльным заканадаўстве Германія апярэдзіла Вялікабрытанію і Францыю, нягледзячы на тое што палітычная актыўнасць грамадзян у гэтых краінах была вышэйшай.



*А. Бебель*

*Знешняя палітыка* Германіі характарызавалася імкненнем пашырыць сваю магутнасць у Еўропе. О. фон Бісмарк імкнуўся не дапусціць узвышэння Францыі і яе збліжэння з Вялікабрытаніяй і Расіяй. З мэтай умацавання германскіх пазіцый у Еўропе ён стаў ініцыятарам стварэння ў 1882 г. Траістага саюза.

У 1880-я гг. Германія пачала захоп калоній: Тога і значнай часткі Камеруна ў Афрыцы, тэрыторый у Паўднёва-Заходняй і Усходняй Афрыцы, а таксама ў Азіі і Акіяніі. Умацаванне пазіцый Германіі ў Еўропе і яе каланіяльныя прэтэнзіі непазбежна вялі да абвастрэння супярэчнасцей з Вялікабрытаніяй і Францыяй.

**Пытанні і заданні**

1. Якія падзеі прывялі да аб'яднання Германіі? Як вы разумееце фразу: «Аб'яднанне Германіі праводзілася „зверху"»?
2. Дайце характарыстыку палітычнаму ладу Германскай імперыі. Чым ён адрозніваўся ад палітычнага ладу Вялікабрытаніі і Францыі ў канцы XIX ст.?
3. У чым заключаліся прычыны хуткага эканамічнага ўздыму Германіі ў канцы XIX ст.? Якое месца ў свеце яна займала па аб'ёме прамысловай вытворчасці?
4. Чым было выклікана з'яўленне рабочага і сацыял-дэмакратычнага руху ў Германіі? Якія мэты ставіла перад сабой СДПГ?
5. Выкарыстоўваючы карту, раскажыце аб знешняй палітыцы Германскай імперыі.
6. Растлумачце, чаму Германія, апярэдзіўшы Вялікабрытанію і Францыю, стала першай еўрапейскай краінай, дзе было прынята сацыяльнае заканадаўства.



Будучы канцлер Германскай імперыі О. фон Бісмарк заявіў: «Адзінства Германіі здзейсніцца не пры дапамозе прамоў і шляхам галасавання, але пры дапамозе жалеза і крыві».

*Што меў на ўвазе О. фон Бісмарк, калі гаварыў «пры дапамозе жалеза і крыві»?*



У 1891 г. быў заснаваны Пангерманскі саюз — арганізацыя найбольш агрэсіўнай часткі юнкерства і буржуазіі. Саюз лічыў, што ўрад Германіі павінен дабівацца захопу калоній іншых краін, часткі Францыі, усёй Бельгіі, Галандыі, Аўстрыі, Скандынаўскіх краін, Прыбалтыкі, Польшчы, Украіны, Каўказа, затым Ірана, Індыі і нават Амерыкі.

Дэвізам саюза былі словы: «Кароль на чале Прусіі, Прусія на чале Германіі, Германія на чале свету».

*Дайце ацэнку знешнепалітычным памкненням Пангерманскага саюза. Ці бачыце вы сувязь паміж імі і эканамічнай магутнасцю Германіі?*

## § 8. МІЖНАРОДНЫ РАБОЧЫ І САЦЫЯЛІСТЫЧНЫ РУХ

**Успомніце**

Якія былі ўмовы жыцця рабочых у развітых еўрапейскіх краінах у XIX ст.? Чаго дабіваліся рабочыя гэтых краін і якімі метадамі?

Прамысловая рэвалюцыя выклікала змены ў сацыяльным складзе еўрапейскага грамадства. З'явілася новая арыстакратыя, чыя «адметнасць», у адрозненне ад ранейшай, радавой, арыстакратыі, была заснавана на грашах. Усё гучней заяўляла пра сябе буржуазія. У развітых краінах Заходняй Еўропы са сваімі патрабаваннямі выступаў рабочы клас. Узрастанне сацыяльных супярэчнасцей прывяло да таго, што людзі ўсё часцей сталі задумвацца над тым, якім павінна быць грамадства.

Адказ на гэта пытанне спрабавалі даць тры грамадска-палітычныя вучэнні: лібералізм, **кансерватызм** і сацыялізм, якія атрымалі шырокае распаўсюджанне ў XIX ст. Пры ўсіх адрозненнях лібералізм і кансерватызм збліжала прызнанне неабходнасці рэформаў. Сацыялізм жа прапаноўваў іншы, альтэрнатыўны варыянт грамадскага развіцця і парадку.

**1. Узнікненне марксізму.** Ідэі сацыялізму і камунізму распаўсюдзіліся ў Еўропе ў 1830-я гг. сярод паслядоўнікаў вядомага французскага сацыяліста-ўта-

піста ***Клода Анры Сен-Сімона*** (1760—1825). Прыхільнікі *ўтапічнага сацыялізму* зыходзілі з таго, што грамадства нясе адказнасць за кожнага са сваіх членаў і павінна абараняць іх ад нягод і цяжару прамысловай рэвалюцыі. Яны жорстка крытыкавалі заганы ўзніклага капіталізму, абвясціўшы галоўнай крыніцай усіх бедстваў прыватную ўласнасць і эксплуатацыю чалавека чалавекам. Некаторыя спрабавалі на практыцы ажыццявіць свае ідэі па паляпшэнні становішча рабочых. Сацыялісты-ўтапісты былі прыхільнікамі мірных паступовых пераўтварэнняў.

У сярэдзіне XIX ст. пачалося ўкараненне сацыялістычных ідэй у рабочы рух. Узнік кірунак, які атрымаў назву *«рабочы камунізм»*. Яго ідэолагі прызнавалі рэвалюцыю адзіным сродкам пазбаўлення чалавецтва ад эксплуатацыі. Вядомым прадстаўніком «рабочага камунізму» быў француз ***Луі Агюст Бланкі*** (1805—1881), які лічыў, што толькі шляхам рэвалюцыйнай змовы можна ліквідаваць капіталізм і дасягнуць светлай будучыні.



*К. Маркс*

Стваральнікамі самага ўплывовага сацыялістычнага вучэння, *марксізму*, з'яўляюцца ***Карл Маркс*** (1818—1883), сын адваката з нямецкага горада Трыра, і ***Фрыдрых Энгельс*** (1820—1895), сын тэкстыльнага фабрыканта з нямецкага горада Бармэна.

Заснавальнікі марксізму лічылі капіталістычны лад несправядлівым і варожым простаму чалавеку, паколькі капіталісты жывуць за кошт бязлітаснай эксплуатацыі наёмных рабочых. Капіталістычная эксплуатацыя грунтуецца на прыватнай уласнасці на сродкі вытворчасці — фабрыкі, заводы, зямлю і г. д. Маркс і Энгельс сцвярджалі, што для таго, каб знішчыць эксплуатацыю чалавека чалавекам, неабходна ліквідаваць прыватную ўласнасць і ператварыць яе ў грамадскую.



*Ф. Энгельс*

На думку заснавальнікаў марксізму, ажыццявіць перадачу прыватнай уласнасці ўсяму грамадству можна толькі шляхам *сацыялістычнай рэвалюцыі*, рухаючай сілай якой з'яўляецца пралетарыят — самы арганізаваны і рэвалюцый-

ны з прыгнечаных класаў. Рэвалюцыя прызначана знішчыць буржуазную дзяржаву і ўсталяваць *дыктатуру пралетарыяту*, г. зн. рабочага класа. Дыктатура пралетарыяту забяспечыць пабудову новага сацыялістычнага (камуністычнага) грамадства, заснаванага на агульнай уласнасці, свабодзе і роўнасці. Для вырашэння гэтых задач неабходна рэвалюцыйная пралетарская партыя — партыя камуністаў.

**2. Міжнароднае таварыства рабочых, або І Інтэрнацыянал.** У **1864 г.** К. Маркс і Ф. Энгельс стварылі першую міжнародную (інтэрнацыянальную) масавую арганізацыю рабочых. Яна атрымала назву *Міжнароднага таварыства рабочых*, або *І Інтэрнацыянала*.

Яшчэ ў 1863 г. у Лондане адбылася сустрэча прадстаўнікоў англійскіх і французскіх рабочых, якія адобрылі рашэнне аб стварэнні міжнароднай арганізацыі пралетарыяту з мэтай аб'яднання намаганняў працоўных розных краін для агульнай рэвалюцыйнай барацьбы. Установчы сход Міжнароднага таварыства рабочых адбыўся ў Лондане 28 верасня 1864 г. *Устаноўчы маніфест* і *Статут таварыства* былі напісаны К. Марксам. У Маніфесце абвяшчалася важнейшае праграмнае палажэнне аб заваяванні пралетарыятам палітычнай улады. Маркс сцвярджаў, што неабходна стварыць палітычную партыю пралетарыяту, і заклікаў да інтэрнацыянальнай салідарнасці пралетарыяў усіх краін і аб'яднання іх намаганняў у барацьбе супраць «агульнага ворага» — міжнароднай буржуазіі. У знешняй палітыцы таварыства ставіла сабе за мэту не дапусціць братазабойчых войнаў і нацыянальных канфліктаў.


ADDRESS

AND

PROVISIONAL RULES

OF THE

WORKING MEN'S

INTERNATIONAL ASSOCIATION,

Established September 28, 1864,

AT A PUBLIC MEETING HELD AT ST. MARTIN'S HALL, LONG ACRE, LONDON.

PRICE ONE PENNY.

PRINTED AT THE "BEE-HIVE" NEWSPAPER OFFICE, 10, BOLT COURT, FLEET STREET.

1864.

*Тытульны ліст Устаноўчага маніфеста І Інтэрнацыянала. 1864 г.*

Інтэрнацыянал не праціпастаўляў сябе ўжо існуючым рабочым арганізацыям, а імкнуўся абапірацца на іх і каардынаваць іх дзейнасць у напрамку адзінай, агульнай мэты. З дзейнасцю Інтэрнацыянала ўзмацніўся ўплыў марксісцкіх ідэй на рабочы рух.

На *Брусельскім кангрэсе* І Інтэрнацыянала, які адбыўся ў 1868 г., дэлегаты — прыхільнікі К. Маркса прыйшлі да высновы, што зямля, шахты, руднікі, лясы і фабрыкі павінны быць перададзены ў грамадскую ўласнасць. На *Лонданскай канферэнцыі* (1871) дэлегаты прынялі рашэнне аб неаб-

ходнасці стварэння ў кожнай краіне самастойнай палітычнай партыі. *Гаагскі кангрэс* (1872) пацвердзіў намер марксістаў прадоўжыць палітычную барацьбу для дасягнення канчатковай мэты — пабудовы бяскласавага грамадства. У 1876 г. Міжнароднае таварыства самараспусцілася, паколькі на парадку дня стаяла задача стварэння самастойных пралетарскіх партый у асобных краінах.

**3. II Інтэрнацыянал.** У 1875 г. была створана Сацыялістычная рабочая партыя Германіі (з 1890 г. Сацыял-дэмакратычная партыя Германіі), якая кіравалася ў сваёй дзейнасці вучэннем К. Маркса. Падобныя *марксісцкія партыі* пасля з'явіліся ва ўсіх буйных еўрапейскіх краінах, у тым ліку і ў Расіі.

З мэтай ідэйнага і арганізацыйнага аб'яднання гэтых партый у **1889 г.** у Парыжы пры ўдзеле Ф. Энгельса быў створаны *II Інтэрнацыянал*. На кангрэсах II Інтэрнацыянала, што склікаліся праз кожныя 2—4 гады, абмяркоўваліся праблемы рабочага і сацыялістычнага руху, выпрацоўваліся палітычныя рэкамендацыі. Па прапанове Парыжскага кангрэса 1889 г. з 1 мая 1890 г. сталі штогод праводзіць першамайскія маніфестацыі. У пачатку Першай сусветнай вайны II Інтэрнацыянал распаўся, паколькі сацыялісты дзяржаў, што ваявалі паміж сабой, падтрымалі ваенныя памкненні сваіх урадаў.

**4. Плыні ў рабочым і сацыялістычным руху.** Галоўнай мэтай II Інтэрнацыянала з'яўлялася *барацьба за сацыялізм*. Аднак сярод яго лідараў разуменне спосабаў і метадаў гэтай барацьбы, ды і самога сацыялізму было розным.

Марксісты па-ранейшаму працягвалі прапагандаваць ідэю сацыялістычнай рэвалюцыі і ўсталявання дыктатуры пралетарыяту. Пасля смерці Ф. Энгельса выдатнымі прадстаўнікамі марксізму сталі германскі сацыяліст А. Бебель і расійскі рэвалюцыянер У. І. Ленін.

У канцы XIX ст. узнікла новае палітычнае вучэнне — **рэфармізм**. Яго заснавальнікам быў германскі сацыял-дэмакрат ***Эдуард Бернштэйн*** (1850—1932), які выступіў з прапановай перагляду марксізму.

Э. Бернштэйн зыходзіў з таго, што становішча працоўных пры капіталізме стала паляпшацца, а не пагаршацца. Такім чынам, класавая барацьба паміж пралетарыятам і буржуазіяй заціхае, а не абвастраецца. У сувязі з гэтым рабочым патрэбны не разбуральныя рэвалюцыі, а стваральныя рэформы, якія забяспечаць мірнае перарастанне капіталізму ў сацыялізм.

У некаторых еўрапейскіх краінах атрымаў распаўсюджанне **анарха-сіндыкалізм**, які адмаўляў неабходнасць арганізаванай палітычнай барацьбы і выступаў за знішчэнне ўсякай дзяржаўнай улады. Асноўнымі ячэйкамі сацыялістычнага грамадства анарха-сіндыкалісты лічылі *прафсаюзы (сіндыкаты)*,

а асноўнымі сродкамі барацьбы — сабатаж, байкот і ўсеагульную эканамічную забастоўку.

І і ІІ Інтэрнацыяналы адыгралі вялікую ролю ў распаўсюджванні і з'яднанні сацыялістычнага руху. У 1863 г. існавала толькі адна палітычная партыя пралетарыяту — у Германіі. У 1870—1880-я гг. сацыялістычныя партыі і арганізацыі ўзніклі ў Францыі, Вялікабрытаніі, Бельгіі, Італіі, Швецыі, Аўстрыі, ЗША. У пачатку XX ст. яны ўжо дзейнічалі больш як у 20 дзяржавах свету, прычым у некаторых краінах налічвалася па некалькі сацыялістычных партый.

### Пытанні і заданні

1. Калі ўзнікла першая міжнародная арганізацыя рабочых? Як яна называлася?
2. Што падштурхоўвала рабочых розных краін да ўзаемадзеяння?
3. Якую ролю адыгралі К. Маркс і Ф. Энгельс у гісторыі рабочага руху?
4. У чым заключалася сутнасць марксізму як грамадска-палітычнага вучэння?
5. Якія мэты ставіў перад сабой І Інтэрнацыянал?
6. Раскажыце пра дзейнасць ІІ Інтэрнацыянала.
7. Ці можна сцвярджаць, што эканамічнае і палітычнае становішча рабочага класа ў пачатку XX ст. палепшылася ў параўнанні з XIX ст.? Падумайце, чаму ў рабочым і сацыялістычным руху ў канцы XIX — пачатку XX ст. з'явіліся новыя плыні.



**Заработная плата і працягласць рабочага часу ў краінах Захаду ў канцы XIX ст., %**

| Паказчыкі | Англія* | Францыя | Германія | ЗША |
|---|---|---|---|---|
| Заработная плата за аднолькавы рабочы час | 100 | 64 | 75 | 240 |
| Працягласць рабочага часу | 100 | 117 | 111 | 96 |

* Паказчыкі Англіі прыняты за 100 %.

**Працягласць рабочага тыдня ў Еўропе і ЗША, гадз**

| Гады | Еўропа | ЗША |
|---|---|---|
| 1850 | 84 | 72 |
| 1910 | 60 | 54 |

*Якія высновы аб узроўні жыцця ў буйнейшых краінах Еўропы і ЗША ў канцы XIX — пачатку XX ст. можна зрабіць на падставе прыведзеных даных?*

# § 9. АДУКАЦЫЯ, НАВУКА І ТЭХНІКА

**Успомніце**

Каго з найбольш выдатных вучоных XVI—XVIII стст. вы ведаеце?

У XIX ст. былі дасягнуты вялікія поспехі ў галіне адукацыі, навукі і тэхнікі. Шматлікія навуковыя адкрыцці садзейнічалі развіццю прамысловасці. Пад іх уплывам змяняліся ўяўленні людзей пра навакольны свет, пра паходжанне чалавека і жыцця на Зямлі. Стаў іншым шматвяковы ўклад жыцця людзей. На працягу аднаго стагоддзя чалавек перасеў з карэты ў поезд, а з яго — у аўтамабіль. У 1903 г. узняўся ў паветра першы аэраплан.

**1. Адукацыя.** Да пачатку XX ст. насельніцтва свету заставалася ў асноўным непісьменным. Большасць людзей не ўмелі нават чытаць і пісаць. Толькі ў высокаразвітых краінах Заходняй Еўропы, ахопленых індустрыялізацыяй, у XIX ст. (асабліва ў другой палове) пачалося шырокае распаўсюджванне адукацыі. Гэта было магчыма дзякуючы таму, што грамадства стала багацейшым, значна палепшылася матэрыяльнае становішча людзей. Акрамя таго, індустрыяльная цывілізацыя мела патрэбу ў кваліфікаваных рабочых, таму дзяржава стала надаваць больш увагі пытанням адукацыі. Пачаўся пераход да ўсеагульнага абавязковага навучання.

У Вялікабрытаніі *закон аб абавязковай адукацыі* ўсіх дзяцей да 12 гадоў быў прыняты ў 1870 г., у Францыі — у 1882 г. Да канца XIX ст. колькасць пісьменных сярод мужчын у Заходняй Еўропе дасягнула 90 %.

У многіх гарадах адкрываліся ўніверсітэты. Аднак вышэйшая адукацыя была даступная не для ўсіх. Яна па-ранейшаму заставалася элітарнай. На-



*Вучні малодшых класаў ліцэя. Францыя. Канец XIX ст.*



*Першы рэнтгенаўскі здымак — жаночая рука з заручальным пярсцёнкам*

прыклад, для дзяцей з багатых сем'яў ствараліся спецыяльныя школы, якія адкрывалі прамую дарогу ў вышэйшыя навучальныя ўстановы.

**2. Навука.** Дзевятнаццатае стагоддзе часта называюць стагоддзем навукі. У гэты час вучоныя мелі значны ўплыў і карысталіся павагай у грамадстве. Навука бурна развівалася, змяняючы не толькі навакольнае асяроддзе, але і ўнутраны свет чалавека.

Адно за адным адбываліся адкрыцці ў матэматыцы, хіміі, фізіцы, біялогіі і грамадскіх навуках. Так, французскі вучоны ***Луі Пастэр*** (1822—1895) заклаў асновы сучасных мікрабіялогіі (навука пра мікраарганізмы) і імуналогіі (навука аб ахоўных уласцівасцях арганізма), што дазволіла пачаць паспяховую барацьбу з інфекцыйнымі захворваннямі.

Пераварот у прыродазнаўстве зрабілі вучоныя, якія праніклі ў таямніцы «дзіўнага свету» — свету элементарных часціц. У 1895 г. нямецкі вучоны ***Вільгельм Рэнтген*** (1845—1923) адкрыў рэнтгенаўскія прамяні (названыя ў яго гонар), якія адразу пачалі прымяняцца ў медыцыне і тэхніцы. Затым адбыліся адкрыццё радыеактыўнасці і даследаванні ў галіне атамнага ядра, звязаныя з імёнамі такіх выдатных фізікаў, як ***М. Складоўская-Кюры, П. Кюры*** (Францыя) і ***Э. Рэзерфард*** (Англія).

Вучоныя не толькі вырашалі практычныя задачы навукі, але і імкнуліся спасцігнуць будову Сусвету. Была адкрыта новая планета Нептун.

**3. Вучэнне Ч. Дарвіна і фарміраванне новай карціны свету.** Найважнейшым дасягненнем навукі XIX ст. было стварэнне тэорыі эвалюцыі відаў шляхам натуральнага адбору. Сваё завершанае ўвасабленне яна знайшла ў вучэнні ***Чарлза Дарвіна*** (1809—1882), які значна паўплываў на фарміраванне новай карціны свету. У 1859 г. у Англіі выйшла яго кніга «Паходжанне відаў шляхам натуральнага адбору».

Вывучаючы раслінны і жывёльны свет, вучоны прыйшоў да высновы, што існуючыя віды жывёл і раслін сфарміраваліся ў выніку працяглага працэсу развіцця. Прычым слабыя асобіны гінулі ў барацьбе за існаванне, а найбольш прыстасаваныя выжывалі, і іх прыкметы перадаваліся ў спадчыну наступным пакаленням. Такім чынам адбываўся натуральны адбор. Месца для Бога ў гэтай навуковай тэорыі не заставалася.

Царква выступала супраць Ч. Дарвіна, убачыўшы ў яго вучэнні падставу для атэізму. Нападкі сталі больш жорсткія пасля выхаду новай кнігі —



*Адзін з першых цягнікоў, якія курсіравалі па чыгуначнай лініі Ліверпуль — Манчэстэр у Вялікабрытаніі*

«Паходжанне чалавека і палавы адбор» (1871). У ёй даказвалася, што чалавек не быў створаны Богам, а паходзіць ад некалі існаваўшай малпападобнай істоты.

**4. Пераварот у тэхніцы.** Стварэнне буйной машыннай вытворчасці і машыннай тэхнікі складае асноўны змест другога перыяду Новага часу.

Моцны штуршок механізацыі вытворчасці дало вынаходства ў канцы XVIII ст. *паравога рухавіка*. Амаль адначасова быў распрацаваны працэс атрымання жалеза з чыгуну, а ў другой палове XIX ст. — працэсы пераплаўкі чыгуну ў сталь. Узнікла новая галіна вытворчасці — *машынабудаванне*. Разгарнуўся масавы выпуск разнастайных машын. Паравыя ўстаноўкі пачалі прымяняцца ў розных галінах прамысловасці і сельскай гаспадаркі.

**5. Развіццё транспарту.** Велізарныя змяненні ў жыццё Еўропы, Паўночнай Амерыкі, ды і ўсяго свету ўнесла з'яўленне паравога транспарту. Першым параходам было рачное судна, пабудаванае ў ЗША ў 1807 г. Паступова парусныя судны выцясняліся параходамі. З 1822 г. іх пачалі будаваць з жалеза, а з 1880-х гг. — са сталі. У пачатку XX ст. рускія канструктары спусцілі на ваду першы цеплаход, які прыводзіўся ў дзеянне з дапамогай *рухавіка ўнутранага згарання* — дызеля.

Сапраўдную рэвалюцыю ў транспарце зрабіла вынаходства *паравоза* (1803) і будаўніцтва чыгунак, распачатае ў 1825 г. У 1830 г. агульная даўжыня чыгуначных ліній у свеце складала ўсяго 300 км. Да 1917 г. яна дасягнула 1 млн 146 тыс. км.

На мяжы XIX—XX стст. дзякуючы стварэнню рухавіка ўнутранага згарання ўзніклі новыя віды транспарту — аўтамабільны і паветраны. Напачатку самалёты мелі толькі спартыўнае значэнне, затым іх пачалі выкарыстоўваць у ваеннай справе.

Значную ролю ў развіцці транспарту адыграла будаўніцтва мастоў, каналаў і гідратэхнічных збудаванняў. У 1869 г. быў адкрыты Суэцкі канал, які



*Першы правод суднаў праз Суэцкі канал. Малюнак 2-й паловы XIX ст.*

злучыў Чырвонае мора з Міжземным і скараціў марскі шлях з Еўропы ў краіны Паўднёва-Усходняй Азіі амаль на 13 тыс. км. У 1914 г. завяршылася будаўніцтва Панамскага канала, які звязаў Атлантыку з Ціхім акіянам.

**6. Сувязь навукі з практыкай.** Навуковыя адкрыцці і тэхнічныя вынаходствы былі цесна звязаны паміж сабой. Адны вучоныя прапаноўвалі ідэі, іншыя ў ходзе эксперыментаў выяўлялі галіны іх практычнага прымянення. Так, напрыклад, адбылося з вывучэннем электрычнасці. Асаблівы ўклад у гэту галіну навукі ўнеслі англічанін ***Майкл Фарадэй*** і шатландзец ***Джэймс Максвел***.

Навука аб электрычнасці прывяла да стварэння *электратэхнічнай прамысловасці.* Спачатку быў вынайдзены электрарухавік, а ў 1880 г. нямецкая фірма «Сіменс» вырабіла першы электрапоезд. Пачалі працаваць першыя ў свеце электрастанцыі, на фабрыках і заводах усё шырэй сталі прымяняцца электраматоры. З'явілася электрычнае асвятленне на гарадскіх вуліцах, у жылых дамах і вытворчых памяшканнях. У мінулае адыходзіла конка. На вуліцах еўрапейскіх гарадоў загрукаталі трамваі, абвясціўшы свету аб пачатку эпохі электрычнасці.

**7. Сродкі сувязі.** На працягу многіх стагоддзяў людзі зносіліся паміж сабой пры дапамозе пісьмаў, на флоце і ў сухапутнай арміі — з дапамогай сігнальных флажкоў, светлавых і іншых умоўных знакаў. Развіццё прамысловасці і гандлю патрабавала больш дасканалых сродкаў перадачы інфармацыі. Навуковыя адкрыцці ў галіне электрычнасці і магнетызму цалкам задаволілі гэту патрэбнасць. З'явіліся новыя сродкі перадачы інфармацыі — тэлеграф, тэлефон, радыё.

Выдатным дасягненнем канца XIX ст. стала вынаходства *фанографа* і *кінематографа*. Апарат для запісу і ўзнаўлення гуку прапанаваў у 1877 г. ***Томас Эдысан***. А браты ***Луі*** і ***Агюст Люм'еры*** вынайшлі ў 1895 г. апарат для здымкі і праецыравання «рухомых фатаграфій» — першы прыдатны да практычнага выкарыстання кінаапарат, які атрымаў назву «кінематограф». У хуткім часе ў розных сталіцах пачалі адкрывацца кінатэатры. За вельмі кароткі тэрмін кіно заваявала шырокую папулярнасць ва ўсім свеце.



*Доследны экзэмпляр кінаапарата, вынайдзенага братамі Люм'ер*

Аднак выдатныя навукова-тэхнічныя адкрыцці, прызначаныя змяніць да лепшага жыццё людзей, атрымалі прымяненне і ў ваеннай тэхніцы, вынаходстве дасканалых прылад знішчэння і разбурэння. Праўда, людзі ў той час яшчэ не задумваліся над вынікамі, да якіх усё гэта магло прывесці.

**Пытанні і заданні**

1. Якія змены ў сістэме адукацыі адбыліся ў буйнейшых краінах Еўропы?
2. Чаму XIX ст. часта называюць стагоддзем навукі?
3. Запоўніце табліцу «Навуковыя адкрыцці і вынаходствы XIX — пачатку XX ст.». Выкарыстайце пры гэтым факты не толькі з вучэбнага дапаможніка, але і з дадатковай літаратуры.

| Кірунак у навуцы і тэхніцы | Імёны вучоных і вынаходнікаў | Сутнасць навуковага адкрыцця, вынаходства |
|---|---|---|
| | | |

4. Якім чынам навукова-тэхнічныя адкрыцці і вынаходствы змянялі адносіны чалавека да прыроды? Чаму ў той час людзі яшчэ не задумваліся над іх наступствамі?



Адзін з італьянскіх кардыналаў XVI ст. выказаў свой погляд на навуку так: «Уся чалавечая навука — гэта вар'яцтва».

*Ці змяніліся адносіны да навукі ў XIX ст.?*

# § 10. МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА

**Успомніце**

1. Якія выдатныя творы заходнееўрапейскай літаратуры XVI—XVIII стст. вы ведаеце?
2. Што такое гістарычная крыніца?

Перадавыя людзі Еўропы з захапленнем успрынялі дэвіз Французскай рэвалюцыі 1789—1799 гг. «Свабода, Роўнасць, Братэрства». Але хутка светлыя надзеі змяніла горкае расчараванне. Прыгожыя лозунгі былі падтасаваны і заменены рэвалюцыйнай тыраніяй. Хваля кровапраліцця затапіла спачатку Францыю, а затым і Еўропу. Царства розуму і справядлівасці не перамагло. Стары феадальны свет абрынуўся, і на яго месцы ўзнік свет буржуазны, у якім меркай усяго сталі грошы. У такіх умовах нарадзілася новая літаратура. У XIX ст. у ёй вылучыліся два асноўныя кірункі: **рамантызм** і **рэалізм**.

**1. Рамантызм.** У першай трэці XIX ст. пануючым быў рамантычны кірунак. Расчараваўшыся ў выніках Французскай рэвалюцыі канца XIX ст., у ідэалах Асветніцтва і грамадскім прагрэсе, рамантыкі апявалі бязмежную свабоду, адмаўлялі існуючую рэчаіснасць у імя больш дасканалага будучага. Адмовіўшыся ўслаўляць розум, як гэта было ў асветнікаў, рамантыкі імкнуліся ўздзейнічаць перш за ўсё на пачуцці. Героі рамантычных твораў — мяцежныя і адзінокія — процістаяць варожаму «сусветнаму злу». Іх унутраны свет складаны і супярэчлівы. Яны падпарадкоўваюцца нястрымным стыхійным парываннямі.



*В. Гюго*

*Французскі рамантызм.* Лідарам французскага рамантызму быў ***Віктор Гюго*** (1802—1885). У яго рана праявіліся літаратурныя здольнасці. Ужо ў юнацтве ён стаў вядомы як таленавіты паэт. Геній Гюго праявіўся не толькі ў паэзіі, але і ў прозе, драматургіі, публіцыстыцы. Яго працавітасць была невычэрпнай (поўны збор твораў пісьменніка налічвае дзясяткі тамоў).

У пачатку сваёй творчасці В. Гюго быў прыхільнікам манархіі. Але з часам яго палітычныя погляды змяніліся. У 1871 г. ён падтрымаў Парыжскую Камуну, праўда, назваў барацьбу пралетарыяту супраць рэакцыйнага ўрада братазабой-

чай. Сусветнае прызнанне Віктору Гюго прынеслі раманы «Сабор Парыжскай Божай Маці», «Адвержаныя», «Працаўнікі мора», «Чалавек, які смяецца».

*Англійскі рамантызм.* Англійскі рамантызм пачатку XIX ст. прадстаўляюць тры геніяльныя паэты — Дж. Г. Байран, П. Б. Шэлі і Дж. Кітс.

Вялікі рамантык ***Джордж Гордан Байран*** (1788—1824) нарадзіўся ў збяднелай арыстакратычнай сям'і, атрымаў элітарную адукацыю. У дзесяцігадовым узросце ён атрымаў у спадчыну тытул лорда, маёмасць і радавы замак.



*Дж. Г. Байран*

Паэтычная слава прыйшла да Дж. Байрана ў юнацтве. Але вышэйшым колам англійскага грамадства не спадабаўся бунтарскі дух паэта, яго выступленні ў парламенце ў абарону англійскіх рабочых і вызваленчай барацьбы ірландскага народа. Імя Байрана стала сімвалам адмаўлення і непакорнасці. Не прызнаны грамадствам, ён асудзіў сябе на добраахвотнае выгнанне. Паэт пакінуў Англію і прыняў удзел у барацьбе італьянскага і грэчаскага народаў за нацыянальную незалежнасць.

У цэнтры паэм Дж. Байрана «Паломніцтва Чайльд Гарольда», «Гяур», «Карсар» і іншых стаіць расчараваны і самотны герой-бунтар, які змагаецца супраць прыгнёту і тыраніі. Адзін з найлепшых твораў паэта — незакончаны раман у вершах «Дон Жуан» — набліжаецца да рэалістычнага кірунку.

Як і Дж. Байран, ***Персі Біш Шэлі*** (1792—1822) паходзіў з арыстакратычнай сям'і і парваў са сваім асяроддзем. Яшчэ студэнтам Оксфардскага ўніверсітэта ён напісаў такія радкі:

*Каралі, вы — толькі людзі:*
*Вашу ўладу час знясе.*
*Вечна жыць каханне будзе,*
*Вы ж памрэце, як усе.*

За антыманархічныя настроі П. Б. Шэлі выключылі з універсітэта, і ён быў вымушаны пакінуць Англію. У паэме «Паўстанне Ісламa», трагедыі «Чэнчы», лірычнай драме «Вызвалены Праметэй» і іншых сваіх творах паэт услаўляе рэвалюцыйную барацьбу, якая нясе вызваленне ад дэспатызму і тыраніі.

Вялікі англійскі лірык ***Джон Кітс*** (1795—1821) усё жыццё змагаўся з беднасцю. Яго творчы шлях быў вельмі кароткі — Кітс памёр на чужыне ва ўзросце 25 гадоў. Аднак пасля сябе паэт пакінуў дзівосныя шэдэўры лірычнай паэзіі.

Паэзія Дж. Кітса лёгкая, бесцялесная і хвалююча таямнічая. Яна на мяжы двух светаў: быцця і небыцця, сну і явы, дня і ночы. Можа, таму так сімвалічна гучыць **эпітафія**, высечаная на надмагільным камені паэта: «Тут ляжыць той, чыё імя было напісана на вадзе».

Сучаснікам вялікіх англійскіх рамантыкаў быў ***Вальтэр Скот*** (1771—1832). Сваю творчую дзейнасць ён пачаў як аўтар рамантычных паэм. Але затым перайшоў да прозы і стаў прыхільнікам рэалістычнага кірунку.

У сусветную літаратуру В. Скот увайшоў як стваральнік гістарычнага рамана. У сваіх творах «Пурытане», «Роб Рой», «Квенцін Дорвард» і інш. пісьменнік адлюстроўваў падзеі англійскай і еўрапейскай сярэдневяковай гісторыі ў яе пераломныя моманты. Найлепшым раманам Скота «Айвенга» да гэтага часу зачытваюцца і дарослыя, і дзеці.

*Нямецкі рамантызм.* Найярчэйшую старонку ў гісторыю нямецкага рамантызму ўпісаў ***Эрнст Тэадор Амадэй Гофман*** (1776—1822). Гэта быў чалавек рознабакова адораны. У яго жыцці значнае месца займала музыка: ён выдатна музіцыраваў, ствараў оперы, сімфоніі і рамансы, пісаў пра музыку і музыкантаў. Рэальнае жыццё не прываблівала пісьменніка. Гофман знаходзіў прытулак у свеце нястрымнай фантазіі, стварыў казачна-рамантычнае царства (раман «Эліксір д'ябла», аповесць «Залаты гаршчок», казкі «Малы Цахес», «Уладар блох» і інш.).



*Э. Т. А. Гофман*

На сюжэты Э. Т. А. Гофмана напісаны выдатныя музычна-сцэнічныя творы: балет П. І. Чайкоўскага «Шчаўкунок», опера французскага кампазітара Ж. Афенбаха «Казкі Гофмана» і інш.

Вяршыняй нямецкай літаратуры XIX ст. стала творчасць ***Генрыха Гейнэ*** (1797—1856). Бацькі хацелі зрабіць з яго фінансіста, або, як яны казалі, «грашовую імперыю». Але насуперак іх жаданню юнак стаў паэтам. Яго раннія вершы, якія ўвайшлі ў зборнік «Кніга песень», прасякнуты свабодалюбівымі матывамі і блізкія да традыцый народнай песні. Многія лірычныя вершы пра каханне былі пакладзены на музыку. А ў найлепшым творы Г. Гейнэ — паэме «Германія. Зімовая казка» — вы-



*Гётэ ў Кампаньі. Мастак В. Тышбейн. 1787 г.*

крываюцца заганы феадальна-манархічнай Германіі і выразна гучаць рэвалюцыйныя ноты.

Некаторыя рысы рамантызму праявіліся і ў творчасці найвялікшага нямецкага паэта і мысліцеля ***Іагана Вольфганга Гётэ*** (1749—1832). Заснавальнік нямецкай літаратуры Новага часу, выдатны прадстаўнік Асветніцтва, ён быў вядомы і сваімі працамі па прыродазнаўстве. Раманы Гётэ «Гады вучэння Вільгельма Мейстэра» і «Гады вандраванняў Вільгельма Мейстэра» прысвечаны праблемам фарміравання асобы мастака, узаемаадносін чалавека і грамадства. Вяршыняй творчасці паэта стала трагедыя «Фаўст», у якой аўтар разважае пра сэнс быцця, магчымасці і межы чалавечага розуму і духу.

**2. Рэалізм.** У 1840-х гг. у еўрапейскай літаратуры і мастацтве сфарміраваўся новы кірунак — рэалізм. Рэалісты, як і рамантыкі, крытыкавалі грамадства, што склалася пасля Французскай рэвалюцыі. Але калі ў рамантыкаў крытыка часта прымала характар бунту і адыходу ад рэчаіснасці, то рэалісты аб'ектыўна паказвалі жыццё такім, якое яно было ў сапраўднасці, — ва ўсёй непрыкрытасці, не ўтойваючы яго брыдкіх бакоў. Асноўным жанрам рэалістычнага кірунку ў літаратуры стаў *раман*.

Адным з найбольш яркіх прадстаўнікоў рэалістычнага кірунку быў ***Стэндаль*** (сапраўднае імя *Анры Мары Бейль*, 1783—1842). Пісьменнік лічыў, што раман — гэта люстэрка, якое паказвае то блакітнае неба, то брудныя лужыны. Свае творы Стэндаль пісаў лёгка, не турбуючыся аб форме (паводле выразу А. дэ Бальзака, «як птушкі пяюць»). Так, славуты раман «Пармскі манастыр» Стэндаль стварыў за 52 дні.



*А. дэ Бальзак*

Сусветную славу пісьменніку прынёс раман «Чырвонае і чорнае», у якім праўдзіва адлюстравана французскае грамадства часоў Рэстаўрацыі. Галоўны герой рамана — Жульен Сарэль — таленавіты чалавек з нізоў. Ён спрабуе прабіць сабе дарогу ў жыцці, але яму не ўдаецца перамагчы коснае грамадскае асяроддзе.

Вялікі французскі пісьменнік ***Анарэ дэ Бальзак*** (1799—1850) вылучаўся незвычайнай працавітасцю. Ён працаваў па 14—16 гадзін у суткі, зноў і зноў перарабляючы напісанае, і такім чынам здолеў дасягнуць максімальнай выразнасці ў праўдзівым паказе рэчаіснасці.

Сусветную славу пісьменніку прынесла серыя раманаў пад агульнай назвай «Чалавечая камедыя» (складаецца з 90 твораў). У іх больш чым тысяча персанажаў. Эпапея Бальзака — гэта грандыёзная па шырыні ахопу рэалістычная карціна нораваў французскага грамадства. З яго твораў можна даведацца пра буржуазную Францыю больш, чым з прац гісторыкаў і эканамістаў таго часу.

Англійскі пісьменнік ***Чарлз Дзікенс*** (1812—1870) прыйшоў у літаратуру ў 1830-я гг., напісаўшы гумарыстычныя «Нарысы Боза» і адзін з самых смешных і вясёлых раманаў у сусветнай літаратуры — «Пасмяротныя запіскі Піквікскага клуба».

Аднак у сваіх наступных творах Ч. Дзікенс, паводле яго слоў, звярнуўся да паказу «бязмежнага мора людскіх пакут». Гэта раманы «Дэвід Коперфілд» і «Нікалас Нікльбі», дзе апісваюцца норавы, якія панавалі ў англійскіх школах для бедных дзяцей; «Прыгоды Олівера Твіста», які расказвае пра жыццё гарадскіх беднякоў; «Домбі і сын», дзе апавядаецца аб тым, як разбуральна ўплывае на асобу чалавека прага да грошай.

Адным з самых таленавітых і супярэчлівых майстроў слова на мяжы двух стагоддзяў быў ***Джозеф Рэдзьярд Кіплінг*** (1865—1936).

Першы з англічан ён быў удастоены ў 1907 г. Нобелеўскай прэміі за літаратурныя творы. Кіплінг услаўляў сілу і мужнасць англійскага салдата і яго подзвігі ў імя Брытанскай імперыі. Пісьменнік не толькі знаходзіў апраўданне англійскай каланіяльнай палітыцы, але і адстойваў ідэю перавагі белай расы. У сваіх вершах ён пісаў аб «цяжары белага чалавека» — выратавальніка цывілізацыі, які ідзе «на катаргу дзеля панурых, утрапёных дзікуноў».

Але дзеці ўсяго свету любяць і ведаюць іншага Кіплінга. Яго «Кніга джунгляў», «Другая кніга джунгляў» і «Казкі проста так» карыстаюцца вялікай папулярнасцю дагэтуль.

**3. Трывожныя прадчуванні.** У Еўропе ў 1880-я гг. увайшло ва ўжытак паняцце **дэкадэнцтва** (ад фр. *decadent* — упадніцкі). Яно распаўсюдзілася амаль на ўсе сферы літаратуры і мастацтва і сведчыла аб крызісе еўрапейскай культуры. Але культура — гэта люстэрка грамадства. І крызіс перш за ўсё перажывала само еўрапейскае грамадства. Яно паволі, але няўхільна набліжалася да сусветнай вайны.

Трывожнымі прадчуваннямі былі ахоплены розныя пласты насельніцтва. Многія захапляліся «таямнічымі» з'явамі, прыслухоўваліся да прадказанняў розных «магаў», хірамантаў і празорцаў. Сеансы спірытызму (выкліканне духаў) сталі звычайнай з'явай у арыстакратычных салонах і гасцёўнях еўрапейскай інтэлігенцыі.

У другой палове XIX ст. у Францыі з'явілася група таленавітых паэтаў, надзеленых геніяльнай здольнасцю прадбачыць беды і катастрофы: Ш. Бадлер, А. Рэмбо, П. Верлен і інш. Ім удалося прадказаць шмат што з таго, сведкамі чаго сталі людзі XX ст. Невыпадкова іх называлі «праклятымі паэтамі».

Вершы ***Шарля Бадлера*** (1821—1867) былі шчырымі і поўнымі выкліку. У іх гучыць адчуванне трагічнасці свету, туга па гармоніі і ўсведамленне непераможнасці зла. Свой адзіны паэтычны зборнік, які ўбачыў свет у 1857 г., паэт так і назваў — «Кветкі зла».

Істотна паўплывала на ўсю французскую паэзію XX ст. творчасць ***Арцюра Рэмбо*** (1854—1891).

*Мне высі ведамы, і ведамы прадонні,*
*І дзень, што бура рве, і ноч ад дня зырчэй,*
*І зорак ранніх мігатлівае бяссонне,*
*І што празорцам нат схавана ад вачэй.*

У сваіх азарэннях паэт бачыў «росквіт будучых сіл», што ціха дрэмлюць у «начах бяздонных». Але і геніяльнасць не дапамагла яму прадказаць, наколькі доўга будзе працягвацца ноч.

Літаратурнага паплечніка і блізкага сябра А. Рэмбо ***Поля Верлена*** (1844—1896) называлі каралём паэтаў. Ён здолеў надаць вершу тонкую музычнасць, а лірычную паэзію падаць у выглядзе складанага свету перажыванняў і пачуццяў. Верлен быў чалавекам надзвычай чулай і пяшчотнай душы. Бязлітасны разгром Парыжскай Камуны ўзрушыў яго, выклікаўшы тугу і безвыходнасць.

*Вялізны омнібус; у куламесе тут*
*Няўклюдна торгаецца ўсё — жалеззе, люд...*
*Патрушчаны асфальт,*
*а паабапал з краю —*
*Два брудных раўчукі; — вось ён, мой шлях да раю!*

Лепшыя вершы П. Верлена пераклаў на беларускую мову пісьменнік А. Лойка.

Адчуваннем набліжэння рэвалюцыйных узрушэнняў і вайны дыхае паэзія ***Гіёма Апалінэра*** (сапраўднае імя *Вільгельм Апалінарый Кастравіцкі*; 1880—1918). Продкі паэта паходзілі з Беларусі — з-пад Навагрудка.

Трагічнымі прадчуваннямі былі напоўнены творы паэта, напісаныя за два гады да пачатку Першай сусветнай вайны. Апалінэр адчуваў набліжэнне навалы. Ён пісаў пра «сонца з перарэзаным горлам», прадказваў гібель трох вялікіх імперый:

*Захавай мяне, памяць людзей на зямлі!*
*Са стагоддзем маім адышлі каралі.*
*І вянчала маўчанне адмераных дзён*
*Іх тужліваю веліччу ўслаўлены скон.*

У 1914 г. Г. Апалінэр уступіў у рады французскай арміі і ўдзельнічаў у Першай сусветнай вайне. Паэт быў цяжка паранены. Трагічнае ўспрыняцце ваенных падзей перададзена ў яго зборніку «Каліграмы. Вершы Міру і Вайны. 1913—1916».

**Пытанні і заданні**

1. У якіх умовах развівалася еўрапейская літаратура XIX — пачатку XX ст.? Назавіце яе выдатных прадстаўнікоў.
2. Параўнайце погляды рамантыкаў і рэалістаў. У чым іх адрозненне?
3. Складзіце па тэме ўрока спіс твораў мастацкай літаратуры, з якімі вы знаёмы. Якія з іх вам асабліва спадабаліся? Растлумачце, чаму.
4. Творы якіх аўтараў могуць дапамагчы ў вывучэнні гісторыі Еўропы XIX ст.?
5. Падумайце, чаму многія літаратурныя творы канца XIX — пачатку XX ст. былі напоўнены трывожнымі настроямі і адчуваннем трагічнасці свету.
6. Назавіце оперныя, драматычныя, кіна- і іншыя пастаноўкі па творах разглежданага перыяду.



Аднойчы ў гутарцы з нямецкім літаратарам І. П. Экерманам І. В. Гётэ зазначыў: «Ды і навошта патрэбны пісьменнікі, не проста ж для таго, каб паўтараць усё запісанае гісторыкамі! Пісьменнік павінен ісці далей, ствараючы па меры магчымасці ўзоры больш высокія і дасканалыя. Усе дзеючыя асобы Сафокла нясуць у сабе часцінку высокай душы вялікага паэта, як і персанажы Шэкспіра — часцінку яго душы».

*Ці можна пры вывучэнні гісторыі, яе падзей выкарыстоўваць творы мастацкай літаратуры як гістарычныя крыніцы? У чым вартасці такіх крыніц і ў чым іх недахопы?*



Стэндаль нарадзіўся ў невялікім французскім гарадку Грэноблі. Дзяцінства пісьменніка супала з вялікімі гістарычнымі падзеямі Французскай буржуазнай рэвалюцыі. Дзяржаўны пераварот 9 лістапада 1799 г. прывёў да непрадбачаных змен у намерах і планах маладога Анры Бейля. Ён паступіў на службу ў ваеннае міністэрства і ў хуткім часе накіраваўся ў дзеючую армію, прыхапіўшы з сабой мяшок кніг. У якасці ваеннага чыноўніка напалеонаўскай арміі Стэндаль пабываў у Італіі, Германіі і Аўстрыі, а ў 1812 г. апынуўся ў Оршы, Смаленску, Вязьме, прысутнічаў пры Барадзінскай бітве, прыбыў у Маскву. Пры адступленні з Расіі прымаў удзел у пераправе цераз Бярэзіну. У Смаленску, Гжацку (цяпер горад Гагарын), Маскве Стэндаль, паводле яго слоў, убачыў «патрыятызм і сапраўдную веліч» рускага народа.

## § 11. ВЫЯЎЛЕНЧАЕ МАСТАЦТВА, АРХІТЭКТУРА, МУЗЫКА

**Успомніце**

1. Як паўплывала антычная культура на выяўленчае мастацтва і архітэктуру Заходняй Еўропы?
2. Якія асноўныя плыні ў мастацтве XVI—XVIII стст. вы ведаеце?

Фарміраванне прамысловай цывілізацыі ў значнай ступені паўплывала на еўрапейскае мастацтва. Як ніколі раней мастацкая культура знаходзілася ў цеснай сувязі з грамадскім жыццём, духоўнымі і матэрыяльнымі патрабаваннямі людзей. Ва ўмовах усё большай узаемазалежнасці народаў плыні і дасягненні ў мастацтве хутка распаўсюджваліся па ўсім свеце.

**1. Выяўленчае мастацтва.** Асаблівую старонку ў гісторыі еўрапейскага мастацтва прадстаўляе творчасць іспанскага мастака ***Франсіска Гоі*** (1746—



*Ф. Гоя. Сям'я караля Карла IV. 1800 г.*

1828). Дзякуючы таленту і працавітасці сын беднага рамесніка стаў вялікім жывапісцам. Пэндзлю мастака належаць цудоўныя партрэты іспанскіх жанчын, напісаныя з любоўю і захапленнем. І зараз уражвае смеласць, з якой Гоя, прыдворны жывапісец, паказаў каралеўскую сям'ю — «Сям'я караля Карла IV». На палатне мы бачым не ўладароў і вяршыцеляў лёсу краіны, а зусім звычайных, нават пасрэдных людзей. Гераічнай барацьбе іспанскага народа супраць арміі Напалеона мастак прысвяціў карціны «Паўстанне 2 мая 1808 года ў Мадрыдзе», «Расстрэл паўстанцаў у ноч на 3 мая 1808 года».

Ключавой фігурай еўрапейскага рамантызму быў знакаміты французскі мастак ***Эжэн Дэлакруа*** (1798—1863). Вяхой у гісторыі рамантызму, ды і ўсяго мастацтва Францыі, стала яго карціна «Свабода, якая вядзе народ», дзе ўвекавечана Ліпеньская рэвалюцыя 1830 г. у Францыі. Але ў далейшым Э. Дэлакруа больш не звяртаўся да французскай рэчаіснасці. Ён зацікавіўся тэмай Усходу і гістарычнымі сюжэтамі, дзе мог даць волю сваёй фантазіі і ўяўленню.



*Ж. Міле. Зборшчыцы каласоў. 1857 г.*

Найбуйнейшыя французскія мастакі ***Гюстаў Курбэ*** (1819—1877) і ***Жан Міле*** (1814—1875) развівалі рэалістычны кірунак у мастацтве. Яны імкну-



*Э. Дэлакруа. Свабода, якая вядзе народ. 1830 г.*

ліся да праўдзівага адлюстравання натуры, у цэнтр сваёй творчасці ставілі паўсядзённае жыццё і працу чалавека.

На палотнах гэтых майстроў вы не знойдзеце гістарычных і легендарных герояў, характэрных для класіцызму і рамантызму. Мастакоў цікавілі простыя людзі — мяшчане, сяляне, рабочыя, якія і станавіліся галоўнымі персанажамі іх карцін: «Драбільшчыкі каменю» Г. Курбэ, «Веяльшчык», «Зборшчыцы каласоў» Ж. Міле.

У апошняй трэці XIX ст. Францыя заняла лідзіруючае становішча ў еўрапейскім мастацтве. Менавіта тут зарадзіўся **імпрэсіянізм** (ад фр. *impression* — уражанне). Новая плынь стала падзеяй еўрапейскага значэння.

Мастакі-імпрэсіяністы імкнуліся перадаць на палатне вокамгненныя ўражанні ад пастаянных і ледзь улоўных змен у стане прыроды і чалавека. У тэхніцы жывапісу была ажыццёўлена сапраўдная рэвалюцыя. Працуючы, як правіла, на адкрытым паветры, імпрэсіяністы стваралі на сваіх палотнах адчуванне ззяючага сонечнага святла, перадавалі буянне фарбаў прыроды.

Выдатнымі мастакамі-імпрэсіяністамі былі ***Агюст Рэнуар, Клод Манэ, Эдгар Дэга***. Імпрэсіянізм аказаў значны ўплыў на творчасць такіх вялікіх майстроў, як ***Вінсент Ван Гог, Поль Сезан, Поль Гаген***, а таксама на творчасць знакамітага французскага скульптара ***Агюста Радэна***.

Як і паэзія, жывапіс гэтага часу быў прасякнуты трывожнымі і цьмянымі прадчуваннямі. Гэта асабліва выразна адбілася ў творчасці таленавітага фран-






*К. Манэ. Серыя «Лондан. Будынак парламента»: 1 — Эфект туману; 2 — Заход сонца; 3 — Штармавое неба; 4 — Вестмінстэр. 1900—1901 гг. Мастакі-імпрэсіяністы часта пісалі адзін і той жа краявід у розны час сутак, імкнучыся ўлавіць самыя нязначныя нюансы ў змяненні колеру і святла*

цузскага мастака, прадстаўніка **сімвалізму** ***Адылона Рэдона*** (1840—1916). Яго нашумелая ў 1880-я гг. літаграфія «Павук» стала злавесным прадвесцем Першай сусветнай вайны.

**2. Архітэктура.** Развіццё індустрыяльнай цывілізацыі істотна паўплывала на еўрапейскую архітэктуру. Дзякуючы дасягненням навукова-тэхнічнага прагрэсу ў XIX ст. значна хутчэй узводзіліся буйныя адміністрацыйныя будынкі. З сярэдзіны стагоддзя ў будаўніцтве пачалі прымяняцца новыя матэрыялы, асабліва жалеза і сталь. Развіццё фабрычнай вытворчасці і будаўніцтва чыгунак прывялі да з'яўлення ў вялікіх гарадах новых тыпаў збудаванняў — вакзалаў, стальных мастоў, банкаў, будынкаў выставак і г. д. Прыкладам новага тыпу чыста інжынерных канструкцый можа служыць стальная вежа, узведзеная інжынерам А. Г. Эйфелем у Парыжы для Сусветнай выстаўкі 1889 г. і названая ў гонар свайго стваральніка Эйфелевай.

Архітэктура ў XIX ст. вызначалася багаццем стыляў. На працягу ўсяго стагоддзя найбольш распаўсюджаным быў *неакласічны стыль*, або **неакласіцызм**. Напрыклад, будынак Брытанскага музея ў Лондане, узведзены ў 1823—1847 гг. паводле праекта архітэктара Р. Смёрка, дае наглядное ўяўленне пра антычную (класічную) архітэктуру.

Аж да 1890-х гг. модны быў так званы **эклектызм**, які праявіўся ў рамантычным перайманні архітэктуры мінулых эпох. На працягу XIX ст. у будаў-



*Будынак парламента ў Лондане. 1840—1870 гг.*

ніцтве цэркваў і грамадскіх будынкаў назіралася вяртанне да формаў сярэдневяковай готыкі — **неаготыка**, або *новая готыка*. Прыклад гэтага стылю — будынак парламента ў Лондане.

У процівагу неаготыцы ўзнік новы стылявы кірунак *мадэрн*, або **«ар нуво»**. Ён характарызаваўся выкарыстаннем новых тэхнічных і канструктыўных сродкаў, свабоднай планіроўкі, своеасаблівага архітэктурнага дэкору.



*Царква Святой сям'і ў Барселоне. 1884—1926 гг. У мудрагелістых пабудовах у стылі мадэрн іспанскі архітэктар Антоніа Гаўдзі дабіваўся фантастычных архітэктурных формаў*

**3. Музыка.** Развіццё музычнага мастацтва мела шмат агульнага з тымі працэсамі, што адбываліся ў жывапісе і архітэктуры. На працягу XIX ст. пануючым кірункам у музыцы быў рамантызм. Музыканты-рамантыкі чэрпалі натхненне ў народных песенных матывах. У значнай ступені на іх творчасць уплывалі палітычныя падзеі і нацыянальна-вызваленчыя рухі.

Рысы рамантызму праявіліся ў творах нямецкага кампазітара ***Людвіга ван Бетховена*** (1770—1827). У яго творчасці знайшлі адлюстраванне ідэі Французскай рэвалюцыі. Так, вядомая «Гераічная сімфонія» стала своеасаблівым гімнам бязмежнай свабодзе чалавека.

Глыбокім пачуццём любові да радзімы прасякнуты «Венгерскія рапсодыі» ***Феранца Ліста***.

У аснову опер нямецкага кампазітара ***Рыхарда Вагнера*** былі пакладзены старадаўнія германскія легенды і паданні. Нацыянальнымі па духу былі многія оперы італьянскага кампазітара ***Джузепе Вердзі***, які і сам прымаў удзел у рэвалюцыйным руху за аб'яднанне Італіі.

У XIX ст. тварылі і многія іншыя знакамітыя музыканты і кампазітары: у Аўстрыі — ***Франц Шуберт***, у Германіі — ***Фелікс Мендэльсон*** і ***Іаганес Брамс***, у Італіі — ***Джаакіна Расіні***, у Нарвегіі — ***Эдвард Грыг***, у Францыі — ***Гектор Берліёз***. Іх творы з'яўляюцца агульным здабыткам еўрапейскай і сусветнай культуры.

**Пытанні і заданні**

1. Назавіце буйнейшых мастакоў-рамантыкаў і мастакоў-рэалістаў XIX — пачатку XX ст. Раскажыце аб іх творчасці.
2. Якія гістарычныя падзеі адлюстраваны ў творчасці Ф. Гоі і Э. Дэлакруа?
3. Якіх знакамітых кампазітараў XIX ст. вы ведаеце?
4. Як паўплывала прамысловая рэвалюцыя на развіццё архітэктуры?
5. Растлумачце значэнне паняццяў «імпрэсіянізм», «неакласіцызм», «неаготыка», «мадэрн» («ар нуво»).
6. Пачніце ў сшытку запаўненне табліцы «Развіццё сусветнай навукі і культуры ў XIX — пачатку XX ст.».

| Дзеячы навукі і культуры. Асноўныя дасягненні | Еўропа | Амерыка | Расія | Славянскія краіны |
|---|---|---|---|---|
| Буйнейшыя вучоныя і іх вынаходствы | | | | |
| Выдатныя пісьменнікі і іх творы | | | | |
| Вядомыя кампазітары, музыканты, артысты і іх творчасць | | | | |
| Знакамітыя мастакі, архітэктары і іх творы | | | | |

7. У чым заключаецца горкі сэнс выказвання Г. Берліёза: «Час — вялікі настаўнік, але, на жаль, ён забівае сваіх вучняў»?



«Я лічу за лепшае маляваць вочы людзей, а не саборы... чалавечая душа, няхай нават душа няшчаснага жабрака... на мой погляд, значна цікавейшая», — сказаў Вінсент Ван Гог.

*Як вы ацэньваеце творчы метад В. Ван Гога?*



Вялікі мастак В. Ван Гог пражыў усё жыццё ў беднасці і нястачы, часта не меў грошай на палатно і фарбы, практычна знаходзіўся на ўтрыманні ў малодшага брата. Сучаснікі не бачылі ў яго творчасці ніякай вартасці. Калі В. Ван Гог памёр, за яго труной ішлі ўсяго некалькі чалавек. Ва ўсёй Еўропе толькі нямногія маглі па заслугах ацаніць яго мастацтва. Прайшлі гады. І ў XX ст. да мастака прыйшла заслужаная слава, хоць і са спазненнем. Яго карціны карыстаюцца вялікай папулярнасцю і каштуюць вельмі дорага. Так, напрыклад, карціна «Сланечнікі» была прададзена на аўкцыёне за велізарную суму — 39,9 млн долараў, карціна «Касачы» — за 53,9 млн долараў.

## АБАГУЛЬНЯЮЧЫЯ ПЫТАННІ І ЗАДАННІ ДА РАЗДЗЕЛА І

**1.** Што такое цывілізацыя? Якія цывілізацыі вы ведаеце?

**2.** XIX ст. называюць стагоддзем класічнага капіталізму, пры якім маецца на ўвазе максімальная эканамічная свабода вытворцаў і спажыўцоў. Апошнім часам больш папулярны стаў тэрмін «індустрыяльная цывілізацыя». Супастаўце паняцці «капіталістычнае грамадства» і «індустрыяльная цывілізацыя». Які змест уклалі б вы ў кожнае з іх? Ці паглынае адно з гэтых паняццяў другое? Ці можна іх лічыць тоеснымі?

**3.** У сшытку на стужцы часу запоўніце рознымі колерамі палосы, якія адпавядаюць працягласці прамысловай рэвалюцыі ў краінах Еўропы. Выкарыстайце для гэтага прыкладзеную табліцу.

**Прамысловая рэвалюцыя**

| Краіны | Пачатак | Завяршэнне |
|---|---|---|
| Англія | 1760-я гг. | 1840-я гг. |
| Францыя | 1790-я гг. | 1860-я гг. |
| Германія | 1840-я гг. | 1880-я гг. |
| Італія | 1840-я гг. | 1880-я гг. |
| ЗША | 1820-я гг. | 1860-я гг. |
| Расія | 1840-я гг. | 1880-я гг. |

**Стужка часу**

1760 — 1800 — 1850 — 1900

| | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Англія | | | | | | | | | | | | | | | |
| Францыя | | | | | | | | | | | | | | | |
| Германія | | | | | | | | | | | | | | | |
| Італія | | | | | | | | | | | | | | | |
| ЗША | | | | | | | | | | | | | | | |
| Расія | | | | | | | | | | | | | | | |

Закончыце наступныя меркаванні:

*а) Раней за ўсё прамысловая рэвалюцыя пачалася ў...*

*б) Гэтаму садзейнічала...*

*в) Пазней за ўсё прамысловая рэвалюцыя пачалася ў... Прычыны гэтага былі ў тым, што...*

*г) На працягу найбольш кароткага прамежку часу прамысловая рэвалюцыя адбылася ў...*

*д) Гэта можна растлумачыць тым, што...*

**4.** Разгледзьце карту «Завяршэнне тэрытарыяльнага падзелу свету да 1914 г.» і назавіце: а) буйныя дзяржавы гэтага часу; б) важнейшыя калоніі еўрапейскіх краін. Раскажыце аб напрамках каланіяльнай экспансіі.

**5.** Як паўплывалі тэхнічныя новаўвядзенні на лад жыцця еўрапейцаў?

**6.** Якія змены ў сацыяльнай структуры жыцця грамадства выклікала прамысловая рэвалюцыя? Пры адказе на гэта пытанне звярніце ўвагу на такую з’яву, як *урбанізацыя*.

**7.** Дзевятнаццатае стагоддзе называюць стагоддзем рэвалюцый і сацыяльных узрушэнняў. Абсалютны рэкорд належыць Іспаніі — пяць рэвалюцый на працягу стагоддзя. Крыху ўступіла Францыя — чатыры рэвалюцыі. У 1848—1849 гг. магутная хваля рэвалюцый пракацілася амаль па ўсіх еўрапейскіх краінах і спынілася каля граніц Расійскай імперыі. Ці былі непазбежнымі рэвалюцыйныя выступленні? Спрыялі яны ці перашкаджалі рэальным пераўтварэнням? Выкажыце сваё меркаванне наконт ролі рэвалюцый у гісторыі XIX ст. Ці можна даць ім адназначную ацэнку? Які ўклад яны ўнеслі ў фарміраванне буржуазнага грамадства і развіццё ідэі правоў чалавека?

**8.** Феноменам XIX ст. сталі нацыянальна-вызваленчыя ідэі і рухі. Як вы лічыце, чаму менавіта ў XIX ст. асабліва востра паўстала пытанне аб утварэнні нацыянальных дзяржаў? Якія тэндэнцыі можна вылучыць у гэтым працэсе? Прывядзіце прыклады.

**9.** Якія рысы характару, на ваш погляд, павінен мець палітычны лідар? Як уплывае такая асоба на развіццё гістарычнага працэсу? Прывядзіце прыклады.

**10.** Растлумачце значэнне паняццяў: «цывілізацыя», «каланіяльная экспансія», «метраполія», «калонія», «прамысловая рэвалюцыя», «аграрная рэвалюцыя», «лібералізацыя», «дэмакратызацыя», «палітычная партыя», «трэд-юніёны», «нацыянальная культура», «манаполія».

**11.** Выкажыце сваё меркаванне аб асноўных тэндэнцыях у развіцці краін Заходняй Еўропы ў XIX — пачатку XX ст.

## Раздзел II

# АДНА АМЕРЫКА — ДВА СВЕТЫ

У Новы час у Амерыцы склаліся два гісторыка-геаграфічныя рэгіёны: Цэнтральная і Паўднёвая, або Лацінская, Амерыка і Паўночная Амерыка (Злучаныя Штаты Амерыкі, Канада).

*Лацінская Амерыка* была заваявана Іспаніяй і Партугаліяй. Каланіяльныя ўладанні ў гэтым рэгіёне знаходзіліся пад жорсткім кантролем *каралеўскай улады*. Як і ў саміх метраполіях, магчымасці для прадпрымальніцкай дзейнасці і асабістай свабоды тут былі абмежаванымі.

Нягледзячы на гэта, карэннае насельніцтва калоній паступова далучалася да еўрапейскай культуры: засвойвала іспанскую мову і прымала каталіцкую рэлігію. Распаўсюджанымі былі змешаныя шлюбы. Фарміравалася новая, змешаная, раса, а разам з ёю — новая *лацінаамерыканская культура* і *цывілізацыя*. Яна характарызавалася духоўнай блізкасцю з еўрапейскай культурай, але мела і свае яркія асаблівасці.

*Паўночную Амерыку* асвойвалі ў асноўным выхадцы з Англіі — самай развітой у прамысловых адносінах краіны свету. Значную ролю ў каланізацыі Амерыкі адыгралі пурытане. Менавіта яны прынеслі ў Новы Свет дэмакратычныя і рэспубліканскія ідэі.

Англійскія калоніі ў Паўночнай Амерыцы карысталіся большай унутранай свабодай і палітычнай незалежнасцю ад метраполіі, чым, напрыклад, іспанскія. Ім было прадастаўлена *права на самакіраванне*. Гэта стала галоўнай прычынай іх росквіту, садзейнічала развіццю капіталістычных адносін. Адчуўшы сілу, англійскія калоніі ўзняліся на вызваленчую вайну 1775—1783 гг., у ходзе якой была абвешчана незалежная дзяржава — *Злучаныя Штаты Амерыкі (ЗША)*.

Асаблівасцю Паўночнай Амерыкі было тое, што выхадцы з Еўропы тут не ўступалі ў змешаныя шлюбы. У выніку доўгі час у ЗША, у адрозненне ад Лацінскай Амерыкі, еўрапейцы, індзейцы і афрыканцы існавалі адасоблена.

# § 12. ЗША Ў ПЕРШАЙ ПАЛОВЕ XIX ст.

**Успомніце**

1. Пералічыце найважнейшыя падзеі амерыканскай гісторыі XVI—XVIII стст.
2. Якія мэты ставілі перад сабой англійскія калоніі Паўночнай Амерыкі ў вайне супраць метраполіі?

ЗША ўяўлялі сабой краіну новага тыпу. У іх не было гістарычнага мінулага, як у еўрапейскіх і азіяцкіх краін. Затое яны мелі дэмакратычную канстытуцыю, парламент і вялікія магчымасці для развіцця буржуазных адносін. Амерыканцы разумна выкарыстоўвалі перавагі свайго геаграфічнага становішча: мяккі клімат, урадлівыя землі, багацце лясоў і карысных выкапняў.

У XIX ст. свет быў сведкам небывалага росквіту гэтай дзівоснай краіны. Павялічвалася колькасць насельніцтва, пашыралася тэрыторыя, развіваліся прамысловасць і гандаль, узрасталі багацце і ўплыў ва ўсім свеце.

**1. Пашырэнне тэрыторыі ЗША.** У канцы XVIII ст. еўрапейскія дзяржавы ўступілі ў паласу працяглых і зацяжных войнаў, што надоўга адцягнула іх ува-




*Рост тэрыторыі ЗША да 1860-х гг.*



*Перасяленцы. Малюнак 1837 г.*

гу ад Амерыкі. Амерыканцы выкарысталі гэту акалічнасць і сталі пашыраць межы краіны. Яны абапіраліся на сваю фінансавую магутнасць і сілу зброі. Спачатку ЗША набылі ў Францыі за 15 млн долараў *Заходнюю Луізіяну*, што знаходзіцца на захад ад ракі Місісіпі. У выніку краіна павялічылася амаль удвая. Затым ЗША прымусілі Іспанію ўступіць *Фларыду*, а ў 1846 г. была далучана вялізная тэрыторыя *Арэгона*. Не вытрымаўшы ваеннага націску, Мексіка перадала ЗША палову сваіх зямель, у тым ліку *Новую Мексіку, Паўночную Каліфорнію* і *Тэхас*, плошча якога большая за тэрыторыю Францыі. У 1867 г. усяго за 7,2 млн долараў ЗША купілі ў Расіі *Аляску*. Пасля такой удалай здзелкі межы Злучаных Штатаў Амерыкі набылі сучасны выгляд.

**2. Асваенне Дзікага Захаду.** Гэта адна з найбольш захапляльных старонак амерыканскай гісторыі. Першапачаткова, як вы ведаеце, еўрапейскія пасяленцы асвойвалі ўсходняе (атлантычнае) узбярэжжа. Толькі самыя адважныя падарожнікі — **піянеры**, г. зн. «першыя», прабіраліся ў глыб мацерыка, у раён ракі Місісіпі і Вялікіх азёр. Але калі стала вядома, што на захадзе кантынента ёсць урадлівыя землі, тысячы сем'яў накіраваліся туды ў пошуках шчасця.

Дарога была цяжкая і небяспечная. Таму сем'і аб'ядноўваліся і адпраўляліся ў дарогу цэлымі караванамі. Перасяленцы бралі з сабой усё неабходнае для жыцця: ежу, адзенне, амуніцыю, інструменты і нават мэблю. Таму што ў будучым даводзілася разлічваць толькі на сябе.

Цяжкае падарожжа патрабавала шмат сіл і часу. Знайшоўшы прыдатнае месца, перасяленцы спыняліся і браліся за будаўніцтва жылля і расчыстку зямлі пад будучыя палі. Яны былі абсалютна ўпэўнены, што тэрыторыя, на якой яны спыніліся, нікому, акрамя іх, не належыць.

На самай справе з даўніх часоў яе насялялі індзейскія плямёны, якія ў большасці сваёй былі настроены дружалюбна і нічога не мелі супраць новых



*Бітва перасяленцаў з індзейцамі*

суседзяў. Але многія з перасяленцаў праявілі агрэсію ў адносінах да карэннага насельніцтва. Лічачы індзейцаў дзікунамі, яны пачалі на іх сапраўднае паляванне. На жорсткасць індзейцы адказалі жорсткасцю. У гэтай вайне, якая расцягнулася на дзесяцігоддзі, верх узялі перасяленцы. Знішчэнне карэннага насельніцтва — адна з самых крывавых старонак амерыканскай гісторыі.

У 1848 г. з Каліфорніі, што на захадзе Паўночнай Амерыкі, прыйшла вестка аб адкрыцці залатых прыіскаў. Краіну ахапіла *«залатая ліхаманка»*. Тысячы сем'яў накіраваліся на захад і, праклаўшы дарогу ў Каліфорнію, асталяваліся на Ціхаакіянскім узбярэжжы. Не ўсім пашанцавала, але некаторыя набылі вялікае багацце.

Пашырэнне тэрыторыі ЗША суправаджалася бурным ростам насельніцтва. Гэта тлумачылася не толькі высокай нараджальнасцю. Насельніцтва павялічвалася таксама за кошт **іміграцыі** з Еўропы і ўвозу чарнаскурых рабоў з Афрыкі. У сярэдзіне XIX ст. у ЗША пражывала 23 млн чалавек, г. зн. у 4 разы больш, чым у 1800 г.

**3. Поўнач і Поўдзень — два шляхі развіцця.** Пасля Вайны за незалежнасць у ЗША склаліся два сацыяльна-эканамічныя рэгіёны: Поўнач і Поўдзень, якія шмат у чым адрозніваліся адзін ад аднаго.

*Поўнач.* На паўночным усходзе і захадзе краіны адбываўся прамысловы пераварот і хуткімі тэмпамі развіваўся капіталізм. На змену рамеснай вытворчасці і мануфактуры прыходзіла буйная фабрычная вытворчасць з прымяненнем наёмнай працы. Амерыканцы выкарыстоўвалі самыя новыя навуковыя і тэхнічныя дасягненні Еўропы.

На тэкстыльных фабрыках ужо на пачатку XIX ст. з'явіўся *механічны ткацкі станок*. Паступова развівалася *машынабудаванне*. Пачалі выrabляць жняяркі і швейныя машыны, станкі для апрацоўкі металу і г. д. ЗША занялі



*Бавоўнавая плантацыя ў Новым Арлеане. Малюнак 1884 г.*

першае месца ў свеце па тэмпах будаўніцтва *чыгунак*. Даўжыня чыгуначнай сеткі ў 1850 г. склала больш за 14 тыс. км.

*Фермерская гаспадарка.* Нягледзячы на прамысловы пераварот, да сярэдзіны XIX ст. ЗША ўсё яшчэ заставаліся *аграрнай краінай*. У сельскай гаспадарцы была занята пераважная большасць насельніцтва. На шырокіх прасторах паўночнага захаду развівалася фермерская гаспадарка. Свабоднай зямлі тут было дастаткова. Значную яе частку адваявалі ў індзейскіх плямёнаў. Перасяленцы лёгка і свабодна набывалі зямельныя ўчасткі ў дзяржавы і станавіліся фермерамі.

Першапачаткова зямлю апрацоўвалі фермер і яго сям'я. З цягам часу пачала прымяняцца наёмная праца. Памешчыцкага землеўладання не існавала. Так узнік «амерыканскі шлях» развіцця капіталізму ў сельскай гаспадарцы.

*Поўдзень.* У адрозненне ад прамысловай і фермерскай Поўначы, у паўднёвых штатах «панавала» бавоўна. У ёй мела патрэбу тэкстыльная прамысловасць Еўропы, асабліва Англіі. На долю паўднёвых штатаў прыпадала дзве трэці сусветнай вытворчасці гэтай важнай сельскагаспадарчай культуры. Вытворчасць бавоўны і гандаль ёю прыносілі амерыканскім плантатарам вялізныя даходы.

*Плантацыйная гаспадарка* была заснавана на нявольніцкай працы чарнаскурых рабоў, а не на свабоднай працы наёмных людзей. Таму плантатары былі зацікаўлены ў захаванні гандлю рабамі. Нягледзячы на яго забарону ў пачатку XIX ст., ён па-ранейшаму працвітаў на поўдні краіны. Чарнаскурых рабоў працягвалі ўпотай увозіць з Афрыкі. Да 1861 г. іх колькасць дасягнула 4 млн.



*Аўкцыён чарнаскурых рабоў у Віргініі. Гравюра 1861 г.*

**4. Рух за адмену рабства.** Чарнаскурыя рабы супраціўляліся жорсткай эксплуатацыі. Яны ўцякалі ў паўночныя штаты, дзе не было рабства, узнімалі ўзброеныя паўстанні супраць рабаўладальнікаў. Урадавыя войскі і атрады мясцовага апалчэння бязлітасна распраўляліся з паўстанцамі. На Поўдні лютавалі *суды Лінча*, што атрымалі сваю назву ад імя амерыканскага расіста У. Лінча. Расісты, якія падзялялі людзей на вышэйшыя і ніжэйшыя расы, учынялі расправу над чарнаскурымі без суда і следства. Гэта яшчэ адна ганебная старонка ў гісторыі амерыканскага грамадства.

Чарнаскурых рабоў падтрымала дэмакратычная Амерыка. У пачатку 1830-х гг. у ЗША пачаўся масавы агульнанацыянальны рух супраць рабства — **абаліцыянізм**. Сярод удзельнікаў гэтага руху былі белыя і чорныя, фермеры і рабочыя, прадстаўнікі інтэлігенцыі і буржуазіі. Вялікі ўклад у барацьбу за адмену рабства ўнеслі знакамітыя амерыканцы — паэт Г. Лангфела і пісьменніца Г. Бічэр-Стоу.

Абаліцыяністы праследаваліся не толькі на Поўдні, але і на Поўначы. Вядомы выпадкі лінчавання змагароў за адмену рабства.

Праціўнікам рабаўладання быў амерыканскі прэзідэнт ***Томас Джэферсан***, які выступаў у пачатку XIX ст. за *буржуазна-дэмакратычнае развіццё* Злучаных Штатаў. Але ён не змог дабіцца канчатковага скасавання рабства. Пазіцыі плантатараў у краіне былі вельмі моцныя. У 1828 г. яны аб'ядналіся ў *Дэмакратычную партыю* і знаходзіліся ва ўладзе з невялікім перапынкам амаль трыццаць гадоў.

У адносінах паміж Поўначчу і Поўднем працягвала ўзрастаць напружанасць. Яе прычынай было разыходжанне эканамічных інтарэсаў двух рэгіёнаў.

### Пытанні і заданні

1. Растлумачце, чаму ЗША ўяўлялі сабой краіну новага тыпу.
2. Якія тэрыторыі і як былі далучаны да ЗША ў першай палове XIX ст.?
3. Якія два шляхі эканамічнага развіцця ўвасаблялі Поўнач і Поўдзень?
4. Параўнайце фермерскую і плантацыйную гаспадаркі. Запоўніце табліцу.

| Пытанні для параўнання | Фермерская гаспадарка | Плантацыйная гаспадарка |
|---|---|---|
| У чыёй уласнасці знаходзілася? | | |
| Хто апрацоўваў? | | |
| Якім быў характар працы? | | |

5. Якія працэсы ўплывалі на рост насельніцтва ЗША?
6. Хто выступаў за адмену рабства?



**Дзеці на фабрыках Філадэльфіі. З пісьмаў, апублікаваных у адной амерыканскай газеце ў 1830 г.**

«...Усім вядомы той факт, што большасць падручных на бавоўнапрадзільных фабрыках складаецца з хлопчыкаў і дзяўчынак ва ўзросце ад 6 да 17 гадоў. Яны працуюць з раніцы да ночы нават у самыя доўгія дні года. З-за такога зняволення на фабрыцы бацькі не могуць даць гэтым дзецям ніякай адукацыі або ведаў, акрамя ўмення працаваць на той машыне, да якой іх прыставяць. Яны вымушаны працаваць за такую мізэрную суму, што яе ледзь хапае на падтрыманне сіл, у той час як гаспадар купаецца ў раскошы за кошт жыццяў эксплуатуемых бедных дзяцей».

«...Нам вядома шмат выпадкаў, калі бацькі, якія мелі магчымасць даць сваім дзецям хоць бы самую элементарную адукацыю, не змаглі гэтага зрабіць з-за прадпрымальніка, які пагражаў звольніць усю сям'ю, калі бацькі возьмуць з фабрыкі хоць адно дзіця нават на самы кароткі тэрмін. Мы ведаем, што такія пагрозы ажыццяўляліся».

*Як прамысловая рэвалюцыя адбілася на становішчы дзяцей у ЗША?*



У 1859 г. белы фермер Джон Браўн узняў паўстанне супраць рабства. Яго маленькі атрад не падтрымала мясцовае насельніцтва, і ён быў знішчаны ўрадавымі войскамі. Сам Джон Браўн быў схоплены, прыгавораны ваенным судом да пакарання смерцю і павешаны.



**Апошняя прамова Джона Браўна (2 лістапада 1859 г.)**

«Я павінен сказаць некалькі слоў. Па-першае, я адмаўляю ўсё, акрамя таго, у чым я прызнаўся, г. зн. майго намеру вызваліць рабоў. Я хацеў зрабіць гэта мірным шляхам, як гэта было зроблена мінулай зімой, калі я прыйшоў у Місуры, вывеў адтуль рабоў без адзінай стрэльбы, правёў іх праз усю краіну і пакінуў у Канадзе. Я хацеў зрабіць тое ж самае, толькі ў большым маштабе. Гэта ўсё, што я задумаў. Ніколі не задумваў я ні забойства, ні здрадніцтва, ні знішчэння маёмасці...

Біблія вучыць мяне, што я не павінен рабіць людзям тое, што я не хачу, каб людзі рабілі мне. Далей, яна вучыць мяне „помніць тых, хто ў кайданах, быццам бы і ты закаваны з імі". Я спрабаваў дзейнічаць у адпаведнасці з гэтым вучэннем... Я веру, што мае дзеянні... былі правільныя».

*Ахарактарызуйце асобу Джона Браўна.*



**Пра жыццё чарнаскурых рабоў на баваўнянай плантацыі ў штаце Луізіяна**

«Сезон збору бавоўны настае ў канцы жніўня. У гэты час кожнаму рабу даецца мяшок, да мяшка прывязваецца рэмень, які надзяваецца на шыю, адтуліна мяшка знаходзіцца на вышыні грудзей раба, у той час як ніжняя частка амаль дасягае зямлі. Кожнаму рабу даецца кошык, куды складваецца бавоўна з мяшка.

Калі новага рабочага пасылаюць у першы раз на плантацыю, яго падганяюць і прымушаюць збіраць бавоўну ў гэты дзень так хутка, як ён можа. Увечары яго збор узважваюць, і ў далейшым ён павінен прыносіць тую ж вагу кожны вечар. Калі хоць раз вага акажацца меншай, то гэта лічыцца доказам ляноты раба і яго караюць плёткай.

Звычайна рабы не паспяваюць сабраць дастатковую колькасць бавоўны, і таму яны самі не хочуць пакідаць плантацыю... Кожны раб выконвае таксама работу ў доме плантатара. Адзін раб корміць мулаў, другі — свіней, трэці сячэ дровы і г. д. ...А калі ў позні час сонныя, знясіленыя работай рабы прыходзяць нарэшце ў сваё памяшканне, то ім трэба раскласці агонь, змалоць муку ў ручным млыне і прыгатаваць сабе вячэру і абед.

Хаціна пабудавана з бярвення, без падлогі, без вокнаў. У бурнае надвор'е дождж працякае цераз шчыліны і робіць жыллё нязручным і вельмі непрыемным. На світанні зноў пачынаюцца праца і страх, і зноў да канца дня ніякага адпачынку».

*Абмяркуйце з аднакласнікамі ўмовы жыцця чарнаскурых рабоў. Як вы думаеце, якія пачуцці мог перажываць гаспадар, калі яго раб паміраў ці гінуў?*

## § 13. ПЕРАТВАРЭННЕ ЗША Ў СУСВЕТНУЮ ДЗЯРЖАВУ

**Успомніце**

1. Што садзейнічала развіццю фермерскай гаспадаркі ў паўночных штатах ЗША?
2. Растлумачце значэнне паняцця «буржуазная рэвалюцыя».

Найважнейшай і ў той жа час самай трагічнай падзеяй амерыканскай гісторыі стала Грамадзянская вайна **1861—1865 гг.** Чатыры гады бязлітасных баёў пайшлі на тое, каб захаваць адзінства Злучаных Штатаў. Пасля крывапралітнай вайны амерыканцы, забыўшыся пра разлад, накіравалі ўсе намаганні на развіццё сваёй краіны і ператварылі яе ў дзяржаву сусветнага значэння.

**1. ЗША напярэдадні Грамадзянскай вайны.** У 1850-я гг. ЗША выйшлі на чацвёртае месца сярод вядучых індустрыяльна развітых краін свету. Але развіццё капіталізму ў розных рэгіёнах ішло нераўнамерна. Поўдзень, дзе квітнела рабства, па-ранейшаму заставаўся вельмі адсталай вобласцю. Тут свабодныя заходнія землі асвойваліся пры дапамозе рабскай працы. Гэта супярэчыла інтарэсам прамысловай буржуазіі і фермераў Поўначы. Яны былі асабліва зацікаўлены ў *ліквідацыі рабства.* Плантатары-рабаўладальнікі ў паўднёвых штатах, наадварот, імкнуліся да пашырэння рабаўладання на Поўначы. У 1857 г. Вярхоўны суд ЗША, які кантраляваўся Поўднем, пастанавіў, што раб застаецца ўласнасцю гаспадара ў любым штаце. Так узнікла пагроза распаўсюджвання рабства па ўсёй краіне.

**2. Стварэнне Рэспубліканскай партыі.** Распаўсюджванне рабства сустрэла супраціўленне дэмакратычных сіл. У 1854 г. узнікла *Рэспубліканская партыя.* Яна абараняла інтарэсы прамысловай буржуазіі, фермераў і рабочых. Большасць рэспубліканцаў патрабавалі адмены рабства. Адзін з лідараў гэтай партыі Аўраам Лінкальн сказаў словы, якія сталі вядомымі на ўсю Амерыку: «Дом, расколаты на дзве часткі, не можа ўстаяць... краіна не можа напалову быць рабаўладальніцкай, напалову свабоднай». Да пачатку братазабойчай вайны заставалася ўсяго некалькі гадоў.

**3. Аўраам Лінкальн — прэзідэнт ЗША.** Выбары прэзідэнта адбыліся ў 1860 г. Перамогу на выбарах атрымаў кандыдат ад рэспубліканцаў — адвакат і публіцыст ***Аўраам Лінкальн*** (1809—1865). Так вярхоўная дзяржаўная ўлада перайшла з рук плантатараў у рукі буржуазіі. Але атрыманую ўладу трэба было яшчэ адстаяць.

А. Лінкальн — вялікі сын Амерыкі. Яго імя вядома ўсяму свету. Ён з годнасцю правёў сваю краіну праз цяжкія выпрабаванні Грамадзянскай вайны. Будучы прэзідэнт нарадзіўся ў сям'і беднага фермера. Працоўнае жыццё юнака

было поўнае нястач і нягод: даводзілася працаваць сталярам, рабочым на чыгунцы, плытагонам. Затым ён самастойна вывучыў права і стаў адвакатам. У 1847 г. яго абралі членам Кангрэса. Лінкальн быў супраць рабства, хоць і не выступаў за яго хуткую адмену.



*А. Лінкальн*

**4. Раскол ЗША.** Выбранне прэзідэнтам А. Лінкальна паслужыла для Поўдня сігналам да разрыву з Саюзам Злучаных Штатаў Амерыкі. Дзеля міру і захавання адзінства новы прэзідэнт быў гатовы на любы кампраміс. Ён заявіў, што не будзе ўмешвацца ў справы тых штатаў, дзе існуе рабства, толькі б не дапусціць расколу ЗША.

Аднак спробы прэзідэнта пазбегнуць расколу не ўвянчаліся поспехам. Рабаўладальніцкія штаты адзін за другім аб'яўлялі аб сваім выхадзе з Саюза. Злучаныя Штаты распадаліся на вачах. У лютым — маі 1861 г. прадстаўнікі адзінаццаці штатаў, што адкалоліся, утварылі *Канфедэратыўныя Штаты Амерыкі (Канфедэрацыю)* на чале са сваім прэзідэнтам. У красавіку 1861 г. адбылося першае сутыкненне з войскамі канфедэратаў. Пачалася Грамадзянская вайна паміж Поўначчу і Поўднем.

**5. Грамадзянская вайна 1861—1865 гг.** Грамадзянская вайна працягвалася цэлых чатыры гады. Яна была кровапралітная і разбуральная. Часта брат змагаўся супраць брата, а сябар — супраць сябра. У кожнага боку былі свае перавагі. Поўнач пераўзыходзіла Поўдзень па колькасці насельніцтва (22 млн чалавек супраць 9 млн) і багацці. Яна валодала значна большымі рэсурсамі, вырабляла тры чвэрці прамысловай прадукцыі краіны, мела большую працягласць чыгункі. Таму Поўнач была гатова да працяглай вайны. Затое салдаты і палкаводцы Поўдня былі лепш падрыхтаваныя. Асабліва вызначыўся ў час Грамадзянскай вайны галоўнакамандуючы арміяй жыхароў Поўдня генерал ***Роберт Эдуард Лі*** (1807—1870).

*Першы этап вайны.* На першым этапе вайны (1861—1862) перавага была на баку Поўдня. У ліпені 1861 г. паўночнікі былі разбіты ў бітве пры Манасасе, а ў кастрычніку — на подступах да Вашынгтона. Сталіца ЗША цудам не трапіла ў рукі канфедэратаў. Ваенныя няўдачы Поўначы тлумачыліся многімі прычынамі. Але галоўная з іх была тая, што ў краіне ўсё яшчэ захоўвалася рабства. Прэзідэнт А. Лінкальн не адмяніў рабства, каб не выклікаць варожасці ў многіх паўночнікаў, якія былі прыхільнікамі рабаўладання. Ён заявіў:



*Бітва паміж жыхарамі Поўначы і Поўдня. 1864 г.*

«Мая найважнейшая мэта ў гэтай барацьбе — выратаванне Саюза, а не захаванне або знішчэнне рабства».

Аднак крытычная сітуацыя прымусіла Лінкальна ў 1862—1863 гг. пайсці на больш рашучыя крокі. Урад увёў усеагульную воінскую павіннасць. Ваенныя штабы паўночнікаў былі ачышчаны ад прыхільнікаў Канфедэрацыі. Кангрэс прыняў *Гомстэд-акт*, якога так доўга дабіваліся фермеры і рабочыя. Цяпер кожны жадаючы мог атрымаць за невялікую плату ўчастак зямлі (гомстэд) у 65 га. Нарэшце, была выдадзена **пракламацыя** аб вызваленні рабоў без выкупу з 1 студзеня 1863 г. «Калі маё імя калі-небудзь трапіць у гісторыю, то за гэты акт, і ў ім — уся мая душа», — так ацэньваў А. Лінкальн славутую пракламацыю.

*Другі этап вайны.* Гэтыя прагрэсіўныя меры азнаменавалі пачатак новага рэвалюцыйнага этапу Грамадзянскай вайны. Народныя масы адыгралі вырашальную ролю ў далейшых падзеях. Колькасць армій Поўначы ўзрасла да 2,8 млн чалавек. Чарнаскурыя добраахвотнікі актыўна запісваліся ў армію паўночнікаў. Спробы ж канфедэратаў прыцягнуць былых рабоў у сваю армію праваліліся. Колькасць іх армій складала 1,2 млн чалавек.

Лёс Грамадзянскай вайны быў вырашаны на палях бітваў. З сярэдзіны 1863 г. паўночнікі паспяхова рушылі на Поўдзень. Вясной 1865 г. яны занялі значную частку паўднёвых штатаў. 9 красавіка 1865 г. знясіленая армія Канфедэрацыі пад камандаваннем генерала Лі капітулявала. Грамадзянская вайна скончылася перамогай Поўначы. Рабства на Поўдні было ліквідавана. Палітычнай і эканамічнай разрозненасці краіны быў пакладзены канец. Цяпер ужо нішто не перашкаджала ператварэнню ЗША ў буйную прамысловую дзяржаву.

Перамога жыхароў Поўначы была азмрочана трагічнай падзеяй. 14 красавіка 1865 г. у Вашынгтоне ў тэатры Форда фанатычны прыхільнік жыхароў




*Грамадзянская вайна ў ЗША 1861—1865 гг.*

Поўдня акцёр Дж. У. Бутс стрэлам у галаву смяротна параніў Аўраама Лінкальна. Тайна змовы супраць прэзідэнта не раскрыта да гэтага часу. Пры затрыманні злачынец быў забіты, нягледзячы на загад узяць яго жывым.

**6. ЗША пасля Грамадзянскай вайны.** Перыяд пасля Грамадзянскай вайны характарызуецца бурным развіццём прамысловасці і сельскай гаспадаркі.

Да канца XIX ст. ЗША сталі самай багатай краінай свету. У сваім эканамічным развіцці яны абагналі Еўропу. Узровень жыцця насельніцтва быў вышэйшы, чым у любой іншай краіне. Праца рабочых добра аплачвалася. Гэта было адной з прычын таго, што сацыялістычныя ідэі ў ЗША не атрымалі шырокага распаўсюджання.

**7. Расавая праблема.** І ўсё ж росквіт Амерыкі быў адносны. Па-ранейшаму **дыскрымінацыі** падвяргалася карэннае насельніцтва краіны — індзейцы. Астаткі індзейскіх плямёнаў былі выцеснены ў пустынныя і неўрадлівыя землі. Для пасялення ім выдзяляліся спецыяльныя акругі — *рэзервацыі*. Там яны былі асуджаны на ўбогае існаванне і паступовае выміранне.



*Горад Нью-Ёрк у канцы XIX ст.*

Людзьмі другога гатунку лічылі і чарнаскурых. Цяпер па законе яны былі свабодныя, але іх матэрыяльнае становішча заставалася ранейшым.

**8. Знешняя палітыка ЗША.** Доўгі час Злучаныя Штаты не ўмешваліся ва ўнутраныя справы Еўропы. Яны стараліся быць убаку ад ускладненняў, канфліктаў і войнаў паміж еўрапейскімі дзяржавамі. Ад Еўропы ЗША патрабавалі таго ж у адносінах да ўсіх краін Амерыкі: як Паўночнай, так і Паўднёвай. У 1820-я гг. прэзідэнт Джэймс Манро заявіў, што ЗША не пацерпяць еўрапейскай інтэрвенцыі ў любую краіну Амерыкі. Пад лозунгам *«Амерыка для амерыканцаў»* ЗША імкнуліся прадухіліць умяшанне Еўропы ў справы лацінаамерыканскіх дзяржаў, якія вызваліліся ад улады Іспаніі і Партугаліі.

Але калі ўзрасла фінансавая магутнасць ЗША і іх пазіцыі ўмацаваліся, яны самі сталі на шлях знешнепалітычнай экспансіі. У канцы XIX ст. была захоплена іспанская калонія *Філіпіны*. Затым ЗША «накіравалі свой позірк» на Лацінскую Амерыку. На змену лозунгу «Амерыка для амерыканцаў» прыйшоў лозунг *«Амерыка для ЗША»*. З дапамогай эканамічнага ўплыву, а калі трэба было, то і ваеннай сілы, амерыканская буржуазія ўстанавіла фінансавы і палітычны кантроль над большасцю лацінаамерыканскіх краін. Вялізны прыбытак ёй прынесла Першая сусветная вайна, якая разгарнулася ў Еўропе ў 1914—1918 гг.

**Пытанні і заданні**

1. Калі ўзнікла Рэспубліканская партыя ЗША? Чые інтарэсы яна выказвала?
2. Дайце характарыстыку А. Лінкальну як палітычнаму дзеячу. Падумайце, у чым быў яго палітычны талент.
3. У чым разыходзіліся інтарэсы свабодных і рабаўладальніцкіх штатаў? Якая супярэчнасць паміж імі стала асноўнай прычынай Грамадзянскай вайны?

4. Вызначце гістарычнае значэнне Грамадзянскай вайны ў ЗША.
5. Гісторыкі часта параўноўваюць Грамадзянскую вайну ў ЗША з буржуазна-дэмакратычнымі рэвалюцыямі. Як вы лічыце, чаму?
6. Якія факты сведчаць аб тым, што Злучаныя Штаты ператварыліся ў сусветную дзяржаву? Пры адказе выкарыстайце карту.



**Урывак з ліста Аўраама Лінкальна**

«Мая найважнейшая мэта ў гэтай барацьбе — выратаванне Саюза, а не захаванне або знішчэнне рабства. Калі б я змог выратаваць Саюз, не вызваліўшы пры гэтым ніводнага раба, я зрабіў бы гэта. Калі б я змог выратаваць Саюз, вызваліўшы ўсіх рабоў, я б пайшоў на гэта. Калі б я змог выратаваць Саюз, вызваліўшы толькі частку рабоў і пакінуўшы ў рабстве астатніх, я пайшоў бы таксама і на гэта. Тое, што я раблю адносна рабства або каляровай расы, я раблю таму, што веру, што гэта дапаможа выратаваць Саюз. Калі я ўстрымліваюся ад прыняцця якіх-небудзь мер, то толькі таму, што лічу, што гэтыя меры не дапамогуць выратаваць Саюз».

*Вызначце пазіцыю прэзідэнта ў пытанні аб адмене рабства. Чаму ён быў асцярожны ў сваіх дзеяннях? Які шлях для выратавання Злучаных Штатаў Амерыкі ён выбраў?*



Сімон Балівар, герой Вайны за незалежнасць іспанскіх калоній у Амерыцы, прадказваў у 1820-я гг. асноўныя напрамкі тэрытарыяльнай экспансіі ЗША ў Новым Свеце. «Паглядзіце ўважліва на карту, — гаварыў ён. — На поўначы вы ўбачыце ЗША, нашага магутнага суседа, дружба якога да нас заснавана на арыфметыцы: даю табе столькі, узамен хачу ўдвая больш. Злучаныя Штаты захапілі Фларыду... квапяцца на Кубу і Пуэрта-Рыка. Калі мексіканцы дазволяць, то яны прысвояць сабе Тэхас, ды, бадай, і ўсю Мексіку».

*Якія дзеянні ЗША пацвярджаюць гэтыя словы?*



**Фрыдрых Энгельс пра Грамадзянскую вайну ў ЗША**

«...Такой з абодвух бакоў народнай вайны не было яшчэ з таго часу, як існуюць буйныя дзяржавы; зыход яе, бясспрэчна, вызначыць будучае ўсёй Амерыкі на сотні гадоў наперад. Як толькі будзе ўзарвана рабства — гэтыя найвялікшыя ланцугі, што скоўваюць палітычнае і сацыяльнае развіццё Злучаных Штатаў, — у краіне настане такі ўздым, які ў самы кароткі тэрмін забяспечыць ёй зусім іншае месца ў сусветнай гісторыі, і армія і флот, якія ім стварыла вайна, хутка знойдуць тады сабе прымяненне».

*Ці сапраўды зыход вайны вызначыў будучыню ўсёй Амерыкі на сотні гадоў наперад?*



Ацэньваючы значэнне Аўраама Лінкальна ў амерыканскай гісторыі, Леў Талстой сказаў: «Ён быў тым, чым Бетховен быў у музыцы, Дантэ — у паэзіі, Рафаэль — у жывапісе, Хрыстос — у філасофіі жыцця».

## § 14. АМЕРЫКАНСКАЯ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

**Успомніце**

1. Растлумачце значэнне паняццяў «мастацтва», «рамантызм», «рэалізм», «класіцызм», «імпрэсіянізм», «пурытане».
2. У чым заключаецца розніца паміж еўрапейскімі рамантызмам і рэалізмам XIX ст.? Што іх аб'ядноўвае?
3. Назавіце вядомыя вам архітэктурныя стылі.

XIX стагоддзе — час вялікіх змен у духоўным жыцці ЗША. Прамысловы пераварот і эканамічныя поспехі разбуралі строгія пурытанскія ўяўленні, якія асуджалі мастацтва, створанае не розумам, а пачуццём. Усё выклікала аптымістычную ўпэўненасць у вялікім прызначэнні Амерыкі. Людзі верылі ў свае неабмежаваныя магчымасці.

**1. Амерыканскі рамантызм.** Яркімі прадстаўнікамі амерыканскага рамантызму ў літаратуры былі паэт Г. Лангфела і празаік Ф. Купер.



*Г. Лангфела*

***Генры Лангфела*** (1807—1882) — класік амерыканскай літаратуры. Яго творчасць — вяха ў амерыканскай паэзіі XIX ст. У адрозненне ад многіх вядомых паэтаў і пісьменнікаў Лангфела спаўна зведаў славу пры жыцці. А калі ён памёр, жалоба была аб'яўлена не толькі ў ЗША, але і ў Англіі. Лепшым яго творам лічыцца паэма «Спеў аб Гаяваце». Яна ўвайшла ў лік найбольш значных твораў сусветнай літаратуры.

«Спеў аб Гаяваце» напісаны па матывах індзейскіх паданняў і легенд. Г. Лангфела ўславіў у ёй індзейскага нацыянальнага героя Гаявату, які прапаведаваў мір паміж плямёнамі, навучыў людзей земляробству і пісьменству. Паэма прасякнута духам светлага смутку, у ёй надзвычай чулліва апісваюцца прырода і народныя легенды. Паэт заклі-

кае да гармоніі ў адносінах паміж людзьмі, паміж прыродай і чалавекам.

Індзейская тэма адлюстравана ў пяці раманах ***Джэймса Фенімора Купера*** (1789—1851), аб'яднаных агульным героем — паляўнічым і следапытам Наці Бампа: «Піянеры», «Апошні з магікан», «Прэрыя», «Следапыт», «Зверабой». Дзеянне раманаў адбываецца ў XVIII ст., у перыяд барацьбы паміж Англіяй і Францыяй на тэрыторыі Амерыкі. Купер з горыччу апісвае бесчалавечнае вынішчэнне індзейскіх плямёнаў і знішчэнне ўнікальнай культуры. Сустрэча дзвюх цывілізацый абярнулася трагедыяй.



*Ілюстрацыя да рамана «Піянеры» Дж. Ф. Купера, выдадзенага ў Нью-Ёрку ў 1861 г.*

**2. Літаратура ў перыяд дэмакратычнага ўздыму.** На хвалі руху за адмену рабства ўзнікла некалькі таленавітых твораў. Самым значным з іх быў раман «Хаціна дзядзькі Тома» ***Гарыет Бічэр-Стоу*** (1811—1896).

Кніга мела вялікі поспех у чытачоў. Яна несла праўду пра жахі рабства на Поўдні ЗША. Сучаснікі гаварылі, што ў барацьбе за адмену рабства яна адыграла большую ролю, чым сотні прапагандысцкіх брашур або мітынгаў.

Паводле рамана «Хаціна дзядзькі Тома» былі пастаўлены спектаклі ў многіх тэатрах ЗША. У Бостане п'еса ішла 100 дзён запар, а ў Нью-Ёрку толькі ў адным з тэатраў — 160 дзён. Захапляльнае апавяданне, праўдзівае апісанне ўмоў жыцця нявольнікаў і нораваў плантатараў-рабаўладальнікаў зрабілі «Хаціну дзядзькі Тома» адной з самых папулярных кніг сусветнай літаратуры. Яна да гэтага часу выклікае вялікую цікавасць.

Творчасць амерыканскага паэта ***Уолта Уітмена*** (1819—1892) прыпадае на перыяд, калі ў краіне наспявала Грамадзянская вайна. Радавы журналіст, ён быў прызнаны вялікім паэтам Амерыкі і набыў сусветную славу пасля выдання вершаванага зборніка «Лісце травы» ў 1855 г. Гэта адзіная кніга паэта аказалася непадобнай на ўсё тое, што было напісана да яго. Паэт стварыў свой уласны ўітменаўскі стыль.

Уітмен называў сябе «пракрокам» дэмакратыі. Ён услаўляў Амерыку і яе працоўны народ, асобнага чалавека і кожную крупінку сусвету. Улюбёны ў жыццё, ён радаваўся самаму найменшаму яго праяўленню, зліваўся са стыхіяй навакольнага свету:

*Я завяшчаю сябе бруднай зямлі, хай узрасту я сваёй улюбёнай травой,*
*Калі захочаш зноў мяне ўбачыць, шукай мяне ў сябе пад падэшвамі.*

Апантаны марай і захоплены сусветам, паэт знаходзіў хараство і ў чыгунках, і ў фабрыках, і ў машынах:

*...О, мы ўзвядзём пабудову,*
*Пышнейшую за ўсе піраміды Егіпта,*
*Прыгажэйшую ад храмаў Элады і Рыма,*
*Табе мы храм пабудуем, о вялікая індустрыя...*

Але У. Уітмен не бачыў небяспекі для чалавека і чалавецтва, звязанай з імклівым развіццём сучаснай індустрыі.

Сярод амерыканскіх пісьменнікаў сярэдзіны XIX ст. было нямала і такіх, якія крытыкавалі адмоўныя бакі амерыканскай рэчаіснасці. Лозунг «Свабода, Роўнасць, Братэрства» прыйшоў у супярэчнасць з жыццём. Паводле выразу аднаго з прадстаўнікоў рамантызму, у грамадстве пачаў панаваць «усёмагутны долар».

У той час як У. Уітмен услаўляў Амерыку, ***Герман Мелвіл*** (1819—1891) сказаў пра яе нямала горкіх слоў у сваім вядомым рамане «Мобі Дзік, ці Белы Кіт». Буржуазная цывілізацыя, лічыў ён, нясе людзям зло. Мелвіл выкрываў **расізм**, каланізацыю і рабства. Ён прадказаў Грамадзянскую вайну ў ЗША за некалькі гадоў да яе пачатку.

Рэзка крытыкаваў буржуазную цывілізацыю яшчэ адзін вядомы амерыканскі пісьменнік ***Генры Тора*** (1817—1862). Ён прапаведаваў гарманічныя адносіны чалавека і прыроды. «Кожная шпала — гэта чалавек, ірландзец або янкі. Па іх, па гэтых людзях, укладзены рэйкі... і гладка коцяцца вагоны. Шпалы могуць яшчэ калі-небудзь прачнуцца і паўстаць», — па-прарочы перасцерагаў Тора.



*М. Твэн*

**3. Амерыканскі рэалізм.** Найбуйнейшымі амерыканскімі пісьменнікамі-рэалістамі другой паловы XIX — пачатку XX ст. былі М. Твэн, Б. Гарт, Дж. Лондан і Т. Драйзер.

***Марк Твэн*** (1835—1910) жорстка крытыкаваў і асмейваў сваіх «галоўных ворагаў» — «манархію грошай» і рэлігію. Таму некаторыя з яго кніг доўгі час не маглі быць надрукаваны ў ЗША. Лепшыя творы М. Твэна — «Прыгоды Тома Соера» і «Прыгоды Гекльберы Фіна» — прысвечаны жыццю простых людзей Амерыкі.

Асаблівае месца ў амерыканскай літаратуры займае творчасць ***Брэта Гарта*** (1836—1902). Ён атрымаў вядомасць як аўтар апавяданняў і аповесцей з жыцця золаташукальнікаў Каліфорніі. У іх захапляльна і па-майстэрску паказана гнятучая ўлада золата. Творы Гарта былі ўспрыняты ў Еўропе як новае слова ў амерыканскай літаратуры.

У канцы XIX ст. значнае месца ў амерыканскай літаратуры заняў жанр апавядання. Віртуозным майстрам лёгкай і вясёлай навелы паказаў сябе ***О'Генры*** (1862—1910). Як аўтар апавяданняў заваяваў вядомасць буйнейшы пісьменнік пачатку XX ст. ***Джэк Лондан*** (1876—1916). У іх ён апісваў новы і незнаёмы для амерыканцаў свет — свет рамантыкі і прыгод, бясстрашных і мужных людзей. Лепшыя творы пісьменніка — апавяданні «Любоў да жыцця», «Мексіканец», аповесць «Белы Ікол» і раман «Марцін Ідэн».

Адваротны бок эканамічнага працвітання ЗША апісваў у сваіх раманах знакаміты пісьменнік Амерыкі ***Тэадор Драйзер*** (1871—1945). У яго «Трылогіі жадання» («Фінансіст», «Тытан» і «Стоік») расказваецца пра фінансіста-«звышчалавека», які прыйшоў да горкага разумення марнасці накаплення і сквапнасці. Адзін з лепшых твораў пісьменніка — раман «Амерыканская трагедыя».

**4. Выяўленчае мастацтва.** Амерыканскі жывапіс знаходзіўся пад моцным уплывам мастацтва Заходняй Еўропы. Ён развіваўся ў межах *рамантызму* і *рэалізму*, а з канца XIX ст. — *імпрэсіянізму*. Асноўныя тэмы творчасці мастакоў рамантычнага кірунку — прырода і чалавек. Шырока прадстаўлены быў *партрэтны жывапіс*. Ва ўмовах эканамічнага росквіту мастакі, як правіла, малявалі багатых людзей і членаў іх сем'яў.

Якой-небудзь асаблівай самабытнасцю амерыканскі жывапіс першай паловы XIX ст. не вылучаўся. Толькі пасля Грамадзянскай вайны творы мастакоў ЗША станавіліся ўсё больш «амерыканскімі».

Найбольш вядомымі амерыканскімі жывапісцамі XIX ст. былі прадстаўнікі рамантычнага кірунку Т. Коўл і Дж. К. Бінгем, партрэтыст Дж. С. Сарджэнт, мастак-рэаліст канца стагоддзя У. Хомер.



*Дж. С. Сарджэнт. Ранішняя прагулка. 1888 г.*

**5. Метраполітэн-музей.** У XIX ст. у ЗША пачалося калекцыяніраванне твораў еўрапейскага



*Будынак Метрапалітэн-музея. Сучасная фатаграфія*

жывапісу. Багатыя амерыканцы выязджалі ў Еўропу і скуплялі там мастацкія каштоўнасці. У 1870 г. група грамадскіх дзеячаў і мастакоў заснавала ў Нью-Ёрку *Метрапалітэн-музей* — найбуйнейшы мастацкі збор ЗША.

Цяпер у ім захоўваецца каля 3 млн твораў сусветнага мастацтва. Метрапалітэн-музей знаходзіцца ў адным шэрагу з такімі найбуйнейшымі мастацкімі музеямі свету, як Эрмітаж у Санкт-Пецярбургу і Траццякоўская галерэя ў Маскве, Луўр у Парыжы, Брытанскі музей у Лондане.

**6. Архітэктура.** Амерыканская архітэктура была такая ж эклектычная, як і еўрапейская. У ёй мудрагеліста перапляталіся элементы вядомых стыляў: готыкі, ракако і класіцызму. У другой палове XIX ст. амерыканцы ўнеслі вялікі ўклад у развіццё сусветнай архітэктуры. Ім належыць заслуга ў стварэнні *стальнога каркаса* для вялікіх прамысловых і адміністрацыйных будынкаў.

Гэта вынаходства звязана з трагічнай падзеяй. У 1871 г. у горадзе Чыкага здарыўся вялікі пажар. Трэба было перабудоўваць увесь горад. Група архітэктараў на чале з Л. Салівенам распрацавала канструкцыю камерцыйнага хмарачоса. У аснову гэтага праекта быў пакладзены стальны каркас, які надаваў будынку выключную трываласць. У 1880-я гг. спачатку ў Чыкага, а за-

тым і ў іншых гарадах з’явіліся першыя будынкі са сталі і бетону, што сталі сімвалам індустрыяльнай магутнасці Амерыкі.

**Пытанні і заданні**

1. Што, на ваш погляд, адрознівае амерыканскі рамантызм ад еўрапейскага?
2. Суаднясіце імёны аўтараў і назвы іх твораў. Выканайце гэта заданне ў сшытку пісьмова.

| **Імёны пісьменнікаў** | **Назвы твораў** |
|---|---|
| Генры Лангфела | «Белы Ікол» |
| Джэймс Фенімор Купер | «Апошні з магікан» |
| Гарыет Бічэр-Стоу | «Хаціна дзядзькі Тома» |
| Уолт Уітмен | «Спеў аб Гаяваце» |
| Герман Мелвіл | «Лісце травы» |
| Марк Твэн | «Мобі Дзік, ці Белы Кіт» |
| Джэк Лондан | «Прыгоды Тома Соера» |
| Тэадор Драйзер | «Залатая ліхаманка» |
| Брэт Гарт | «Амерыканская трагедыя» |

3. Ахарактарызуйце значэнне літаратуры ў жыцці амерыканскага грамадства. Падумайце, чаму ў ёй нараўне з услаўленнем амерыканскай рэчаіснасці гучалі і выкрывальныя матывы.
4. Правядзіце конкурс на лепшую ілюстрацыю да ўлюбёных твораў амерыканскіх пісьменнікаў.
5. На прыкладзе творчасці любога амерыканскага мастака або пісьменніка дакажыце, што мастацтва і літаратура вучылі чытачоў задумвацца над жыццём.
6. Якія асаблівасці развіцця мелі амерыканская архітэктура і жывапіс XIX ст.? Чаму амерыканскі жывапіс не меў прыкметных адрозненняў ад еўрапейскага?
7. Якім чынам прамысловы прагрэс паўплываў на выгляд амерыканскіх гарадоў?
8. Прадоўжыце запаўненне табліцы «Развіццё сусветнай навукі і культуры ў XIX — пачатку XX ст.» (с. 72).



«Запаветная мара мая, — пісаў Уолт Уітмен, — заключаецца ў тым, каб паэмы і паэты сталі інтэрнацыянальныя і аб’ядналі ўсе краіны, якія толькі ёсць на Зямлі, больш цесна і моцна, чым любыя дагаворы і дыпламатыя».

*Выдатны амерыканскі паэт-дэмакрат верыў, што літаратура выратуе свет. Ці згодны вы з ім?*

## § 15. ЛАЦІНСКАЯ АМЕРЫКА

**Успомніце**

1. Калі і як былі заваяваны Цэнтральная і Паўднёвая Амерыка?
2. Ахарактарызуйце сацыяльную структуру лацінаамерыканскага грамадства.
3. Растлумачце значэнне паняццяў «метраполія», «калонія», «плантацыйная гаспадарка», «буржуазная рэвалюцыя».

У гісторыі Лацінскай Амерыкі XIX ст. найважнейшай падзеяй было ўтварэнне незалежных лацінаамерыканскіх дзяржаў. Іспанія і Партугалія страцілі ў гэтым рэгіёне багацейшыя калоніі. Аднак распад каланіяльнай сістэмы, створанай еўрапейцамі, адбыўся толькі ў другой палове XX ст.

**1. Залежнасць ад метраполій.** Усё жыццё лацінаамерыканскіх калоній было падпарадкавана інтарэсам і патрэбнасцям метраполій. Іспанія і Партугалія разглядалі свае ўладанні як крыніцу каштоўных металаў і прадуктаў плантацыйнай гаспадаркі (трысняговы цукар, бавоўна, тытунь, рыс і г. д.). У калоніях была развіта *здабыўная прамысловасць*, асабліва каралеўскія руднікі. Затое апрацоўчая прамысловасць амаль не развівалася. Нават у пачатку XIX ст. мануфактур тут было вельмі мала.

Метраполіі свядома тармазілі развіццё прамысловасці для таго, каб захаваць за сабой манапольнае права на ўвоз гатовых вырабаў. Па гэтай жа прычыне быў забаронены ўнутраны гандаль паміж самімі калоніямі. Улады перашкаджалі таксама вырошчванню вінаграду, аліўкавых дрэў, ільну, гадоўлі шаўкоўнічных чарвякоў. Дазвалялася вырошчваць толькі тыя сельскагаспадарчыя культуры, якія не культываваліся ў метраполіях.



*Уборка цукровага трыснягу. Малюнак 1874 г.*

**2. Крэольская апазіцыя.** На мяжы XVIII—XIX стст. незадавальненне насельніцтва каланіяльнай адміністрацыяй узмацнілася. Адбываліся паўстанні гарадскіх нізоў, індзейцаў. Узрасталі апазіцыйныя настроі сярод крэолаў — нашчадкаў першых партугальскіх і іспанскіх перасяленцаў у Лацінскай Амерыцы. У крэольскай апазіцыі, якая знаходзілася пад уплывам ідэй Французскай рэвалюцыі, аформіліся дзве плыні. Адна з іх выступала за незалежнасць ад Іспаніі, другая — за ўраўнаванне ў правах з іспанцамі і ўдзел у кіраванні калоніямі. Іспанскія калоніі ў Амерыцы стаялі на парозе моцнага выбуху вызваленчага руху.

**3. Барацьба за незалежнасць калоній.** Міжнародная сітуацыя спрыяла іспанскім калоніям у барацьбе за незалежнасць. У канцы XVIII — пачатку XIX ст. Іспанія ўдзельнічала ў спусташальных для яе войнах з Францыяй і Англіяй. Крэольская апазіцыя актывізавала сваю дзейнасць. Ва ўсіх іспанскіх калоніях ствараліся *тайныя патрыятычныя арганізацыі*. Сваю мэту яны бачылі ў падрыхтоўцы ўзброенага выступлення і зvяржэнні іспанскага каланіяльнага прыгнёту.

Сур'ёзныя паражэнні Іспаніі ад напалеонаўскай Францыі ў 1809—1810 гг. паслужылі сігналам да пачатку вызваленчай вайны. Вайна за незалежнасць іспанскіх калоній працягвалася з **1810** па **1826 г.** Кіруючую ролю ў **антыкаланіяльным руху** адыгралі крэольскія рэвалюцыянеры. Выдатным палкаводцам праявіў сябе выхадзец са знатнай сям'і ***Сімон Балівар*** (1783—1830). Ён не раз наносіў паражэнне іспанскім войскам. Чарнаскурыя рабы, якія змагаліся ў яго вызваленчай арміі, атрымлівалі свабоду. У 1821 г. армія Балівара поўнасцю вызваліла *Венесуэлу*.

Вызваленчы рух у *Мексіцы* пачаўся з сялянскага паўстання пад кіраўніцтвам сельскага святара ***Мігеля Ідальга*** (1753—1811). Паўстанцы выступілі не толькі супраць іспанскіх улад, але і супраць крэольскіх памешчыкаў. Пасля гібелі Ідальга барацьбу прадоўжылі крэольскія рэвалюцыянеры, якія прытрымліваліся больш умераных поглядаў.

У выніку вайны на месцы былых іспанскіх калоній узніклі незалежныя рэспублікі: *Мексіка, Вялікая Калумбія*, якая ўключала *Новую Гранаду* (тэрыторыі сучасных Калумбіі і Панамы), *Венесуэлу* і *Кіта* (цяпер Эквадор), *Аргенціна, Перу, Чылі* і інш. У лацінаамерыканскіх рэспубліках былі ліквідаваны падушны падатак, працоўныя павіннасці і ка-



*С. Балівар*




*Утварэнне незалежных дзяржаў у Лацінскай Амерыцы*

ланіяльныя падаткі ў каралеўскую казну, адмянялася саслоўная і расавая няроўнасць, аднак на практыцы рабства ў большасці рэспублік захоўвалася да сярэдзіны XIX ст. Улада перайшла ў рукі зямельнай арыстакратыі і ваенных крэольскага паходжання.

Адметным быў вызваленчы рух у партугальскай *Бразіліі*. Пасля акупацыі Партугаліі арміяй Напалеона сюды збег у 1808 г. каралеўскі двор. Горад Рыа-дэ-Жанэйра стаў цэнтрам партугальскай манархіі. Прынц Педру правёў шэраг рэформаў. У **1822 г.** Бразілія аддзялілася ад Партугаліі. Прынц быў абвешчаны імператарам Педру I, а Бразілія — імперыяй.

**4. Краіны Лацінскай Амерыкі ў другой палове XIX — пачатку XX ст.** У большасці лацінаамерыканскіх краін адбываўся *прамысловы пераварот*. З'явіліся першыя фабрыкі, новая тэхніка, пачалося будаўніцтва чыгунак. Укараненне машын у вытворчасць і будаўніцтва чыгунак ажыццяўлялася іншаземцамі.

У эканамічным жыцці лацінаамерыканскіх краін важную ролю адыгрываў замежны капітал. Асабліва вялікі быў уплыў Англіі і ЗША. Частка багаццяў невялікіх паўднёваамерыканскіх краін кантралявалася амерыканскімі капіталістамі. Сусветнае значэнне Паўднёвай Амерыкі асабліва ўзрасло пасля адкрыцця ў шэрагу краін нафтавых крыніц. Пачалася здабыча каляровых металаў у Калумбіі, Перу і Чылі. Прыродныя багацці гэтых краін вывозіліся ў Еўропу і ЗША.

Пасля дасягнення незалежнасці ў лацінаамерыканскіх рэспубліках спакой не настаў. У краінах кантынента ўспыхвалі грамадзянскія войны і рэвалюцыі, усталёўваліся ваенныя дыктатуры, адзін за адным мяняліся ўрады. Калумбія, напрыклад, за няпоўныя паўстагоддзя (1839—1885) перажыла некалькі грамадзянскіх войнаў і паўстанняў.

У Бразіліі ішла барацьба супраць манархіі, за ўстанаўленне рэспублікі і адмену рабства. У **1889 г.** манархія была звергнута, і Бразілія абвешчана рэспублікай.

Узмацніўся вызваленчы рух на Кубе, якая ўсё яшчэ заставалася іспанскай калоніяй. ЗША спрабавалі набыць гэты востраў, але беспаспяхова. У рэшце рэшт яны развязалі ў 1898 г. вайну, якую Іспанія прайграла. Куба стала незалежнай, але толькі фармальна, таму што яна поўнасцю кантралявалася ЗША.

Важнай падзеяй у гісторыі народаў Лацінскай Амерыкі была Мексіканская рэвалюцыя **1910—1917 гг.** Яе вынікам стала прыняцце ў Мексіцы прагрэсіўнай канстытуцыі і правядзенне аграрнай рэформы.

Усе прыродныя багацці краіны (нетры, воды, горы і лясы) абвяшчаліся ўласнасцю **нацыі**. Быў устаноўлены 8-гадзінны рабочы дзень, для жанчын і падлеткаў — 6-гадзінны. Правы і прывілеі замежнага капіталу не адмяняліся, але значна абмяжоўваліся. Духавенства было пазбаўлена выбарчага права. Маёмасць каталіцкай царквы пераходзіла дзяржаве. І хоць многія палажэнні мексіканскай канстытуцыі так і засталіся на паперы, былі створаны больш спрыяльныя ўмовы для развіцця капіталізму.

**5. Культура.** У XIX ст. адбыліся важныя змены ў культурным жыцці краін Лацінскай Амерыкі. У найбольш развітых з іх — Аргенціне, Мексіцы, Чылі і Бразіліі — пачалі фарміравацца *нацыянальныя культуры*. Індзейскія і афры-



*Прэзідэнцкі палац Каса-Расада, або Ружовы дом, у Буэнас-Айрэсе (Аргенціна), пабудаваны ў канцы XIX ст. Сучасная фатаграфія*

канскія традыцыі па-ранейшаму ўплывалі (асабліва ў паэзіі і музыцы) на лацінаамерыканскую культуру, якая арыентавалася на еўрапейскія ўзоры.

У літаратуры гэтага часу вядучым кірункам быў *рамантызм*. У творчасці пісьменнікаў, што прымалі ўдзел у вызваленчай барацьбе, пераважалі *тыраноборчыя, грамадзянскія* і *патрыятычныя матывы*. У сярэдзіне XIX ст. узнікла плынь, вядомая як *бытапісанне*. Яно было цесна звязана з рамантызмам і ў той жа час з'яўлялася прадвеснікам рэалізму. Для бытапісальнікаў характэрна пільная ўвага да народнага побыту і нацыянальнай самабытнасці сваёй краіны.

Першы лацінаамерыканскі рэаліст ***Альберта Блест Гана*** (1830—1920) напісаў у 1860-я гг. цыкл раманаў «Чалавечая камедыя Чылі». Трывогай за лёс сваёй краіны прасякнута творчасць кубінскага паэта ***Хасэ Марці*** (1853—1895). Гэта быў не толькі буйнейшы паэт Лацінскай Амерыкі, але і правадыр вызваленчай барацьбы супраць іспанскага каланіяльнага панавання. У канцы XIX ст. ён адным з першых пачаў гаварыць аб небяспецы амерыканскага імперыялізму для народаў Лацінскай Амерыкі.

У архітэктуры і выяўленчым мастацтве таксама адбыліся значныя змены. У каланіяльны перыяд архітэктура прытрымлівалася еўрапейскіх узораў. Істотна паўплывала на яе культура Адраджэння, а пазней — барока. У пачатку XIX ст. узрасла цікавасць да класіцызму.

Пасля набыцця нацыянальнай незалежнасці намеціўся рашучы пераход да *свецкага мастацтва*.Назіраліся развіццё партрэтнага жывапісу, цікавасць да займальных бытавых сцэнак і пейзажных замалёвак. Мастакі ўсё

часцей звярталіся да сучаснага ім жыцця, да гісторыі антыкаланіяльнай барацьбы.

У сувязі з ростам гарадоў з'явіліся будынкі новага тыпу: біржы, банкі, універсальныя магазіны, атэлі, чыгуначныя вакзалы, музеі, тэатры. У Буэнас-Айрэсе пачалі ўзводзіць шматпавярховыя дамы. У будаўніцтве сталі прымяняць бетон і жалеза. Як і ў ЗША, у канцы XIX ст. на змену класіцызму прыйшоў *эклектычны стыль*.

**Пытанні і заданні**

1. Ахарактарызуйце эканамічнае развіццё лацінаамерыканскіх калоній.
2. Якія пераўтварэнні былі неабходны ў краінах Лацінскай Амерыкі для свабоднага развіцця капіталізму?
3. Пералічыце незалежныя дзяржавы, якія ўтварыліся ў Лацінскай Амерыцы да сярэдзіны XIX ст.
4. Параўнайце вынікі войнаў за незалежнасць іспанскіх і англійскіх калоній.
5. Складзіце каляндар найважнейшых падзей у гісторыі народаў Лацінскай Амерыкі XIX — пачатку XX ст.
6. Растлумачце, чаму лацінаамерыканскія краіны адставалі ад еўрапейскіх дзяржаў у сваім развіцці.
7. Падрыхтуйце паведамленні аб кіраўніках нацыянальна-вызваленчага руху ў Лацінскай Амерыцы. Якія якасці асобы дазволілі ім стаць народнымі героямі?
8. Назавіце асаблівасці лацінаамерыканскай культуры XIX ст.
9. Прадоўжыце запаўненне табліцы «Развіццё сусветнай навукі і культуры ў XIX — пачатку XX ст.» (с. 72).



Кубінскі паэт-рамантык Хасэ Марыя Эрэдыя прысвяціў свайму сучасніку Сімону Балівару наступныя радкі:

*Тваё імя — брыльянт — не падуладнае хвалям часу,*
*Што вымываюць з памяці імёны ўсіх каралёў.*

*Як вы мяркуеце, ці збылося гэта паэтычнае прароцтва? Растлумачце сваю думку.*



**Сімон Балівар**

Сімон Балівар увайшоў у гісторыю як вялікі вызваліцель Лацінскай Амерыкі. Ён нарадзіўся 24 ліпеня 1783 г. у сям'і крэольскага арыстакрата. Продкі Балівара пасяліліся ў Венесуэле яшчэ ў XVI ст. Яго юнацтва прайшло ў Іспаніі, Францыі, Італіі. Балівар знаходзіўся пад уплывам ідэй Вайны за незалеж-

насць у Паўночнай Амерыцы і Французскай рэвалюцыі. У 1805 г. у Рыме на Свяшчэннай гары ён даў урачыстую клятву прысвяціць жыццё справе вызвалення сваёй радзімы ад «ланцугоў іспанскага рабства». З яго імем звязана ўтварэнне пяці незалежных дзяржаў Паўднёвай Амерыкі: Балівіі, Венесуэлы, Калумбіі, Перу, Эквадора. За гады свайго гераічнага служэння ён прыняў удзел у 472 бітвах. У 1813 г. Нацыянальным кангрэсам Венесуэлы Балівар абвешчаны Вызваліцелем. Адна з лацінаамерыканскіх краін — Балівія — названа ў яго гонар. Сімон Балівар імкнуўся ажыццявіць ідэю лацінаамерыканскага адзінства, стварыць «свяшчэнны саюз народаў» Лацінскай Амерыкі. Яму ўдалося ўтварыць дзяржаву Вялікая Калумбія, у якую ўвайшлі Венесуэла, Новая Гранада (цяпер Калумбія і Панама) і Кіта (цяпер Эквадор). Яна праіснавала з 1819 па 1830 г. Але ажыццявіць ідэю лацінаамерыканскага адзінства Балівар не змог. Рэалізацыі яго планаў перашкодзілі ЗША, Вялікабрытанія, а таксама звады, зайздрасць нядаўніх сяброў, барацьба за ўладу і паклёпы непрыяцеляў. Пасля таго як Балівара абвінавацілі ва ўстанаўленні дыктатуры, ён падаў у адстаўку. У заяве аб адстаўцы ён напісаў: «Мяне падазраюць у тым, што я імкнуся да ўстанаўлення тыраніі. Але калі лёс дзяржавы залежыць ад аднаго чалавека, то такая дзяржава не мае права на існаванне і ў рэшце рэшт згіне».



**50 гадоў у Чылі**

З гісторыяй Чылі цесна звязана жыццё нашага земляка І. І. Дамейкі (1802—1889). Ігнат Іпалітавіч нарадзіўся на Навагрудчыне. У 1822 г. ён скончыў фізіка-матэматычны факультэт Віленскага ўніверсітэта. У час вучобы пасябраваў з Адамам Міцкевічам. Удзельнічаў у вызваленчым руху ў Польшчы і Беларусі. Пасля задушэння паўстання 1830—1831 гг. эмігрыраваў. У 1838 г. Дамейка пераехаў з Францыі ў Чылі, дзе садзейнічаў развіццю геалагічных навук і адукацыі. Ён даследаваў карысныя выкапні Чылі, стварыў працу па гісторыі індзейскай народнасці араўканаў, заснаваў этнаграфічны музей. У 1867—1883 гг. Дамейка быў рэктарам Чылійскага ўніверсітэта. Урад Чылі аб'явіў І. І. Дамейку нацыянальным героем рэспублікі. У яго гонар устаноўлены помнік у Сант'яга. Імем Дамейкі названа малая планета, адкрытая чылійскім астраномам у 1975 г., — астэроід 2784 Дамейка, горны хрыбет у Андах — Кардыльера-Дамейка і мінерал дамейкіт (знойдзены самім Дамейкам у 1844 г.).



*І. І. Дамейка*

Раздзел III

# РАСІЙСКАЯ ДЗЯРЖАВА. СЛАВЯНСКІЯ КРАІНЫ

Гісторыя Расіі XIX — пачатку XX ст. была складанай і супярэчлівай. Пасля рэформаў Пятра I і Кацярыны II Расійская імперыя ператварылася ў найбуйнейшую і ўплывовую дзяржаву.

Заходнееўрапейскія краіны пільна сачылі за поспехамі Расійскай імперыі, баючыся яе ўзмацнення. У пачатку XIX ст. Расія ва ўпартай барацьбе з напалеонаўскай Францыяй адстаяла сваю незалежнасць і прынесла вызваленне Заходняй Еўропе ад французскага панавання.

Расійская дзяржава ажыццяўляла актыўную палітыку знешняй экспансіі і дабілася ў гэтым значных поспехаў. У склад Расійскай імперыі ўвайшлі тэрыторыі, на якіх пражывала мноства народаў.

Аднак у эканамічных адносінах краіна значна саступала перадавым дзяржавам Заходняй Еўропы. Асноўнай перашкодай на шляху прагрэсіўнага развіцця, мадэрнізацыі і індустрыялізацыі краіны былі самадзяржаўе, прыгонніцтва і амаль поўнае палітычнае бяспраўе народных мас.

Лепшыя прадстаўнікі расійскага грамадства ўсведамлялі гэта і вялі барацьбу за абмежаванне самадзяржаўнай улады. Першымі на гэты шлях сталі дваранскія рэвалюцыянеры, затым у барацьбу ўключыліся прадстаўнікі іншых саслоўяў. Паступова ў Расіі склалася рэвалюцыйная сітуацыя. Яна была ўскладнена руска-японскай вайной 1904—1905 гг., а затым Першай сусветнай вайной. У выніку трох расійскіх рэвалюцый пачатку XX ст. самадзяржаўе пала.

Нягледзячы на феадальна-прыгонніцкія парадкі, руская культура заняла адно з вядучых месцаў у свеце. Для славянскіх краін XIX — пачатак XX ст. сталі перыядам культурнага адраджэння і барацьбы за нацыянальную незалежнасць.

## § 16. РАСІЯ Ў ПЕРШАЙ ПАЛОВЕ XIX ст.

**Успомніце**

1. Растлумачце значэнне паняцця «абсалютная манархія».
2. Што перашкаджала развіццю Расіі?
3. У чым заключаецца значэнне прасоўвання рускіх у Сібір і на Далёкі Усход?

У XIX ст. Расійская імперыя была найбуйнейшай краінай свету. Яна размяшчалася ў трох частках свету: Еўропе, Азіі і Амерыцы.

У першай палове XIX ст. Расія яшчэ больш павялічыла свае ўладанні. Да яе былі далучаны Фінляндыя, большая частка Польшчы (Каралеўства Польскае), Бесарабія, Закаўказзе і Паўночны Каўказ. За паўстагоддзя тэрыторыя Расіі павялічылася з 16 да 18 млн км$^2$, а колькасць насельніцтва ўзрасла амаль у два разы — з 36 да 70 млн чалавек.

Краіна была шматнацыянальнай. Яе насельніцтва адносілася да розных **канфесій**. Асноўнымі з'яўляліся праваслаўе і іслам. Многія вызнавалі таксама каталіцтва, іудаізм і будызм.

**1. Грамадства і дзяржаўны лад.** Расійскае грамадства было саслоўным. Усё насельніцтва падзялялася на адасобленыя групы — *саслоўі*. Кожнае саслоўе мела пэўныя правы і абавязкі.

Пануючым саслоўем было *дваранства* (амаль 300 тыс. чалавек). Дваране кіравалі краінай. Яны карысталіся выключным правам валодаць зямлёй (памесцем) з прыгоннымі сялянамі.

Дваран, якія валодалі памесцямі, называлі памешчыкамі. Да сярэдзіны XIX ст. іх налічвалася прыкладна 100 тыс. чалавек.


*Герб Расійскай імперыі*

Далей ішлі саслоўі *духавенства* і *купецтва*. Духавенства і купцы 1-й і 2-й гільдый вызваляліся ад падушнага падатку, рэкруцкіх набораў у армію і цялесных пакаранняў. Але прыгоннымі сялянамі яны валодаць не маглі.

Асноўную масу насельніцтва складалі сяляне — каля 44 млн чалавек. Гэта было самае бяспраўнае саслоўе. *Сялянства* падзялялася на катэгорыі. Прыватнаўладальніцкія, або памешчыцкія, сяляне працавалі на памешчыкаў, удзельныя — на царскую сям'ю, дзяржаўныя — на дзяржаву. Найбольш цяжкім было становішча памешчыцкіх сялян (23 млн чалавек), якія лічыліся поўнай улас-

насцю памешчыкаў. Каля 4 млн чалавек складала падатковае насельніцтва гарадоў — мяшчане, або *мяшчанства* (наёмныя рабочыя, дробныя гандляры, рамеснікі).

У першай палове XIX ст. у Расіі пачаў павялічвацца пласт так званых разначынцаў. **Разначынцы** — людзі разумовай працы: дробныя чыноўнікі, пісьменнікі, настаўнікі, урачы. Яны былі, як правіла, выхадцамі з розных саслоўяў: духавенства, мяшчанства і збяднелага дваранства. Разначынцы адыгрывалі важную ролю ў жыцці расійскага грамадства і ўнеслі вялікі ўклад у развіццё навукі, культуры і мастацтва.

Расія ў XIX ст. была манархіяй. Цару належала неабмежаваная ўлада. Сацыяльнай асновай самадзяржаўя выступала дваранства.

**2. Айчынная вайна 1812 г.** У пачатку XIX ст. Расія прымала актыўны ўдзел у міжнароднай палітыцы. У гэты час Францыяй кіраваў імператар Напалеон I, які марыў аб сусветным панаванні. Ён падначаліў сабе амаль усю Еўропу і цяпер жадаў заваяваць Расію. Гэта прывяло да вайны еўрапейскага маштабу.

12 чэрвеня **1812 г.** войскі Напалеона перайшлі Нёман і ўварваліся ў Расійскую імперыю. «Вялікая армія» налічвала больш за 600 тыс. салдат і афіцэраў. Гэта была наймацнейшая армія за ўсю гісторыю чалавецтва. Еўрапейскае грамадства не сумнявалася ў хуткай перамозе Напалеона. Але ўсё адбылося інакш. Уварванне ў Расію стала пачаткам канца Французскай імперыі Напалеона Банапарта.

Расійскі імператар Аляксандр I (правіў у 1801—1825 гг.) яшчэ напярэдадні вайны сказаў французскаму паслу ў прыватнай размове: «Калі імператар Напалеон пачне супраць мяне вайну, то магчыма і нават верагодна, што ён нас паб’е, калі мы прымем бітву. Але гэта яшчэ не дасць яму міру... За нас — неабдымныя прасторы... Француз храбры, але доўгія нястачы і кепскі клімат стамляюць і бянтэжаць яго. За нас будуць ваяваць наш клімат і наша зіма». Таму напачатку расійскія войскі адступалі, каб прадухіліць рызыку вырашальнай бітвы і магчымай страты арміі.



*М. І. Кутузаў*

У жніўні галоўнакамандуючым быў прызначаны таленавіты палкаводзец ***Міхаіл Іларыёнавіч Кутузаў*** (1745—1813). Ён карыстаўся вялікай папулярнасцю ў народзе і арміі. «Прыехаў Кутузаў біць французаў», — гаварылі салдаты.

Генеральная бітва паміж дзвюма арміямі адбылася **26 жніўня 1812 г.** каля вёскі Барадзіно, за 120 км



*Барадзінская бітва (фрагмент панарамы). Мастак Ф. А. Рубо. 1911 г.*

на захад ад Масквы. Яна пачалася на досвітку і працягвалася каля 12 гадзін. Рускія войскі біліся адчайна і праяўлялі нечуваны гераізм. Французы панеслі вялікія страты, але і рускія пацярпелі не менш. Таму Кутузаў 1 верасня прыняў рашэнне пакінуць Маскву. Гэта было неабходна для таго, каб сабраць новыя сілы для абароны айчыны. Больш за месяц чакаў Напалеон у Маскве мірных ініцыятыў ад рускага цара, а яго армія тым часам займалася грабяжамі і марадзёрствам. Калі ж стала зразумела, што перагавораў аб міры не будзе, Напалеон аддаў загад аб адступленні з Масквы і рушыў на поўдзень па Калужскай дарозе.

Даведаўшыся пра гэта, расійскае камандаванне вырашыла спыніць французаў і не дапусціць іх у не разрабаваныя вайной губерні. Пасля вялікай бітвы пад Малаяраслаўцам Напалеон быў вымушаны адступаць па разрабаванай старой Смаленскай дарозе.

У гэты час у тыле ворага разгарэлася сапраўдная партызанская вайна. У ёй удзельнічалі і рэгулярныя войскі, і простыя сяляне. Французы галадалі і цярпелі ад рана надышоўшай суровай рускай зімы. «Вялікая армія» імкліва слабела. Напалеону цудам удалося пазбегнуць акружэння і пераправіцца 14—16 лістапада цераз раку Бярэзіну. Пасля гэтага адступленне французскай арміі ператварылася ў хаатычныя ўцёкі. Напалеон кінуў рэшткі сваіх войскаў і тайна адправіўся ў Францыю. З Расіі змаглі вярнуцца толькі 30 тыс. французскіх салдат.




*Айчынная вайна 1812 г.*

25 снежня 1812 г. Аляксандр I выдаў **маніфест** аб пераможным заканчэнні Айчыннай вайны. Расійская армія, не спыняючыся, прадоўжыла свой вызваленчы паход у Еўропу.

**3. Паўстанне дзекабрыстаў.** Перамога Расіі ў Айчыннай вайне 1812 г. мела вялікае міжнароднае значэнне. Расія адыграла важнейшую ролю ў вызваленні Еўропы ад французскага панавання, што ўмацавала яе міжнародны аўтарытэт.

Айчынная вайна зрабіла вялікі ўплыў і на расійскае грамадства. Перамога дасталася дарагой цаной: загінула больш за 800 тыс. чалавек. Мноства гарадоў і вёсак былі разбураны.

Пасля завяршэння вайны многія разлічвалі, што ў мірным жыцці адбудуцца змены да лепшага. Сяляне спадзяваліся на адмену прыгоннага права. Перадавыя дваране — на пераўтварэнні ў палітычным і дзяржаўным ладзе. Рускія афіцэры знаходзіліся пад уражаннем замежных паходаў. Тое, што яны ўбачылі ў Еўропе, было зусім не падобна на расійскую рэчаіснасць: параўнанне Еўропы з Расіяй было не на карысць апошняй.

Але царскі ўрад не пайшоў на рэформы. І гэта выклікала глыбокае расчараванне ў рускім грамадстве. Афіцэры сталі ствараць тайныя таварыствы, якія ставілі сваёй мэтай знішчэнне прыгонніцтва і самадзяржаўя, стварэнне прадстаўнічых органаў і абвяшчэнне рэспублікі. Пачалася падрыхтоўка да



*Паўстанне 14 снежня 1825 г. Мастак В. Ф. Цім. 1853 г.*

ваеннага перавароту сіламі арміі. Рух узначалілі П. І. Пестэль, М. М. Мураўёў, К. Ф. Рылееў і інш.

Узброенае паўстанне адбылося **14 снежня 1825 г.** у Пецярбургу. На Сенацкай плошчы сабралася каля 3 тыс. ваенных. Новаму цару Мікалаю І, які ўзышоў на трон пасля раптоўнай смерці імператара Аляксандра І, удалося лёгка падавіць паўстанне. Удзельнікаў перавароту назвалі *дзекабрыстамі*. Яны былі першымі рэвалюцыянерамі ў Расіі.

Прычынамі паражэння паўстання дзекабрыстаў сталі адсутнасць адзінства і няўзгодненасць дзеянняў. Рух не атрымаў падтрымкі з боку ўсіх пластоў грамадства. Аднак яго гістарычнае значэнне вялікае. Гэта быў першы адкрыты пратэст супраць самадзяржаўя. Паўстанне стала грозным папярэджаннем аб неабходнасці карэннай перабудовы расійскага грамадства і адмены прыгоннага права.

**4. Царстваванне Мікалая І.** Новы цар кіраваў краінай 30 гадоў (1825—1855). Яго царстваванне пачалося з расправы над дзекабрыстамі. Пяцёра кіраўнікоў руху былі пакараны смерцю, сотні ўдзельнікаў паўстання адпраўлены ў Сібір і на Каўказ.

Баючыся новых антыманархічных выступленняў, Мікалай І умацаваў паліцэйскі і бюракратычны апарат. Цар імкнуўся максімальна сканцэнтраваць усю ўладу ў сваіх руках.

Пры ім узрасла роля Асабістай яго імператарскай вялікасці канцылярыі. У 1826 г. было створана Трэцяе аддзяленне канцылярыі, якое стала органам палітычнага нагляду і вышуку. Усе дзяржаўныя органы знаходзілі-

ся пад поўным кантролем Трэцяга аддзялення. Яго выканаўчым органам быў жандарскі корпус на чале з усёмагутным генералам А. Х. Бенкендорфам. Друк, асвета і навука падвяргаліся ганенням.

Аднак ахоўна-кансерватыўная палітыка Мікалая І не змагла спыніць распаўсюджвання дэмакратычных ідэй і антыпрыгонніцкага руху.



*Імператар Мікалай І*

**5. Грамадскія рухі.** Пасля паўстання дзекабрыстаў асабліва востра паўстала пытанне «што рабіць?», г. зн. па якім шляху развіцця ісці Расіі далей. На гэту тэму ў грамадстве адбываліся пастаянныя дыскусіі.

У Расіі сфарміраваліся два кірункі грамадскай думкі: заходнікі і славянафілы.

*Заходнікі* (Ц. М. Граноўскі, С. М. Салаўёў, Б. М. Чычэрын) прызнавалі важнасць поспехаў еўрапейскай цывілізацыі і заклікалі пераймаць яе вопыт і ісці па шляху, вызначаным Пятром І. *Славянафілы* (А. С. Хамякоў, І. В. Кірэеўскі, К. С. Аксакаў), наадварот, выступалі за самабытны шлях развіцця, які адрозніваецца ад заходнееўрапейскага. Яны крытыкавалі Пятра І і не дапускалі думкі аб устанаўленні капіталізму ў Расіі, былі прыхільнікамі манархіі.

Аднак і заходнікі, і славянафілы мелі нямала агульнага. Яны былі патрыётамі, стаялі за больш хуткую адмену прыгоннага права, выступалі супраць рэвалюцыйных, г. зн. гвалтоўных, пераўтварэнняў дзяржаўнага ладу. Гэтыя кірункі рускай грамадскай думкі падрыхтавалі глебу для рэформаў 1860—1870-х гг. і дабратворна паўплывалі на развіццё навукі і культуры.

Яшчэ адной падзеяй, якая пераканала царскую ўладу ў неабходнасці сур'ёзных рэформаў, стала *Крымская вайна* **1853—1856 гг.**

У 1853 г. царскі ўрад неабдумана пачаў вайну з Турцыяй, на баку якой выступілі Вялікабрытанія і Францыя. Расійскія войскі атрымалі шэраг бліскучых перамог над туркамі. Але яны з цяжкасцю супрацьстаялі арміям наймацнейшых еўрапейскіх дзяржаў, якія ўварваліся на Крымскі паўвостраў.

Рускі парусны флот быў бяссільны супраць паравых караблёў Англіі і Францыі. З-за адсутнасці чыгунак расійскія войскі не маглі атрымліваць падмацаванне і правіянт. Вайна прадэманстравала ваенна-эканамічную адсталасць самадзяржаўнай Расіі. У выніку Расійская імперыя пацярпела паражэнне і страціла ўплыў у Чарнаморскім басейне.

**Пытанні і заданні**

1. Якімі былі тэрыторыя і насельніцтва Расіі ў першай палове XIX ст.?
2. Што ўяўляў сабой у гэты час дзяржаўны лад краіны?
3. Складзіце каляндар важнейшых падзей, якія адбыліся ў Расіі ў першай палове XIX ст.
4. У феадальным грамадстве кожнае саслоўе мела свае правы і абавязкі, якія перадаваліся ў спадчыну. У чым, на ваш погляд, заключаецца галоўнае адрозненне саслоўяў феадальнага грамадства ад класаў капіталістычнага грамадства?
5. Раскажыце аб Айчыннай вайне 1812 г. Чаму яна так называецца? У чым яе гістарычнае значэнне?
6. Хто такія дзекабрысты? Што прымусіла іх узняцца на паўстанне? Дайце ацэнку іх дзеянням.
7. Калі ў Расіі аформіліся плыні заходнікаў і славянафілаў? У чым сутнасць рознагалоссяў паміж імі? Пастарайцеся сфармуляваць свае адносіны да своеасаблівага гістарычнага развіцця Расіі.
8. Як вы разумееце выказванне гісторыка М. П. Пагодзіна: «Ранейшая сістэма аджыла свой век»?



Якім чынам уплывалі на развіццё Расіі памеры яе тэрыторыі, разнастайнасць прыродных умоў, колькасць насельніцтва, яго шматнацыянальнасць?



Ці згодны вы са сцвярджэннем аб тым, што прыгонніцкія адносіны тармазілі эканамічнае развіццё Расіі, уплывалі на ўзаемаадносіны саслоўяў, прававую свядомасць народа?



У 1842 г. на пасяджэнні Дзяржаўнага савета Мікалай I сказаў: «Няма сумнення, што прыгоннае права, у цяперашнім яго стане ў нас, ёсць зло, для ўсіх адчувальнае і відавочнае, але кранаць яго цяпер было б справай яшчэ больш гібельнай».

*Чым вы растлумачыце такую пазіцыю Мікалая I?*



У пачатку вайны 1812 г. рускі генерал-ад'ютант А. Балашоў быў накіраваны Аляксандрам I для перагавораў з Напалеонам аб спыненні ваенных дзеянняў.

Калі Напалеон спытаў у яго, якой дарогай яму ісці на Маскву, Балашоў іранічна заўважыў: «Шмат, ваша вялікасць, шляхоў: можна выбраць шлях і праз Палтаву...»

# § 17. НАВУКА І КУЛЬТУРА Ў РАСІІ Ў ПЕРШАЙ ПАЛОВЕ XIX ст.

**Успомніце**

1. У чым заключаліся асаблівасці развіцця рускай культуры XVIII ст.?
2. Дзейнасць якога выдатнага рускага вучонага вывела рускую навуку XVIII ст. на сусветны ўзровень? Як з яго імем звязана стварэнне Маскоўскага ўніверсітэта?

У першай палове XIX ст. Расія перажывала культурны і духоўны ўздым. Невыпадкова гэта стагоддзе было названа «залатым векам» рускай культуры. Асабліва моцны ўплыў на яе развіццё зрабіла Айчынная вайна 1812 г. і еўрапейскія рэвалюцыйныя ідэі.

**1. Адукацыя.** У пачатку свайго царствавання Аляксандр І прытрымліваўся палітыкі «асветнага абсалютызму». Пры ім было заснавана некалькі ўніверсітэтаў. Павялічылася колькасць студэнтаў у самай вялікай навучальнай установе краіны — Маскоўскім універсітэце.

У час праўлення Мікалая І быў адкрыты ўсяго адзін універсітэт. Цар забараніў прымаць у вышэйшыя навучальныя ўстановы дзяцей прыгонных сялян. Затое ён садзейнічаў развіццю тэхнічнай і ваеннай адукацыі. Пачалі працаваць Пецярбургскі тэхналагічны інстытут і Маскоўскае тэхнічнае вучылішча, Інжынерная і Артылерыйская акадэміі ў Пецярбургу.

Хоць і марудна, але павялічвалася колькасць сярэдніх навучальных устаноў — гімназій. Да сярэдзіны XIX ст. іх налічвалася больш за 40. Многія дваранскія дзеці атрымлівалі адукацыю ў прыватных навучальных установах — пансіёнах, а некаторых вучылі хатнія настаўнікі — гувернёры. Як правіла, гэта былі французы або немцы, і часта не вельмі адукаваныя.



*Пецярбургскі тэхналагічны інстытут*



*М. І. Пірагоў*

Пачатковую адукацыю атрымлівалі ў прыходскіх і павятовых вучылішчах. Дзе-нідзе адкрываліся школы для дзяцей з народу намаганнямі царквы, асобных памешчыкаў і ведамстваў. Але непісьменныя людзі сустракаліся нават сярод духавенства. Толькі 5 % сялян былі пісьменныя.

**2. Навука.** Вялікіх поспехаў дасягнула руская навука. Прафесар Казанскага ўніверсітэта ***Мікалай Іванавіч Лабачэўскі*** (1792—1856) стварыў новую неэўклідаву геаметрыю, якая зрабіла пераварот ва ўяўленні чалавека аб прыродзе і прасторы. У 1993 г. Расійская акадэмія навук заснавала прэмію імя М. І. Лабачэўскага.

У Казанскім універсітэце працаваў яшчэ адзін таленавіты вучоны — хімік ***Мікалай Мікалаевіч Зінін*** (1812—1880). Ён упершыню сінтэзаваў анілін і тым самым заклаў асновы вытворчасці сінтэтычных фарбавальнікаў для тэкстыльнай прамысловасці.

Вялікі ўклад у развіццё практычнай і зоркавай астраноміі ўнёс выдатны вучоны XIX ст., заснавальнік і першы дырэктар Пулкаўскай абсерваторыі ***Васіль Якаўлевіч Струвэ*** (1793—1864).

Шырока вядома ў Расіі было імя цудоўнага хірурга ***Мікалая Іванавіча Пірагова*** (1810—1881). Ён упершыню правёў аперацыю пад наркозам на полі бою, увёў нерухомую гіпсавую павязку і прапанаваў шэраг хірургічных аперацый. Дзякуючы яго ўмелым рукам тысячы параненых салдат і афіцэраў былі выратаваны ў абложаным Севастопалі ў час Крымскай вайны.

У галіне гістарычнай навукі праславіўся пісьменнік ***Мікалай Міхайлавіч Карамзін*** (1766—1826). Па даручэнні Аляксандра І ён напісаў дванаццацітомную «Гісторыю дзяржавы Расійскай» — адну з самых фундаментальных прац у расійскай гістарыяграфіі. Праца мела вялікі поспех і да гэтага часу карыстаецца папулярнасцю.

Асабліва значных поспехаў у гэты час дабілася геаграфічная навука. Яе развіццё звязана з ператварэннем Расіі ў вялікую марскую дзяржаву. У пачатку XIX ст. была ажыццёўлена першая руская кругасветная экспедыцыя. Яе ўзначалілі адмірал ***Іван Фёдаравіч Крузенштэрн*** (1770—1846) і капітан ***Юрый Фёдаравіч Лісянскі*** (1773—1837). Яшчэ адна экспедыцыя пад кіраўніцтвам ***Фадзея Фадзеевіча Белінсгаўзена*** (1778—1852) адкрыла ў 1820 г. «ледзяны мацярык» — Антарктыду і 29 астравоў у Атлантычным і Ціхім акіянах.

**3. Літаратура.** Вялікае значэнне ў развіцці рускай нацыянальнай культуры, духоўнага і грамадскага жыцця мела літаратура. У пачатку XIX ст. склалася су-

часная літаратурная мова. Як і ў Заходняй Еўропе, адбывалася змена розных літаратурных кірункаў. На мяжы XVIII—XIX стст. *класіцызм* саступіў месца **сентыменталізму**, на змену якому прыйшоў *рамантызм*.

Да першай паловы XIX ст. належыць творчасць выдатных дзеячаў рускай літаратуры. Гэта і заснавальнік рускага сентыменталізму М. М. Карамзін, і стваральнік рускага рамантызму ***Васіль Андрэевіч Жукоўскі***. У гэты ж час тварылі геніі рускай літаратуры ***Аляксандр Сяргеевіч Пушкін*** і ***Міхаіл Юр'евіч Лермантаў***. Дзякуючы іх творам руская літаратура набыла сусветную вядомасць. Нельга ўявіць літаратуру гэтага перыяду без камедыі «Рэвізор» і паэмы-рамана «Мёртвыя душы» ***Мікалая Васілевіча Гогаля***, п'есы «Гора ад розуму» ***Аляксандра Сяргеевіча Грыбаедава***. У другой чвэрці XIX ст. у літаратуры пачынае зацвярджацца *рэалізм*.

**4. Архітэктура і скульптура.** У пачатку XIX ст. пануючым стылем у рускім дойлідстве быў *класіцызм*, які зрабіў вялікі ўплыў на архітэктурны выгляд Масквы, Пецярбурга і іншых рускіх гарадоў.

У Расію класіцызм прыйшоў з Еўропы і дасягнуў найвышэйшага росквіту ў архітэктуры. Для пабудоў у стылі класіцызму характэрныя строгасць і дакладнасць, сіметрыя, урачыстая манументальнасць і стрыманы дэкор.

У Пецярбургу быў створаны цэлы ансамбль архітэктурных будынкаў у стылі класіцызму, якія па праве належаць да шэдэўраў сусветнага дойлідства.

Упрыгожаннем Пецярбурга сталі будынкі Адміралцейства (архітэктар А. Д. Захараў), Біржы і Казанскі сабор (архітэктар А. Н. Вараніхін). У 1849—1850 гг. на Неўскім праспекце былі ўстаноўлены чатыры бронзавыя скульптурныя групы — тварэнне скульптара П. К. Клота. Магутнасць і веліч самадзяржаўя ўвасабляў Ісакіеўскі сабор, які будаваўся 40 гадоў (1818—1858). Гэта



*Ісакіеўскі сабор. Акварэль. Сярэдзіна XIX ст.*



*Вялікі тэатр.*
*Літаграфія 1843 г.*

быў самы вялікі будынак, узведзены ў Расіі ў першай палове XIX ст. Завяршыў работы па фарміраванні пецярбургскіх архітэктурных ансамбляў ***Карл Іванавіч Росі*** (1775—1849).

Маскоўскі класіцызм, у адрозненне ад пецярбургскага, быў прадстаўлены не ансамблямі, а асобнымі будынкамі: Вялікага тэатра, Манежа і інш.

**5. Жывапіс.** Класіцызм у жывапісе, арыентаваны на біблейскія і міфалагічныя сюжэты, у пачатку XIX ст. паволі пачаў саступаць лідзіруючыя пазіцыі ў выяўленчым мастацтве, хоць і заставаўся афіцыйна прызнаным. У гэты перыяд пачаў устанаўлівацца рамантычны кірунак.

Вяршыняй акадэмічнага жывапісу стала творчасць ***Аляксандра Андрэевіча Іванава*** (1806—1858). Усю моц свайго таленту ён уклаў у карціну «Яўленне Хрыста народу», над якой працаваў 20 гадоў.

Работы ***Карла Паўлавіча Брулова*** (1799—1852) унеслі ў жывапіс рускага класіцызму струмень рамантызму. Самая вядомая карціна мастака «Апошні дзень Пампеі» напоўнена напружанымі і драматычнымі перажываннямі.



*А. А. Іванаў.*
*Яўленне Хрыста народу.*
*1837—1857 гг.*



*К. П. Брулоў. Апошні дзень Пампеі. 1833 г.*

Характэрная рыса рамантызму — пільная ўвага да чалавека і яго ўнутранага свету. Гэта абумовіла развіццё партрэтнага жанру. У партрэтах ***Васіля Андрэевіча Трапініна*** (1776—1857) і ***Арэста Адамавіча Кіпрэнскага*** (1782—1836) пераважае рамантычная цеплыня і мяккасць. Пэндзлю майстроў належаць таксама два прыжыццёвыя партрэты А. С. Пушкіна. Творчасць ***Паўла Андрэевіча Фядотава*** (1815—1852) паклала пачатак развіццю крытычнага рэалізму ў выяўленчым мастацтве.



*П. А. Фядотаў. Свежы кавалер. (Раніца чыноўніка, які атрымаў першы крыжык). 1846 г.*

У першай палове XIX ст. карціны, як правіла, траплялі ў прыватныя калекцыі або асядалі ў запасніках Акадэміі мастацтваў. Таму яны былі маладаступныя для публікі. У 1852 г. адчыніў свае дзверы для наведвальнікаў Эрмітаж. Збор мастацкіх скарбаў царскага палаца быўператвораны ў сапраўдны музей, які маглі наведваць усе, хто жадаў.

**6. Тэатр і музыка.** У тэатральным жыцці Расіі вялікую ролю па-ранейшаму адыгрывалі прыгон-

ныя тэатры. Некаторыя памешчыкі ператваралі іх у агульнадаступныя. Там выступалі як прыгонныя, так і вольнанаёмныя артысты. Такія тэатры былі ў Пензе, Казані і іншых гарадах. Таленавітыя рускія артысты ***Міхаіл Сямёнавіч Шчэпкін*** (1788—1863) і ***Павел Сцяпанавіч Мачалаў*** (1800—1848) былі па паходжанні прыгоннымі і пачыналі сваю кар'еру ў прыгонным тэатры.

Яркай падзеяй у тэатральным жыцці стала пастаноўка п'есы М. В. Гогаля «Рэвізор» спачатку ў пецярбургскім Аляксандраўскім тэатры, а затым у маскоўскім Малым тэатры. Цяжкім было праходжанне «Рэвізора» праз **цэнзуру**. Толькі ўмяшанне Мікалая I дало магчымасць паставіць камедыю. Ролю Гараднічага сыграў М. С. Шчэпкін. Пасля прагляду спектакля Мікалай I зазначыў: «Усім дасталося, а мне — больш за ўсіх!»

У 1836 г. на сцэне маскоўскага Вялікага тэатра адбылася прэм'ера оперы ***Міхаіла Іванавіча Глінкі*** (1804—1857) «Жыццё за цара». У далейшым яна ішла пад назвай «Іван Сусанін». З творчасцю М. І. Глінкі руская музычная школа ўзнялася на новую вышыню. Музыка Глінкі была прасякнута пачуццём глыбокай любові да сваёй радзімы. Яму належаць не толькі оперныя і сімфанічныя творы, але і рамансы. Самы знакаміты — «Я помню дзіўнае імгненне» — напісаны на верш А. С. Пушкіна.

**Пытанні і заданні**

1. Хто і якім чынам мог атрымаць адукацыю ў Расіі ў першай палове XIX ст.? Як вы думаеце, ці давала адукацыя якія-небудзь перавагі людзям недваранскага паходжання?
2. Раскажыце аб дасягненнях рускіх вучоных першай паловы XIX ст.
3. Назавіце асноўныя плыні (кірункі, стылі) у літаратуры і мастацтве Расіі ў першай палове XIX ст.
4. Падрыхтуйце паведамленне пра аднаго са знакамітых пісьменнікаў, мастакоў, скульптараў, архітэктараў, артыстаў.
5. Чаму М. І. Глінка лічыцца родапачынальнікам рускай нацыянальнай музыкі?
6. Першая палова XIX ст. у гісторыі Расіі атрымала назву «залатога веку» рускай культуры. Пастарайцеся растлумачыць, чаму.
7. Прадоўжыце запаўненне табліцы «Развіццё сусветнай навукі і культуры ў XIX — пачатку XX ст.» (с. 72).



Сучаснік А. С. Пушкіна рускі паэт М. І. Гнедзіч гаварыў: «Каб валодаць з ганарам пяром, трэба мець больш мужнасці, чым валодаць мячом».

*Ці згодны вы з такім выказваннем паэта? Ці актуальныя сёння словы М. І. Гнедзіча?*



Як вы разумееце словы М. Горкага пра А. С. Пушкіна: «Ён у нас — пачатак усіх пачаткаў»; словы М. В. Гогаля: «Пушкін ёсць з'ява надзвычайная... можа, адзіная з'ява рускага духу»? Рускі філосаф XX ст. М. А. Бярдзяеў назваў А. С. Пушкіна «рэнесансным чалавекам».

*Што ў асобе і творчасці вялікага паэта дазваляе вам ці згадзіцца з гэтымі сцвярджэннямі, ці запярэчыць?*



Калі ў 1820 г. вядомы скульптар Б. Торвальдсен вылепіў бюст Аляксандра І, то многім кінулася ў вочы дзіўная неадпаведнасць грозна насупленага чала і вуснаў, якія мядова ўсміхаюцца. А. С. Пушкін наконт гэтага пісаў:

*Тут скульптар без памылкі дзеіў,*
*Зрабіў дакладна, як было:*
*Усмешкай вусны саладзеюць,*
*А гнеў заледзяніў чало.*
*Аблічча сведчыць красамоўна,*
*Які быў гэты валадар:*
*Заўжды падступны, шматсэнсоўны,*
*У твары і ў жыцці фігляр.*

## § 18. УНУТРАНАЯ І ЗНЕШНЯЯ ПАЛІТЫКА РАСІІ Ў ДРУГОЙ ПАЛОВЕ XIX ст.

**Успомніце**

1. Раскажыце аб саслоўнай структуры расійскага грамадства ў першай палове XIX ст.
2. Хто выступаў за адмену прыгоннага права ў Расіі?
3. Якія падзеі падштурхнулі царскую ўладу да правядзення сур'ёзных рэформаў?

Пасля паражэння ў Крымскай вайне царскі ўрад правёў рэформы ў розных сферах жыцця грамадства і дзяржавы. Рэформы **1860—1870-х гг.** былі названы «вялікімі» і сталі важнай вяхой у расійскай гісторыі XIX ст.

**1. Праўленне Аляксандра II (1855—1881).** Год 1855-ы быў асабліва цяжкім для Расіі. Памёр цар Мікалай І. Руская армія цярпела паражэнне ў Крыме. Дзяржаўная казна была пустая, а ў вёсках наспявала глухое незадавальненне. Многія дваране таксама былі незадаволены ўрадам. «Уверсе бляск, унізе гніль», — пісаў пра царскіх **чыноўнікаў** адзін з вышэйшых саноўнікаў.



*Імператар Аляксандр II*

Разумеў гэта і паміраючы цар. Ён сказаў на развітанне свайму сыну, наследніку прастола: «Здаю табе каманду не ў парадку». Перад ***Аляксандрам II***, які ўзышоў на трон, паўстала нялёгкая задача кіравання краінай, у якой усё яшчэ захоўвалася амаль рабская залежнасць сялян ад памешчыкаў.

Аляксандр II атрымаў добрую адукацыю. Яго выхавальнікам быў знакаміты рускі паэт В. А. Жукоўскі. Новы цар не быў ні рэфарматарам, ні кансерватарам. У адрозненне ад свайго бацькі, ён не меў цвёрдага характару, але быў паслядоўным абаронцам інтарэсаў дваранства. Пры гэтым ён разумеў неабходнасць пераўтварэнняў, і перш за ўсё вызвалення сялян ад прыгоннай залежнасці. Невыпадкова пасля яго прыходу да ўлады ў рускім грамадстве загаварылі пра «адлігу».

Праз некалькі гадоў у краіне былі праведзены рэформы, і найважнейшай з іх стала сялянская.

**2. Адмена прыгоннага права.** Урад старанна рыхтаваўся да адмены прыгоннага права. Для вырашэння сялянскага пытання быў створаны Сакрэтны камітэт. Яго ўзначаліў вялікі князь Канстанцін Мікалаевіч, які прытрымліваўся ліберальных поглядаў. Акрамя таго, на месцах ствараліся дваранскія губернскія камітэты. Дваране прапаноўвалі розныя праекты вызвалення сялян, якія перадавалі затым у галоўны камітэт. Такім чынам, лёс сялян поўнасцю залежаў ад тых, хто валодаў імі.



*Збор нядоімак. Мастак А. І. Карзухін. 1868 г.*

**19 лютага 1861 г.** Аляксандр II падпісаў *Маніфест аб адмене прыгоннага права* ў Расіі. Сяляне атрымлівалі асабістую свабоду. Цяпер яны маглі пакідаць свае вёскі і пераязджаць у горад. Сяляне вызваляліся ад прыгоннай залежнасці разам з зямлёй. Але за гэта павінны былі часова адбываць ранейшыя феадальныя павіннасці: выплачваць аброк і адпрацоўваць паншчыну. І толькі потым сяляне маглі выкупіць свой зямельны ўчастак. Лепшыя землі заставаліся ў памешчыкаў.

Такім чынам, рэформа была праведзена памешчыкамі і ў інтарэсах памешчыкаў. Не здзіўляе тое, што сяляне былі расчараваны. Па Расіі пракацілася хваля сялянскіх выступленняў і бунтаў. Улады бязлітасна падаўлялі хваляванні сялян. Напрыклад, у вёсцы Бездна Казанскай губерні войскі, якія прыбылі, адкрылі агонь па паўстанцах і забілі больш як 90 чалавек.

Нягледзячы на захаванне буйнога памешчыцкага землеўладання, сялянская рэформа, якая прынесла вызваленне з зямлёй 23 млн памешчыцкіх сялян, стала ўнікальнай падзеяй не толькі ў рускай, але і ў сусветнай гісторыі.

**3. Рэформа мясцовага кіравання.** Пасля адмены прыгоннага права ўлады пачалі фарміраванне органаў мясцовага самакіравання. У 1864 г. была праведзена *земская рэформа*. У адпаведнасці з ёй у паветах і губернях ствараліся *земствы*, або *земскія ўстановы*. Яны складаліся з распарадчых органаў — *павятовых* або *губернскіх земскіх сходаў* і выканаўчых органаў — *павятовых* ці *губернскіх упраў*. І тыя, і іншыя выбіраліся пераважна з ліку буйных землеўладальнікаў, гарадскіх уласнікаў і прадстаўнікоў сельскай абшчыны. Таму ў земствах пераважалі дваране-памешчыкі.

Земскія ўстановы займаліся выключна гаспадарчымі пытаннямі: уладкаваннем і абслугоўваннем шляхоў зносін, пошты, школ, бальніц. Акрамя



*Земскі сход у правінцыі. Гравюра 1865 г.*

таго, яны ўтрымлівалі на сваім жалаванні (па найме) урачоў, настаўнікаў, аграномаў і іншых служачых. Хоць і марудна, земствы паляпшалі жыццё ў вёсцы, садзейнічалі развіццю асветы і медыцыны, мясцовага гандлю і прамысловасці. Іх работа была патрэбнай і карыснай для грамадства.

Паступова земствы ператварыліся ў ачагі грамадскай дзейнасці ліберальна настроенага дваранства. Лібералы марылі аб стварэнні ў Расіі прадстаўнічых органаў улады.

У 1870 г. была праведзена *рэформа гарадскога самакіравання*. У гарадах Расіі сталі выбіраць гарадскія думы (тэрмінам на 4 гады). У выбарах маглі прымаць удзел толькі гарадскія ўласнікі. Тыя, хто не плаціў гарадскі падатак, — рабочыя, інтэлігенцыя і служачыя — не ўдзельнічалі ў выбарах. Дума выбірала гарадскога галаву і гарадскую ўправу. Як і земствы, органы гарадскога самакіравання займаліся толькі гаспадарчымі пытаннямі.

**4. Судовая рэформа 1864 г.** Судовая рэформа была самая дэмакратычная. Яна абвяшчала незалежнасць суда ад адміністрацыі (г. зн. суддзя мог быць звольнены са сваёй пасады толькі па судзе) і нязменнасць суддзяў. Старыя саслоўныя суды ліквідаваліся. Папярэдняе следства праводзілі судовыя следчыя, не падпарадкаваныя паліцыі. Суд аб'яўляўся *ўсесаслоўным*, г. зн. адзіным і роўным для ўсіх саслоўяў.

Уводзілася галоснасць судаводства. Гэта азначала, што на судовых пасяджэннях маглі прысутнічаць усе, хто жадаў. Пры разглядзе абставін той або іншай судовай справы пракурор абвінавачваў падсуднага, а прысяжны паверанны (адвакат) абараняў яго. Канчатковае рашэнне па справе выносілі прысяжныя засядацелі ад усіх саслоўяў, у тым ліку і ад сялян, якія выбіраліся шляхам жэрабя. Рашэнне прысяжных з'яўлялася абавязковым для суддзі.

**5. Ваенная рэформа.** Паражэнне ў Крымскай вайне паказала ваенную і тэхнічную адсталасць расійскай арміі. Таму ў Расіі была праведзена серыя ваенных пераўтварэнняў. У 1874 г. замест рэкруцкіх набораў была ўведзена *ўсеагульная воінская павіннасць*.

Служба ў арміі распаўсюджвалася на ўсё мужчынскае насельніцтва, незалежна ад саслоўя.

Тэрмін службы ў сухапутных войсках складаў 6 гадоў, на флоце — 7. У арміі былі адменены цялесныя пакаранні. Адкрыліся новыя ваенныя вучылішчы, і прадстаўнікі розных саслоўяў атрымалі магчымасць прасоўвацца па службе. У армію сталі пастаўляцца новыя ўзоры зброі. Усё гэта садзейнічала ўмацаванню баяздольнасці расійскай арміі.

**6. Рэформы ў галіне адукацыі і асветы.** Аляксандр II значна палепшыў сістэму адукацыі. Універсітэты атрымалі шырокае самакіраванне, або ўнутраную аўтаномію. Саветы прафесараў маглі выбіраць на вакантныя пасады любога выкладчыка ўніверсітэта.

Прадстаўнікі ўсіх саслоўяў і рэлігій атрымлівалі фармальную роўнасць у сярэдняй адукацыі. Была пашырана сетка народных вучылішчаў, змякчаны цэнзурны кантроль над выдавецкай дзейнасцю. Палітычныя і сацыяльныя пытанні маглі свабодна абмяркоўвацца на старонках перыядычных выданняў.

Нягледзячы на абмежаванасць і незавершанасць, рэформы 1860—1870-х гг. мелі станоўчае значэнне. Яны стваралі ў краіне ўмовы для развіцця буржуазна-капіталістычных адносін.

**7. Знешняя палітыка Расіі ў другой палове XIX ст.** *Крымская вайна (1853—1856).* Прычынай вайны стала жаданне Расіі вырашыць «усходняе пытанне». Мікалай I памылкова ацаніў міжнародную сітуацыю, палічыўшы, што Еўропа не будзе перашкаджаць у вайне з Турцыяй. У 1853 г. рускія войскі нанеслі паражэнне турэцкай арміі на Балканах і на Каўказе. Але ўжо ў сакавіку 1854 г. на баку Турцыі ў вайну ўступілі Вялікабрытанія і Францыя. Асноўныя баявыя дзеянні разгарнуліся на Крымскім паўвостраве. Расія ўшчэнт прайграла вайну. Паводле Парыжскага мірнага дагавора яна пазбавілася права на Чарнаморскі флот, а частка Бесарабіі адыходзіла да Малдаўскага княства. У выніку вайны Расія страціла магчымасць весці актыўную знешнюю палітыку на Балканах і Блізкім Усходзе.

*Руска-турэцкая вайна 1877—1878 гг.* У 1870-я гг. рэвалюцыйны рух ахапіў Балгарыю, Боснію і Герцагавіну, якія ўваходзілі ў склад Асманскай імперыі. Расія падтрымала славян, што прывяло да чарговай руска-турэцкай вайны **1877—1878 гг.** Руская армія разбіла турэцкую і падышла да самага Канстанцінопаля (Стамбула). Паводле ўмоў мірнага дагавора Сербія і Румынія атрымалі поўную незалежнасць, а Балгарыя — аўтаномію. Дагавор выклікаў рэзкае незадавальненне ўрадаў Вялікабрытаніі і Аўстра-Венгрыі. Па іх патрабаванні ўмовы міру былі перагледжаны ў горшы для Расіі бок.

*Утварэнне ваенных блокаў і Расія.* У 1879 г. Германія заключыла ваенны саюз з Аўстра-Венгрыяй, у 1882 г. да іх далучылася Італія. Так утварыўся *Траісты саюз* — ваенна-палітычны блок, скіраваны супраць Францыі і Расіі. Стварэнне Траістага саюза паклала пачатак падзелу Еўропы на варожыя лагеры.

У адказ Расія ў 1891—1893 гг. пайшла на ваенны саюз з Францыяй. У 1904 г. быў падпісаны ваенны саюз Францыі і Вялікабрытаніі — «Антантэ кардыя-

*Расійская імперыя ў XIX ст.*

ле», што ў перакладзе з французскай мовы абазначае «сардэчная згода», а ў 1907 г. — саюз Расіі і Вялікабрытаніі. Узнік блок *Антанта*. Пазней барацьба двух блокаў прывяла да Першай сусветнай вайны.

*Далучэнне Сярэдняй Азіі.* Тэкстыльнай прамысловасці Расіі была неабходна бавоўна. Але ў сувязі з Грамадзянскай вайной у ЗША дастаўка бавоўны ў Расію значна скарацілася. Узнікла неабходнасць у новых крыніцах сыравіны.

Расійскія войскі рушылі ў Сярэднюю Азію. У 1864 г. яны захапілі Чымкент, а ў 1865 г. — Ташкент. Утварылася Туркменскае генерал-губернатарства. У 1868 г. да Расіі далучыліся Какандскае ханства і Бухарскі эмірат, быў заваяваны Самарканд. У 1873 г. у яе склад увайшло Хівінскае ханства, у 1884—1895 гг. — Туркменія. Далучаныя землі хутка асвойваліся: будаваліся бавоўнаачышчальныя прадпрыемствы, чыгунка Краснаводск—Андыжан.

**Пытанні і заданні**

1. Растлумачце, у чым заключалася гістарычная неабходнасць правядзення рэформаў у Расіі ў сярэдзіне XIX ст.

2. Запоўніце табліцу «Буржуазныя рэформы 1860—1870-х гг.».

| Назва рэформы | Год яе правядзення | Мэта | Асноўны змест |
|---|---|---|---|
| Сялянская | | | |
| Земская | | | |
| Гарадскога самакіравання | | | |
| Судовая | | | |
| Ваенная | | | |
| У галіне адукацыі і асветы | | | |

Падумайце, які вывад можна зрабіць на падставе зместу табліцы.

3. Падрыхтуйце паведамленне аб дзяржаўнай дзейнасці Аляксандра II.

4. Ахарактарызуйце асноўныя кірункі знешняй палітыкі Расіі ў другой палове XIX ст.

5. Дайце ацэнку вынікам руска-турэцкай вайны 1877—1878 гг. для славянскіх народаў.



У паэме М. А. Някрасава «Каму на Русі жыць добра» ёсць такая ацэнка рэформы 1861 г.: «Сышло вязьмо спрадвечнае, Парвалася сталёвае: Канцом па пану ўдарыла, Другім — па мужыку!..»

*Растлумачце, як вы разумееце гэтыя словы.*



24 студзеня 1878 г. маладая рэвалюцыянерка Вера Засуліч цяжка параніла пецярбургскага граданачальніка генерала Ф. Трэпава, які загадаў пакараць розгамі палітычнага зняволенага, бо той не зняў пры сустрэчы з ім свой галаўны ўбор. Справа В. Засуліч слухалася ў судзе прысяжных. Нягледзячы на ціск з боку вышэйшых чыноў і нават самога цара, 31 сакавіка суд апраўдаў падсудную. Тут жа яна была вызвалена з-пад варты.

*Як вы думаеце, чаму? Дайце ацэнку ўчынку В. Засуліч.*



Аляксандр II у юнацтве, яшчэ да таго як стаў царом, быў заўзятым паляўнічым і, вядома ж, не мог пакінуць без увагі «Запіскі паляўнічага» І. С. Тургенева, якія выйшлі ў 1847 г. Пазней ён гаварыў, што менавіта гэта кніга пераканала яго ў неабходнасці адмены прыгоннага права.

## § 19. РЭВАЛЮЦЫЙНЫ РУХ І ПАЛІТЫКА САМАДЗЯРЖАЎЯ

**Успомніце**

1. Якія рэвалюцыі і рэформы вядомыя вам з раней вывучанага матэрыялу па сусветнай гісторыі?
2. Якія праблемы ў жыцці расійскага грамадства патрабавалі вырашэння пасля адмены прыгоннага права?

Далёка не ўсіх задаволілі рэформы Аляксандра II. Асабліва незадаволенымі былі сяляне. Яны атрымалі свабоду, але пры гэтым адбывалі ранейшыя феадальныя павіннасці. Наракалі многія *лібералы*, якія настойвалі на ўвядзенні канстытуцыі і выбарнай заканадаўчай улады. Яшчэ большых змен патрабавалі **радыкалы**, або рэвалюцыянеры. Яны знаходзіліся пад уплывам сацыялістычных ідэй, што актыўна пранікалі ў Расію з Заходняй Еўропы, і адкрыта выступалі супраць самадзяржаўнай улады.

**1. Народнікі.** Самым рэвалюцыйным у 1870-я гг. быў рух **народнікаў**. Яго аснову складалі прадстаўнікі разначыннай інтэлігенцыі: выхадцы з сялян, мяшчан, духавенства і збяднелага дваранства. Ля вытокаў руху стаялі ***Аляксандр Іванавіч Герцэн*** (1812—1870) і ***Мікалай Гаўрылавіч Чарнышэўскі*** (1828—1889).

Народнікі выступалі супраць перажыткаў прыгонніцтва і капіталістычнага шляху развіцця Расіі. Яны верылі, што ў Расіі свой, самабытны шлях да сацыялізму, што сацыялістычнае грамадства можна пабудаваць, абмінаючы капіталістычную стадыю. Народнікі ідэалізавалі селяніна: для іх ён быў сацыялістам і рэвалюцыянерам па самой сваёй прыродзе. Але галоўнай рэвалюцыйнай сілай яны лічылі інтэлігенцыю, за якой павінны слепа ісці сяляне.

У народнікаў была адна мэта — звяржэнне самадзяржаўя і стварэнне сацыялістычнага грамадства. А вось шляхі яе дасягнення былі рознымі. Зыходзячы з гэтага, у рускім народніцтве склаліся тры асноўныя кірункі.

Прыхільнікі першага лічылі, што рускі народ не гатовы да сацыялістычнай рэвалюцыі. Таму трэба падрыхтаваць яго да ўспрыняцця новых ідэй шляхам прапаганды і тлумачэння (*прапагандысцкі кірунак*).

Прадстаўнікі другога кірунку заклікалі інтэлігенцыю «ісці ў народ», каб узняць сялян на бунт і паўстанне (*бунтарскі кірунак*).

Прыхільнікі трэцяга сцвярджалі, што народ няздольны да самастойных дзеянняў. Значыць, толькі невялікая група спецыяльна падрыхтаваных рэва-



*Арышт прапагандыста. Мастак I. Я. Рэпін. 1880—1892 гг.*

люцыянераў можа звергнуць царскі рэжым і пачаць сацыялістычныя пераўтварэнні (*змоўніцкі кірунак*).

Нягледзячы на адрозненні ў прапанаваных формах барацьбы, усе гэтыя кірункі аб'ядноўвала прызнанне рэвалюцыі адзіным шляхам вызвалення народа.

**2. «Хаджэнне ў народ».** Яшчэ ў пачатку 1860-х гг. А. І. Герцэн звярнуўся з заклікам да рускіх рэвалюцыянераў «ісці ў народ». Вясной **1874 г.** сотні інтэлігентаў-разначынцаў — настаўнікаў, урачоў і раменнікаў адправіліся ў расійскія вёскі і сёлы. Дастаткова пачаць агітацыю, лічылі яны, і народ узнімецца на паўстанне. Так пачалося знакамітае «хаджэнне ў народ». Тады ж з'явіліся тэрміны «народнікі» і «народніцтва».

Народнікі жылі і працавалі сярод сялян, крытыкавалі царскую ўладу і заклікалі да паўстання супраць яе. Але сяляне з цяжкасцю разумелі тое, аб чым гаварылі гэтыя адукаваныя людзі, і нярэдка выдавалі іх паліцыі. Царскі ўрад лёгка расправіўся з «бунтаўшчыкамі». У расійскіх губернях паліцыя арыштавала тысячы рэвалюцыянераў — асноўныя сілы руху народнікаў былі разгромлены.

**3. «Народная воля».** Правал «хаджэння ў народ» і ўрадавыя рэпрэсіі прымусілі некаторых народнікаў перайсці да тэрарыстычных метадаў барацьбы. Члены рэвалюцыйнай арганізацыі «Народная воля», якая ўзнікла ў 1879 г., распрацавалі план царазабойства. У перыяд з 1866 па 1880 г. было здзейснена сем спроб замаху на жыццё цара. Чарговая спроба скончылася трагедыяй. Халодным сакавіцкім днём 1881 г. на адной з вуліц Санкт-Пецярбурга тэрарысты-нарадавольцы кінулі дзве бомбы ў імператарскую карэту. Адна трапіла ў ахову, другая смяротна параніла цара.



*Замах на жыццё імператара Аляксандра II*

Так скончылася эпоха Аляксандра II, або «цара-вызваліцеля», як яго сталі называць у народзе пасля адмены прыгоннага права.

**4. Рэакцыя.** На забойства бацькі імператар ***Аляксандр III*** (1881—1894) адказаў бязлітаснай расправай. Пяцёра нарадавольцаў былі публічна павешаны, а іх арганізацыя разгромлена. Аляксандр III выступіў з Маніфестам аб умацаванні самадзяржаўя. Гэта значыла, што эпосе рэформаў прыйшоў канец і пачаўся пераход да рэакцыі. Цар узмацніў уладу тайнай паліцыі, аднавіў строгую цэнзуру і высылаў «бунтаўшчыкоў» на **катаргу** ў Сібір. У сваёй палітыцы ён спадзяваўся на найбліжэйшага саветніка і свайго былога выхавальніка К. П. Пабеданосцава, які лічыўся лютым праціўнікам дэмакратыі і канстытуцыйнага праўлення.



*Імператар Аляксандр III*

Аляксандр III таксама ініцыяваў кампанію русіфікацыі, накіраваную на ўмацаванне самадзяржаўя. Цар настойваў на адной мове — рускай, і на адной царкве — Рускай праваслаўнай. Такая палітыка ў сапраўднасці аслабляла расійскую шматнацыянальную дзяржаву.

**5. Рабочы рух.** Пасля рэформы 1861 г. і з развіццём прамысловасці ў Расіі ўзнікла асаблівая сацыяльная група — *рабочы клас*, або *пралетарыят*. Яго рады папаўняліся за кошт сялян і рамеснікаў, якія разараліся. Умовы працы і быту прамысловых рабочых былі вельмі цяжкімі. Працягласць рабо-

чага дня складала 13—14 гадзін. Заработнай платы ледзь хапала, каб зводзіць канцы з канцамі. Большасць рабочых пражывала ў душных неўладкаваных фабрычных казармах.

Рабочыя змагаліся за паляпшэнне свайго становішча. З 1870-х гг. асноўнай формай барацьбы сталі *забастоўкі*. Як правіла, яны насілі эканамічны характар: галоўным патрабаваннем было павышэнне зарплаты. Але ў хуткім часе ўзніклі і першыя палітычныя арганізацыі — *саюзы расійскіх рабочых*, якія ўзначалілі рабочыя-рэвалюцыянеры Я. В. Заслаўскі, В. П. Абнорскі, С. М. Халтурын. Праграма арганізацый прадугледжвала барацьбу за «вызваленне ад прыгнёту капіталу і прывілеяваных класаў».

**6. Марозаўская стачка.** Урад з трывогай сачыў за ростам рабочага руху. Ужо ў 1870 г. ён выдаў спецыяльны цыркуляр (указ), накіраваны супраць забастоўшчыкаў. Але гэта не спыніла стачачнай барацьбы. У студзені **1885 г.** пачалася стачка на буйнейшай мануфактурнай фабрыцы ў Арэхава-Зуеве, якая належала фабрыканту Ц. С. Марозаву. Марозаўская стачка перарасла ў сапраўдны бунт: рабочыя разграмілі харчовую краму, кватэры дырэктара і некаторых майстроў, фабрычныя памяшканні.

У горад былі прысланы войскі, прыбыў губернатар. Рабочыя-актывісты былі арыштаваны і аддадзены пад суд. Аднак на судовым працэсе выявіліся настолькі абуральныя факты прыгнёту на фабрыцы, што прысяжныя засядацелі прызналі ўдзельнікаў стачкі невінаватымі. Апасаючыся новых хваляванняў, урад прыняў у 1886 г. антырабочы закон аб стачках. Цяпер удзел у забастоўцы караўся арыштам тэрмінам на 1 месяц і вялікім штрафам. Разам з тым быў прыняты шэраг законаў, якія рэгулявалі адносіны паміж прадпрымальнікамі і рабочымі.

**7. Пачатак марксісцкага руху.** Пад уплывам еўрапейскага рабочага руху ў Расіі пачалі ўзнікаць марксісцкія арганізацыі. Першай была група «Вызваленне працы», створаная ***Г. В. Пляханавым*** у 1883 г. у Жэневе. Затым з'явіліся іншыя марксісцкія групы і гурткі. Яны ставілі сваёй мэтай распаўсюджванне ідэй К. Маркса ў Расіі і стварэнне рэвалюцыйнай рабочай партыі. Але гэтыя арганізацыі былі занадта далёкія ад масавага рабочага руху і не змаглі заснаваць рабочую партыю.

**8. Узнікненне расійскай сацыял-дэмакратыі.** Новы этап у развіцці рабочага руху звязаны з імем ***Уладзіміра Ільіча Ульянава (Леніна)*** (1870—1924). Ён прапанаваў перайсці ад прапаганды марксізму да палітычнай агітацыі сярод рабочых і стварэння адзінай рабочай партыі. У 1895 г. усе марксісцкія арганізацыі аб'ядналіся ў *Пецярбургскі «Саюз барацьбы за вызваленне рабочага класа»*. А ў **сакавіку 1898 г.** у Мінску адбыўся І з'езд *Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі (РСДРП)*.



*У. І. Ленін (у цэнтры) сярод кіраўнікоў Пецярбургскага «Саюза барацьбы за вызваленне рабочага класа»*

Праграма партыі, прынятая на II з'ездзе ў 1903 г., прадугледжвала звяржэнне самадзяржаўнай улады, устанаўленне дэмакратычнай рэспублікі, увядзенне 8-гадзіннага рабочага дня і надзяленне сялян зямлёй. Канчатковай мэтай абвяшчалася здзяйсненне сацыялістычнай рэвалюцыі і ўстанаўленне дыктатуры пралетарыяту.

У. І. Ленін і створаная ім партыя ўзначалілі рэвалюцыйны рух і адыгралі вырашальную ролю ў Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г.

**Пытанні і заданні**

1. Чаму рэвалюцыянераў 1870-х гг. называлі народнікамі? Якія ідэалы яны прапаведавалі?
2. Назавіце прычыны, якія схілілі народнікаў перайсці да тэрарыстычных метадаў барацьбы супраць самадзяржаўя.
3. Падумайце, ці можна лічыць народніцтва асаблівай з'явай грамадскага жыцця Расіі, ці яно характэрна і для іншых краін.
4. Дайце ацэнку ўнутранай палітыцы Аляксандра III.
5. Раскажыце аб рабочым руху ў Расіі пасля рэформы 1861 г. Параўнайце яго з рабочым рухам у еўрапейскіх краінах.
6. Аб чым сведчыла ўзнікненне марксісцкага руху ў Расіі і стварэнне Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі?



Пасля забойства Аляксандра II яго наследніку прынеслі пракламацыю народавольцаў, у якой гаварылася: «Два гады намаганняў і цяжкіх ахвяр увянчаліся

поспехам. Цяпер уся Расія можа пераканацца, што настойлівае і ўпартае вядзенне барацьбы здольна зламаць нават векавы дэспатызм Раманавых». Прачытаўшы яе, Аляксандр III сказаў: «Я дрэнна ведаю гісторыю, але гэтыя бомбакідальнікі, здаецца, ведаюць яе горай за мяне».

*Раскажыце пра магчымыя шляхі развіцця Расіі на мяжы XIX—XX стст. Чаму краіна абрала рэвалюцыйны шлях, а рэформы не дасягнулі сваёй мэты?*



Соф'я Львоўна Пяроўская (1853—1881) была генеральскай дачкой, з 19 гадоў уключылася ў рэвалюцыйную барацьбу. Смелая да безразважнасці, Соф'я першая ішла на выкананне самых небяспечных даручэнняў. Нарадавольцы спяшаліся ажыццявіць апошні замах на жыццё цара, які падрыхтавалі з асаблівай стараннасцю. Кіраванне па правядзенні аперацыі ўзяла на сябе Пяроўская. Яна спакойна расстаўляла кідальнікаў, чарціла план і паказвала, дзе ім станавіцца. Жанчына зрабілася душою змовы, бегла глядзець на яе вынікі і любавалася справай рук сваіх...



...1 сакавіка 1881 г. І. Грынявіцкі кінуў бомбу ў Аляксандра II, калі імператар знаходзіўся ў акружэнні людзей. Ад выбуху пацярпеў 14-гадовы хлопчык Мікалай Захараў, які памёр у ваенным шпіталі ад пранікальнага асколачнага ранення ў галаву...

Гэты тэрарыстычны акт адбыўся менавіта тады, калі імператар Аляксандр II збіраўся склікаць передпарламент — заканадарадчы орган.

## § 20. РАСІЯ НА МЯЖЫ СТАГОДДЗЯЎ

**Успомніце**

1. Раскажыце, што ўяўляе сабой «амерыканскі шлях» развіцця капіталізму ў сельскай гаспадарцы.
2. Як называецца працэс стварэння буйной машыннай вытворчасці ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі?

У канцы XIX ст. Расія перажывала бурны эканамічны ўздым. Адбываліся важныя змены і ў сацыяльнай структуры грамадства. З'явіліся новыя класы і сацыяльныя групы. Аднак, нягледзячы на эканамічны прагрэс і небывалыя тэмпы развіцця, Расія істотна адставала ад развітых еўрапейскіх краін у тэхналагічных адносінах.



*Імператар Мікалай II*

У 1894 г. на прастол узышоў апошні расійскі імператар ***Мікалай II***. Яго царстваванне пачалося з трагедыі. У час пышнай каранацыі, якая праходзіла на Хадынскім полі ў Маскве, у страшнай цісканіне загінула больш як тысяча чалавек. Гэта было нядобрым знакам. «З чаго пачалося праўленне Мікалая II — тым і закончыцца», — гаварылі рускія рэвалюцыянеры.

**1. Развіццё прамысловасці**. Адмена прыгоннага права садзейнічала развіццю прамысловасці. У 1880-я гг. у Расіі завяршыўся прамысловы пераварот, што пачаўся ў 1830—1840-я гг. Настаў час *індустрыялізацыі* — узмоцненага развіцця прамысловасці і ператварэння яе ў асноўную галіну эканомікі. Выкарыстанне вопыту і тэхнічных дасягненняў перадавых дзяржаў дало магчымасць Расіі дасягнуць самых высокіх у свеце тэмпаў прамысловага росту.

Важным паказчыкам эканамічнага ўздыму краіны было будаўніцтва чыгунак. Пасля Крымскай вайны Расія пракладвала іх больш і хутчэй, чым іншыя еўрапейскія краіны. У канцы 1860-х гг. быў створаны спецыяльны фонд развіцця чыгуначнага будаўніцтва, які складаўся з дзяржаўнага, прыватнага і замежнага капіталу. Сам Аляксандр III валодаў акцыямі чыгунак. Асаблівае значэнне мелі чыгункі, які злучылі Маскву і Ніжні Ноўгарад, вугальны Данбас з Крывarожжам (Кацярынінская чыгунка), парты Чорнага і Балтыйскага мораў. У 1891 г. пачалося будаўніцтва Вялікай Сібірскай магістралі (Транссібірская чыгунка). Працягласць расійскіх чыгунак у 1913 г. склала больш за 70 тыс. км.

У Расіі сфарміраваліся новыя галіны прамысловасці — вугальная, нафтаздабыўная, хімічная, машынабудаванне. Адпаведна склаліся і новыя прамысловыя цэнтры: Баку, Данбас, Харкаў, Сормава і інш. У буйнейшыя цэнтры металаапрацоўкі ператварыліся Пецярбург і Масква. Павольней развівалася лёгкая прамысловасць (Маскоўскі рэгіён, Прыбалтыка, Лодзь). Аднак эканамічнае развіццё адбывалася вельмі нераўнамерна. Буйныя індустрыяльныя цэнтры межавалі з раёнамі, дзе захоўвалася традыцыйная натуральная гаспадарка.

У 1880—1890-я гг. у Расіі ўзніклі першыя манапалістычныя аб'яднанні. На пачатак першага дзесяцігоддзя XX ст. яны практычна цалкам ахапілі ўсе галіны прамысловасці. Найбольш распаўсюджанай формай манапалістычных аб'яднанняў былі сіндыкаты. «Прадметал», «Прадвугаль» кантралявалі



*Кандытарская фабрыка «Эйнем» у Маскве. Літаграфія канца XIX ст.*

95 % вытворчасці і рэалізацыі чорных металаў і вугалю, «Бр. Нобель» і «Мазут» — 77 % гандлю нафтапрадуктамі. Манаполіі ўзнікалі ў машынабудаванні, транспарце, тэкстыльнай, цукровай і іншых галінах. Адначасова адбывалася зрошчванне банкаў з прамысловасцю, у выніку чаго ўзнікла некалькі фінансава-прамысловых груп. Найбуйнейшымі такімі групамі былі Руска-Азіяцкі і Пецярбургскі міжнародны камерцыйны банкі, цесна звязаныя з ваеннай прамысловасцю і дзяржаўным апаратам.

У канцы XIX ст. Расія стала самай буйной з развітых краін па тэрыторыі і колькасці насельніцтва. У ёй налічвалася 126 млн чалавек, г. зн. больш, чым у Францыі, Германіі і Англіі, разам узятых. Колькасць прамысловага пралетарыяту, г. зн. людзей, якія пражывалі са сваімі сем'ямі ў гарадах і працавалі на заводах і фабрыках, за 1863—1908 гг. вырасла з 750 тыс. да 1,8 млн чалавек.

Структура насельніцтва Расіі ў канцы XIX — пачатку XX ст. выглядала наступным чынам:

| Сацыяльныя групы насельніцтва | % |
|---|---|
| Буйная буржуазія, памешчыкі, вышэйшыя чыноўнікі і ваенныя | 2 |
| Сяляне (заможныя і сярэднія дробныя гаспадаркі) | 18 |
| Сяляне (бяднейшыя гаспадаркі) | 29 |
| Пралетарыі і паўпралетарыі | 51 |

**2. Сельская гаспадарка.** Нягледзячы на рост прамысловай вытворчасці, асновай расійскай эканомікі па-ранейшаму заставалася сельская гаспадарка. У ёй было занята тры чвэрці насельніцтва.

Рэформа 1861 г. выклікала вялікія сацыяльныя зрухі ў вёсцы. Узмацнілася расслаенне сялянства. З яго вылучыліся багацеі, сельская буржуазія (каля 20 % сялянства) і беднякі (да 50 %). Гэта садзейнічала развіццю капіталістычных адносін у сельскай гаспадарцы. Бедната вымушана была прадаваць сваю рабочую сілу, ствараючы кадры наёмных рабочых для прамысловасці і прадпрымальніцкіх аграрных гаспадарак.

Сельская гаспадарка Расіі ўсё больш ператваралася ў таварную вытворчасць. Таварам станавіліся і аграрная прадукцыя, і рабочая сіла, і зямля. Павялічвалася сельскагаспадарчая вытворчасць. Вырасла ўраджайнасць збожжавых, а разам з тым і гандаль збожжам.

У 1890-я гг. галоўным экспартным таварам заставаўся хлеб (1/5 збожжавых збораў). У канцы XIX ст. Расія давала каля паловы сусветнага ўраджаю збожжа, да чвэрці сусветнага ўраджаю аўса і займала першае месца па агульным аб'ёме сельскагаспадарчай вытворчасці. Разам з тым большая частка сялян па-ранейшаму недаядала і жыла ў беднасці.

Сяляне-прадпрымальнікі разам з купцамі і мяшчанамі скуплялі памешчыцкія землі. На пачатак XX ст. дваранства страціла каля трэці сваіх уладанняў.

**3. Сацыяльныя змены.** Адлюстраваннем сацыяльных зрухаў у рускім грамадстве стаў рост гарадоў. Маладая расійская прамысловасць не магла забяспечыць працай прадстаўнікоў усіх збяднелых класаў. У гарадах рос пласт люмпен-пралетарыяў (бадзягі, жабракі, крымінальныя элементы і г. д.). Становішча рускіх рабочых было цяжкім. Рабочы дзень доўжыўся 12, а часам і больш гадзін. Прымянялася жаночая і дзіцячая праца, шырокае распаўсюджанне атрымалі штрафы.

Рос і іншы клас капіталістычнага грамадства — буржуазія. Разбагацелыя сяляне фарміравалі пласт сельскай буржуазіі. Нярэдка яны ўкладвалі грошы ў гандаль, а затым і ў прамысловасць. Вясковыя карані мелі шматлікія прамысловыя магнаты Расіі: Марозавы, Гучковы, Рабушынскія. Сярод рускай буржуазіі былі і прадстаўнікі купецтва: Мамантавы, Пуцілавы і інш. У прадпрымальнікаў ператвараліся і некаторыя дваране — уладальнікі буйных гаспадарак і фабрык — Бобрынскія, Патоцкія.

Аднак новаму класу — буржуазіі — пакуль не ўдавалася стаць уплывовай грамадскай сілай. Тым часам і ранейшыя «гаспадары жыцця» — дваране — паступова сыходзілі з гістарычнай сцэны. Да пачатку XX ст. 60—70 % дваран ужо не мелі зямлі.

**4. Знешняя палітыка Расіі на мяжы стагоддзяў. Руска-японская вайна 1904—1905 гг.** На мяжы XIX—XX стст. узмацнілася барацьба вялікіх дзяржаў за пе-

радзел свету. У 1907 г. быў заключаны дагавор паміж Расіяй і Вялікабрытаніяй. Гэтым саюзам быў канчаткова аформлены блок Антанта, які процістаяў Траістаму саюзу. Нягледзячы на існуючыя рознагалоссі, Англія і Расія дамовіліся аб падзеле сфер уплыву ў Іране і Афганістане, што абумовіла ўдзел Расіі ў будучай сусветнай вайне на баку Вялікабрытаніі і Францыі.

З канца XIX ст. Расія актывізавала сваю знешнюю палітыку на Далёкім Усходзе. У Паўночна-Усходнім Кітаі (Маньчжурыі) яна пабудавала Кітайска-Усходнюю чыгунку. Горад Порт-Артур, размешчаны недалёка ад Пекіна, стаў буйнейшай ваенна-марской базай Расіі. Інтарэсы Расіі ў гэтым рэгіёне сутыкнуліся з інтарэсамі Японіі, якая прэтэндавала на панаванне ў Паўночна-Усходнім Кітаі і Карэі. У выніку саперніцтва дзвюх дзяржаў прывяло да рэзкага абвастрэння расійска-японскіх адносін, а затым і да руска-японскай вайны.

У ноч на 27 студзеня **1904 г.** японскія мінаносцы раптоўна напалі на рускую ваенную эскадру ў карэйскім порце Чэмульпо. Крэйсер «Вараг» і карабель «Карэец», прыняўшы няроўны бой, мужна змагаліся з японскай эскадрай, але прарвацца з акружэння не змаглі. Абодва караблі былі затоплены камандамі. Адначасова адбыўся напад японскага флоту на караблі Ціхаакіянскай эскадры, якія стаялі на рэйдзе Порт-Артура.

Японскія войскі высадзіліся ў Карэі і на тэрыторыі Кітая. У чэрвені 1904 г. пачалася гераічная абарона асаджанага Порт-Артура, якая доўжылася 6 месяцаў. За час аблогі японцы страцілі больш як 110 тыс. чалавек. Аднак генерал А. М. Стэсель, парушыўшы загад камандавання, здаў Порт-Артур у снежні 1904 г.



*Крэйсер «Вараг». Фрагмент карціны П. Т. Мальцава*




*Руска-японская вайна 1904—1905 гг.*

Вырашальная бітва руска-японскай вайны адбылася ў пачатку 1905 г. пад Мукдэнам у Кітаі. З-за бяздарнасці вышэйшага камандавання руская армія страціла 89 тыс. чалавек забітымі, параненымі і ўзятымі ў палон.

Вельмі няўдалай для Расіі стала марская бітва пры Цусіме. У ходзе бітвы ў маі 1905 г. рускі флот быў цалкам знішчаны.

Мукдэнская і цусімская катастрофы ўзрушылі Расію, выклікалі хвалю нянавісці да цара і ўрада.

Прычынамі паражэння Расіі ў вайне сталі дрэннае матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне арміі, некампетэнтнасць рускага камандавання, недаацэнка праціўніка.

Руска-японская вайна завяршылася падпісаннем Портсмуцкага мірнага дагавора ў жніўні **1905 г.** Згодна з яго ўмовамі Расія перадала Японіі Паўднёвы Сахалін, уступіла ёй правы на арэнду Ляадунскага паўвострава з гарадамі Порт-Артур і Дальні, прызнала Карэю сферай уплыву Японіі.

Паражэнне Расіі ў вайне з Японіяй было ўспрынята рускім грамадствам як нацыянальная ганьба і стала адной з прычын рэвалюцыі 1905—1907 гг.

### Пытанні і заданні

1. Як праходзіла індустрыялізацыя ў Расіі? Ацаніце тэмпы росту прамысловай вытворчасці ў краіне.
2. Ахарактарызуйце працэсы, якія адбываліся ў сельскай гаспадарцы Расіі ў пасляррэформенную эпоху. Зрабіце выснову.
3. Растлумачце, чаму рэформы 1860—1870-х гг. у Расіі сталі важным этапам на шляху пераходу ад традыцыйнага грамадства да індустрыяльнага.
4. Вызначце найважнейшую рысу знешняй палітыкі вялікіх дзяржаў, у тым ліку і Расіі, на мяжы стагоддзяў.
5. Назавіце асноўныя прычыны паражэння Расіі ў руска-японскай вайне 1904—1905 гг.



Эканамічны стан і ўзровень жыцця рускага селяніна пагоршыліся пасля адмены прыгоннага права, і ў 1900 г. сяляне былі ў цэлым бяднейшыя, чым у 1800 г. Ішло разбурэнне традыцыйнай сялянскай маралі, сям'і, пашыралася п'янства, усё больш станавілася люмпен-пралетарыяў.

*Як вы лічыце, чаму гэта адбывалася? Чым можна растлумачыць такі стан спраў? Ці трэба было «адпускаць рускіх мужыкоў на волю»?*



**Віноўнік здачы Порт-Артура**

Пасля пачатку руска-японскай вайны начальнікам Квантунскага ўмацаванага раёна быў прызначаны генерал А. М. Стэсель. Гэта быў невук, баязлівы, спрытны і беспрынцыпны кар'ерыст. Ён сканцэнтраваў у сваіх руках усю ваенную і цывільную ўладу ў раёне Порт-Артура.

З пачаткам аблогі Порт-Артура японскімі войскамі Стэсель у загадах і тэлеграмах аб'явіў, што ніколі не дасць згоды на здачу крэпасці. Яму ўдалося атрымаць прыхільнасць цара і падтрымку прэсы. Расійскія газеты праслаўлялі Стэселя як героя абароны. Але праявіў ён сябе як бяздарны военачальнік. Асабліва прыкметным гэта стала пасля смерці фактычнага кіраўніка і сапраўднага героя абароны Порт-Артура генерала Р. І. Кандрацэнкі.

Насуперак рашэнню ваеннага савета Стэсель здаў крэпасць японцам з 30-тысячным гарнізонам і ўсімі ваеннымі запасамі. У 1906 г. ён быў звольнены ў адстаўку і пад націскам грамадскай думкі аддадзены пад суд. Суд вызначыў, што на працягу ўсяго перыяду абароны Стэсель не кіраваў дзеяннямі гарнізона па абароне крэпасці, а, наадварот, свядома рыхтаваў яе да здачы. У 1908 г. суд прыгаварыў яго як галоўнага віноўніка капітуляцыі да смяротнага пакарання, замененага 10-гадовым зняволеннем у Петрапаўлаўскай крэпасці. У 1909 г. Стэсель быў памілаваны царом і адразу ж выехаў за мяжу.

## § 21. РАСІЯ Ў 1905—1917 гг.

**Успомніце**

1. Якая форма праўлення захоўвалася ў Расійскай імперыі да пачатку XX ст.?

2. Назавіце даты падзей, якія падаюцца вам найбольш значнымі ў гісторыі Расіі другой паловы XIX ст.

3. Як называўся вышэйшы орган Рускай дзяржавы ў XV ст., якія функцыі ён выконваў?

У 1905—1917 гг. у Расіі адбыліся тры рэвалюцыі. Першую бязлітасна падавіў царскі ўрад. Другая прывяла да звяржэння самадзяржаўя: дынастыя Раманавых назаўсёды сышла з гістарычнай сцэны. У выніку трэцяй быў скінуты Часовы ўрад, і да ўлады прыйшла партыя бальшавікоў, якая выказвала інтарэсы рабочых і бяднейшых сялян.

**1. Рэвалюцыя 1905—1907 гг.** Нагодай для рэвалюцыі паслужылі падзеі **9 студзеня 1905 г.** У гэты дзень мірная рабочая дэманстрацыя, якую ўзначаліў свяшчэннік Г. А. Гапон, накіравалася з петыцыяй да цара. Рабочыя патрабавалі 8-гадзіннага рабочага дня і дэмакратычных свабод. Каля 140 тыс. чалавек, у тым ліку старыя, жанчыны і дзеці, з абразамі і партрэтамі цара накіраваліся да Зімняга палаца. Па загадзе ўлад войскі сустрэлі дэманстрантаў залпамі з ружжаў.



*9 студзеня 1905 г. на Васільеўскім востраве. Мастак У. Я. Макоўскі. 1905 г.*

Тое, што адбылося, ашаламіла людзей. Яны шчыра лічылі бацюхну-цара сваім абаронцам і заступнікам. Пасля «Крывавай нядзелі» іх вера ў цара была страчана. Бессэнсоўная і жорсткая расправа ўскалыхнула ўсю краіну.

На вуліцах Пецярбурга з'явіліся барыкады. Пачалося ўзброенае супрацьстаянне рэвалюцыйных сіл самадзяржаўю. Яшчэ адной формай барацьбы сталі стачкі. Ужо ў студзені — сакавіку 1905 г. баставалі 810 тыс. прамысловых рабочых. Адначасова разгарнуўся сялянскі рух у Цэнтральнай Расіі. Успыхнула паўстанне на Каўказе. Урад сутыкнуўся з усеагульным непадпарадкаваннем народа.

Летам 1905 г. пачаліся масавыя выступленні ў арміі і на флоце. Усяго за гэты час адбылося больш як 40 паўстанняў салдат і матросаў. Най-

больш значным з іх стала паўстанне на браняносцы «Пацёмкін».

З восені 1905 г. цэнтр рэвалюцыйнага руху перамясціўся ў Маскву. У верасні тут пачалася эканамічная забастоўка друкароў. У кастрычніку яна перарасла ва ўсеагульную палітычную стачку, якая ахапіла 120 гарадоў Расіі. У ёй удзельнічала 1,5 млн рабочых і 200 тыс. чыноўнікаў і служачых. З'явіліся Саветы рабочых дэпутатаў. Яны не толькі кіравалі рэвалюцыйнай барацьбой, але і падтрымлівалі парадак у гарадах. Справа ішла да звяржэння манархіі, таму Мікалай II быў вымушаны пайсці на ўступкі.




*Маніфест 17 кастрычніка. Карыкатура 1905 г.*

**17 кастрычніка 1905 г.** быў абнародаваны царскі Маніфест, які «дараваў насельніцтву» дэмакратычныя свабоды: недатыкальнасць асобы, свабоду веравызнання, слова, друку, сходаў і саюзаў, прадстаўнічае праўленне — *Дзяржаўную думу*. Маніфест 17 кастрычніка стаў першай буйной перамогай рэвалюцыі, аднак ён ужо не мог спыніць рэвалюцыйнага руху, які пашыраўся. У **снежні 1905 г.** у Маскве выбухнула ўзброенае паўстанне, але яно было дрэнна падрыхтавана, і таму ўраду ўдалося яго хутка падавіць.

Пасля гэтага рэвалюцыйная хваля паступова пайшла на спад. З дапамогай рэпрэсій быў адноўлены кантроль царскага ўрада над краінай, узмацнілася рэакцыя, дзейнічалі ваенна-палявыя суды, якія за паўтара года вынеслі



*Барыкадныя баі на Прэсні. Мастак І. А. Уладзіміраў*

смяротны прысуд амаль 1 тыс. чалавек. Пасля роспуску I Дзяржаўнай думы (1906) у студзені 1907 г. адбыліся выбары ў II Дзяржаўную думу, у якую ўвайшлі таксама і сацыял-дэмакраты.

Урад абвінаваціў сацыял-дэмакратычную фракцыю Думы ў падрыхтоўцы ваеннай змовы. **3 чэрвеня 1907 г.** быў выдадзены царскі Маніфест аб роспуску II Дзяржаўнай думы і адначасова з гэтым — новы выбарчы закон. Гэта падзея ўвайшла ў гісторыю як «трэцячэрвеньскі дзяржаўны пераварот», таму што ўладамі было парушана палажэнне Маніфеста ад 17 кастрычніка 1905 г. аб тым, што любы выбарчы закон павінен атрымаць адабрэнне Думы. Так завяршылася паражэннем першая расійская рэвалюцыя.

**2. Стварэнне палітычных партый.** Маніфест 17 кастрычніка стварыў умовы для фарміравання ў Расіі палітычных партый. Іх можна падзяліць на тры лагеры.

У *першы лагер* уваходзілі манархічныя партыі. Яны выступалі за захаванне манархіі і неабмежаванай улады цара.

*Другі лагер* быў прадстаўлены буржуазна-ліберальнымі партыямі — гэта канстытуцыйныя дэмакраты (кадэты), Саюз 17 кастрычніка (акцябрысты) і некаторыя іншыя. Гэтыя партыі абаранялі інтарэсы буйной буржуазіі, часткі памешчыкаў, ліберальнай інтэлігенцыі. Яны выступалі за паступовыя рэформы, развіццё прадстаўнічых органаў, пашырэнне правоў і свабод, сцвярджэнне прынцыпу падзелу ўлады. Кадэты і акцябрысты не прымалі ідэю рэвалюцыйнага насілля і былі прыхільнікамі мірных сродкаў палітычнай барацьбы.

*Трэці лагер* аб'ядноўваў рэвалюцыйна-дэмакратычныя партыі: Расійскую сацыял-дэмакратычную рабочую партыю (РСДРП) і Партыю сацыялістаў-рэвалюцыянераў (эсэраў). Яны абаранялі інтарэсы шырокіх народных мас, былі прыхільнікамі радыкальных пераўтварэнняў: звяржэння самадзяржаўя, устанаўлення рэспублікі, раздачы зямлі сялянам і г. д. Канчатковай мэтай сваёй барацьбы абедзве партыі лічылі пабудову сацыялістычнай дзяржавы. На іх думку, дасягнуць гэтага можна было толькі шляхам рэвалюцыйных пераўтварэнняў. Таму яны выступалі за рэвалюцыю.

Праўда, у РСДРП адбыўся раскол. Тут афарміліся дзве плыні — бальшавікі і меншавікі. *Бальшавікі* з'яўляліся прыхільнікамі перарастання буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі ў сацыялістычную. Іх праціўнікі — *меншавікі* падтрымлівалі толькі буржуазна-дэмакратычную рэвалюцыю. Яны лічылі, што Расія яшчэ не гатова да сацыялізму, і адкладвалі сацыялістычную рэвалюцыю на будучае.

**3. Крызіс расійскай манархіі.** Крызіс царскай улады ў Расіі ўзмацніўся ў гады Першай сусветнай вайны 1914—1918 гг., якая рэзка абвастрыла становішча ў краіне. Наспяваў эканамічны крызіс. Знізілася здабыча нафты і вуга-




*Чарга за хлебам каля прадуктовай крамы. 1915 г.*

лю, спыніліся сотні прамысловых прадпрыемстваў, пачасціліся выпадкі недахопу хлеба і іншых прадуктаў харчавання, асабліва ў буйных гарадах. Эканоміка краіны ўжо не магла ўтрымліваць шматмільённую армію.

І ў горадзе, і ў вёсцы нарастала напружанасць. Краіна бурліла палітычнымі забастоўкамі і стачкамі. Бальшавікі заклікалі да паражэння ў вайне і перарастання імперыялістычнай вайны ў вайну грамадзянскую. Узмацнелая за гэтыя гады руская буржуазія імкнулася да ўлады і была гатова падзяліць яе з царом. Буржуазныя партыі аб'ядналіся ў адзін блок у Дзяржаўнай думе і выступілі за аднаўленне свабод. Але цар нізавошта не хацеў ісці на ўступкі. У выніку гэта выклікала палітычны крызіс.

Пасля рэвалюцыі 1905—1907 гг. нявырашанымі заставаліся аграрнае, рабочае і нацыянальнае пытанні. Цяпер яны паўсталі асабліва востра, што прывяло да другой рэвалюцыі ў Расіі. Яе чакалі даўно. Але адбылася яна будзённа і нечакана для ўсіх.

**4. Лютаўская рэвалюцыя.** У канцы лютага 1917 г. па Петраградзе (у 1914 г. Пецярбург быў перайменаваны ў Петраград) пракацілася хваля забастовак і выступленняў. Сталічны гарнізон перайшоў на бок паўстанцаў. Войскі, верныя царскай уладзе, склалі зброю. **2 сакавіка 1917 г.** імператар Мікалай II, які страціў кантроль над краінай, падпісаў Маніфест аб адрачэнні ад прастола на карысць брата Міхаіла. Але той на наступны дзень таксама адрокся ад прастола. Улада перайшла да Часовага ўрада. Самадзяржаўе ў Расіі спыніла сваё існаванне.

Лібералы, якія ўваходзілі ў склад Часовага ўрада, пачалі падрыхтоўку канстытуцыі для новай Расіі. У той жа час яны настойвалі на далейшым працягу вайны супраць Германіі. Гэта рашэнне аказалася фатальным. Народ стаміўся ад вайны. Салдаты дэзерціравалі з фронту і натоўпамі вярталіся дадому. Ся-




*Дэманстрацыя салдат у падтрымку Лютаўскай рэвалюцыі. 1917 г.*

ляне хацелі зямлі. Рабочыя былі абураны недахопам прадуктаў і тавараў першай неабходнасці.

**5. Кастрычніцкая рэвалюцыя.** Тым часам рэвалюцыйныя сацыялісты распрацоўвалі ўласны план дзеянняў. У Петраградзе і іншых гарадах яны стваралі Саветы рабочых і салдацкіх дэпутатаў, якія мелі вялікі аўтарытэт. У хуткім часе кантроль над Саветамі ўстанавілі бальшавікі. Іх кіраўніком быў рэвалюцыянер У. І. Ленін. Бальшавікі пачалі падрыхтоўку да ўзброенага паўстання. Галоднаму і даведзенаму да галечы вайной рускаму народу яны абяцалі «Мір, Зямлю і Хлеб». У **кастрычніку 1917 г.** у Петраградзе адбылося ўзброенае паўстанне. Бальшавікі зверглі Часовы ўрад практычна без кровапраліцця і захапілі ўладу. Гэтай падзеяй адкрываецца новая старонка ў гісторыі Расіі.

**Пытанні і заданні**

1. Як складваліся ў Расіі адносіны паміж грамадствам і ўладай да рэвалюцыі 1905—1907 гг.? Што новага прынеслі рэвалюцыйныя падзеі?
2. Вызначце асноўныя этапы першай расійскай рэвалюцыі. Складзіце храналогію яе падзей.
3. Ахарактарызуйце палітычныя партыі гэтага часу. Чые інтарэсы яны абаранялі, якія мэты ставілі сабе?
4. Дакажыце, што ў гады Першай сусветнай вайны крызіс расійскай манархіі нарастаў.
5. Параўнайце сітуацыю напярэдадні першай расійскай і Лютаўскай рэвалюцый. Як вы думаеце, у чым падабенства і адрозненне фактараў, якія выклікалі гэтыя дзве рэвалюцыі?
6. Чаму адбылася Кастрычніцкая рэвалюцыя? Што садзейнічала поспеху бальшавікоў у барацьбе за ўладу?


Абмяркуйце магчымыя шляхі развіцця Расіі пасля Лютаўскай рэвалюцыі і звяржэння самадзяржаўя.


Напярэдадні «Крывавай нядзелі» сталічны гарнізон быў узмоцнены войскамі, выкліканымі з Пскова і Рэвеля (Таліна). У Пецярбург дадаткова былі ўведзены 30 тыс. салдат. Камандзіры пераконвалі салдат у тым, што 9 студзеня рабочыя хочуць разбурыць Зімні палац і забіць цара. Калі рабочыя з ускраін рушылі да Зімняга палаца, то дарогу ім заступілі паліцыя і салдаты.

Каля Нарвскіх варот, на Пецярбургскім баку і Дварцовай плошчы войскі адкрылі па калонах рабочых ружэйную стральбу залпамі. Услед за гэтым рабочыя былі атакаваны кавалерыяй, якая секла іх шаблямі і таптала коньмі. Ва ўрадавым паведамленні, якое было апублікавана ў друку 12 студзеня, адзначалася, што ў час падзей 9 студзеня было забіта 96 і паранена 333 чалавекі.


У першыя дні Лютаўскай рэвалюцыі партыя бальшавікоў налічвала ўсяго 24 тыс. чалавек, у красавіку — 80 тыс., у ліпені — 240 тыс., у пачатку кастрычніка — каля 400 тыс. чалавек, г. зн. за 7 месяцаў колькасць бальшавіцкай партыі павялічылася больш як у 16,5 раза. Рабочыя складалі ў ёй большасць — болей за 60 %.

Па-іншаму ішла справа ў вёсцы. Там у канцы 1917 г. было ўсяго толькі 203 бальшавіцкія ячэйкі, у якія ўваходзіла крыху больш за 4 тыс. чалавек.

Партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў (эсэраў) да кастрычніка 1917 г. налічвала каля 1 млн чалавек.

## § 22. НАВУКА І КУЛЬТУРА Ў ДРУГОЙ ПАЛОВЕ XIX ст.

**Успомніце**

1. Якая падзея першай чвэрці XIX ст. мела найбольш моцнае ўздзеянне на культуру Расіі першай паловы XIX ст.?
2. Вырашэнню якіх праблем спрыяла дзейнасць земскіх устаноў і гарадскіх органаў мясцовага самакіравання?

Адмена прыгоннага права, рэформы 1860—1870-х гг., уздым грамадскага руху — усё гэта садзейнічала далейшаму культурнаму развіццю Расіі. Прамысловасць, земляробства і гандаль усё больш востра адчувалі патрэбу ў спецыялістах з сярэдняй і вышэйшай адукацыяй. Значна пашырыліся

рады інтэлігенцыі. Яе духоўныя патрэбнасці выклікалі рост кнігавыдавецкай справы і друку. Развіццё тэатра, жывапісу і іншых мастацтваў ішло ў нагу з часам.

**1. Адукацыя.** У другой палове XIX ст. пачатковая школа ў Расіі ўключала народныя вучылішчы, царкоўна-прыходскія школы, у гарадах — прыходскія, павятовыя і гарадскія вучылішчы. Для сельскіх дзяцей у гэты час таксама сталі адкрываць *земскія пачатковыя школы* з 3- і 4-гадовым навучаннем. Энтузіясты-асветнікі стваралі *нядзельныя школы* для дарослых.

Асновай сярэдняй адукацыі ў Расіі сталі *гімназіі.* Спачатку яны былі толькі мужчынскія, а ў 1862 г. адкрыліся і першыя жаночыя гімназіі. Урад стараўся абмежаваць допуск у гэтыя навучальныя ўстановы дзяцей бедных бацькоў. Пры Аляксандры III было прынята рашэнне не прымаць у іх «дзяцей фурманаў, прачак, дробных крамнікаў і да т. п.». Акрамя таго, паступаць ва ўніверсітэты мелі права толькі выпускнікі мужчынскіх гімназій.


*Галоўны будынак Вышэйшых жаночых курсаў у Маскве*

Побач з гімназіямі працавалі мужчынскія *рэальныя вучылішчы*, дзе выкладаліся фізіка, хімія, сучасныя мовы. Выпускнікі рэальных вучылішчаў маглі працягваць навучанне ў вышэйшых спецыяльных навучальных установах.

У гэты ж час быў пакладзены пачатак вышэйшай жаночай адукацыі. У канцы 1860-х гг. адкрыліся Вышэйшыя жаночыя курсы ў Пецярбургу, а пазней — у Маскве, Кіеве і іншых гарадах.

**2. Навука.** У другой палове XIX — пачатку XX ст. былі зроблены вялікія адкрыцці ў фізіцы, хіміі, біялогіі, якія зрабілі сапраўдную рэвалюцыю ў прыродазнаўстве.


*А. С. Папоў*

***Аляксандр Сцяпанавіч Папоў*** (1859—1905) адкрыў спосаб выпраменьвання і прыёму электрамагнітных хваль для бяздротавай сувязі. У 1895 г. ён вынайшаў радыётэлеграф — так быў пакладзены пачатак радыё, якое стала асноўнай крыніцай інфармацыі для ўсяго свету.

Другая палова XIX ст. лічыцца «залатым векам» рускай хіміі. ***Дзмітрый Іванавіч Мендзялееў*** (1834—1907) адкрыў залежнасць уласцівасцей хі-

мічных элементаў ад іх атамных мас і стварыў стройную перыядычную сістэму.

Вялікае значэнне мелі працы ***І. М. Сечанава*** (даследаваў вышэйшую нервовую дзейнасць чалавека) і ***І. І. Мечнікава*** (зрабіў шэраг адкрыццяў у бактэрыялогіі). У 1908 г. Мечнікаву была прысуджана Нобелеўская прэмія. Велізарны ўклад у сусветную навуку ўнеслі К. А. Ціміразеў, У. І. Вярнадскі, М. Я. Жукоўскі, К. Э. Цыялкоўскі, І. П. Паўлаў і многія іншыя вучоныя.

Вялікія поспехі былі дасягнуты ў галіне геаграфічных адкрыццяў. Рускія падарожнікі пабывалі ў тых месцах, дзе яшчэ не ступала нага еўрапейца. Адна за адной адпраўляліся экспедыцыі ў глыб Азіі. ***Пётр Пятровіч Сямёнаў-Цян-Шанскі*** (1827—1914) зрабіў некалькі падарожжаў на Цянь-Шань. ***Мікалай Міхайлавіч Пржавальскі*** (1839—1888) даследаваў пустыню Гобі і горы Тыбет. А ***Мікалай Мікалаевіч Міклуха-Маклай*** (1846—1888) займаўся вывучэннем астравоў Ціхага акіяна. Больш за год ён пражыў сярод народаў Новай Гвінеі, падарожнічаў па Філіпінах і Інданезіі.

**3. Літаратура.** Найбуйнейшымі пісьменнікамі другой паловы XIX ст. былі ***Іван Сяргеевіч Тургенеў, Фёдар Міхайлавіч Дастаеўскі, Леў Мікалаевіч Талстой***. Галоўнымі тэмамі твораў гэтых класікаў сталі агульначалавечыя праблемы: сэнс жыцця і сутнасць быцця. У той жа час іх творчасць была цесна звязана з грамадскім і палітычным жыццём Расіі. Творы пісьменніка ***Міхаіла Яўграфавіча Салтыкова-Шчадрына*** мелі сатырычную накіраванасць.

У паэзіі выявіўся бліскучы талент ***Мікалая Аляксеевіча Някрасава***. Яго творы адлюстроўвалі жыццё гарадскіх нізоў і сялянскія будні. «Муза помсты і смутку» паэта была асабліва чулая да несправядлівасці і чалавечага болю. У творчасці Някрасава адлюстравалася мара рускага сялянства аб усеагульным народным шчасці.

У канцы XIX — пачатку XX ст. стварыў свае лепшыя творы ***Антон Паўлавіч Чэхаў***. Плённа працавалі У. Г. Караленка, Д. Н. Мамін-Сібірак, пачалі літаратурную дзейнасць М. Горкі, І. А. Бунін, А. І. Купрын. Найвышэйшага росквіту дасягнула паэтычная творчасць. Невыпадкова гэты перыяд называюць «сярэбраным векам» рускай паэзіі, а вяршыняй яе па праву лічацца лірычныя творы ***Аляксандра Аляксандравіча Блока***. Паэт востра адчуваў крызіс дваранскага грамадства і набліжэнне рэвалюцыі.

**4. Выяўленчае мастацтва.** Вялікі ўплыў на развіццё рускага выяўленчага мастацтва аказвала Акадэмія мастацтваў. У XVIII — сярэдзіне XIX ст. яна была цэнтрам мастацкага жыцця Расіі, але з канца XIX ст. стала выразнікам кансерватыўных ідэй.



*І. М. Крамской. Невядомая. 1883 г.*



*В. Р. Пяроў. Тройка. 1866 г.*

Акадэмія патрабавала ад сваіх студэнтаў пісаць карціны на міфалагічныя тэмы, далёкія ад рэальнага жыцця. Акадэмічны стыль адрозніваўся напышлівасцю і тэатральнасцю. Пейзажы ў стылі «акадэмізму» выглядалі «мёртвымі» і дэкаратыўнымі, зусім не падобнымі на навакольны жывы свет.

Вялікая група мастакоў адмовілася прытрымлівацца канонаў «акадэмізму» і ў знак пратэсту пакінула ў 1863 г. Акадэмію мастацтваў. Бунтароў узначаліў ***Іван Мікалаевіч Крамской*** (1837—1887). У 1870 г. непакорлівыя мастакі заснавалі прафесійнае аб'яднанне — *Таварыства перасоўных мастацкіх выставак*. З гэтага часу іх сталі называць *перасоўнікамі*.

Мастакі-перасоўнікі стаялі на блізкіх ідэйных пазіцыях. Яны імкнуліся да праўдзівага адлюстравання жыцця на сваіх палотнах, з асаблівай сімпатыяй ставіліся да сялянства, спачувалі яго пакутам і прыгнечанаму становішчу.



*І. Я. Рэпін. Запарожцы пішуць пісьмо турэцкаму султану. 1880—1891 гг.*



*В. М. Васняцоў. Асілкі. 1881—1898 гг.*

Перасоўнікі прымусілі сучаснікаў па-новаму паглядзець на родную прыроду, непрыметную прыгажосць рускага пейзажу. Важнае месца ў іх творчасці займалі жанравыя (бытавыя) сцэны, рэвалюцыйная і гістарычная тэматыка, партрэты знакамітых сучаснікаў.

Карціны перасоўнікаў — ***І. Я. Рэпіна, В. І. Сурыкава, В. А. Сярова, В. Р. Пярова, В. Д. Паленава, А. К. Саўрасава, І. І. Шышкіна, В. М. Васняцова, А. І. Куінджы, І. І. Левітана*** — вызначаліся глыбокім псіхалагізмам і майстэрствам сацыяльнага абагульнення.

Палотны мастакоў, як правіла, траплялі ў прыватныя калекцыі. З 1856 г. пачаў збіраць сваю мастацкую калекцыю маскоўскі купец ***Павел Міхайлавіч Траццякоў*** (1832—1898). Гэта захапленне стала галоўнай справай яго жыцця. Перад смерцю П. М. Траццякоў перадаў збор карцін у дар Маскве. Так з'явілася Траццякоўская галерэя — сусветна вядомы музей рускага жывапісу, графікі і скульптуры.

**5. Архітэктура.** Архітэктура другой паловы XIX ст. адрознівалася ад архітэктуры першай паловы стагоддзя. Калі раней рускія дойліды ўзводзілі ў асноўным палацы і храмы, то ў эпоху пачатку прамысловай рэвалюцыі трэба было будаваць чыгуначныя вакзалы, фабрычныя карпусы, велізарныя магазіны, банкі. Пашыралася прымяненне жалеза і шкла, пачалося выкарыстанне бетону. Самы вялікі для таго часу гандлёвы будынак з'явіўся ў Маскве ў 1889—1893 гг. (цяпер у ім размяшчаецца ГУМ).

У канцы XIX ст. было ўзведзена некалькі вялікіх будынкаў музеяў, у тым ліку Політэхнічнага (1877) і Гістарычнага (1875—1881) у Маскве.

Для свецкай архітэктуры гэтага перыяду характэрна спалучэнне дэкаратыўных упрыгожанняў, якія належаць розным эпохам і стылям, — *эклекты-*



*Будынак Гістарычнага музея ў Маскве. 1875—1881 гг.*

*ка*. Часта стылявое афармленне таго або іншага будынка не адпавядала яго практычнаму прымяненню. Так, напрыклад, адзін чыгуначны вакзал мог быць пабудаваны ў стылі Рэнесансу, а другі — на «гатычны манер».

**6. Музыка.** Другая палова XIX ст. — гэта перыяд актыўнага развіцця рускай музычнай культуры. Яе дасягненні звязаны з творчым аб'яднаннем кампазітараў, якое атрымала назву «Магутная кучка».

У гэту садружнасць уваходзілі ***М. А. Балакіраў, А. П. Барадзін, М. П. Мусаргскі, М. А. Рымскі-Корсакаў*** і інш. Яны імкнуліся сцвердзіць у музыцы рускі нацыянальны пачатак, абапіраючыся на старажытны фальклор. Іх творы прасякнуты высокім патрыятычным духам.

Творчасць «Магутнай кучкі» ў значнай ступені паўплывала на сусветнае музычнае мастацтва. Музычныя драмы М. П. Мусаргскага «Барыс Гадуноў» і «Хаваншчына» да гэтага часу ідуць у многіх тэатрах свету.

Найвялікшым кампазітарам эпохі справядліва называюць ***Пятра Ільіча Чайкоўскага*** (1840—1893). Яго шматлікія оперы («Яўген Анегін», «Пікавая дама», «Іаланта» і інш.), балеты («Шчаўкунок», «Лебядзінае возера», «Спячая прыгажуня»), сімфоніі і рамансы з'яўляюцца гонарам Расіі і здабыткам усяго свету. Традыцыі П. І. Чайкоўскага ў пачатку XX ст. развівалі ***А. К. Глазуноў, А. М. Скрабін, С. В. Рахманінаў, І. Ф. Стравінскі***.

**Пытанні і заданні**

1. Як паўплывалі буржуазныя рэформы 1860—1870-х гг. у Расіі на развіццё культуры ў цэлым? Якія факты і з'явы звязаны з працэсам яе дэмакратызацыі?
2. Што адбывалася ў галіне адукацыі пасля адмены прыгоннага права? Падумайце, ці адрознівалася культура вышэйшых саслоўяў ад народнай.
3. Як у гэты час развівалася навука? Чаму 1860—1870-я гг. прынята называць «залатым векам» рускай хіміі?
4. Ахарактарызуйце асноўныя кірункі рускай культуры ў другой палове XIX ст. (літаратуру, жывапіс, архітэктуру, музыку). Якую назву атрымаў у гісторыі рускай паэзіі перыяд канца XIX — пачатку XX ст.?
5. Прадоўжыце запаўненне табліцы «Развіццё сусветнай навукі і культуры ў XIX — пачатку XX ст.» (с. 72).



«У галіне мастацтва, у творчасці сэрца, — пісаў А. М. Горкі, — рускі народ выявіў цудоўную сілу, стварыўшы пры наяўнасці вельмі жахлівых умоў выдатную літаратуру, цудоўны жывапіс і арыгінальную музыку, якой захапляецца ўвесь свет».

*Ці згодны вы з гэтым выказваннем пісьменніка аб рускай культуры? Калі згодны, то пацвердзіце гэта выказванне канкрэтнымі прыкладамі.*



І. Я. Рэпін у карціне «Запарожцы пішуць пісьмо турэцкаму султану» маляваў аднаго з казакоў з вядомага рускага пісьменніка У. А. Гіляроўскага, аўтара кнігі «Масква і масквічы». Скульптар жа М. А. Андрэеў ляпіў з яго Тараса Бульбу для барэльефа на помніку М. В. Гогалю ў Маскве.



Нягледзячы на адносна невысокі ўзровень пісьменнасці насельніцтва ў Расіі (менш за 30 % да 1913 г.), газеты, часопісы, кнігі атрымлівалі ўсё большае распаўсюджанне. Напярэдадні Першай сусветнай вайны ў краіне выдавалася 2915 часопісаў і газет, а па колькасці выпушчаных кніг Расія займала трэцяе месца ў свеце (пасля Германіі і Японіі).



Аднойчы зімой 1883 г. В. М. Васняцоў ішоў міма Дарагамілаўскага моста ў Маскве, дзе ўздоўж набярэжнай расцягнулася біржа ламавікоў. Сярод іх ён заўважыў рослага мужыка з пугаўём пад пахай, у высокай шапцы і армяку да пят. На дзіва чыстыя і светлыя вочы блішчалі вясёлымі агеньчыкамі, шырокая лагодная ўсмешка асвятляла просты, адкрыты твар. Васняцоў мімаволі залюбаваўся яго зладжанай, моцна збітай фігурай, якая быццам бы свяцілася вялікай і ў той жа час стрыманай сілай. Ды гэта ж сапраўдны Ілья Мурамец, якога ён так даўно шукаў!

Ледзь угаварыўшы рамізніка, Васняцоў павёў яго да сябе... Іван Пятроў аказаўся немнагаслоўным, ён не скардзіўся на цяжкасці жыцця, не шукаў спачування. Такі, калі наваляцца на яго ўсе беды і напасці, выстаіць, вытрымае...

У некалькі сеансаў партрэт быў закончаны...

Цяпер ён захоўваецца ў Траццякоўскай галерэі. Злёгку павярнуўшы галаву, як жывы, глядзіць з палатна ўладзімірскі селянін Іван Пятроў. Або гэта Ілья Мурамец, але не на заставе волатаўскай, а ў родным сяле Карачараве, апрануты ў мужыцкую сярмягу. Канчаткова закончыў сваіх «Асілкаў» В. М. Васняцоў толькі праз шмат гадоў, у 1898 г.

## § 23. БАРАЦЬБА СЛАВЯНСКІХ НАРОДАЎ ЗА НАЦЫЯНАЛЬНУЮ НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ

**Успомніце**

1. Па якой асноўнай прымеце і на колькі асноўных груп падзяляюцца ўсе славяне? Назавіце гэтыя групы.
2. Якія славянскія народы ў XVIII ст. мелі сваю дзяржаўнасць?
3. Як падзелы Рэчы Паспалітай адбіліся на лёсах славянскіх народаў?

XIX ст. у гісторыі славянскіх народаў было стагоддзем культурнага адраджэння і барацьбы за нацыянальную незалежнасць. Паўднёвыя славяне канчаткова пазбавіліся ад асманскага панавання і набылі дзяржаўную незалежнасць у пачатку XX ст. Заходнія славяне атрымалі яе толькі пасля Першай сусветнай вайны. Усходнія славяне — беларусы і ўкраінцы — набылі дзяржаўнасць пасля распаду Расійскай імперыі.

**1. Культурнае адраджэнне.** У XIX ст. пачалося адраджэнне славянскіх нацыянальных культур.

У паэзіі, літаратуры, жывапісе і музыцы з асаблівай сілай загучалі патрыятычныя матывы. Любоў да айчыны, роднай мовы і народных традыцый стала асноўнай тэмай твораў мастацкай літаратуры і мастацтва.

Балгарскія паэты і рэвалюцыянеры ***Георгі Ракоўскі*** (1821—1867) і ***Хрыста Боцеў*** (1848—1876) у сваёй творчасці ўслаўлялі барацьбу гайдукоў (партызан) супраць турэцкага прыгнёту, намалявалі яркія вобразы змагароў за нацыянальную свабоду. Большасць вершаў Хрыста Боцева сталі народнымі песнямі і перадаваліся вусна.

Прадстаўнікоў чэшскага нацыянальна-асветніцкага руху выразна называлі «будзіцелямі»: іх дзейнасць спрыяла абуджэнню нацыянальнай самасвядомасці чэшскага народа. Так, паэт ***Ян Колар*** (1793—1852) выступаў за збліжэнне славянскіх народаў і ўсхваляў у сваёй творчасці нацыянальных герояў славян — Я. Гуса, Я. Жыжку, Т. Касцюшку (паэма «Дачка Славы»). Народныя матывы гучалі ў музыцы кампазітара XIX ст., заснавальніка чэшскай оперы ***Бедржыха Сметаны*** (1824—1884).

Бясцэнным укладам у сусветную культуру сталі творы польскага паэта-рамантыка ***Адама Міцкевіча*** (1798—1855) і кампазітара ***Фрыдэрыка Шапэна*** (1810—1849).

Любоўю да Украіны, матывамі нацыянальна-вызваленчай барацьбы і славянскага братцва прасякнута творчасць выдатнага ўкраінскага паэта ***Тараса Рыгоравіча Шаўчэнкі*** (1814—1861).

Культурнае адраджэнне славянскіх народаў стала важнейшай перадумовай іх барацьбы за нацыянальную незалежнасць.

**2. Паўднёвыя славяне.** Землі Балканскага паўвострава, на якіх жылі славянскія народы, уваходзілі ў склад дзвюх імперый — Асманскай і Аўстрыйскай.

У асабліва цяжкім становішчы знаходзіліся балгары, сербы, харваты і баснійцы, якія пакутавалі ад прыгнёту Асманскай імперыі. Імкнучыся вызваліцца ад іншаземнага ярма, яны ўздымалі паўстанні, якія бязлітасна падаўляліся туркамі. У барацьбе за дзяржаўную самастойнасць для паўднёвых славян асаблівае значэнне мела палітыка Расіі на Балканах і яе войны з Асманскай імперыяй.

*Сербія.* У **1804—1813 гг.** успыхнула вызваленчае паўстанне ў Сербіі. Але ў гэты час Расія сама вяла вайну з напалеонаўскай Францыяй, таму аказаная Сербіі ваенная і дыпламатычная дапамога была абмежаванай. Турцыя выкарыстала гэтыя абставіны і жорстка падавіла паўстанне.

Праз два гады новае паўстанне ў Сербіі ўзначаліў ваявода ***Мілаш Абрэнавіч***. Ён дабіўся некаторых уступак ад турэцкага султана. А пасля паражэння ў руска-турэцкай вайне (1828—1829) Асманская імперыя прызнала аўтаномію Сербіі. Гэта была вялікая перамога сербскага народа. Поўную незалежнасць Сербія набыла ў 1878 г.

У 1848—1849 гг. вызваленчы рух ахапіў паўднёваславянскія землі Аўстрыйскай імперыі — Харватыю, Славенію і Ваяводзіну.

*Балгарыя.* У 1870-я гг. пачаўся ўздым нацыянальна-вызваленчага руху ў Балгарыі. Яго ўзначалілі ***Васіл Леўскі*** (1837—1873) і Хрыста Боцеў. Яны ўпотай вялі падрыхтоўку да ўзброенага выступлення. Але ў красавіку 1876 г. жыхары аднаго з раёнаў Балгарыі дачасна ўзнялі паўстанне. Туркі бязлітасна расправіліся з паўстанцамі: у Плоўдзіве і яго ваколіцах было пакарана смерцю 15 тыс. чалавек і разбурана 58 вёсак.



*Сцяг балгарскіх паўстанцаў*

На дапамогу балгарам прыйшла Сербія, а ўслед за ёй і Расія. Так пачалася руска-турэцкая вайна 1877—1878 гг.

Рускія войскі з баямі дайшлі да Стамбула, і султан вымушаны быў запрасіць міру. Паводле ўмоў Сан-Стэфанскага мірнага дагавора Сербія атрымлівала поўную незалежнасць. Была створана нацыянальная дзяржава балгар, якая, праўда, заставалася васалам Асманскай імперыі.

Аднак Англія і Аўстра-Венгрыя запатрабавалі перагляду вынікаў руска-турэцкай вайны і склікання з гэтай мэтай міжнароднай канферэнцыі — Берлінскага кангрэса. У выніку Аўстра-Венгрыя атрымала права акупіраваць Боснію і Герцагавіну, каб не дапусціць далучэння гэтых зямель да незалежнай Сербіі і ўтварэння буйной славянскай дзяржавы. Яе падтрымалі Англія, Францыя, Германія і Турцыя. Балгарыя страціла частку сваіх тэрыторый. З гэтага часу за ўплыў на Балгарскую дзяржаву змагаліся Расія, Аўстра-Венгрыя і Вялікабрытанія.

У **1908 г.** Балгарыя абʼявіла сябе царствам і абвясціла незалежнасць ад Турцыі. Але кіруючыя колы гэтай славянскай краіны ўсё больш траплялі пад уплыў аўстрыйскай і германскай знешняй палітыкі.

У пачатку XX ст. вялікія дзяржавы неаднойчы ўмешваліся ў вырашэнне складаных праблем рэгіёна. Ды і ў спрэчках паміж самімі балканскімі дзяржавамі часта галоўным аргументам станавілася зброя.




*Балканскі паўвостраў у 1877—1908 гг.*




*Балканскі паўвостраў у 1912—1913 гг.*

Так, у 1912 г. пры садзейнічанні расійскай дыпламатыі быў створаны Балканскі саюз, які аб’яднаў Сербію, Балгарыю, Чарнагорыю і Грэцыю. У **1912 г.** яны аб’явілі Турцыі вайну, якая скончылася перамогай антытурэцкай кааліцыі. Згодна з заключаным у **1913 г.** у Лондане мірным дагаворам, Турцыя страціла ўсе свае ўладанні ў Еўропе. Але былыя саюзнікі сталі ворагамі, не дамовіўшыся аб падзеле асманскіх уладанняў, у прыватнасці Македоніі. Балгарыя ўступіла ў вайну не толькі з Сербіяй, Чарнагорыяй і Турцыяй, але і з Румыніяй, і пацярпела паражэнне.

Усё гэта ператварала Балканы ў «парахавую бочку» Еўропы. Невыпадкова прычынай для Першай сусветнай вайны сталі падзеі на Балканах — забойства аўстрыйскага наследніка прастола эрцгерцага Фердынанда.

**3. Заходнія славяне.** *Польшча.* У канцы XVIII ст. Польшча (Рэч Паспалітая) як самастойная дзяржава спыніла сваё існаванне. Тры дзяржавы — Аўстрыя, Прусія і Расія — падзялілі паміж сабой польскія землі.

У 1807 г. у выніку дамоўленасці паміж французскім імператарам Напалеонам I і царом Аляксандрам I на карце Еўропы з’явілася Варшаўскае герцагства (княства). У яго ўвайшлі польскія тэрыторыі, якія раней належалі Аўстрыі і Прусіі. Але пасля разгрому напалеонаўскай Францыі рашэннем Венскага кангрэса польскія землі зноў былі падзелены паміж Прусіяй, Аўстрыяй і Расіяй. Большая частка Варшаўскага княства адышла да Расійскай імперыі пад назвай Каралеўства Польскага.

У 1815 г. Аляксандр I дараваў Каралеўству Польскаму канстытуцыю. Польшча атрымлівала права мець выбарны сойм, уласную армію і ўрад на чале з намеснікам. Рускі цар станавіўся і польскім каралём, а тэрыторыя каралеўства назаўсёды далучалася да Расіі. Намеснік цара ў Каралеўстве Польскім знаходзіўся ў Варшаве.

Палякі не хацелі мірыцца з такім становішчам. У краіне пачаўся рэвалюцыйны рух. Царскі ўрад жорстка падавіў нацыянальна-вызваленчыя паўстанні **1830—1831** і **1863—1864 гг.** У студзеньскія дні 1831 г. у час дэманстрацыі ў Варшаве, арганізаванай у памяць аб дзекабрыстах, нарадзіўся вядомы лозунг «За нашу і вашу свабоду!». Так паўстанцы дэманстравалі салідарнасць з рускім народам і заклікалі яго да сумеснай барацьбы з самадзяржаўем.

Пасля падаўлення паўстання 1863—1864 гг. польская аўтаномія была фактычна ліквідавана. З гэтага часу ўся паўната ўлады ў каралеўстве належала царскаму намесніку. У 1867 г. Каралеўства Польскае было перайменавана ў Прывіслінскі край. У такім выглядзе «руская Польшча» праіснавала да распаду Расійскай імперыі ў 1917 г.

Ва ўстановах насаджалася руская бюракратыя, адбывалася русіфікацыя краю (справаводства, адукацыя і культура пераводзіліся на рускую мову), пачаліся ганенні на каталіцкую царкву.



*Паўстанне ў Празе 12—17 чэрвеня 1848 г. Барыкады каля Старамесцкай вежы. Гравюра XIX ст.*

*Чэхія*. Чэхія была найбольш развітой часткай Аўстрыйскай імперыі. Яшчэ ў XVIII ст. былі закладзены асновы адраджэння чэшскай нацыі. Да сярэдзіны XIX ст. патрыятычны рух ахопліваў усю краіну. У **1848 г.** успыхнула нацыянальна-вызваленчае паўстанне. Але яно было жорстка падаўлена, і Чэхіі не ўдалося дабіцца аўтаноміі.

У 1867 г. імператар Франц Іосіф I абвясціў аўтаномію Венгрыі, у той час як становішча Чэхіі не змянілася. У час Першай сусветнай вайны чэхі адмаўляліся ўступаць у армію Аўстра-Венгрыі, якая ваявала супраць Расіі і Сербіі. У кастрычніку 1918 г. пасля распаду Аўстра-Венгерскай імперыі чэхі і славакі аб'явілі аб стварэнні адзінай незалежнай дзяржавы Чэхаславакіі.

**Пытанні і заданні**

1. Чаму да пачатку XIX ст. большасць славянскіх народаў не мелі сваёй дзяржаўнасці?
2. Назавіце асноўныя рэгіёны пражывання славян на тэрыторыі Еўропы ў XIX ст. Пакажыце іх на карце.
3. Ахарактарызуйце становішча славянскіх народаў, якія знаходзіліся пад уладай Прусіі і Аўстрыі.
4. Раскрыйце ролю Расіі ў станаўленні незалежнасці балканскіх народаў.
5. Складзіце кароткія тэзісы (палажэнні, сцвярджэнні) на тэму «Славянскія народы ў барацьбе за нацыянальную незалежнасць у XIX — пачатку XX ст.».
6. Прадоўжыце запаўненне табліцы «Развіццё сусветнай навукі і культуры ў XIX — пачатку XX ст.» (с. 72).



Канстытуцыя Каралеўства Польскага 1815 г. гарантавала жыхарам свабоду друку, недатыкальнасць асобы, прадугледжвала ўжыванне польскай мовы ва ўсіх дзяржаўных і судовых установах, абавязковае замяшчэнне ўсіх пасад

у адміністрацыі, судзе і войску падданымі Царства Польскага. Цар польскі, адначасова рускі імператар, павінен быў прысягаць на вернасць польскай канстытуцыі. Заканадаўчым органам з'яўляўся двухпалатны сойм. Ніжняя палата выбіралася ў адпаведнасці з маёмасным цэнзам.

*Дайце сваю ацэнку польскай канстытуцыі 1815 г. Як вы лічыце, чаму пасля паўстання 1830—1831 гг. Мікалай І пазбавіў Польшчу канстытуцыі?*



У канцы XIX — пачатку XX ст. дзясяткі тысяч чэхаў і славакаў пакідалі абжытыя месцы і адпраўляліся ў іншыя краіны. Са Славакіі ў 1900—1914 гг. выехала амаль чвэрць насельніцтва. З усіх частак Польшчы ў другой палове XIX — пачатку XX ст. пераехала з вёскі ў горад і эмігрыравала больш за 9 млн чалавек. Многія з іх у пошуках лепшай долі адпраўляліся ў Амерыку, Канаду, Аўстралію.

*Чым прываблівалі эмігрантаў гэтыя краіны?*



Дзікія зверствы турак пры падаўленні балгарскага паўстання, калі было выразана 15 тыс. чалавек, выклікалі ў Расіі хвалю абурэння і спачування братам-славянам. У Сербію, якая аб'явіла вайну Турцыі, пацяклі грашовыя ахвяраванні і накіраваліся добраахвотнікі (каля 4 тыс. чалавек). У ліку добраахвотнікаў быў і наш суайчыннік, ураджэнец Магілёўскай губерні, генерал Міхаіл Рыгоравіч Чарняеў. У 1876 г., насуперак жаданню рускага ўрада, ён паехаў у Бялград. Там Чарняеў быў прызначаны галоўнакамандуючым сербскай арміяй у час вайны Сербіі і Чарнагорыі з Турцыяй.

## АБАГУЛЬНЯЮЧЫЯ ПЫТАННІ І ЗАДАННІ ДА РАЗДЗЕЛАЎ ІІ І ІІІ

### ДА РАЗДЗЕЛА ІІ

**1.** Характэрнымі асаблівасцямі развіцця Злучаных Штатаў Амерыкі ў XIX ст. сталі: значнае пашырэнне тэрыторыі дзяржавы (з 1776 да 1846 г. яна павялічылася ў 3 разы); адсутнасць моцных праціўнікаў на кантыненце; наяўнасць «свабодных» зямель на захадзе краіны; хуткі рост колькасці насельніцтва, у тым ліку за кошт імігрантаў. Як паўплывалі гэтыя фактары на ход гістарычнага развіцця краіны?

**2.** Спецыфіка развіцця ЗША заключалася ў розніцы ладу жыцця Поўначы, дзе хутка расла фабрычная прамысловасць, узнікалі новыя гарады, у якіх асела значная частка імігрантаў з Еўропы, развіваліся фермерскія гаспадаркі,

і плантатарскага Поўдня, адкуль пастаўляліся на ўнутраны і знешні рынак бавоўна, тытунь, цукровы трыснёг. Сфармулюйце праблему, якую трэба было вырашыць амерыканцам пасля заваявання незалежнасці.

**3.** Якую ролю ў супрацьстаянні Поўначы і Поўдня адыграла праблема рабства? Што, на ваш погляд, было галоўным у гэтай супярэчнасці: праблема палітычнага дамінавання ў Саюзе, спрэчка наконт «свабодных» зямель на захадзе або становішча чарнаскурых рабоў? Растлумачце свой адказ. На чыім баку вашы сімпатыі: паўночнікаў ці жыхароў Поўдня?

**4.** Праграмным творам абаліцыяністаў Поўначы стаў раман Г. Бічэр-Стоу «Хаціна дзядзькі Тома». Жыхары Поўдня напісалі ў адказ сем раманаў. Іх ідэолагі адзначалі, што свабода — гэта, вядома, добра, але нельга вызваляць рабоў без папярэдняй падрыхтоўкі. Яны лічылі, што негры — нібы «малыя дзеці», а плантатар для іх — як бацька родны, які дае работу, хлеб, дом. Чарнаскурыя павінны «пасталець», навучыцца жыць самастойна, інакш, вызваліўшыся, яны кінуцца ў разгул, ім не будзе дзе жыць, не будзе чым карміць дзяцей, не будзе дзе працаваць. Паспрабуйце абвергнуць пункт гледжання жыхароў Поўдня.

**5.** У 1862 г., у ходзе Грамадзянскай вайны ў ЗША (1861—1865), быў прыняты так званы Гомстэд-акт, які абвясціў права кожнага амерыканца на набыццё за намінальную плату зямельнага надзелу (гомстэда). Чалавек, які апрацоўваў гомстэд на працягу пяці гадоў, станавіўся яго ўласнікам. Вызначце значэнне гэтага закона ў амерыканскай гісторыі. Як паўплываў закон на ход Грамадзянскай вайны?

**6.** Ці заканамерная перамога Поўначы над Поўднем? Сфармулюйце значэнне Грамадзянскай вайны ў гісторыі ЗША.

**7.** У другой палове XIX ст. у Англіі і ЗША складвалася двухпартыйная сістэма: торы і вігі ў Вялікабрытаніі, рэспубліканцы і дэмакраты ў Амерыцы. Вызначце сутнасць гэтай сістэмы. Што пакладзена ў аснову дзейнасці пералічаных партый? Закончыце сказы (пісьмова).

а) *Асноўныя мэты Дэмакратычнай партыі былі ў наступным... У першую чаргу гэта адпавядала інтарэсам... і супярэчыла інтарэсам...*

б) *Асноўныя мэты Рэспубліканскай партыі былі ў наступным... У першую чаргу гэта адпавядала інтарэсам... і супярэчыла інтарэсам...*

**8.** Па якіх прычынах рабочы рух у ЗША развіваўся больш павольна, чым у краінах Заходняй Еўропы?

**9.** Завяршыце фразу, выбраўшы з прапанаваных адказаў правільны.

На чале вызваленчага руху лацінаамерыканскіх калоній Іспаніі стаялі... (*памешчыкі-крэолы, буржуазія, сяляне, рабочыя, духавенства*).

**10.** Складзіце разгорнуты план паведамлення аб вызваленчай барацьбе ў іспанскіх і партугальскіх калоніях.

**11.** Выпішыце правільны адказ.

У большасці лацінаамерыканскіх дзяржаў, якія вызваліліся ад каланіяльнага прыгнёту, усталяваўся... (*рэспубліканскі, манархічны, канстытуцыйна-манархічны, ваенна-дыктатарскі*) лад.

**12.** Запоўніце табліцу «Войны XIX ст. у Паўночнай і Лацінскай Амерыцы».

| Параметры для параўнання | Вайна за незалежнасць іспанскіх калоній у Лацінскай Амерыцы | Грамадзянская вайна ў ЗША |
|---|---|---|
| Перадумовы | | |
| Актыўныя ўдзельнікі | | |

**13.** Растлумачце значэнне паняццяў «абаліцыянізм», «гомстэд», «канфедэрацыя», «суд Лінча», «расізм».

**14.** Падрыхтуйце паведамленне аб адным з вядомых прадстаўнікоў Амерыкі, якія праславіліся сваімі здзяйсненнямі ў галіне палітыкі ці культуры XIX ст.

## ДА РАЗДЗЕЛА III

**1.** Да якога тыпу цывілізацый вы аднеслі б Расійскую імперыю?

**2.** Пакажыце на карце тэрыторыю Расійскай імперыі ў XIX ст. Колькі мільёнаў квадратных кіламетраў яна складала? Якія тэрыторыі былі да яе далучаны? З памерамі якой каланіяльнай дзяржавы можна супаставіць яе памеры? Паспрабуйце сфармуляваць вывад аб развіцці Расіі ў гэты час. Падумайце, чаму яна называлася імперыяй.

**3.** Шматнацыянальнасць — характэрная рыса Расіі. У сярэдзіне XIX ст. каля 40 % яе насельніцтва складалі так званыя іншародцы. А. С. Пушкін пісаў аб Расіі як аб «сям'і народаў», адзначаючы, што «толькі ў імперыі расіянін можа быць свабодным». У. І. Ленін, наадварот, лічыў Расію «турмой народаў». Пракаменціруйце гэтыя выказванні. Ці змяшчаецца ў кожным з іх, на вашу думку, доля ісціны?

**4.** З якімі знамянальнымі падзеямі і выдатнымі гістарычнымі дзеячамі вы пазнаёміліся пры вывучэнні гісторыі Расіі XIX — пачатку XX ст.?

**5.** Успомніце, што такое індустрыялізацыя. Калі яна пачалася ў Расіі?

**6.** Назавіце фактары, якія тармазілі развіццё сельскай гаспадаркі ў Расіі ў пачатку XX ст.

**7.** Прускі або японскі селянін, які меў столькі ж зямлі, колькі расійскі, лічыўся даволі заможным. Якія праблемы, акрамя малазямелля, перашкаджалі эфектыўнаму гаспадаранню рускага селяніна пасля адмены прыгоннага права?

**8.** Як ацэньвалі шлях развіцця і перспектывы Расіі розныя грамадскія сілы (славянафілы, лібералы, народнікі, сацыял-дэмакраты) у XIX — пачатку XX ст.?

**9.** Якім быў палітычны лад Расіі да рэвалюцыі 1905 г.? Выберыце правільны адказ: а) парламенцкая рэспубліка; б) канстытуцыйная манархія; в) неабмежаваная манархія; г) прэзідэнцкая рэспубліка.

**10.** Успомніце, якія партыі існавалі ў Расіі ў пачатку XX ст. Калі яны былі ўтвораны? Назавіце іх лідараў. Пры падрыхтоўцы адказу выкарыстайце дадатковую літаратуру.

**11.** Якія альтэрнатывы (магчымыя варыянты развіцця) адкрываліся перад Расіяй на мяжы XIX—XX стст.? Чаму краіна выбрала рэвалюцыйны шлях, а рэформы не дасягнулі сваёй мэты?

**12.** Абмяркуйце думку вядомага дзяржаўнага дзеяча Расіі XX ст. П. А. Сталыпіна: «Толькі вайна можа пагубіць Расію». Падумайце, ці магла Расія перадолець крызіс. Што для гэтага трэба было зрабіць?

**13.** Назавіце найбольш буйныя нацыянальна-вызваленчыя выступленні заходніх і паўднёвых славян у XIX ст.

## Раздзел IV

# КРАІНЫ АЗІІ І АФРЫКІ

Многія народы Азіі і Афрыкі стварылі высокаразвітую духоўную і матэрыяльную культуру. Усяму чалавецтву вядомы іх дасягненні ў галіне медыцыны, матэматыкі і мастацтва. Цяжка цяпер сказаць, па якім шляху пайшлі б развітыя ўсходнія цывілізацыі, калі б натуральны працэс іх гістарычнага руху не быў перапынены еўрапейскай экспансіяй.

XIX ст. стала вырашальным у лёсах усходніх цывілізацый. Завяршыўся тэрытарыяльны падзел свету, які пачаўся ў эпоху Вялікіх геаграфічных адкрыццяў. Адны краіны Азіі і Афрыкі сталі бяспраўнымі калоніямі, іншыя — паўкалоніямі, г. зн. краінамі, незалежнасць якіх была абмежавана няраўнапраўнымі дагаворамі з еўрапейскімі дзяржавамі. Багацейшыя краіны Азіі — Індыя і Інданезія — аказаліся пад поўным кантролем Англіі і Галандыі. Паўкалоніямі сталі Кітай, Іран і Асманская імперыя (Турцыя). Усе яны былі ператвораны ў аграрна-сыравінны прыдатак Еўропы. Так, напрыклад, Індыя спецыялізавалася на вывазе бавоўны, тытуню, цукру і джуту. Егіпет пастаўляў самую лепшую ў свеце доўгавалакністую бавоўну, Кітай — чай, шоўк-сырэц і г. д. Адзінай краінай Усходу, якая захавала сваю незалежнасць, была Японія.

Але ў працэсе каланізацыі быў і прагрэсіўны бок. Разам з еўрапейцамі ў краіны Усходу пранікала заходняя культура: новыя ідэі, сучасная навука і тэхніка. З'явіліся фабрыкі і чыгункі, кнігадрукаванне і палітычныя партыі. Станавіліся звыклымі словы «парламент» і «канстытуцыя». Усё больш людзей выступала за абмежаванне і нават адмену манархічнай улады і далучэнне да дасягненняў заходнееўрапейскай цывілізацыі. Невыпадкова пачатак XX ст. увайшоў у гісторыю як эпоха «абуджэння» Азіі — эпоха пад'ёму нацыянальна-вызваленчага руху.

## § 24. ЯПОНІЯ

**Успомніце**

1. Каму належала вярхоўная ўлада ў Японіі?

2. Якім было становішча ў грамадстве розных саслоўяў?

3. У чым заключалася палітыка самаізаляцыі краіны ад знешняга свету?

4. Растлумачце значэнне паняццяў «сёгунат», «крызіс», «прамысловасць», «канстытуцыя», «нацыяналізм».

У 1868 г. у Японіі адбылася падзея, якая рэзка змяніла ход гістарычнага развіцця гэтай краіны, — была адноўлена імператарская ўлада. Разбурылася ўся сістэма сёгуната, якая праіснавала ў Японіі амаль семсот гадоў. Новы ўрад стаў на шлях рэформаў і пераўтварэнняў, якія змянілі аблічча Японіі да непазнавальнасці. З адсталай сярэдневяковай краіны яна ператварылася ў сучасную дзяржаву на Далёкім Усходзе. Гэта сапраўды рэвалюцыйная падзея адбылася пры жыцці аднаго пакалення. Імклівы рывок у развіцці Японіі да гэтага часу прыцягвае ўвагу не толькі вучоных, але і проста цікаўных людзей.

**1. Крызіс сёгуната Такугава.** У першай палове XIX ст. многія еўрапейскія дзяржавы сталі на шлях прамысловага развіцця. Японія ў адрозненне ад іх заставалася адсталай феадальнай краінай. Вярхоўная ўлада па-ранейшаму была ў руках ваенных правіцеляў — сёгунаў з княжацкага роду *Такугава*.

Эканамічнае становішча краіны з яе 30-мільённым насельніцтвам было вельмі цяжкім. Нараджальнасць перавышала смяротнасць усяго на адзін працэнт у год. Страшнай трагедыяй для японцаў абярнуўся неўраджай 1830-х гг. Пачаўся голад, у выніку якога памерла каля 1 млн чалавек. Нядзіўна, што паўстанні сялян і гараджан літаральна скаланулі такугаўскую Японію.

Многія самураі, у тым ліку і некаторыя князі, усё больш задумваліся аб аднаўленні імператарскай улады. Штуршком да іх выступлення стала насільнае «адкрыццё» Японіі заходнімі дзяржавамі ў сярэдзіне XIX ст.

**2. Насільнае «адкрыццё» Японіі і звяржэнне сёгуната.** Летам 1853 г. каля берагоў Японіі з'явілася ваенная эскадра ЗША. Амерыканцы наглядна прадэманстравалі тэхнічную перавагу Захаду: разагналі японскія каравульныя лодкі гарматным агнём.

Японіі былі навязаны нераўнапраўныя дагаворы. Прыклад ЗША адразу ж перанялі Вялікабрытанія, Галандыя, Францыя і Расія. Іншаземцы атрымалі права неабмежаванага гандлю. На іх тавары ўстанаўліваліся нізкія мытныя

пошліны. Непадсуднасць іншаземцаў японскім судам абмяжоўвала суверэнітэт краіны.

Патрыятычна настроеныя князі і самураі былі незадаволены сёгунам і іншаземным умяшаннем. Яны імкнуліся да аднаўлення імператарскай улады і аб'ядналіся вакол 15-гадовага імператара ***Муцухіта***, які ўзышоў на трон у 1867 г.


*Імператар Муцухіта*

3 студзеня **1868 г.** у гісторыі Японіі адбылася найважнейшая падзея — быў абвешчаны *ўказ аб рэстаўрацыі (аднаўленні) імператарскай улады, ліквідаванні сёгуната і заснаванні новага ўрада*. Сёгун не падпарадкаваўся, і ў краіне распачалася грамадзянская вайна. Да лета 1869 г. прыхільнікі сёгуната прызналі сябе пераможанымі. Ваенна-феадальная сістэма сёгуната спыніла сваё існаванне.

Эпоха праўлення імператара Муцухіта (1867—1912) атрымала назву «Мэйдзі», або «асветнае праўленне».

**3. Рэформы 1868—1873 гг.** Зварэнне сёгуната было рэвалюцыйнай падзеяй, таму яно ўвайшло ў гісторыю пад назвай «рэвалюцыя Мэйдзі».

Рэформы, праведзеныя ў 1868—1873 гг., паклалі пачатак ператварэнню Японіі з краіны феадальнай у краіну капіталістычную. Ліквідаваўся падзел краіны на княствы. Замест іх ствараліся новыя тэрытарыяльна-адміністрацыйныя адзінкі — прэфектуры, якія падпарадкоўваліся імператарскаму ўраду.

Старая саслоўная структура ліквідавалася. Замест ранейшых чатырох уводзіліся тры саслоўі: вышэйшае дваранства (былыя феадальныя князі і прыдворная арыстакратыя), дваранства (усе былыя самураі) і саслоўе простага народу (астатнія пласты насельніцтва). Усе саслоўі аб'яўляліся роўнымі перад законам. Уводзілася свабода гандлю і перамяшчэння па ўсёй краіне.

Важным пераўтварэннем стала *аграрная рэформа*. Яна ўстанаўлівала прыватную ўласнасць на зямлю з правам куплі-продажу і закладу. Сяляне маглі без абмежаванняў вырошчваць любыя сельскагаспадарчыя культуры і займацца гандлем. Усе натуральныя падаткі замяняліся грашовымі.

Велізарныя наступствы для Японіі мела *ваенная рэформа*. Самурайскія апалчэнні былі пераўтвораны ў *рэгулярную армію*, якая падпарадкоўвалася імператарскаму ўраду і камплектавалася на аснове ўсеагульнай воінскай па-



*Першы японскі тэлеграф. Гравюра XIX ст.*

віннасці. Кіруючую ролю ў ёй адыгрывалі самураі. Толькі яны маглі быць назначаны на афіцэрскія пасады.

У аснову выхавання салдат і афіцэраў быў пакладзены кодэкс гонару самурая — *бусідо* (шлях воіна).

Рэформы 1868—1873 гг. былі памяркоўнымі і насілі буржуазны характар. Яны адкрывалі дарогу капіталістычнаму развіццю Японіі.

**4. Прамысловае будаўніцтва.** Пасля звяржэння сёгуната імператарскі ўрад стварыў спрыяльныя ўмовы для прыватнапрадпрымальніцкай дзейнасці. За кошт казны былі пабудаваны так званыя «ўзорныя прадпрыемствы» і прададзены па нізкіх цэнах прыватным асобам, у тым ліку былым князям і некалькім прывілеяваным фірмам («Міцуі», «Міцубісі», «Фурукава» і інш.).

У выніку за кароткі тэрмін (1870—1890-я гг.) у Японіі з'явіліся чыгункі і тэлеграфная сувязь, была праведзена індустрыялізацыя краіны, хутка адбываўся працэс канцэнтрацыі вытворчасці і капіталу. За тры дзесяцігоддзі краіна прайшла шлях, на які еўрапейскім дзяржавам спатрэбілася некалькі стагоддзяў.

**5. Канстытуцыя 1889 г.** У пачатку 1880-х гг. у Японіі разгарнуўся рух за прыняцце ў краіне канстытуцыі. Імператарскі ўрад пайшоў на ўступкі, і 11 лютага **1889 г.** тэкст канстытуцыі быў апублікаваны.

У Японіі абвяшчалася *канстытуцыйная манархія*. Аднак за імператарам замацоўвалася практычна неабмежаваная ўлада. Яго асоба была «свяшчэннай і недатыкальнай». Канстытуцыя фармальна абвяшчала свабоду слова, перапіскі, друку, сходаў і саюзаў. Яна значна ўмацавала манархічны лад. Гэта канстытуцыя дзейнічала да 1946 г.

**6. Уплыў заходняй культуры.** У эпоху Мэйдзі адбыліся змены не толькі ў галіне эканомікі і палітыкі. Рэформы садзейнічалі развіццю культуры. Яны паўплывалі на ўсе бакі жыцця японскага грамадства. Японцы запазычвалі дасягненні заходняй культуры, навукі і тэхнікі. Моладзь накіроўвалі на вучобу ў Еўропу, Злучаныя Штаты Амерыкі. І наадварот, замежныя спецыялісты, выкладчыкі і тэхнічныя саветнікі прыцягваліся ў Японію. Некаторыя прыхільнікі ўсяго еўрапейскага нават прапаноўвалі прыняць англійскую мову ў якасці нацыянальнай.

Адным з элементаў грамадскіх пераўтварэнняў была *школьная рэформа*. У краіне адкрываліся ўніверсітэты, сярэднія і пачатковыя школы. Згодна з законам 1872 г. чатырохгадовая адукацыя стала абавязковай. Ужо на пачатку 1880-х гг. сярод маладых японцаў рэдка можна было сустрэць непісьменнага.

З'явілася новая літаратура, якая значна адрознівалася ад сярэдневяковай. Папулярнасць набыў жанр рамана. Буйнейшым пісьменнікам таго часу быў ***Рока Такутомі*** (1868—1927), які зазнаў уплыў Л. М. Талстога. Вядомасць яму прынёс раман «Курасіва», перакладзены на рускую мову. У 1896 г. у Японію прывезлі кіно, а праз тры гады з'явіліся фільмы японскай вытворчасці.



**7. Новае ў ладзе жыцця японскага грамадства.** Пад уплывам Захаду змяняўся лад жыцця японцаў, у які пранікалі разнастайныя наваўвядзенні. Замест традыцыйнага для Японіі *месячнага календара* быў уведзены агульнаеўрапейскі *грыгарыянскі*. Нядзелю аб'явілі выхадным днём. З'явіліся выдавецтвы і друкарні. У гарадах пачалі будаваць вялікія цагляныя дамы і магазіны ў еўрапейскім стылі.



*Дзяўчаты ў традыцыйных японскіх касцюмах (уверсе) і дама з вышэйшых колаў грамадства ў еўрапейскім адзенні. Канец XIX ст.*

Змены закранулі і знешняе аблічча японцаў. Урад імкнуўся да таго, каб у вачах еўрапейцаў японцы выглядалі па-сучаснаму. У 1872 г. імператар і яго акружэнне апрануліся ў еўрапейскае адзенне. Пасля гэтага заходняе адзенне распаўсюдзілася сярод гарадскога насельніцтва. Нярэдка можна было сустрэць чалавека ў кімано і штанах. Сельскія жыхары больш марудна прымалі еўрапейскае адзенне. Асабліва цяжкім быў пераход на еўрапейскі абутак, які вельмі адрозніваўся ад традыцыйнага японскага.

Некаторыя старадаўнія звычаі былі забаронены толькі таму, што еўрапейцы лічылі іх варварскімі (напрыклад, агульныя публічныя лазні, татуіроўкі і інш.). У моду паступова ўваходзілі еўрапейскія прычоскі. Замест традыцыйнай япон-

скай мужчынскай прычоскі (доўгія валасы, закручаныя ў пучок на макаўцы) стала абавязковай кароткая стрыжка.

Але паступова захапленне Захадам знікала, а з сярэдзіны 1890-х гг. Японію захапіла хваля **нацыяналізму**. Нацыяналісты выступалі супраць запазычанняў з Еўропы. Яны ўсяляк узносілі японскую нацыю, сцвярджаючы, што ў будучым ёй наканавана ператварыцца ў вышэйшую расу.

Нацыяналісты адкрыта прэтэндавалі на лідарства Японіі ў Азіі і заклікалі да экспансіі ў азіяцкія краіны, каб дапамагчы ім супрацьстаяць Захаду.

У школе дзяцей выхоўвалі ў духу бязмежнай адданасці імператару і нацыянальнай выключнасці. Ім прывівалі пачуццё перакананасці ў «свяшчэнным праве» Японіі на панаванне ў Азіі. Нават школьнае снеданне нагадвала японскі нацыянальны сцяг: марынаваныя слівы выкладваліся на белым рысе ў выглядзе чырвонага круга сонца.




*Японія ў канцы XIX — пачатку XX ст.*

Кіруючыя колы краіны выкарыстоўвалі ідэю нацыянальнай перавагі японцаў над іншымі народамі для правядзення агрэсіўнай палітыкі на Далёкім Усходзе і ў Паўднёва-Усходняй Азіі.

**8. Знешняя экспансія.** Японія была зацікаўлена ў пашырэнні сваёй тэрыторыі за кошт сваіх найбліжэйшых суседзяў: Карэі і Кітая. Там яна магла знайсці сыравіну і рынкі збыту, у якіх адчувала патрэбу прамысловасць, што бурна развівалася.

Пачалася інтэрвенцыя ў Карэю, якая афіцыйна лічылася васалам Кітая. Гэта стала асноўнай прычынай японa-кітайскай вайны 1894—1895 гг., у выніку якой да Японіі адышлі астравы *Тайвань* і *Пэнхуледаа*. Перамога Японіі ў руска-японскай вайне 1904—1905 гг. дала магчымасць ёй ператварыць Маньчжурыю і Карэю ў свае пратэктараты і атрымаць права ўладання Паўднёвым Сахалінам. У гады Першай сусветнай вайны Японія захапіла ціхаакіянскія астравы (уладанні Германіі) і яшчэ больш умацавала свае пазіцыі ў Кітаі.

За некалькі дзесяцігоддзяў Японія стала адной з вядучых дзяржаў свету.

**Пытанні і заданні**

1. Якія факты сведчаць аб тым, што ў пачатку XIX ст. у Японіі праявіўся крызіс феадальнага ладу?

2. Як і чаму адбылося насільнае «адкрыццё» Японіі? Да якіх вынікаў яно прывяло?

3. Ахарактарызуйце ролю імператара ў звяржэнні сёгуната.

4. Якія рэформы 1868—1873 гг. вы лічыце самымі важнымі? Чаму? Дакажыце, што яны мелі буржуазны характар. Складзіце табліцу «Рэформы 1868—1873 гг. у Японіі».

| Рэформа | Змест | Чыім інтарэсам адпавядала |
|---|---|---|
| | | |

5. Якія фактары забяспечылі Японіі хуткае прамысловае развіццё?

6. Ахарактарызуйце японскую канстытуцыю.

7. Прывядзіце аргументы, якія пацвярджаюць або абвяргаюць меркаванне, што знаёмства з ладам жыцця і культурай іншага народа садзейнічае ўзаемаразуменню паміж людзьмі. Назавіце прыклады з гісторыі Японіі.

8. Дакажыце, што ў канцы XIX ст. пачалася актывізацыя каланіяльнай палітыкі Японіі ў адносінах да іншых народаў Далёкага Усходу і Паўднёва-Усходняй Азіі. Чаму гэта адбылося? Пры адказе выкарыстайце карту.

9. Выпішыце падзеі, якія адбыліся ў Японіі ў 1853 г., 1868 г., 1868—1873 гг., 1889 г., 1894—1895 гг., 1904—1905 гг.



У пачатку XIX ст. у сваіх нататках капітан расійскага флоту В. М. Галаўнін адзначаў, што японцы «самы адукаваны народ ва ўсёй Падсонечнай. У Японіі няма чалавека, які б не ўмеў чытаць і пісаць».

*Падумайце, чаму менавіта на гэту акалічнасць звярнуў сваю ўвагу Галаўнін. Якое значэнне для японцаў мела пісьменнасць?*



**З кнігі «Галінка сакуры» расійскага журналіста Усевалада Аўчыннікава**

«Пры вывучэнні гісторыі, літаратуры і фальклору можна ўстанавіць дзве галоўныя крыніцы развіцця японскай культуры: адна з іх — гэта любоў да прыроды і другая — беднасць матэрыяльных рэсурсаў. Любоў японцаў да прыроды падобна да таго пачуцця, якое дзеці адчуваюць да сваіх бацькоў, захапляючыся імі і ў той жа час пабойваючыся іх».

*На якія бакі жыцця японцаў звярнуў увагу Усевалад Аўчыннікаў?*



**Японская ветлівасць**

«Японцы, нават мае сябры, не гавораць „не“, гэтага не дапускаюць іх традыцыі, — і калі трэба сказаць „не“, яны не разумеюць і не чуюць мяне».

*Барыс Пільняк. 1927 г.*

«На Захадзе людзі або гавораць вам праўду, або хлусяць. Японцы ж амаль ніколі не хлусяць, аднак ім ніколі не прыйдзе ў галаву гаварыць вам праўду».

*Боб Данхэм. 1964 г.*



**Першы расійскі консул у Японіі**

Адным з заснавальнікаў расійскага японазнаўства быў наш зямляк Іосіф Антонавіч Гашкевіч (1814—1875). Ён нарадзіўся на Міншчыне ў сям'і свяшчэнніка. У 1839 г. скончыў Пецярбургскую духоўную акадэмію і быў адпраўлены ў складзе Рускай духоўнай місіі ў Пекін. Там Гашкевіч вывучаў культуру Кітая, кітайскую, карэйскую і японскую мовы. З яго ўдзелам быў заключаны руска-японскі дагавор 1855 г. У 1858 г. Гашкевіч быў прызначаны рускім консулам у Японію. Ён стаў першым з іншаземцаў, якому дазволілі наведаць унутраныя раёны Японіі і двор сёгуна ў Эда (цяперашні Токіа). У 1865 г. Гашкевіч вярнуўся з сям'ёй у Расію. Пасля выхаду ў адстаўку жыў у маёнтку Малі (цяпер Астравецкі раён), дзе працягваў займацца філалогіяй. Ім быў падрыхтаваны першы ў Расіі «Японска-рускі слоўнік», адзначаны Дзямідаўскай прэміяй Пецярбург-



*І. А. Гашкевіч*

скай акадэміі навук з уручэннем залатога медаля. Яго імем названы заліў у Паўночнай Карэі (Чосанман). У 1989 г. у Хакадатэ быў устаноўлены помнік І. А. Гашкевічу.



**З гісторыі японскай чыгункі**

Гісторыя японскіх чыгунак пачалася 12 верасня 1872 г., калі з Токіа ў Іакагаму адправіўся першы пасажырскі цягнік. Запрошаныя на гэтую ўрачыстасць высокапастаўленыя асобы падымаліся ў вагоны так, як японец прывык уваходзіць у дом: перш чым падняцца на прыступку, кожны з іх машынальна разуваўся. Калі праз 57 хвілін зачараваныя саноўнікі сышлі ў Іакагаме, яны са здзіўленнем і раздражненнем выявілі, што ніхто не паклапаціўся загадзя перавезці і расставіць на пероне іх абутак.

## § 25. КІТАЙ У ПЕРШАЙ ПАЛОВЕ XIX ст.

**Успомніце**

1. Калі Кітай заваявалі маньчжуры?
2. Якія захопніцкія войны вялі Цыны ў XVII—XVIII стст.?
3. Ахарактарызуйце ўяўленні кітайцаў аб навакольным свеце.
4. Назавіце асаблівасці знешняй палітыкі Кітая. У чым выяўлялася «закрыццё», або самаізаляцыя, краіны?

У першай палове XIX ст. цынскі Кітай уступіў у паласу крызісу і заняпаду. Пад ваенным ціскам еўрапейскіх дзяржаў кіруючая дынастыя Цын адмовілася ад палітыкі самаізаляцыі. Сялянская вайна тайпінаў, якая пачалася ў 1850-я гг., узрушыла асновы Цынскай імперыі.

**1. Тэрыторыя і рост насельніцтва.** На мяжы XVIII—XIX стст. Кітай уяўляў сабой вялікую імперыю, у склад якой уваходзілі Маньчжурыя, Манголія, Тыбет, Джунгарыя і іншыя вобласці. У васальнай залежнасці ад дынастыі Цын знаходзіліся Карэя, Анам (сучасны В'етнам) і Бірма. Больш як 300 млн чалавек пражывала ў гэтай краіне. Насельніцтва расло так хутка, што праз 50 гадоў яно павялічылася да 400 млн і склала амаль трэць чалавецтва.

**2. Абвастрэнне сацыяльных супярэчнасцей.** Імклівы рост насельніцтва выклікаў недахоп пасяўных плошчаў. У густанаселеных раёнах зямлі не хапала, што стала прычынай сацыяльнай напружанасці ў кітайскім грамадстве. Другой прычынай абвастрэння супярэчнасцей у грамадстве былі самавольства і вымаганне чыноўнікаў.

У Кітаі імператар быў неабмежаваным уладаром усёй дзяржавы, «бацькам і маці» ўсіх кітайцаў. Чыноўнікі, у сваю чаргу, лічыліся «бацькамі» ўсяго падапечнага насельніцтва. Гэтыя «бацькі» былі сапраўднымі дэспатамі. Яны вяршылі суд і расправу па ўласным самавольстве, падпарадкоўваючыся толькі вышэйстаячай уладзе. Пад рознымі нагодамі чыноўнікі ўводзілі разнастайныя падаткі (на чай, соль, тытунь, рыс, хлеб, цукар, мяса, дровы), частка якіх ішла непасрэдна ім у кішэню.

І гора было селяніну, які асмельваўся звярнуцца з просьбай аб абароне да вышэйстаячай улады, таму што скарга вярталася на разгляд да крыўдзіцеля. Біццё бізуном было самым распаўсюджаным пакараннем. «Чыноўнікі імперыі горш за разбойнікаў», — так гаварыў пра іх адзін з правадыроў сялянскай вайны тайпінаў.

Большасць сялян жабравалі. Некаторыя кідалі сваю гаспадарку і папаўнялі рады разбойнікаў. Паўсюдна ўзнікалі тайныя антыманьчжурскія таварыствы. У паветры яўна «запахла навальніцай».

**3. Першая «опіумная» вайна.** У гэты час еўрапейцы ўзмацнілі свой націск на Кітай. Яны імкнуліся «адкрыць» краіну, каб весці з ёй нічым не абмежа-




*Кітай у XIX ст.*



*Марскі бой паміж брытанскім караблём і кітайскімі джонкамі ў час першай «опіумнай» вайны*

ваны гандаль, паступова ператварыць яе ў свой каланіяльны прыдатак, як гэта ўжо зрабілі з Індыяй.

Найбольшую актыўнасць праяўляла Вялікабрытанія. Яна была гатова пайсці на ваенныя дзеянні. Але першы пралом у «сцяне» кітайскай палітыкі самаізаляцыі зрабіла не зброя, а наркотык — опіум. Гісторыя яго распаўсюджвання ў Кітаі даволі павучальная і драматычная.

Гэту атруту еўрапейцы і раней пастаўлялі ў Кітай. Але ў першай трэці XIX ст. увоз опіуму значна павялічыўся. У асабліва выгадным становішчы былі англійскія купцы. Яны пастаўлялі наркотык з толькі што заваяванай Індыі. Опіумакурэнне набыло ў Кітаі шырокія маштабы. Курылі ўрадавыя чыноўнікі і салдаты, гаспадары майстэрняў і крам, курылі слугі, жанчыны і нават будучыя манахі і даоскія прапаведнікі. Кітайцам пагражала сур'ёзная небяспека. Акрамя таго, гандаль опіумам садзейнічаў вывазу серабра з Кітая, у выніку чаго фінансавае становішча краіны пагоршылася.

Кітайскім уладам рабілася зразумелым, што опіумны гандаль з'яўляецца адной з формаў англійскай **агрэсіі**. І цынскі ўрад забараніў гандаль наркотыкамі. Летам 1839 г. у Гуанчжоу на поўдні Кітая было канфіскавана і знішчана 20 тыс. скрынь опіуму, які належаў англійскім і іншым іншаземным купцам. Справядлівыя дзеянні кітайскіх улад паслужылі падставай для пачатку *англа-кітайскай першай «опіумнай» вайны* **1840—1842 гг.** Вайну, якую развязала Англія, амерыканскі прэзідэнт назваў «справядлівай».

У ходзе вайны праявіліся адмоўныя вынікі палітыкі самаізаляцыі. Кітайская армія мела на ўзбраенні толькі невялікія *джонкі* (лодкі) і халодную

зброю. Ваеннае камандаванне было слабым і бездапаможным. Яно амаль нічога не ведала аб міжнароднай сітуацыі і аб краіне, з якой ваявала. Адзін кітайскі губернатар у час вайны зрабіў цікавае «адкрыццё»: аказваецца, колы параходаў круцяць не быкі, а машыны. Нядзіўна, што паражэнні кітайскіх войскаў ішлі адно за адным. Не чакаючы поўнага разгрому, цынскі ўрад паспяшаўся капітуляваць. Вялікабрытанія атрымала вялікія прывілеі ў Кітаі. Для англійскага гандлю было адкрыта пяць кітайскіх партовых гарадоў. На англійскія тавары ўстанаўліваліся нізкія мытныя пошліны — не вышэйшыя за 5 %. Кітай выплаціў Англіі вялікую кантрыбуцыю (21 млн лянаў) і перадаў ёй востраў Сянган (Ганконг). Англічане атрымалі права непадсуднасці кітайскаму суду і законам.

Услед за Англіяй такія дагаворы з Кітаем заключылі іншыя заходнія дзяржавы. У выніку Кітай быў адкрыты для іншаземнага ўмяшання.

**4. Сялянская вайна тайпінаў.** У выніку паражэння Кітая ў «опіумнай» вайне аўтарытэт Цынскай дынастыі быў страчаны. Распаўсюдзіліся антыманьчжурскія настроі. Цынамі былі незадаволены не толькі простыя кітайцы, але і частка памешчыкаў. Ваенныя расходы, кантрыбуцыя пераможцам былі выплачаны пры дапамозе дадатковых падаткаў з насельніцтва. У асабліва цяжкім становішчы апынуліся сяляне.

Магутная антыфеадальная вайна выбухнула летам **1850 г.** Яна ахапіла цэнтральныя раёны Кітая і працягвалася амаль 15 гадоў — да **1864 г.** У ходзе паўстання была абвешчана «Нябесная дзяржава вялікага працвітання», або «Тайпін цяньго». Таму сялянская вайна ўвайшла ў гісторыю пад назвай *Тайпінскага паўстання*. Сталіцай тайпінскай дзяржавы стаў найбуйнейшы горад Кітая — Нанкін.

Правадыром паўстання быў ***Хун Сюцюань*** (1814—1864) — выхадзец з сялянскай сям'і, настаўнік сельскай школы. Знаходзячыся пад моцным уплывам хрысціянства, ён называў сябе малодшым братам Ісуса Хрыста і прапаведаваў ідэі роўнасці. Хун Сюцюань марыў аб стварэнні «свету вялікага спакою» і справядлівасці. Для дасягнення гэтай мэты ён лічыў неабходным звяржэнне Цынскай дынастыі. Усе маньчжуры — нават просталюдзіны — падлягалі знішчэнню.

У 1851 г. Хун Сюцюань быў абвешчаны імператарам дзяржавы тайпінаў. Праз два гады тайпіны абнародавалі зямельны закон. У ім адлюстравалася іх імкненне да стварэння сялянскага камунізму, заснаванага на ўраўняльным размеркаванні матэрыяльных даброт.

Зямельны закон абвяшчаў: «Уся зямля Паднябеснай апрацоўваецца жыхарамі сумесна... Неабходна, каб усе жыхары Паднябеснай у роўнай ступені




*Тайпінскае паўстанне. Малюнак XIX ст.*

і сумесна цешыліся вялікім шчасцем, дараваным нябесным айцом, Госпадам Богам: маючы палі, апрацоўвалі іх разам, маючы ежу, елі б яе разам, маючы адзенне, дзялілі б яго паміж сабой пароўну, маючы грошы, трацілі б іх сумесна... каб не было няроўнасці, каб усе былі сытыя і апранутыя».

Вялікабрытанія і Францыя ўважліва сачылі за развіццём грамадзянскай вайны ў Кітаі. Яны вырашылі выкарыстаць яе для пранікнення ў глыб краіны. Цынскі ўрад паспрабаваў супрацьстаяць гэтаму. Тады Англія і Францыя перайшлі да адкрытай агрэсіі. Пачалася *англа-франка-кітайская другая «опіумная» вайна* **1856—1860 гг.** Увосень 1860 г. англа-французскія войскі ўвайшлі ў Пекін, пакінуты імператарам і яго вяльможамі. Еўрапейцы рабавалі і знішчалі мірнае насельніцтва. Каб схаваць сляды жахлівага грабяжу і варварства, яны спалілі выдатны помнік кітайскай архітэктуры — летнюю рэзідэнцыю (палац) імператара, у якой захоўваліся тысячы твораў кітайскага мастацтва.

Цынскі ўрад, заняты барацьбой з тайпінамі, адмовіўся ад працягу вайны з іншаземцамі. Ён капітуляваў і пайшоў на новыя ўступкі. Новыя гандлёвыя правілы легалізавалі гандаль опіумам у Кітаі.

Толькі пасля гэтага еўрапейскія дзяржавы аказалі дапамогу маньчжурскім феадалам у бязлітасным падаўленні руху тайпінаў, якія ў адрозненне ад Цынаў называлі іншаземцаў «братамі», а не «варварамі». Тайпінскае паўстанне, у многім падобнае на паўстанні пад кіраўніцтвам Сцяпана Разіна і Емяльяна Пугачова ў Расіі, скончылася паражэннем.

Сялянская вайна тайпінаў была самым працяглым паўстаннем у гісторыі Кітая. Загінулі мільёны людзей. Значная частка краіны была спустоша-

на і разбурана. Гэта вайна вельмі аслабіла Кітай і кіруючую Цынскую дынастыю.

**Пытанні і заданні**

1. Апішыце кітайскае грамадства ў пачатку XIX ст. Якія землі ўваходзілі ў склад Кітайскай імперыі або знаходзіліся ў васальнай залежнасці ад яе ў гэты час?
2. Дакажыце, што «адкрыццё» Кітая еўрапейцамі адбылося насільным чынам.
3. Складзіце план апавядання «„Опіумныя“ войны ў Кітаі». Дайце ацэнку наступствам паражэння Кітая ў гэтых войнах.
4. Вызначце сувязь паміж еўрапейскай агрэсіяй і Тайпінскім паўстаннем.
5. Якое грамадства імкнуліся стварыць тайпіны?
6. Выпішыце ў сшытак падзеі, якія адбыліся ў Кітаі ў 1840—1842 гг., 1850—1864 гг., 1856—1860 гг.



У перыяд першай «опіумнай» вайны на поўдні Кітая пачаўся патрыятычны рух народных мас супраць англійскіх агрэсараў. У адным з маніфестаў руху аб аб'яўленні вайны англічанам гаварылася: «Вы, англічане, даўно бясчынствуеце і парушаеце законы Нябеснай імперыі... Мы ўмеем ваяваць і на зямлі, і на вадзе, дык чаго ж нам баяцца, што англійскія караблі вельмі моцныя для нас. Мы зробім так, што ні адзін з вас, д'яблаў, не застанецца ў жывых, а ў вашых караблёў не застанецца ветразяў, каб вярнуцца на радзіму. Калі вы не выберацеся самі, то днямі мы пачнём вайну. Аб чым асобна паведамляем!»

*Аб якіх рысах характару кітайцаў сведчыць гэты дакумент? Якім было іх уяўленне аб тых, хто прыбыў у Кітай са зброяй у руках?*



**«Свяшчэннае пісьмо» ў Кітаі**

«Іерогліф» у перакладзе з грэчаскай азначае «свяшчэннае пісьмо». Кітайскае пісьмо, заснаванае на іерогліфах, — самае старажытнае ў свеце. Яно ўзнікла ў сярэдзіне 2-га тысячагоддзя да н. э. Гэта сапраўды самае складанае і цяжкае пісьмо. Калі нам трэба напісаць, напрыклад, слова «чалавек», то мы з вамі напішам літару «ч», потым «а», затым «л» і г. д. А кітайцы малююць сімвал, які абазначае паняцце «чалавек». Слоў у мове шмат, і для кожнага патрэбны сімвал, г. зн. іерогліф. На заранку ўзнікнення іерогліфаў спачатку проста малявалі чалавека з галавой, рукамі, нагамі. Аднак пры хуткім пісьме вымалёўваць усе дэталі чалавечага цела немагчыма. Таму праз некаторы час малюнак ператварыўся ва ўмоўную выяву, якая аддалена нагадвала свайго «прабацьку».

# § 26. ЗВЯРЖЭННЕ МАНАРХІІ Ў КІТАІ

**Успомніце**

1. Якія ўмовы неабходны для капіталістычнага развіцця краіны?
2. Растлумачце значэнне паняццяў «рэформа», «рэвалюцыя», «мадэрнізацыя».
3. Што стала асноўнай прычынай япона-кітайскай вайны 1894—1895 гг.?

«Опіумныя» войны і Тайпінскае паўстанне выклікалі ў Кітаі глыбокае ўзрушэнне. Імператарскі ўрад пачаў прыкладаць некаторыя намаганні, каб прыстасаваць краіну да новых умоў і супрацьстаяць замежнай пагрозе. Шлях да ўмацавання пазіцый Кітая ён бачыў у запазычанні еўрапейскай тэхнікі і зброі. Але гэта не вырatavала Цынскую дынастыю. Гісторыя адлічвала апошнія гады яе існавання.

**1. Пачатак мадэрнізацыі.** У 1870—1880-х гг. пачалося прамысловае будаўніцтва. За кошт дзяржаўнай казны будаваліся **арсеналы**, параходы, механічныя майстэрні і тэкстыльныя прадпрыемствы. У 1871 г. была пракладзена першая ў Кітаі чыгунка. З'явіліся прадпрыемствы, якія належалі прыватным асобам і замежным фірмам. На кітайскім узбярэжжы фарміраваліся прамысловыя цэнтры. Буйнейшымі з іх сталі горад Шанхай і востраў Ганконг, які належаў англічанам. Аднак нацыянальная буржуазія была яшчэ вельмі слабая і аднолькава цярпела як ад самавольства феадальнай бюракратыі, г. зн. чыноўнікаў, так і ад засілля замежнага капіталу. У адрозненне ад імператарскага ўрада ў Японіі цынскі ўрад не змог забяспечыць незалежнага эканамічнага і палітычнага развіцця сваёй краіны.

**2. Падзел Кітая на сферы ўплыву замежных дзяржаў.** У 1890-х гг. замежныя дзяржавы перайшлі ў рашучае наступленне на Кітай. На гэты раз тон зада-



*Місіі еўрапейскіх дзяржаў у Гуанчжоу*

вала Японія, у якой ужо існавалі канстытуцыя, парламент, фабрыкі і заводы, сучасная армія і флот. У 1894 г. яна напала на Кітай і нанесла яму сакрушальнае паражэнне. Паводле мірнага дагавора 1895 г. Кітай выплаціў вялікую кантрыбуцыю і перадаў Японіі востраў Тайвань.

Так пачалася барацьба вялікіх дзяржаў за падзел Кітая на сферы ўплыву. Цынскаму ўраду навязваліся нераўнапраўныя пагадненні, па якіх кожная з дзяржаў атрымлівала асаблівыя правы і прывілеі ў тым або іншым раёне Кітая. Паводле слоў кітайскага рэвалюцыянера Сунь Ятсена, краіну дзялілі, «як гарбуз». Кітай, здавалася, вось-вось будзе канчаткова падзелены замежнымі дзяржавамі на часткі і страціць сваю нацыянальную незалежнасць. У гэты час у краіне адбыліся падзеі, якія перашкодзілі такому зыходу.

**3. Рэфарматарскі рух. «Сто дзён рэформаў».** Бесцырымоннае ўмяшанне іншаземцаў выклікала ўспышку патрыятычных пачуццяў сярод розных пластоў кітайскага насельніцтва.

Частка феадальнай знаці выступіла за ўмацаванне краіны шляхам правядзення рэформаў на японскі ўзор. Лідарам рэфарматарскага руху стаў ***Кан Ювэй*** (1858—1927), выдатны канфуцыянскі вучоны, прыхільнік канстытуцыйнай манархіі. Ён заклікаў імператара ўзяць прыклад з японскага імператара Муцухіта і рускага цара Пятра I.

Летам **1898 г.** прыхільнікі Кан Ювэя былі запрошаны на вышэйшыя дзяржаўныя пасады. Іх знаходжанне ва ўладзе было нядоўгім — усяго 100 дзён. Але за гэты час былі выдадзены ўказы аб заахвочванні рамёстваў, навук і сельскай гаспадаркі, аб будаўніцтве чыгунак, аб адкрыцці ўніверсітэта, аб скарачэнні чыноўнікаў і маньчжурскай арміі. Узброеныя сілы пачалі фарміраваць на еўрапейскі ўзор.

Палітыка рэформаў сутыкнулася з рашучым супраціўленнем кансерватараў, што групаваліся вакол імператрыцы ***Цысі*** (1835—1908), якая фактычна стаяла на чале ўлады. З дапамогай маньчжурскай гвардыі яны ажыццявілі пераварот. Імператар быў арыштаваны, рэфарматары схоплены і пакараны смерцю, а ўказы аб рэформах адменены. Уся ўлада непадзельна перайшла ў рукі Цысі. Спроба выратаваць цынскі Кітай «зверху» закончылася правалам. Амаль адначасова была зроблена стыхійная спроба выратаваць Кітай «знізу».

**4. Паўстанне іхэтуаняў.** У **1899 г.** у правінцыі Шаньдун, сферы ўплыву Германіі, выбухнула паўстанне супраць іншаземцаў. На чале паўстанцаў стаяла рэлігійнае таварыства *Іхэтуань* («Атрад справядлівасці і згоды»), якое складалася з простых людзей. Іх аб'ядноўвала нянавісць да Захаду.

*Кітай на мяжы XIX—XX стст.*

Іхэтуані рэгулярна займаліся фізічнымі практыкаваннямі, якія нагадвалі кулачны бой (адсюль еўрапейская назва паўстанцаў — «баксёры»). Многія з іх выконвалі рэлігійна-містычныя рытуалы і наіўна лічылі, што, засвоіўшы пэўныя практыкаванні і заклінанні, яны стануць недасягальнымі для куль і снарадаў. Вера іхэтуаняў у сваю непаражальнасць была такая вялікая, што яны ішлі супраць еўрапейскіх салдат ледзь не з голымі рукамі. Але магічныя заклінанні не выратоўвалі ад куль. Іхэтуані, вядома ж, гінулі.

Забіваючы хрысціянскіх місіянераў і кітайцаў-хрысціян, іхэтуані выступалі супраць усяго замежнага ўвогуле. Нянавісць да ўсяго замежнага перарастала ў поўнае адмаўленне еўрапейскай культуры, найноўшых дасягненняў навукі і тэхнікі. Іхэтуані разбуралі і знішчалі цэрквы, чыгункі, паравозы, вагоны, тэлеграфныя лініі, еўрапейскія будынкі і замежныя тавары — усё, што ўвасабляла еўрапейскую культуру і яе дасягненні. «Няхай калоціцца са страху вялікая Францыя, англічане, амерыканцы, немцы і рускія назаўсёды ўціхаміраца!» — гаварылася ў адной з лістовак паўстанцаў.

Пад выглядам абароны сваіх падданых 8 замежных дзяржаў — Вялікабрытанія, Францыя, Аўстра-Венгрыя, Расія, ЗША, Італія, Германія і Японія — накіравалі ў Кітай войскі. Замежныя арміі з нечуванай жорсткасцю падавілі паўстанне ў **1901 г.**

Кітаю быў навязаны зневажальны дагавор, згодна з якім урад абавязваўся выплаціць дзяржавам-інтэрвентам вялікую кантрыбуцыю (450 млн лянаў) і падаўляць любыя антызамежныя выступленні. Тым самым ён яшчэ раз распісаўся ў поўнай няздольнасці адстойваць нацыянальныя інтарэсы краіны.

Нягледзячы на паражэнне, паўстанне іхэтуаняў прыпыніла тэрытарыяльны падзел Кітая, які пачаўся ў канцы XIX ст.

**5. Сіньхайская рэвалюцыя 1911—1913 гг.** Кітайская буржуазія была незадаволена феадальным самавольствам і няздольнасцю Цынскай дынастыі абараніць нацыянальныя інтарэсы краіны. Узначаліў антыманьчжурскі рух выдатны кітайскі рэвалюцыянер ***Сунь Ятсен*** (1866—1925). Яго палітычная праграма рашуча адрознівалася ад праграмы рэфарматараў. Ён адмовіўся ад ідэі канстытуцыйнай манархіі і вылучыў свае вядомыя «тры народныя прынцыпы»: *нацыяналізм (звяржэнне маньчжурскага панавання), народаўладдзе (усталяванне рэспублікі)* і *народнае працвітанне (ураўнаванне правоў на зямлю сярод сялян)*. У 1905 г. ім была створана арганізацыя Тунмэнхой («Рэвалюцыйны саюз»). У 1912 г. ён заснаваў Нацыянальную партыю (Гаміньдан).

У кастрычніку **1911 г.** (год «сіньхай» па кітайскім месячным календары) на поўдні Кітая адбылося паўстанне ў арміі пад кіраўніцтвам рэвалюцыянераў. Яно было актыўна падтрымана народнымі масамі. На працягу некалькіх месяцаў рэвалюцыянеры ўстанавілі кантроль на поўдні і ў цэнтры Кітая. 1 студзеня 1912 г. правінцыі, якія паўсталі, абвясцілі стварэнне Кітайскай рэспублікі, часовым прэзідэнтам якой стаў Сунь Ятсен.


*Сунь Ятсен*

12 лютага 1912 г. у Кітаі адбылася важная гістарычная падзея — быў апублікаваны *акт аб адрачэнні маньчжурскай дынастыі ад прастола.* Пасля 250-гадовага праўлення дынастыя Цын была звергнута.

Новым прэзідэнтам стаў генерал Юань Шыкай. Ён не быў прыхільнікам рэспублікі. Генерал дабіваўся аднаўлення манархіі і асабістага ўступлення на імператарскі трон. **У 1913 г.** у адказ на дзеянні новага прэзідэнта выбухнула новае паўстанне пад кіраўніцтвам Сунь Ятсена і іншых

дзеячаў Гаміньдана. У хуткім часе яно было падаўлена ўрадавымі войскамі. Юань Шыкай распусціў парламент і забараніў Нацыянальную партыю. Толькі яго нечаканая смерць у 1916 г. перашкодзіла аднаўленню манархічнага ладу.

Краіна працягвала заставацца раздробленай. Наперадзе Кітай чакалі новыя крывавыя ўзрушэнні і грамадзянскія войны.

### Пытанні і заданні

1. У чым заключаліся асаблівасці прамысловага развіцця ў Кітаі ў XIX ст.?
2. Чым можна растлумачыць імкненне замежных дзяржаў замацавацца ў Кітаі?
3. Што аб'ядноўвае рух кітайскіх рэфарматараў, паўстанне іхэтуаняў і Сіньхайскую рэвалюцыю 1911—1913 гг.? Вызначце прычыны і вынікі гэтых падзей. Выпішыце іх у храналагічную табліцу па наступным узоры:

| Гады | Падзея | Прычыны | Вынікі |
|---|---|---|---|
| 1898 | | | |
| 1899—1901 | | | |
| 1911—1913 | | | |



Падаўленне паўстання іхэтуаняў войскамі дзяржаў-інтэрвентаў суправаджалася грабяжамі і насіллем. Англійскі ваенны карэспандэнт дзяліўся сваімі ўражаннямі: «Ёсць рэчы, аб якіх я пісаць не павінен і якія не могуць быць надрукаваны ў Англіі, інакш можа здацца, што наша заходняя цывілізацыя — усяго толькі тонкае пакрыва, якое хавае дзікуноў. Шчырая праўда яшчэ ніколі не была напісана ні аб адной вайне, і гэта вайна таксама не будзе выключэннем».

*Ці не здаюцца вам гэтыя словы актуальнымі і сёння?*



Паўстанне іхэтуаняў было ў сваёй аснове патрыятычным. Яно пакінула глыбокі след у гісторыі Кітая, па сутнасці прыпыніўшы тэрытарыяльны падзел краіны, які пачаўся ў канцы XIX ст. Сучаснік гэтай падзеі, член англійскага парламента, пакінуў наступнае сведчанне: «Кітаем надалей па-ранейшаму павінны кіраваць кітайцы, і ўсё ж хто мае намер развіваць Кітай, павінен праяўляць асцярожнасць. Паўстанне „баксёраў“ можа служыць таму наглядным прыкладам. Англія таксама не можа абыходзіцца з Кітаем так, як яна абыходзілася з Індыяй».

*Як вы думаеце, ад чаго перасцерагаў член англійскага парламента сваіх суайчыннікаў?*



**Паўстагоддзя ва ўладзе**

Будучая імператрыца Кітая Цысі нарадзілася ў знатнай, але збяднелай маньчжурскай сям'і. У 1853 г. яна стала адной са шматлікіх жонак імператара. Яе ўзыходжанне да ўлады пачалося пасля таго, як яна нарадзіла сына бяздзетнаму імператару. Калі імператар памёр у 1861 г., Цысі стала кіраваць Кітаем пры малалетнім сыне. На працягу амаль 50 гадоў яна з'яўлялася самым уплывовым чалавекам у імперыі. Сучаснікі адзначалі яе незвычайную прыгажосць. Па апісанні еўрапейцаў, яна здавалася намнога маладзейшай за свае гады. У семдзесят гадоў ёй давалі не больш за сорак. Гэта была разумная і рашучая жанчына, але ў той жа час каварная і жорсткая, карыслівая і ўладалюбівая. Правіцельніца Цынскай імперыі была ўпэўнена, што кітайская цывілізацыя — найвышэйшае дасягненне сусветнага развіцця, і таму няма чаго схіляцца перад варварскім Захадам. Толькі на зыходзе жыцця Цысі стала цікавіцца еўрапейскімі навінкамі і нават каталася на трохколавым веласіпедзе. Сябе яна лічыла самай разумнай з жанчын, якія калі-небудзь жылі на свеце. Цысі падабалася, калі лісьлівыя саноўнікі называлі яе Старым, або Шаноўным, Будам. Яна лічыла сябе найвышэйшым аўтарытэтам ва ўсіх мастацтвах і навуках. Яе любімым заняткам было выводзіць іерогліфы, што ў Кітаі заўсёды лічылася вялікім мастацтвам. Імператрыца любіла раскошу, але была непатрабавальная ў ежы. Акружаная лісьлівымі міністрамі і прыдворнымі, яна пастаянна скардзілася на адзіноту. Незадоўга да смерці Цысі сказала свайму зяцю: «Вось я і састарэла. Кіравала некалькі дзясяткаў гадоў, а ніякай карысці краіне не прынесла».

## § 27. ІНДЫЯ

**Успомніце**

1. Чым быў выкліканы заняпад Магольскай імперыі?
2. Калі і як Англія заваявала Індыю? Чаму гэта адбылося?
3. Растлумачце значэнне паняццяў «каланіяльная экспансія», «калонія», «паўкалонія», «метраполія».
4. Ахарактарызуйце асаблівасці гістарычнага развіцця Японіі і Кітая ў другой палове XIX ст.
5. Чаму Японія ператварылася ў каланіяльную дзяржаву на Далёкім Усходзе, у той час як Кітай ледзь не страціў сваю незалежнасць?

Да сярэдзіны XIX ст. Вялікабрытанія канчаткова ўстанавіла сваё панаванне над усёй Індыяй. Пачаўся складаны і супярэчлівы працэс еўрапеізацыі


*Збор падаткаў з індыйскіх сялян*

і мадэрнізацыі, г. зн. далучэння гэтай гіганцкай калоніі як да дасягненняў і даброт, так і да недахопаў заходнееўрапейскай цывілізацыі. Індыйцы не хацелі мірыцца з новымі парадкамі, якія неслі пагрозу іх традыцыйнаму ладу жыцця. У адказ на каланізацыю Індыі ўспыхнула магутнае народнае паўстанне 1857—1859 гг., якое пацярпела паражэнне. Пасля гэтага барацьба за незалежнасць працягвалася мірнымі сродкамі. У гэтым адна з найбольш значных асаблівасцей гісторыі Індыі Новага і Навейшага часу.

**1. Каланіяльная эксплуатацыя.** Індыя з'яўлялася «жамчужынай першай велічыні ў брытанскай кароне». У ходзе заваяванняў вялікія багацці і скарбы індыйскіх раджаў (князёў) патокам ішлі ў Вялікабрытанію. Яны папаўнялі капітал краіны і садзейнічалі прамысловаму перавароту.

Адкрытае рабаванне паступова набыло форму ўзаконенай эксплуатацыі. Асноўным сродкам абагачэння Англіі сталі падаткі, якія паступалі ў казну Ост-Індскай кампаніі. Індыйскім таварам, якія раней шырока вывозіліся, цяпер быў закрыты доступ у Еўропу. Затое англійскія тавары бесперашкодна ўвозіліся ў Індыю. У выніку тэкстыльная вытворчасць Індыі прыйшла ў заняпад. Пачалося масавае беспрацоўе сярод рамеснікаў. Многія паміралі ад голаду. Генерал-губернатар Індыі ў 1834 г. дакладваў: «Раўніны Індыі ўсеяны касцямі ткачоў».

Індыя ператварылася ў эканамічны прыдатак Вялікабрытаніі. Фінансавая магутнасць метраполіі ў значнай ступені тлумачылася грабежніцкай палітыкай у адносінах да індыйскага народа.

**2. Антыкаланіяльнае паўстанне 1857—1859 гг.** Устанаўленне ў Індыі брытанскага панавання рэзка пагоршыла становішча народных мас. Разважлі-

выя англічане разумелі гэта. Вось што пісаў адзін з іх: «Чужаземныя заваёўнікі прымянялі да тубыльцаў насілле і часта вялікую жорсткасць, але ніхто яшчэ не абыходзіўся з імі з такой пагардай, як мы».

У 1850-х гг. у краіне панавала паўсюднае незадавальненне англічанамі. Яно ўзрасло яшчэ больш, калі распаўсюдзіліся чуткі аб надыходзячым гвалтоўным схіленні індусаў і мусульман у хрысціянскую веру. Варожасць да англічан адчувалі не толькі самыя бедныя пласты насельніцтва, але і частка феадальнай знаці, дробных феадалаў, ушчэмленых у сваіх правах каланіяльнай адміністрацыяй. Незадаволеныя былі і *сіпаі*, з якімі англічане пасля заваявання Індыі лічыліся ўсё менш і менш.

У маі 1857 г. узбунтаваліся сіпайскія палкі. Паўстанцы расправіліся з англійскімі афіцэрамі і захапілі Дэлі. Тут яны аб'явілі аб аднаўленні ўлады магольскага імператара.

Выступленне сіпаяў было не проста ваенным мяцяжом, а пачаткам агульнанацыянальнай барацьбы супраць англічан. Яно ахапіла Паўночную і част-




*Індыя ў другой палове XIX ст.*



*Англійскія войскі падаўляюць паўстанне сіпаяў у Дэлі 4 верасня 1857 г. Літаграфія 1857 г.*

ку Цэнтральнай Індыі. Антыкаланіяльнае паўстанне ўзначалілі феадалы, якія імкнуліся аднавіць парадкі, што існавалі да прыходу каланізатараў. Першапачаткова паўстанцам спадарожнічаў поспех. Улада англічан у Індыі літаральна «вісела на валаску». Але канчатковы вынік паўстання ў многім быў вызначаны самімі індыйцамі. Далёка не ўсе яны, асабліва раджы, падтрымалі паўстанцаў. Не было адзінага кіраўніцтва, адзінай арганізацыі і адзінага цэнтра супраціўлення. Сіпайскія камандзіры, як правіла, дзейнічалі паасобку і няўзгоднена. Хоць і з вялікай цяжкасцю, але англічанам удалося падавіць паўстанне.

Апошняе намаганне феадальнай Індыі супрацьстаяць капіталістычнай Англіі закончылася поўным правалам.

Уціхамірваючы Індыю, якая паўстала, англічане расправіліся з вялікай колькасцю людзей. Многіх прывязвалі да жаролаў гармат і стралялі. Прыдарожныя дрэвы былі ператвораны ў шыбеніцы. Вёскі знішчаліся разам з жыхарамі. Падзеі **1857—1859 гг.** сталі трагічнай старонкай у гісторыі адносін паміж Індыяй і Вялікабрытаніяй.

**3. Эканамічнае развіццё.** У другой палове XIX ст. Індыя ператварылася ў найважнейшы *рынак збыту* тавараў англійскай прамысловасці і *крыніцу сыравіны* для метраполіі.

Імпарт у асноўным складаўся з прадметаў раскошы: шаўковых і шарсцяных тканін, скуры і скураных вырабаў, упрыгожанняў, мэблі, гадзіннікаў, паперы, парфумерыі, шкляных вырабаў, розных цацак, веласіпедаў, машын,



*Вакзал і адміністрацыйныя будынкі чыгуначнай кампаніі ў Бамбеі. Малюнак XIX ст.*

лекаў. Некаторыя англійскія тавары сталі прадметамі першай неабходнасці, напрыклад газа, запалкі, мыла, шкло, алоўкі, пёры, ручкі, вырабы з алюмінію. З Індыі англійскія фірмы вывозілі харчаванне і сельскагаспадарчую сыравіну: рыс, пшаніцу, бавоўну, джут, індыга, чай.

Шырокае распаўсюджанне атрымаў *увоз англійскага капіталу*. Англічане ўкладвалі капітал у стварэнне прадпрыемстваў па перапрацоўцы мясцовай сыравіны. У іх руках знаходзілася джутавая прамысловасць, якая хутка пашыралася. Выгаднай сферай укладання капіталу былі плантацыі чаю, кавы, каўчуку.

Хуткімі тэмпамі ішло будаўніцтва чыгункі і тэлеграфных ліній, якія былі ўласнасцю выключна каланіяльных улад. Да 1900 г. працягласць чыгуначных ліній дасягнула 40 тыс. км. Такому размаху магла пазайздросціць любая краіна свету. У незалежнай Японіі, напрыклад, даўжыня чыгуначнай сеткі да канца стагоддзя была роўная толькі 2 тыс. км.

Невялікая колькасць прадпрыемстваў, галоўным чынам у сферы тэкстыльнай прамысловасці, належала індыйцам. Індыйская буржуазія фарміравалася з багатых ліхвяроў, памешчыкаў і іншых заможных людзей. Але пакуль яна была залежнай ад больш магутнага англійскага капіталу. Уладальнікі майстэрняў і мануфактур у каланіяльных умовах амаль не мелі шанцаў стаць фабрыкантамі.

**4. Стварэнне Індыйскага нацыянальнага кангрэса.** Да сярэдзіны XIX ст. на чале антыкаланіяльнай барацьбы стаялі феадалы. Са з'яўленнем нацыянальнай буржуазіі і праслойкі індыйскай інтэлігенцыі, якая атрымала еўрапейскую адукацыю ў сваёй краіне або за мяжой, пачаўся новы этап у гісторыі індыйскага нацыянальна-вызваленчага руху.

У снежні **1885 г.** у Бамбеі была створана першая індыйская палітычная партыя — *Індыйскі нацыянальны кангрэс*. Яна прадстаўляла інтарэсы індыйскіх прамыслоўцаў, купецтва, памешчыкаў і інтэлігенцыі. Кангрэс патрабаваў нацыянальнага раўнапраўя англічан і індыйцаў і самакіравання ў Індыі пры захаванні брытанскага панавання. Гэтых мэт меркавалася дасягнуць мірнымі, законнымі сродкамі шляхам паступовага рэфармавання існуючай сістэмы кіравання. Пытанне аб прадастаўленні Індыі незалежнасці не ставілася.

Адным з лідараў Індыйскага нацыянальнага кангрэса з'яўляўся выдатны індыйскі дэмакрат ***Балгангадхар Тылак*** (1856—1920). Ён заклікаў да антыкаланіяльнай барацьбы, у прыватнасці да байкатавання англійскіх тавараў.

**5. Уздым нацыянальна-вызваленчага руху ў пачатку XX ст.** Асаблівую трывогу каланіяльных улад выклікала дзейнасць індыйскіх патрыётаў у *Бенгаліі* — найбольш развітой і населенай правінцыі Брытанскай Індыі. Віцэ-кароль Індыі маркіз Дж. Керзан вырашыў падзяліць Бенгалію на дзве правінцыі па рэлігійнай прымеце. Указ аб падзеле Бенгаліі быў апублікаваны ў 1905 г.

У выніку ў адной частцы Бенгаліі апынуліся пераважна бенгальцы-індусы, а ў другой частцы — бенгальцы-мусульмане. Гэта падзея ўсхвалявала Бенгалію і ўсю Індыю. Супраць падзелу выступалі ўсе пласты насельніцтва, нягледзячы на рэлігійную прыналежнасць.

Па прапанове Індыйскага нацыянальнага кангрэса 16 кастрычніка 1905 г. было аб'яўлена ў Бенгаліі днём нацыянальнай жалобы. У гэты дзень зачыніліся фабрыкі, магазіны, базары. Па ўсёй Бенгаліі не распальвалі ачагоў. Дарослыя прытрымліваліся строгага посту. Многія служачыя ў знак жалобы знялі абутак і ішлі на работу басанож.

Прайшлі шматлікія мітынгі. Патрыёты заклікалі народ купляць тавары толькі айчыннай вытворчасці. Так пачаўся рух за байкот англійскіх тавараў, падтрыманы індыйскай буржуазіяй. Тылак заклікаў да арганізацыі масавай кампаніі ненасільнага (ці, па яго словах, «пасіўнага») супраціўлення.

Паступова патрыятычны рух выйшаў за межы Бенгаліі і ахапіў усю Індыю. Тады ў чэрвені 1908 г. англійскія ўлады арыштавалі Тылака і прыгаварылі яго да шасці гадоў катаргі. У адказ насельніцтва Бамбея аб'явіла забастоўку, і катарга была заменена турэмным зняволеннем. У 1911 г. англічане былі вымушаны адмяніць закон аб падзеле Бенгаліі.

Новы ўздым нацыянальна-вызваленчага руху пачаўся ў Індыі пасля Першай сусветнай вайны.

**Пытанні і заданні**

1. На падставе тэксту параграфа дакажыце, што да сярэдзіны XIX ст. Індыя стала англійскай калоніяй, а не проста залежнай краінай.
2. Пакажыце на карце брытанскія ўладанні на Усходзе.
3. Вызначце прычыны антыкаланіяльнага паўстання 1857—1859 гг. Чаму яно пацярпела паражэнне? Якія факты гавораць аб бесчалавечнасці цывілізаваных англічан?
4. Растлумачце значэнне паняццяў «кампанія», «індыец», «індзеец», «індус».
5. Адзначце асаблівасці эканамічнага развіцця Індыі ў другой палове XIX ст.
6. Ахарактарызуйце мэты і задачы Індыйскага нацыянальнага кангрэса.
7. Якім формам супраціўлення каланізатарам аддалі перавагу індыйцы пасля паўстання 1857—1859 гг.?
8. Выпішыце падзеі, якія адбыліся ў 1857—1859 гг., 1885 г., 1905 г., 1908 г., 1911 г.



**Абарона Дэлі паўстанцамі ў верасні 1857 г.**
**З гістарычнай аповесці Эмы Выгодскай «Полымя гневу»**

«Сіпаі разбіліся на асобныя атрады і змагаліся кожны на сваім участку, упарта адстойваючы кожны дом, кожную вуліцу. Брытанцы наступалі калонамі, увесь час падтрымліваючы сувязь адзін з адным...

Не вучыліся паўстанцы ў брытанскіх штабах афіцэрскай штабной навукі. Добра біліся яны ў баі, конным і пешым, сышоўшыся з непрыяцелем твар у твар. Але адзінаму плану наступлення брытанцаў не змаглі супрацьпаставіць адзіны план супраціўлення. Не наладзіўшы сувязі паміж асобнымі часцямі, не маючы адзінага кіраўніцтва, гераічныя абаронцы Дэлі змагаліся ў розных канцах горада і марудна, ва ўпартых баях, адыходзілі да ўсходніх кварталаў».

*Вызначце слабыя бакі ў вядзенні баявых дзеянняў паўстанцамі.*



**З артыкула Махандаса Карамчанда Гандзі ад 1 лістапада 1905 г.**

«...Ёсць шмат падобнага ў кіраванні Індыяй і Расіяй. Улада віцэ-караля ніколькі не меншая за ўладу цара. Рускі народ задушаны падаткамі, мы — таксама. Рускія падаткаплацельшчыкі не могуць кантраляваць выкарыстанне грошай, якія яны плацяць. Індыйцы — таксама. Як у Расіі, так і ў Індыі ўсёмагутная ваеншчына...

Рускія людзі цярпелі на працягу многіх гадоў, але цяпер надышоў канец іх цярпенню. Яны ўпарта змагаліся, каб пакласці канец тыраніі, але марна. Яны ўзнімалі паўстанні, забілі цара, але не маглі дабіцца справядлівасці. І цяпер

яны знайшлі іншы сродак, яшчэ больш эфектыўны за паўстанне і забойства. Рускія рабочыя і служачыя аб'явілі ўсеагульную стачку і спынілі работу... Цяперашняя смута ў Расіі — найвялікшы ўрок для нас...»

*Чаму М. К. Гандзі лічыў усеагульную стачку ў Расіі найвялікшым урокам для індыйцаў?*



**Гераіня індыйскага народа**

Адным з правадыроў антыкаланіяльнага паўстання 1857—1859 гг. была Лакшмі-Баі (1835—1858) — княгіня (рані) невялікага княства Джхансі. Пасля смерці мужа яна была адхілена англічанамі ад кіравання княствам. Калі ж пачалося паўстанне, маладая княгіня далучылася да правадыроў паўстанцаў. Гэта былі сябры яе дзяцінства Нана Сахіб і Тантыя Топі. Яна мужна змагалася супраць англічан у Джхансі.

Пасля захопу княства непрыяцелем ёй удалося прабіцца да паўстанцаў, якіх узначальваў Тантыя Топі. Лакшмі-Баі стала камандаваць кавалерыйскім атрадам.

У адной з бітваў дваццацітрохгадовая княгіня была смяротна паранена. «Лепшай і найхрабрэйшай» з паўстанцкіх правадыроў назваў яе англійскі генерал, які змагаўся супраць яе.

Імя нацыянальнай гераіні рані Джхансі Лакшмі-Баі асабліва шануецца індыйскім народам.



**Лаўрэат Нобелеўскай прэміі**

У 1913 г. лаўрэатам Нобелеўскай прэміі ў галіне літаратуры стаў індыйскі паэт Рабіндранат Тагор. Упершыню гэта прэмія была прысуджана прадстаўніку Азіі. Індыйцы з захапленнем і натхненнем сустрэлі такое рашэнне. Яны бачылі ў ім сведчанне прызнання індыйскай культуры на Захадзе.

Вялікі індыйскі пісьменнік і паэт нарадзіўся ў Калькуце (Бенгалія). Ён належаў да вядомай сям'і асветнікаў Тагораў. Вядомасць Р. Тагору прынёс першы зборнік вершаў, выдадзены ў дваццацігадовым узросце. Раманы, аповесці, апавяданні і п'есы пісьменніка былі накіраваны супраць феадальных і рэлігійных перажыткаў, бяспраўя жанчын, каставай сістэмы. Рабіндранат Тагор быў патрыётам, актыўным прыхільнікам рэформаў і развіцця індыйскай культуры. Многія яго творы даюць яркае ўяўленне аб гісторыі індыйскага нацыянальна-вызваленчага руху пачатку XX ст.

У 1915 г. англійскі кароль узвёў Р. Тагора ў рыцарскае званне. Аднак праз чатыры гады ў знак пратэсту супраць расстрэлу мірнай дэманстрацыі ў Індыі брытанскімі войскамі паэт ад яго адмовіўся.

## § 28. МУСУЛЬМАНСКІ СВЕТ

**Успомніце**

1. Якую ролю адыгрываў іслам у жыцці мусульманскага грамадства і дзяржавы? Як ён паўплываў на развіццё культуры?
2. Як складваліся адносіны паміж краінамі мусульманскага свету і еўрапейскімі дзяржавамі ў XVI—XVIII стст.?

У пачатку XIX ст. асноўнымі дзяржавамі мусульманскага свету былі *Іран* і *Асманская імперыя*. Апошняя ўключала Турцыю і амаль усе *арабскія краіны* на *Блізкім Усходзе* і ў *Паўночнай Афрыцы*. У адрозненне ад Еўропы, дзе адбыўся прамысловы пераварот, ісламскія краіны перажывалі застой і заняпад.

Улада мусульманскіх правіцеляў была неабмежаванай. Іх самавольства з'яўлялася сапраўдным бедствам для падданых і перашкаджала развіццю капіталістычных адносін. Нават феадалы, не кажучы ўжо аб прадстаўніках іншых саслоўяў, не былі застрахаваны ад канфіскацыі маёмасці. Ні парламента, ні канстытуцый, якія ахоўваюць правы чалавека і яго ўласнасць, тады ў мусульманскім свеце не існавала. Ісламскае духавенства з непрыязнасцю ставілася да еўрапейскай навукі, тэхнікі і культуры, імкнулася засцерагчы мусульман ад кантактаў з іншаверцамі. Аднак супрацьстаяць магутнаму націску еўрапейскіх дзяржаў у XIX ст. было ўжо немагчыма.

**1. Барацьба еўрапейскіх дзяржаў за Іран.** У XIX ст. актыўную барацьбу за Іран вялі Вялікабрытанія і Расія. Сфарміраваліся сферы ўплыву дзвюх дзяржаў: Англіі — на поўдні краіны, Расіі — на поўначы, уключаючы Тэгеран. У канцы XIX ст. Англія і Расія дамовіліся не будаваць чыгунак у Іране, каб не перашкаджаць адна адной. У 1907 г. яны заключылі пагадненне аб размеркаванні сфер уплыву ў Іране, Афганістане і Тыбеце.

**2. Англа-афганскія войны.** Вялікабрытанія імкнулася замацавацца не толькі ў Іране, але і ў Афганістане, які межаваў з Брытанскай Індыяй. У **1838 г.** яна развязала вайну супраць афганскага **эміра**. Лепш узброеная і добра навучаная англійская армія лёгка авалодала Кабулам. Эмір уцёк са сталіцы. Англічане размясцілі ў гарадах свае гарнізоны і адчувалі сябе як дома.

Аднак бесцырымонныя паводзіны чужаземцаў выклікалі незадавальненне насельніцтва. Супраць інтэрвентаў паўсталі свабодалюбівыя афганцы, якія змагаліся пад лозунгам джыхаду — «свяшчэннай вайны» супраць «няверных». Спробы англічан раскалоць рады паўстанцаў пры дапамозе подкупу пацярпелі няўдачу. Не дапамаглі і штыкі. Дарога назад у Індыю ў **1842 г.**

для акупантаў закончылася трагічна. Напрыклад, з 16-тысячнай арміі Эльфінстана выратаваліся лічаныя адзінкі. Адступленне іншых брытанскіх атрадаў нагадвала ўцёкі.

Аднак урок не пайшоў на карысць. Прайшло каля 40 гадоў, і Англія развязала яшчэ адну захопніцкую вайну **1878—1880 гг.** супраць Афганістана. І зноў брытанскія заваёўнікі не змаглі зламаць афганцаў. Спроба ператварыць Афганістан у калонію правалілася.

**3. Асманская імперыя.** У XIX ст. еўрапейскія дзяржавы актывізавалі барацьбу за тэрытарыяльны падзел Асманскай імперыі. Францыя захапіла Алжыр, Вялікабрытанія акупіравала Егіпет, над Марока быў усталяваны французскі пратэктарат. Аднак супярэчнасці паміж вялікімі дзяржавамі перашкодзілі ажыццявіць поўны тэрытарыяльны падзел Асманскай імперыі.

Калісьці магутная дзяржава, якая наводзіла жах на еўрапейцаў, цяпер разбуралася на вачах. Наконт гэтага расійскі імператар Мікалай I неяк заначыў, што яна падобна на «хворага чалавека, які не можа памерці». Асманская імперыя спыніла сваё існаванне ў 1918 г.

*Спробы рэфармавання ў Турцыі.* Празорлівыя прадстаўнікі феадальных вярхоў у краінах мусульманскага свету спрабавалі штосьці зрабіць, каб паменшыць пагрозу з боку еўрапейскіх дзяржаў. Выйсце яны бачылі ў рэформах, накіраваных на ўмацаванне цэнтральнай улады, і ў запазычванні навукова-тэхнічных дасягненняў Захаду.

Турцыя, якая з'яўлялася цэнтрам Асманскай імперыі, першая пачала пераўтварэнні з канца XVIII ст. Ініцыятарам рэформаў стаў султан ***Селім III***, які правіў у 1789—1807 гг. Ён аб'явіў аб стварэнні рэгулярных войскаў на еўра-



*Сталіца Асманскай імперыі — горад Стамбул*



Султан Селім III

пейскі ўзор. Былі пабудаваны парахавыя заводы і розныя мануфактуры, якія абслугоўвалі армію і флот. У ваенна-інжынерным вучылішчы турэцкая моладзь стала вывучаць еўрапейскія мовы.

Большасць феадалаў, мусульманскае духавенства і янычары варожа паставіліся да рэформаў. У іх яны бачылі пагрозу сваім прывілеям. Духавенства адкрыта называла султана-рэфарматара *гяурам* («няверным»). Селім III праявіў нерашучасць і адмяніў указ аб рэформах. Але гэта яго не выратавала. У 1807 г. ён быў звергнуты з прастола, а ў 1808 г. — забіты.

Палітыку Селіма III прадоўжыў султан ***Махмуд II*** (правіў у 1808—1839 гг.). Найбольш важнай з яго рэформаў стала ваенная. У 1826 г. ён ліквідаваў корпус янычар, падвергнуўшы іх амаль поўнаму знішчэнню. Была створана новая армія на еўрапейскі ўзор. Для навучання афіцэраў ваеннаму мастацтву запрашаліся прускія афіцэры. Махмуд II рэарганізаваў фінансавую сістэму, упарадкаваў дзейнасць судовых органаў, стварыў дадатковыя навучальныя ўстановы. У Стамбуле і Ізміры пачалі выходзіць газеты.

Але дзейнасць Махмуда II не прадухіліла распад Асманскай імперыі. У гэты час яна страціла Грэцыю, Сербію, Малдавію і Валахію.

У 1839 г. урад абнародаваў указ аб новых рэформах. Улады абяцалі ўраўнаваць у правах усіх падданых імперыі незалежна ад іх веравызнання і гарантаваць ім недатыкальнасць жыцця, гонару і маёмасці. Калі б гэты ўказ быў ажыццёўлены на практыцы, ён бы мог забяспечыць краіне пэўны прагрэс.

Некаторыя вынікі дала толькі школьная рэформа 1840—1860-х гг. Быў прыняты закон аб адукацыі. Стваралася сістэма свецкіх пачатковых, сярэдніх і вышэйшых школ. Пачатковая адукацыя станавілася абавязковай для хлопчыкаў ва ўзросце 7—11 гадоў і для дзяўчынак 6—10 гадоў. Пры гэтым працягвалі дзейнічаць і ўсе школы пры мячэцях.

*«Новыя асманы» і канстытуцыя 1876 г.* У 1860—1870-я гг. у Турцыі актывізаваліся прыхільнікі рэформаў — выхадцы з афіцэрскага і чыноўніцкага асяроддзя. Яны патрабавалі стварэння канстытуцыйнай манархіі. Каб не быць абвінавачанымі ў адступніцтве ад ісламу, яны спасылаліся на Каран, даказваючы, што канстытуцыйны лад вынікае з сутнасці мусульманскай рэлігіі.

Прыхільнікаў рэформаў называлі «новымі асманамі». У 1876 г. ім удалося ажыццявіць сваю мэту. З дапамогай султана Абдул-Хаміда II, які для ўмацавання сваёй улады выдаваў сябе за прыхільніка рэформаў, канстытуцыя была абвешчана. Аднак яе палажэнні не былі рэалізаваны. У 1878 г. султан распусціў парламент. У Турцыі ўсталяваўся крывавы рэжым Абдул-Хаміда II.

**4. Рэвалюцыі пачатку XX ст.** *Рэвалюцыя ў Турцыі.* У апошняй чвэрці XIX ст. турэцкае насельніцтва знаходзілася пад дэспатычным праўленнем султана Абдул-Хаміда II. Ён імкнуўся знішчыць усіх, хто змагаўся за канстытуцыю. Жорсткім ганенням падвяргаліся младатуркі — члены арганізацыі «Яднанне і прагрэс», якія ўзначалілі барацьбу супраць султана. Яны ўцякалі ў Егіпет і Еўропу. Узмацніўся прыгнёт немусульманскіх народаў. Ва Усходняй Турцыі ў час армянскіх пагромаў (1894—1896) было забіта і паранена каля 300 тыс. чалавек. У Еўропе Абдул-Хаміда II называлі «вялікім забойцам». Туркі лічылі яго праўленне самым змрочным перыядам сваёй гісторыі.




*Асманская імперыя, Іран і Афганістан у пачатку XX ст.*

У пачатку XX ст. младатуркі, якія знаходзіліся ў Еўропе, прынялі рашэнне аб арганізацыі ўзброенага паўстання. Іх мэтай было аднаўленне канстытуцыі. Летам **1908 г.** турэцкія афіцэры, якія зазналі моцны ўплыў младатуркаў, арганізавалі ўзброенае выступленне, што прымусіла султана аб'явіць аб скліканні парламента. У красавіку 1909 г. ён зрабіў спробу аднавіць неабмежаваную ўладу і быў пазбаўлены трона. На месца «крывавага султана» прыйшоў яго бязвольны брат Мехмед V. Рэальная ўлада перайшла ў рукі младатуркаў, якія сфарміравалі свой урад. Гэтыя падзеі ўвайшлі ў гісторыю пад назвай *Младатурэцкай рэвалюцыі.*

У хуткім часе лідары младатуркаў усталявалі рэжым, які мала чым адрозніваўся ад султанскага. Імкнучыся любымі сродкамі захаваць Асманскую імперыю, яны бязлітасна падаўлялі любое непадпарадкаванне. Так, у 1915 г. было знішчана больш за мільён армян з Усходняй Турцыі.

У галіне знешняй палітыкі младатурэцкі ўрад арыентаваўся на Германію. Гэта прывяло да таго, што ў Першай сусветнай вайне Турцыя выступала супраць Англіі, Францыі і Расіі. У выніку Асманская імперыя, пацярпеўшы паражэнне, спыніла сваё існаванне. На яе руінах узніклі незалежныя турэцкая і арабскія дзяржавы.

*Іранская рэвалюцыя.* У Іране рэвалюцыйныя падзеі ахапілі перыяд **1905—1911 гг.** Супраць самавольства шахскіх улад выступілі ўсе пласты насельніцтва — ад вышэйшага духавенства, купецтва і ліберальна настроеных памешчыкаў да гарадской беднаты. І ўсё ж манархічны лад, хоць і быў пахіснуты, захаваўся. Найважнейшай заваёвай іранскай рэвалюцыі было прыняцце канстытуцыі.

**5. Культура і лад жыцця.** Да канца XIX ст. у культурным жыцці краін мусульманскага свету адбыліся значныя змены. З'явіліся людзі, якія атрымалі еўрапейскую адукацыю і імкнуліся пераймаць Захад як у ладзе жыцця, так і ў палітычнай дзейнасці. Многія з іх былі ўдзельнікамі рэфарматарскіх рухаў. У арабскай, персідскай і турэцкай мовах, на якіх размаўляла большасць насельніцтва мусульманскіх краін, з'явіліся новыя словы, такія як *парламент, канстытуцыя, рэспубліка, дэмакратыя.*

Змянілася аблічча буйных гарадоў мусульманскага свету. У Александрыі, Каіры і Стамбуле ўзводзіліся будынкі еўрапейскага тыпу. Закладваліся паркі і гарадскія скверы, з'явілася асвятленне вуліц. Будаваліся чыгункі і трамвайныя лініі.

Розныя тэхнічныя навінкі, напрыклад аўтамабіль, тэлефон, кінематограф, рабілі Захад усё больш прывабным. Мусульманская арыстакратыя паступова страчвала да яго былую непрыязнасць. Яна стала насіць еўрапейскае

адзенне, вывучаць французскую і англійскую мовы. Сотні маладых людзей са знатных сем'яў вучыліся за мяжой. У Стамбуле і Каіры былі адкрыты ўніверсітэты. Нават духавенства адмовілася ад сваёй непрымірымай пазіцыі ў адносінах да Захаду.

Але дасягненні еўрапейскай цывілізацыі былі даступны толькі вярхам мусульманскага грамадства. Паміж простым народам і адукаванымі людзьмі ляжала велізарная бездань. Лад жыцця большай часткі насельніцтва, асабліва сельскага, заставаўся такім жа, якім ён быў у папярэднія стагоддзі.

**Пытанні і заданні**

1. Чаму еўрапейскім дзяржавам удалося ў XIX ст. замацавацца ў краінах мусульманскага свету? Які ўрок можна вынесці з гісторыі англа-афганскіх войнаў?
2. Складзіце разгорнуты план адказу па тэме «Рэформы і рэвалюцыйны рух у Турцыі і Іране ў XIX — пачатку XX ст.».
3. Якія факты з пункта гледжання сучаснага чалавека сведчаць аб парушэннях правоў чалавека ў краінах Блізкага Усходу, асабліва ў Турцыі?



**З артыкула младатуркаў «Наша праграма». Снежань 1895 г.**

«Мы імкнёмся працаваць не для звяржэння кіруючай дынастыі, існаванне якой мы лічым неабходным для падтрымання парадку, але для распаўсюджвання прагрэсу і дасягнення яго перамогі мірным шляхам. Наш дэвіз — „Парадак і прагрэс", і нам чужыя рашэнні, дасягнутыя з дапамогай сілы. Мы патрабуем рэформаў, але не ў інтарэсах той або іншай правінцыі, а для ўсёй імперыі, не ў інтарэсах якой-небудзь нацыянальнасці, а для ўсіх грамадзян Асманскай імперыі — усё адно, яўрэяў, хрысціян ці мусульман. Мы хочам ісці па шляху цывілізацыі, але мы рашуча заяўляем, што мы пойдзем гэтым шляхам, умацоўваючы асманскі элемент, шануючы ўласцівыя яму ўмовы існавання. Мы маем намер захаваць асаблівасці нашай усходняй цывілізацыі, запазычыўшы ў Еўропы толькі асноўныя вынікі развіцця навукі, толькі тое, што сапраўды неабходна, каб весці народ па шляху свабоды... Мы супраць непасрэднага ўмяшання замежных дзяржаў у справы Асманскай імперыі».

*Як вы лічыце, ці імкнуліся младатуркі да карэнных пераўтварэнняў у сваёй краіне? У чым заключаюцца, на ваш погляд, моцныя і слабыя бакі гэтай праграмы?*



**Аб сацыяльна-эканамічным становішчы ў Іране**

«Землеўладальнікамі з'яўляюцца хан, памешчыкі, а просты народ беззямельны. Нягледзячы на асабістую свабоду, жыццё беззямельнага перса залежыць

ад памешчыка. Апошняму належыць не толькі ўся зямля, якая апрацоўваецца простым народам, але і вёскі з пабудовамі, садамі, агародамі і вінаграднікамі. Сялянам жа належаць толькі хатнія пажыткі і жывёла. За права апрацоўваць зямлю сяляне абавязаны плаціць памешчыку такую частку ўраджаю, якую вызначыць хан-памешчык. Таму сяляне сеюць толькі такую колькасць збожжа, каб заплаціць хану і пракарміцца...»

*Як вы лічыце, ці маглі спрыяць развіццю сельскай гаспадаркі адносіны паміж памешчыкамі і сялянамі, што склаліся ў Іране? Растлумачце сваю думку.*



**Цэнзура па-турэцку. З кнігі І. І. Галабародзькі «Старая і новая Турцыя». 1908 г.**

«Да кніжнай літаратуры турэцкая цэнзура пры Абдул-Гамідзе была такой жа строгай, як і да газетнай. Цэнзура замежных кніг дайшла да такой нецярпімасці, што ў Турцыі ў апошняе 90-годдзе нельга было знайсці ні Байрана, ні Шылера, ні Шэкспіра, ні нават Вальтэра Скота, не кажучы ўжо аб Вальтэры або Л. Талстым... Цэнзура кніг, якія выдаваліся ўнутры краіны, была яшчэ больш суровая. Забаранялася друкаваць творы, у якіх сустракаюцца словы: свабода, права, сіла, мужнасць, раўнапраўе, уціск, злучэнне, цар, палац, зброя, кровапраліцце, тыранія, герой і мноства іншых. Слова „зорка“ прадпісвалася нават у астраноміі замяняць словам „свяціла“, таму што зорка прывяла вешчуноў пакланіцца Ісусу Хрысту, і гэта можа служыць заахвочваннем для хрысціян, яўрэяў чакаць Збавіцеля. Словы гэтыя забаронена было ўжываць нават у самых добранамерных спалучэннях».

## § 29. ТЭРЫТАРЫЯЛЬНЫ ПАДЗЕЛ АФРЫКІ Ў XIX ст.

**Успомніце**

1. Як склаўся лёс народаў Афрыкі пасля Вялікіх геаграфічных адкрыццяў і сустрэчы з еўрапейскай цывілізацыяй?
2. Які ўрон нанёс гандаль рабамі афрыканцам?
3. Дзе размешчана Экватарыяльная і Паўднёвая Афрыка? Якія мусульманскія краіны Паўночнай Афрыкі ўваходзілі ў склад Асманскай імперыі?

Найважнейшай падзеяй сусветнай гісторыі сталі Вялікія геаграфічныя адкрыцці. Адбылася сустрэча цывілізацый, якая змяніла лад жыцця многіх народаў свету. Для афрыканцаў яна абярнулася жахлівым бедствам — ганд-



*Еўрапейскія падарожнікі на прыёме ў караля Буганды (цяпер Уганда). Мастак Дж. Спек. 1863 г.*

лем рабамі. Еўрапейцы ператварылі кантынент у сапраўднае месца палявання на людзей. За межы Афрыкі былі вывезены дзясяткі мільёнаў чалавек — самых моцных, здаровых і вынослівых. Гандаль чарнаскурымі рабамі стаў ганебнай старонкай у еўрапейскай гісторыі і гісторыі дзвюх Амерык.

У XIX ст., калі з гандлем рабамі ўжо было пакончана, еўрапейцы пачалі заваёўваць Афрыканскі кантынент. Самыя драматычныя падзеі адбыліся ў апошняй трэці стагоддзя. Еўрапейскія дзяржавы літаральна разрывалі Афрыку на часткі і завяршылі сваю «работу» да пачатку Першай сусветнай вайны.

**1. Даследаванні Афрыкі.** Да 1870-х гг. толькі дзясятая частка велізарнага кантынента знаходзілася ва ўладанні еўрапейскіх дзяржаў. *Алжыр* належаў Францыі. *Капская калонія* на поўдні Афрыкі — Вялікабрытаніі. Там жа нашчадкамі галандскіх перасяленцаў былі створаны дзве невялікія дзяржавы. Астатнія еўрапейскія ўладанні ўяўлялі сабой апорныя базы на марскім узбярэжжы. Унутраныя раёны Афрыкі былі для еўрапейцаў кнігай за сямю пячаткамі — нявывучанымі і маладаступнымі.

Еўрапейская экспансія ў глыбінныя вобласці Афрыканскага кантынента ў XIX ст. стала магчымай дзякуючы вялікім геаграфічным даследаванням.

З 1800 па 1870 г. у Афрыку было адпраўлена больш як 70 буйных геаграфічных экспедыцый. Падарожнікі і хрысціянскія місіянеры сабралі каштоўныя звесткі аб прыродных багаццях і насельніцтве Трапічнай Афрыкі. Многія з іх унеслі вялікі ўклад у навуку, але плён іх дзейнасці скарысталі еўрапейскія прамыслоўцы.

Выдатнымі падарожнікамі і даследчыкамі Афрыкі былі француз ***Р. А. Кае***, немец ***Г. Барт***, шатландзец ***Д. Лівінгстан*** і англічанін ***Г. М. Стэнлі***. Толькі смелыя і вынослівыя людзі маглі пераадольваць вялікія адлегласці, бясплодныя пустыні і непраходныя джунглі, парогі і вадаспады вялікіх афрыканскіх рэк.

Еўрапейцам даводзілася змагацца з неспрыяльнымі кліматычнымі ўмовамі і трапічнымі хваробамі. Экспедыцыі працягваліся гадамі, і далёка не ўсе ўдзельнікі вярталіся дадому. Самы высакародны і бескарыслівы з падарожнікаў Давід Лівінгстан памёр у Афрыцы ад ліхаманкі ў 1873 г.

Еўрапейскіх каланізатараў прываблівалі ў Афрыцы яе вялікія прыродныя багацці, каштоўныя віды сыравіны, такія, напрыклад, як каўчук і пальмавы алей, а таксама магчымасць вырошчваць у спрыяльных кліматычных умовах какава, бавоўну, цукровы трыснёг і іншыя сельскагаспадарчыя культуры. Іх цікавілі золата і алмазы, выяўленыя на ўзбярэжжы Гвінейскага заліва, а затым у Паўднёвай Афрыцы. Урэшце, з каланізацыяй Афрыкі еўрапейцы звязвалі магчымасць пашырэння зоны гандлю еўрапейскімі таварамі.

**2. Пачатак захопу афрыканскіх зямель.** Пачатак захопу Афрыкі паклаў бельгійскі кароль ***Леапольд II***. У 1876 г. ён прачытаў паведамленне аб тым, што ў басейне ракі Конга размешчана «дзівосная і казачна багатая краіна». Леапольд II, які кіраваў зусім маленькай дзяржавай, загарэўся ідэяй авалодаць вялізнай тэрыторыяй, роўнай адной трэці Злучаных Штатаў. З гэтай мэтай ён запрасіў да сябе на службу журналіста Генры Стэнлі. Гэта быў вядомы падарожнік. Ён праславіўся тым, што знайшоў экспедыцыю Д. Лівінгстана, якая згубілася ў нетрах Афрыкі.

Па даручэнні бельгійскага караля Г. Стэнлі выправіўся ў Конга са спецыяльнай місіяй. Хітрасцю і падманам ён заключыў шэраг дагавораў з афрыканскімі правадырамі на тэрытарыяльныя ўладанні. Да 1882 г. яму ўдалося набыць для караля Бельгіі больш як 1 млн км$^2$ зямель. У гэты ж час Англія акупіравала Егіпет. Пачаўся тэрытарыяльны падзел Афрыкі.

Прадпрымальны бельгійскі кароль быў заклапочаны тым, як да яго дзеянняў паставяцца еўрапейскія дзяржавы.

**3. Берлінская канферэнцыя.** Францыя і Партугалія не ўтойвалі сваёй незадаволенасці. Яны самі планавалі захоп тэрыторыі Конга. Канфлікт, што ўзнік, быў вырашаны на *Берлінскай канферэнцыі* **1884—1885 гг.** па ініцыятыве германскага канцлера О. фон Бісмарка.

Прадстаўнікі 14 еўрапейскіх дзяржаў «узаконілі» на канферэнцыі тэрытарыяльны падзел Афрыкі. Для набыцця любой тэрыторыі дастаткова было яе «эфектыўна акупіраваць» і своечасова паведаміць аб гэтым астатнім дзяржа-



*Берлінская канферэнцыя*

вам. Пасля такога рашэння бельгійскі кароль мог быць зусім спакойны. Ён стаў «законным» уладальнікам тэрыторый, якія ў дзясяткі разоў перавышалі памеры яго ўласнай краіны.

**4. «Вялікае афрыканскае паляванне».** Набываючы афрыканскія тэрыторыі, еўрапейцы ў большасці выпадкаў звярталіся да падману і хітрасці. Бо дагаворы падпісваліся з правадырамі плямёнаў, якія не ўмелі чытаць і часта не ўдумваліся ў змест дакумента. Узамен тубыльцы атрымлівалі ўзнагароду ў выглядзе некалькіх бутэлек джыну або рознакаляровага адзення.

У выпадку неабходнасці еўрапейцы выкарыстоўвалі зброю. Пасля вынаходства ў 1883 г. кулямёта «Максім» са скарастрэльнасцю 11 стрэлаў у секунду адвага і храбрасць чарнаскурых практычна не мелі ніякага значэння. Як пісаў англійскі паэт Хілары Белак:

*Што хочам зробім мы, а ім*
*І рыпацца дарма:*
*Ёсць кулямёт у нас «Максім»,*
*У іх яго няма.*

Заваяванне кантынента больш нагадвала паляванне, чым вайну. Невыпадкова яно ўвайшло ў гісторыю пад назвай «вялікага афрыканскага палявання». Так, у 1893 г. на тэрыторыі сучаснага Зімбабвэ 50 еўрапейцаў, узброеных шасцю кулямётамі, забілі 3 тыс. афрыканцаў за дзве гадзіны.




*Афрыка ў пачатку XX ст.*

На мяжы XIX—XX стст. падзел Афрыкі завяршыўся. Велізарныя тэрыторыі кантынента апынуліся ва ўладанні Англіі, Францыі, Партугаліі, Італіі, Бельгіі і Германіі. І хоць ваенная перавага была на баку еўрапейцаў, многія афрыканскія народы аказвалі ім жорсткае супраціўленне. Яркі прыклад таму — падзеі ў Эфіопіі.

**5. Эфіопія супраць еўрапейскай каланізацыі.** Яшчэ ў XVI ст. Эфіопію спрабавалі заваяваць туркі-асманы і партугальцы. Але ўсе іх спробы былі беспаспяховымі. У XIX ст. цікавасць да Эфіопіі сталі праяўляць развітыя еўрапейскія дзяржавы, асабліва Англія. Яна адкрыта ўмешвалася ва ўнутраныя справы гэтай афрыканскай краіны.

У 1867 г. 15-тысячная англійская армія ўварвалася ў межы Эфіопіі. Еўрапейскія салдаты былі ўзброены ружжамі новага ўзору. Эфіопскія войскі былі разбіты, а імператар, не жадаючы здавацца, застрэліўся. Англічане страцілі ўсяго двух чалавек.



*Бой бураў з англічанамі. Малюнак XIX ст.*

Але Англія не здолела скарыстацца вынікамі сваёй перамогі. Супраць заваёўнікаў былі і прырода, і людзі. Англічанам не хапала харчавання, пітной вады. Іх акружала варожа настроенае насельніцтва. І яны былі вымушаны пакінуць краіну.

У канцы XIX ст. над Эфіопіяй навісла новая пагроза, гэтым разам з боку Італіі. Яе спробы ўсталяваць пратэктарат над афрыканскай дзяржавай былі адхілены разумным і дальнабачным імператарам Менелікам II. Тады Італія пачала вайну супраць Эфіопіі.

У сакавіку 1896 г. адбылася вядомая бітва пры *Адуа*. Упершыню афрыканская армія здолела разграміць войскі еўрапейскай дзяржавы. Больш за тое, быў падпісаны мірны дагавор, паводле якога Італія прызнавала суверэнітэт Эфіопіі — адзінай незалежнай афрыканскай дзяржавы ў канцы XIX ст.

**6. Англа-бурская вайна.** Драматычныя падзеі адбываліся і на поўдні Афрыкі. Гэта было адзінае месца на кантыненце, дзе белыя ваявалі з белымі: англічане з нашчадкамі галандскіх перасяленцаў — *бурамі*.

У **1899 г.** выбухнула англа-бурская вайна. Сімпатыі многіх людзей свету былі на баку бураў — маленькага бясстрашнага народа, які кінуў выклік найбуйнейшай дзяржаве таго часу. Вайна, як і варта было чакаць, закончылася ў **1902 г.** перамогай Вялікабрытаніі, якая стала непадзельна валадарыць на поўдні Афрыкі.

**Пытанні і заданні**

1. Якім чынам звязаны ў гісторыі Афрыкі такія паняцці, як «геаграфічныя даследаванні», «каштоўныя віды сыравіны», «спрыяльныя кліматычныя ўмовы», «свабодны рынак», «еўрапейская экспансія ў глыб кантынента»?

2. Дайце ацэнку дзеянням бельгійскага караля Леапольда II, накіраваным на захоп тэрыторыі Конга. Аргументуйце свой пункт гледжання.

3. Дакажыце, што краіны, якія ўдзельнічалі ў тэрытарыяльным падзеле Афрыкі, злачынна зневажалі такія агульначалавечыя каштоўнасці, як справядлівасць, свабода, роўнасць, братэрства, недатыкальнасць, суверэнітэт дзяржаў.

4. Раскажыце пра барацьбу эфіопскага народа супраць заваёўнікаў.

5. Вызначце характар англа-бурскай вайны. Свой адказ растлумачце.



### З запісаў еўрапейскага падарожніка па Усходняй Афрыцы ў 1860—1863 гг.

«Ля Мінесенгі мы сустрэлі некалькі партый рабоў, закаваных у ланцугі... Вопратка кожнага з іх складалася ўсяго толькі з казінай шкуры, і па начах яны стараліся легчы бліжэй да агню. Ні ўдзень, ні ноччу іх не вызвалялі ад ланцугоў. Калі хтосьці з прыкаваных адзін да аднаго рабоў рухаўся, астатнім даводзілася рабіць тое ж. Іх кармілі варанай салодкай бульбай або салатай, прыгатаванай з лістоў гарбуза. Іх утрымлівалі ў вельмі кепскіх умовах, каб яны былі менш здольнымі да беспарадкаў. Аднойчы адна рабыня, убачыўшы, што наш повар выкінуў галаву толькі што забітай курыцы, падняла яе і аддала зусім знясіленаму рабу, які схапіў яе з прагнасцю сабакі. Ім аддавалі рэшткі мяса або касцей пасля нашага абеду... Адзіным клопатам іх уладальніка было тое, каб не даць ім памерці або ўцячы, перш чым яны будуць прададзены».

*На падставе гэтага матэрыялу дайце ацэнку сістэме гандлю рабамі ў Афрыцы.*



### Усяго за 50 долараў

У пачатку XIX ст. у Злучаных Штатах узнікла «Амерыканскае таварыства каланізацыі», створанае з мэтай перасялення ў Афрыку вызваленых чарнаскурых рабоў. Месцам пасялення была выбрана тэрыторыя на Гвінейскім узбярэжжы Заходняй Афрыкі. У 1821 г. таварыства набыло ў мясцовых правадыроў у вечнае карыстанне землі за 6 ружжаў, 1 скрынку пацерак, 2 бочкі тытуню, 4 капелюшы, 3 насоўкі, 12 люстэрак і іншыя тавары агульным коштам 50 долараў. Спачатку чарнаскурыя перасяленцы заснавалі на гэтых землях паселішча Манровія, названае ў гонар амерыканскага прэзідэнта Манро. У 1847 г. была абвешчана Рэспубліка Ліберыя, што значыць «свабодная». На самай справе свабодная дзяржава знаходзілася ў залежнасці ад ЗША.



### Правіцель народа матабеле Лабенгула

Прасоўваючыся ў глыб кантынента, буры выцеснілі матабеле з тэрыторыі Трансвааля ў міжрэчча Замбезі — Лімпапо. Але і тут выгнаннікі не знайшлі спакою. Барацьба за міжрэчча, на якое прэтэндавалі і англічане, і буры, і партугальцы, і немцы, падагравалася чуткамі аб багатых радовішчах золата на новых землях матабеле. Найбольш актыўныя ў гэтай барацьбе былі англічане. Пад пагрозай прымянення сілы ў 1888 г. правадыр Лабенгула «падпісаў» (паставіў крыжык) нераўнапраўны дагавор. А ў 1893 г. англічане ўварваліся ў землі матабеле. Пачалася няроўная барацьба, якая закончылася праз тры гады далучэннем міжрэчча да англійскіх уладанняў у Паўднёвай Афрыцы.

Афрыканцам было цяжка зразумець еўрапейцаў, таму што культура, уяўленні аб жыцці і навакольным свеце ў Афрыцы і Еўропе не мелі нічога агульнага. І ўсё ж найбольш дальнабачныя правіцелі афрыканскіх народаў змаглі разабрацца ў метадах барацьбы за Афрыку, якія выкарыстоўвалі еўрапейцы. Напрыклад, вярхоўны правадыр Лабенгула так ахарактарызаваў стратэгію англічан: «Ці бачылі вы калі-небудзь, як хамелеон палюе на муху? Хамелеон становіцца ззаду мухі і некаторы час застаецца нерухомым, затым пачынае асцярожна і паволі рухацца наперад, бязгучна перастаўляючы адну нагу за адной. Нарэшце, наблізіўшыся дастаткова, ён выкідвае свой язык — і муха знікае. Англія — хамелеон, а я — муха».

## АБАГУЛЬНЯЮЧЫЯ ПЫТАННІ І ЗАДАННІ ДА РАЗДЗЕЛА IV

**1.** Выберыце з прапанаванага спіса характэрныя рысы ўсходніх цывілізацый і выпішыце іх у сшытак:

а) наяўнасць дзяржавы;

б) прыярытэт асабістага над грамадскім;

в) прыярытэт грамадскага над асабістым;

г) адсутнасць жорсткага падпарадкавання ніжэйстаячага вышэйстаячаму;

д) жорсткае падпарадкаванне ніжэйстаячага вышэйстаячаму;

е) абагаўленне кіраўніка дзяржавы;

ж) заахвочванне асабістай ініцыятывы;

з) строгае прытрымліванне звычаяў і традыцый.

**2.** Аснову сацыяльнай структуры Японіі пачатку XIX ст. складалі чатыры саслоўі: сяляне (80 % насельніцтва краіны), самураі, рамеснікі, гандляры. Вяршыню грамадскай іерархіі займалі даймё — князі, сёгун — «вялікі палкаводзец», або правіцель, і мікада — імператар. Самай вялікай эканамічнай і палітычнай магутнасцю валодаў сёгун. Яму належала больш як 30 % усёй зямлі і 25 % усяго ўраджаю рысу — галоўнага багацця Японіі, меркі ўсіх даходаў. Прааналізуйце гэтыя даныя аб сацыяльнай структуры японскага грамадства. Параўнайце гэту структуру з сацыяльнай структурай Расіі і краін Захаду.

**3.** Чаму садзейнічала палітыка самаізаляцыі Кітая? Выпішыце правільны адказ:

а) развіццю гаспадаркі;

б) развіццю нацыянальнай культуры;

в) захаванню феадальных парадкаў;
г) развіццю гандлю;
д) захаванню дзяржаўнага суверэнітэту Кітая.

**4.** Запоўніце ў сшытку табліцу «Паўстанні ў Індыі і Кітаі».

| **Параметры для параўнання** | **Паўстанне сіпаяў у Індыі (1857—1859)** | **Тайпінскае паўстанне ў Кітаі (1850—1864)** |
|---|---|---|
| Прычыны паўстання | | |
| Склад удзельнікаў | | |
| Супраць каго скіраваны | | |
| Мэты паўстання | | |
| Прычыны паражэння | | |

Вызначце агульныя і спецыфічныя рысы народных паўстанняў у Індыі і Кітаі.

**5.** Растлумачце значэнне паняццяў «каланіяльная дзяржава», «самаізаляцыя», «насільнае адкрыццё».

**6.** Запоўніце ў сшытку апошнюю графу табліцы «Становішча асноўных сацыяльных груп Індыі да і пасля яе заваявання Вялікабрытаніяй».

| **Сацыяльныя групы** | **Да заваявання** | **Пасля заваявання** |
|---|---|---|
| Феадалы | Абсалютная ўлада | |
| Сяляне | Спадчыннае права на зямлю. Існаванне сельскай абшчыны | |
| Рамеснікі | Росквіт рамяства. З’яўленне мануфактур | |

**7.** Напішыце свае меркаванні пра асаблівасці развіцця ўсходніх цывілізацый у XIX ст.

## Раздзел V

# ПЕРШАЯ СУСВЕТНАЯ ВАЙНА

Першая сусветная вайна — адна з найбуйнейшых у гісторыі чалавецтва войнаў — цягнулася з 1 жніўня **1914** па 11 лістапада **1918 г.**, у ёй удзельнічала 33 дзяржавы і народы калоній. Два ваенна-палітычныя блокі, якія ствараліся на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў, супрацьстаялі адзін аднаму. З аднаго боку гэта былі краіны Антанты — *Вялікабрытанія, Францыя* і *Расія*, з другога — *Германія, Аўстра-Венгрыя* (Цэнтральныя дзяржавы) і іх *саюзнікі*. Ваенныя дзеянні адбываліся на сушы на тэрыторыі двух кантынентаў (Еўразія і Афрыка) і на моры. На палях бітваў ваявала калі 70 млн чалавек, якія былі навучаны «майстэрству» забіваць. Вынікамі вайны сталі гібель каля 10 млн чалавек і вялікія матэрыяльныя страты краін, якія ваявалі.

Вайна так і не вырашыла ўсіх супярэчнасцей паміж найбуйнейшымі імперыялістычнымі краінамі. Яна стала перадумовай для новай, яшчэ больш страшнай і разбуральнай Другой сусветнай вайны.

## § 30. ПРЫЧЫНЫ ВАЙНЫ І ХОД ВАЕННЫХ ДЗЕЯННЯЎ У 1914—1916 гг.

**Успомніце**

1. Калі адбыўся крах «венскай сістэмы»?
2. Назавіце асноўныя мэты знешняй палітыкі Вялікабрытаніі, Францыі і Германіі ў канцы XIX — пачатку XX ст.

Першая сусветная вайна стала вынікам супярэчнасцей паміж найбуйнейшымі еўрапейскімі дзяржавамі. Іх саперніцтва з-за чужых тэрыторый і рынкаў збыту прывяло да сутыкнення і зрабіла агульнасусветны канфлікт непа-




*Плакат часоў Першай сусветнай вайны*

збежным. Фінансісты, фабрыканты, на чыіх прадпрыемствах выраблялася зброя, імкнуліся атрымліваць усё больш высокія прыбыткі. Палітычныя дзеячы, якія абаранялі іх інтарэсы, прывялі свет да вайны.

**1. Абвастрэнне міжнародных супярэчнасцей і наспяванне вайны.** Франка-пруская вайна 1870—1871 гг., аб'яднанне Італіі, а затым і Германіі ў корані змянілі суадносіны сіл у Еўропе.

*Германская імперыя*, якая атрымала ў выніку вайны з Францыяй вобласці Эльзас і Латарынгію, хутка нарошчвала сваю эканамічную моц. Яна стала самай моцнай у ваенных адносінах еўрапейскай дзяржавай. З мэтай умацавання сваіх пазіцый у Еўропе Германія заключыла ў 1879 г. ваенна-палітычны саюз з Аўстра-Венгрыяй. У 1882 г. да яго далучылася Італія. Утварыўся *Траісты саюз*, накіраваны супраць Францыі і Расіі. Стварэнне Траістага саюза стала крокам да развязвання Першай сусветнай вайны. На чале Саюза стаяла Германія, палітыка якой у пачатку XX ст. характарызавалася ўзрастаннем агрэсіўнасці. Траісты саюз праіснаваў да 1915 г., калі з яго выйшла Італія.

*Францыя* пасля паражэння ў вайне з Прусіяй страціла сваё першынство на кантыненце і апынулася ў становішчы вялікай дзяржавы другога рангу. Аднавіць свой ранейшы ўплыў і вярнуць Эльзас і Латарынгію адна яна не магла. Таму ў 1891—1893 гг. Францыя заключыла ваенна-палітычны саюз з Расіяй, якая таксама была вельмі заклапочана ростам германскай магутнасці.

*Вялікабрытанія*, абароненая ад пагроз з кантынента пралівам Ла-Манш, а таксама наймацнейшым у свеце флотам і занятая каланіяльнымі клопатамі, да канца XIX ст. прытрымлівалася палітыкі «бліскучай ізаляцыі», г. зн. пазбягала заключэння саюзаў з іншымі вялікімі дзяржавамі. Узмацненне ваенна-эканамічнага патэнцыялу Германіі падштурхнула Англію змяніць знешнепалітычны курс і ў 1904 г. заключыць пагадненне з Францыяй, а ў 1907 г. — і з Расіяй.

У выніку ўтварылася *Траістая згода* (*Антанта*, ад фр. *entente* — згода), якая стала процівагай Траістаму саюзу. Абодва ваенна-палітычныя блокі праследавалі агрэсіўныя мэты. Утварэнне Антанты змякчыла супярэчнасці паміж Вялікабрытаніяй, Францыяй і Расіяй, але не ліквідавала іх цалкам. Карыстаючыся гэтым, Германія спрабавала адарваць ад Антанты Расію або Англію, але беспаспяхова. Супярэчнасці ўдзельнікаў Антанты з Германіяй




*Кааліцыі дзяржаў і раёны ваенных дзеянняў у Першай сусветнай вайне*

былі мацнейшыя за ўнутраныя рознагалоссі. У час Першай сусветнай вайны вакол Антанты згрупавалася 25 дзяржаў свету, якія фармальна членамі Антанты не з'яўляліся. У 1915 г. да іх далучылася і Італія.

**2. Гонка ўзбраенняў і «ўзброены мір».** У 1870-я гг. пачалася *гонка ўзбраенняў*, якая няспынна паскаралася аж да Першай сусветнай вайны. Яе ініцыятарам была Германія, якая імкнулася павялічыць сваю ваенную перавагу. У гонку ўзбраенняў адразу ж уключыліся і іншыя краіны. Рэзка ўзрасла колькасць войскаў, павялічыліся ваенныя бюджэты, у большасці краін была ўведзена ўсесаслоўная воінская павіннасць.

З'явіліся новыя віды ўзбраенняў — кулямёты, гранатамёты, мінамёты, новыя моцныя выбуховыя рэчывы. Да 1914 г. было пабудавана больш за 800 самалётаў, дзясяткі падводных лодак. Дальнасць артылерыйскага агню павялічылася да 17 км. У 1890-я гг. пачалася гонка ўзбраенняў на моры. У 1906 г. у Англіі быў пабудаваны карабель небывалай баявой магутнасці — «Дрэд-



*Лінкор «Дрэдноўт» — побач з ім усе астатнія браняносныя караблі здаваліся безнадзейна ўстарэлымі*

ноўт» («Бясстрашны»). Ва ўмовах гонкі ўзбраенняў у Еўропе склалася абстаноўка так званага «ўзброенага міру», атмасфера падазронасці, няўпэўненасці і трывогі.

Еўрапейцаў хвалявалі шматлікія ваенныя канфлікты і магчымасць іх перарастання ў сусветную катастрофу. З 15 гадоў, што папярэднічалі Першай сусветнай вайне, ваенныя дзеянні з удзелам еўрапейскіх дзяржаў вяліся амаль 10 гадоў. Пачалася барацьба за перадзел падзеленага ўжо свету.

У гэтых умовах у свядомасці еўрапейцаў пачала фарміравацца думка, што выдатныя дасягненні навукі і тэхнікі могуць не толькі аблегчыць і палепшыць жыццё людзей, але і садзейнічаць стварэнню зброі масавага знішчэння. Стаў набіраць сілу рух супраць гонкі ўзбраенняў і вайны як сродку вырашэння міжнародных спрэчак. Але ўрады еўрапейскіх дзяржаў, не прыслухоўваючыся да галасоў пратэсту, рыхтавалі свае краіны да вялікай вайны, наступстваў якой яны нават не маглі ўявіць.

**3. Нагода да вайны. Хто вінаваты?** Непасрэднай нагодай да сусветнай вайны стала забойства 28 чэрвеня 1914 г. наследніка аўстра-венгерскага прастола ***Франца Фердынанда***. Акт тэрору здзейснілі члены падпольнай арганізацыі (сербы па нацыянальнасці, якія змагаліся за далучэнне Босніі да Сербіі) у баснійскім горадзе *Сараева*. Аўстра-Венгрыя вырашыла «правучыць» Сербію, якая не мела прамога дачынення да тэрарыстычнага акта, і выставіла ёй невыканальныя патрабаванні. З гэтага часу і да пачатку ваенных дзеянняў Аўстра-Венгрыя і Германія прад'яўлялі краінам Антанты толькі ўльтыматумы. 28 ліпеня Аўстра-Венгрыя аб'явіла вайну Сербіі, разлічваючы на лакальны ваенны канфлікт. Расія, якая падтрымлівала Сербію і раней, пачала мабілізацыю.

*Ход ваенных дзеянняў у 1914—1916 гг.*

І нават у той час яшчэ можна было пазбегнуць сусветнай вайны. Аднак Германія лічыла, што наступіў спрыяльны момант для таго, каб расправіцца з Францыяй на захадзе, пакуль марудлівая Расія не разгарнула свае ўзброеныя сілы на ўсходзе. Яна запатрабавала ад Расіі ва ўльтыматыўнай форме прыпыніць мабілізацыю і, не чакаючы адказу, 1 жніўня аб'явіла ёй вайну. Затым Германія прад'явіла ўльтыматум Бельгіі, запатрабаваўшы для сваіх войскаў свабоднага праходу да французскай мяжы. 3 жніўня Германія аб'явіла вайну Францыі. Як толькі нямецкія войскі перайшлі бельгійскую граніцу, Вялікабрытанія 4 жніўня заявіла аб стане вайны з Германіяй. Праз два дні ў вайну ўступіла Аўстра-Венгрыя. Шлях да міру быў адрэзаны. Еўропа на доўгі час стала тэатрам баявых дзеянняў адной з самых кровапралітных войнаў у гісторыі чалавецтва.

Да нашых дзён не змаўкаюць спрэчкі аб адказнасці за развязванне Першай сусветнай вайны. Першапачаткова ўсю віну ўскладалі на Германію. Яна парушыла нейтралітэт Бельгіі, гарантам якога з'яўлялася разам з іншымі еў-

рапейскімі дзяржавамі. Яна ж першай абвясціла вайну Францыі і Расіі, пачала актыўныя ваенныя дзеянні на захадзе і таму па ўмовах Версальскага мірнага дагавора была прызнана вінаватай у развязванні вайны. Аднак з часам стала зразумела, што праблема адказнасці нашмат складанейшая. Большасць гісторыкаў пачалі схіляцца да таго, што ў развязванні Першай сусветнай вайны ў той ці іншай ступені вінаваты ўсе галоўныя яе ўдзельнікі.

**4. Ход ваенных дзеянняў і асноўныя бітвы.** Ваенны план Германіі прадугледжваў кароткачасовую «маланкавую вайну». Нямецкае камандаванне разлічвала нанесці галоўны ўдар па Францыі і, разграміўшы яе, кінуць усе вызваленыя ўзброеныя сілы на ўсход супраць Расіі. Галоўным для Германіі было не дапусціць вайны на два фронты, не апынуцца заціснутай паміж сваімі сапернікамі. Аднак у першыя ж месяцы вайны гэты план пацярпеў крах.

Акупіраваўшы Люксембург і большую частку Бельгіі, якая аказала супраціўленне агрэсару, германскія войскі ўварваліся на тэрыторыю Паўночнай Францыі і пачалі хутка набліжацца да Парыжа. Прэзідэнт і французскі ўрад падрыхтаваліся да пераезду на поўдзень. Лёс Парыжа, ды і ўсёй Францыі, здавалася, вісеў на валаску. У гэты час рускія войскі ўвайшлі ва Усходнюю Прусію. І хоць яны пацярпелі сур'ёзнае паражэнне пад Таненбергам, ім усё ж удалося адцягнуць увагу немцаў ад Заходняга фронту.

Але перамога на ўсходзе дорага каштавала Германіі на захадзе. Самая вялікая бітва з удзелам 6 англа-французскіх і 5 нямецкіх армій (усяго каля 2 млн чалавек) адбылася 5—12 верасня 1914 г. на рацэ *Марне* (паміж Вердэнам і Парыжам). Немцы пацярпелі паражэнне. У ходзе наступных кровапралітных баёў лінія фронту паступова стабілізавалася, да канца года яна працягнулася ад швейцарскай мяжы да Паўночнага мора. Вайна на Заходнім фронце набыла пазіцыйны характар. Такім чынам, германскі план «маланкавай вайны» праваліўся, Германіі давялося ваяваць на два фронты.

Пасля ўступлення ў вайну Турцыі ў кастрычніку 1914 г. і Балгарыі ў кастрычніку 1915 г. (на баку германскага блока), выхаду з Траістага саюза Італіі і абвяшчэння ёю (на баку Антанты) вайны Аўстра-Венгрыі ў красавіку 1915 г. утварыліся новыя франты ў Закаўказзі, Месапатаміі, Сірыі, у раёне праліва Дарданелы і на поўдні Еўропы. Аднак найбольшае значэнне па-ранейшаму мелі Усходні і Заходні франты. Цэнтр ваенных дзеянняў пастаянна перамяшчаўся то з захаду на ўсход, то з усходу на захад.

У 1915 г. асноўны цяжар вайны несла Расія, забяспечыўшы Францыі і Англіі так неабходную для іх перадышку. У кампаніі 1916 г. немцы актывізавалі свае дзеянні на Заходнім фронце. Баі былі моцныя і кровапралітныя. У выніку цяжкіх баёў у раёне Вердэна з 21 лютага па 21 снежня 1916 г., якія



*Горад Вердэн пасля бамбардзіроўкі*

атрымалі назву *«вердэнскай мясарубкі»*, абодва бакі страцілі каля 1 млн чалавек. Летам — восенню таго ж года англа-французскія войскі беспаспяхова спрабавалі прарваць абарону праціўніка на рацэ *Соме*, страціўшы ў баях каля 800 тыс. чалавек.

Становішча саюзных армій аблягчалася ваеннымі дзеяннямі на Усходнім фронце. Асабліва вялікае значэнне мела наступальная аперацыя рускіх войскаў у маі — ліпені 1916 г. пад камандаваннем ***А. А. Брусілава*** (1853—1926) супраць аўстра-германцаў. У ходзе гэтай аперацыі аўстра-германцы панеслі вялікія страты — каля 1,5 млн чалавек забітых, параненых і палонных.

Пасля гэтых небывалых па маштабах баёў адбыўся карэнны пералом у ходзе Першай сусветнай вайны на карысць Антанты. З канца 1916 г. Германія перайшла да абароны на ўсіх франтах.

**Пытанні і заданні**

1. Назавіце галоўныя прычыны Першай сусветнай вайны.
2. Што паслужыла нагодай да Першай сусветнай вайны?
3. У чым заключаўся ваенны план Германіі? Чаму ён быў сарваны?
4. Запоўніце ў сшытку табліцу «Асноўныя бітвы 1914—1916 гг.».

| Дата | Асноўныя бітвы | Іх вынікі |
|---|---|---|
| | | |



Германскі фельдмаршал Хельмут Карл Мольтке (1800—1891) у свой час сцвярджаў: «Усялякае чаканне азначае змяншэнне нашых шанцаў». Таму кіруючыя колы Германіі вясной — летам 1914 г. імкнуліся хутчэй развязаць вай-

ну. Імператар Вільгельм II 5 ліпеня 1914 г. сказаў: «Цяпер або ніколі!» Аўстра-Венгрыю ён заклікаў «не марудзіць з выступленнем».

*Як вы можаце растлумачыць паспешлівасць германскага камандавання ў развязванні вайны? Чаму менавіта гэты час Германія лічыла найбольш удалым для пачатку вайны?*



Як вядома, Вялікабрытанія бачыла ў Германіі свайго галоўнага саперніка і была зацікаўлена ў яе аслабленні. Але англійскія палітыкі да самага пачатку вайны вялі з Германіяй такую гульню, якая давала магчымасць нямецкаму камандаванню разлічваць на нейтралітэт Вялікабрытаніі. 26 ліпеня 1914 г. англійскі кароль Георг V сказаў брату германскага імператара Вільгельма II Генрыху Прускаму, які прыехаў у Лондан: «Мы прыкладзём усе намаганні, каб застацца нейтральнымі».

*Чым вы можаце растлумачыць такую пазіцыю англійскага караля? Ці не падштурхоўвала Англія такім чынам Германію да вайны?*



У красавіку 1915 г. германскае камандаванне ўпершыню прымяніла на Заходнім фронце як зброю масавага знішчэння атрутнае рэчыва — хлор. Яго выпускалі са спецыяльных балонаў каля пяці хвілін. Ахвярамі зброі масавага знішчэння адразу сталі 5 тыс. чалавек, пазней — яшчэ 10 тыс. Праз два тыдні немцы пачалі газавую атаку і супраць рускіх войскаў. У далейшым атрутныя рэчывы выкарыстоўваліся абодвума бакамі. Рускі хімік М. Д. Зялінскі ў 1915 г. вынайшаў вугальны процівагаз, які выратоўваў ад удушша. За гады вайны ад атрутных рэчываў загінула 100 тыс. чалавек.

## § 31. НАЙВАЖНЕЙШЫЯ ПАДЗЕІ І ХОД ВАЕННЫХ ДЗЕЯННЯЎ У 1917—1918 гг.

**Успомніце**

1. Назавіце найбуйнейшыя бітвы 1914—1916 гг. на Заходнім і Усходнім франтах.
2. Якія краіны ўступілі ў вайну на баку Цэнтральных дзяржаў, а якія — на баку Антанты?

З канца 1916 г. баі на Заходнім фронце мелі ў асноўным абарончы характар. Сітуацыя рэзка змянілася пасля ўступлення ў вайну ЗША на баку Антанты. І нягледзячы на рэвалюцыйныя падзеі ў Расіі і яе далейшы выхад з вайны,

суадносіны сіл склаліся на карысць краін, якія ваявалі супраць Германіі і яе саюзнікаў.

**1. Наспяванне палітычнага крызісу ў краінах — удзельніцах вайны.** Першапачаткова вайна выклікала хвалю патрыятычных настрояў практычна ва ўсіх краінах, якія ваявалі. Усім здавалася, што яна мае абарончы характар. Ніхто не думаў, што вайна зацягнецца на доўгія чатыры гады. Усе партыі, у тым ліку сацыялістычныя, выступілі ў падтрымку сваіх урадаў. Але ўжо ў хуткім часе ў ваюючых краінах усё больш і больш сталі адчувацца адмоўныя наступствы страшнай і разбуральнай вайны: бессэнсоўная гібель людзей, пагаршэнне эканамічнага становішча, абмежаванне дэмакратычных правоў і свабод.

Пасля правалу стратэгіі бліцкрыгу («маланкавай вайны») і ўступлення вайны ў зацяжную фазу нямецкая эканоміка стала даваць збоі. Прыпынілася грамадзянская прамысловая вытворчасць, што забяспечвала патрэбы насельніцтва. З лютага 1915 г. у *Германіі* было ўведзена жорсткае размеркаванне прадуктаў харчавання, а ў 1916 г. — картачная сістэма. У тым жа годзе быў прыняты закон аб абавязковай працоўнай павіннасці для мужчын ад 17 да 60 гадоў. На ваенных заводах шырока выкарыстоўвалася жаночая і дзіцячая праца. З кожным годам ваенная прамысловасць усё больш адчувала дэфіцыт сыравіны і матэрыялаў.

У *Вялікабрытаніі* кіраўніцтва прамысловасцю, якая выконвала заказы ваенных ведамстваў, перайшло да міністэрства абароны. Спецыяльны закон прадугледжваў устанаўленне дзяржаўнага кантролю над вытворчасцю, транспартам, прэсай, а таксама забарону забастовак. У 1916 г. парламент прыняў



*Мужчын, што пайшлі на фронт, на вытворчасці замянілі жанчыны*

закон аб абавязковай воінскай павіннасці (да гэтага армія фарміравалася на добраахвотнай аснове).

У *Францыі* эканоміка была не падрыхтавана да зацяжной вайны. У 1916 г. становішча ў краіне значна пагоршылася. Вытворчасць збожжа скарацілася да 58 млн т (пры патрэбнасці 68 млн т). Абмежаванне імпарту ў сувязі з вайной спарадзіла крызіс практычна ва ўсіх галінах эканомікі, які суправаджаўся нарастаннем стачачнай барацьбы працоўных. Пагаршэнне матэрыяльнага становішча насельніцтва і рост антываенных настрояў выклікалі ў краіне яшчэ большае абвастрэнне палітычнага крызісу. У лістападзе 1917 г. урад узначаліў ***Ж. Клемансо***, які ўсталяваў рэжым дыктатуры ваеннага часу.

Найбольшай вастрыні крызіс дасягнуў у *Расіі*. У лютым 1917 г. у выніку буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі тут было звергнута самадзяржаўе. Рэвалюцыйныя падзеі ў Расіі адмоўна паўплывалі на баяздольнасць рускай арміі.

Занепакоеныя развіццём падзей, некаторыя вядомыя дзяржаўныя дзеячы шэрагу краін выступілі з заявамі на карысць міру. Аднак у 1917 г. прыхільнікі вайны — буйныя манапалісты, палітыкі і ваенныя — атрымалі верх, і перагаворы не адбыліся.

**2. Новае аблічча вайны.** Некалькі фактараў змянілі традыцыйны характар вайны. Перш за ўсё адыграў сваю ролю навукова-тэхнічны прагрэс, які прывёў да стварэння зброі масавага знішчэння. Часта ўжо не мужнасць салдат, а агнявая моц стала вырашаць вынік бітваў. Прымяненне цяжкіх гармат, кулямётаў, танкаў, самалётаў, атрутных газаў і падводных лодак значна пашырыла межы ваенных дзеянняў, неймаверна павялічыла колькасць забітых і параненых. Усяго ў гады вайны загінула каля 10 млн чалавек.

Усё большае значэнне набываў *тыл*. Эканоміка краін-удзельніц у гады вайны працавала толькі на яе патрэбы. Вытворчасць зброі, асабліва новых відаў узбраенняў, дасягнула небывалых памераў. Толькі ў Вялікабрытаніі ваенныя расходы ў 1918 г. складалі 80 % дзяржаўнага бюджэту. Такім чынам, вялікія людскія рэсурсы выкарыстоўваліся для забеспячэння фронту. Вайна паўплывала на лёсы не толькі салдат, але і значнай часткі грамадзянскага насельніцтва. Эпоха ўзброеных канфліктаў, абмежаваных некалькімі палямі бітваў, незваротна адышла ў мінулае.

Ва ўмовах татальных ваенных дзеянняў асаблівае значэнне набыла прапаганда вайны. Паўсюль — у лістоўках, афішах і паштоўках — ствараўся станоўчы вобраз айчыны і ўсяляк ачарняўся вораг. У гады Другой сусветнай вайны работа прапагандысцкай машыны краін-удзельніц дасягнула выключнай дасканаласці.



*Брытанскі танк, які ўпершыню быў выкарыстаны ў бітве на рацэ Соме ў 1916 г. Адным сваім выглядам гэтыя баявыя машыны сеялі жах у радах праціўніка*

**3. Уступленне ў вайну ЗША.** Пасля Лютаўскай рэвалюцыі ў Расіі баяздольнасць рускай арміі няўхільна зніжалася. Гэта дало магчымасць Германіі пачаць перакідку сваіх войскаў з Усходняга фронту на іншыя тэатры ваенных дзеянняў. У гэтай сітуацыі значную ролю для краін Антанты адыграла ўступленне ў вайну ЗША ў красавіку 1917 г.

За гады вайны ЗША ператварыліся ў найбуйнейшага крэдытора Англіі і Францыі. Па меры спусташэння іх рэсурсаў значэнне амерыканскай дапамогі (паставак зброі і стратэгічнай сыравіны) асабліва ўзрастала. Зразумела, ЗША не маглі дапусціць ваеннага паражэння сваіх асноўных даўжнікоў. Акрамя таго, удзел у вайне даваў магчымасць ЗША ўмацаваць становішча на міжнароднай арэне. У Еўропу было перакінута больш за 20 амерыканскіх дывізій (каля 1 млн чалавек). Стратэгічная ініцыятыва канчаткова перайшла да дзяржаў Антанты.

**4. Ход ваенных дзеянняў у 1917 г.** Пасля ўступлення ў вайну ЗША Антанта разлічвала ажыццявіць разгром Цэнтральных дзяржаў і іх саюзнікаў. З гэтай мэтай вясной — летам 1917 г. англа-французскія войскі распачалі некалькі буйнамаштабных аперацый на Заходнім фронце. Аднак «вырашальныя» наступленні ў рэшце рэшт зваліся да ранейшай тактыкі «баёў на знясіленне». У выніку саюзнікі панеслі вялікія страты. Няўдалым было і наступленне рускіх войскаў на Усходнім фронце.

**5. Заключны перыяд вайны.** У краінах, што ваявалі, узмацніліся антываенныя настроі. У Расіі бальшавікі заклікалі салдат не змагацца за Часовы ўрад. Пад уплывам іх прапаганды на Усходнім фронце пачаліся братанні з салдатамі праціўніка.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі Савецкая Расія пайшла на перамір'е з дзяржавамі германскага блока. Бальшавіцкі ўрад фактычна капітуляваў, за-

*Ход ваенных дзеянняў у 1917—1918 гг.*

ключыўшы **3 сакавіка 1918 г.** у *Брэст-Літоўску* сепаратны мір з Германіяй і яе саюзнікамі. Атрымаўшы велізарныя тэрытарыяльныя ўступкі і выкарыстоўваючы выхад Расіі з вайны, Германія пачала вырашальнае наступленне на Заходнім фронце.

Германскае камандаванне сканцэнтравала на Заходнім фронце 62 пяхотныя дывізіі супраць 35 дывізій саюзнікаў. У ходзе наступлення, пачатага 21 сакавіка 1918 г., нямецкія войскі разграмілі 2 брытанскія арміі, прарвалі французскую абарону і зноў, як і ў 1914 г., выйшлі на раку Марну, пагражаючы непасрэдна Парыжу. Але развіць свой поспех яны не змаглі: не хапіла сіл і людскіх рэсурсаў.

Германскае наступленне прымусіла саюзнікаў упершыню за гады вайны дамовіцца аб стварэнні адзінага камандавання. Галоўнакамандуючым усімі саюзнымі войскамі на Заходнім фронце стаў маршал ***Фердынанд Фош*** (1851—1929), якому адразу было прысвоена званне генералісімуса. У ліпені — жніўні 1918 г. адбылася другая бітва на Марне, якая паклала пачатак контрнаступ-

ленню Антанты. У выніку кровапралітных баёў нямецкія войскі не ўтрымалі сваіх пазіцый і пачалі адыходзіць да мяжы. Германія вымушана была перайсці да татальнай абароны. Неўзабаве з вайны выйшлі Балгарыя, Турцыя і Аўстра-Венгрыя, што распалася на асобныя дзяржавы.

Ваенныя паражэнні, эканамічная разруха і, нарэшце, зрынанне манархіі (9 лістапада 1918 г.) у ходзе рэвалюцыйнага выступлення рабочых і салдат вымусілі Германію капітуляваць. Раніцай 11 лістапада 1918 г. нямецкая дэлегацыя падпісала акт аб перамір'і ў штабным вагоне маршала Фоша ў Камп'енскім лесе.

*Камп'енскае перамір'е* стала завяршальным актам сусветнай вайны 1914—1918 гг. Перад дзяржавамі-пераможцамі паўстала пытанне аб тым, якім павінен быць мір у Еўропе.

**6. Асноўныя вынікі вайны.** Першая сусветная вайна карэнным чынам змяніла аблічча Еўропы. Распаліся *Асманская* і *Аўстра-Венгерская імперыі*. Расія была зрынута ў хаос рэвалюцыі і грамадзянскай вайны. Узнікла *Савецкая дзяржава* на чале з бальшавіцкім урадам. *Аўстрыя* і *Германія* сталі рэспублікамі. На тэрыторыі Еўропы ўтварыліся новыя дзяржавы, дабіліся незалежнасці *Польшча, Чэхаславакія, Югаславія, Венгрыя, Латвія, Літва, Эстонія* і *Фінляндыя*. На руінах Асманскай імперыі была ўтворана *Турэцкая рэспубліка* і шэраг арабскіх дзяржаў, якія апынуліся пад кантролем Англіі і Францыі. Усе германскія калоніі былі падзелены паміж краінамі Антанты.

Першая сусветная вайна прывяла да аслаблення еўрапейскай гегемоніі. На палітычную арэну актыўна выступілі Злучаныя Штаты Амерыкі і Савецкая дзяржава. Вайна не вырашыла ўсіх супярэчнасцей паміж вялікімі дзяржавамі, што прывяло чалавецтва да Другой сусветнай вайны.

**Пытанні і заданні**

1. Як паўплывала вайна на становішча вышэйшых і ніжэйшых пластоў грамадства? Дакажыце, што ўнутраныя супярэчнасці ў краінах — удзельніцах вайны абвастрыліся.
2. Якія фактары змянілі традыцыйны характар вайны?
3. Вызначце ступень уплыву Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцый у Расіі на ход вайны.
4. Чаму ЗША выступілі ў Першую сусветную вайну на баку Антанты? Ці паўплывала гэта на вынік вайны?
5. Што прымусіла ўрады заходніх краін дабівацца спынення сусветнай вайны ў 1918 г.?
6. Чаму германа-аўстрыйскі блок пацярпеў паражэнне?

7. Запоўніце табліцу «Асноўныя ваенныя і палітычныя падзеі 1917—1918 гг.».

| Дата | Важнейшыя ваенныя аперацыі | Важнейшыя палітычныя падзеі |
|---|---|---|
| | | |



**Людскія страты ў войнах канца XVIII — пачатку XX ст.**

| Гады | Войны | Колькасць загінуўшых, чал. |
|---|---|---|
| 1792—1815 | Войны эпохі Французскай рэвалюцыі і Напалеона Банапарта ў Еўропе | Каля 5 000 000 |
| 1853—1856 | Крымская вайна | 485 000 |
| 1866 | Аўстра-пруская вайна | 51 000 |
| 1870—1871 | Франка-пруская вайна | 290 000 |
| 1914—1918 | Першая сусветная вайна | 10 000 000 |

**Ваенныя расходы канца XVIII — пачатку XX ст.**

| Гады | Войны | Расходы, млн долараў |
|---|---|---|
| 1792—1815 | Войны эпохі Французскай рэвалюцыі і Напалеона Банапарта ў Еўропе | 6,2 |
| 1853—1856 | Крымская вайна | 1,5 |
| 1866 | Аўстра-пруская вайна | 0,1 |
| 1870—1871 | Франка-пруская вайна | 1,6 |
| 1914—1918 | Першая сусветная вайна | 206,2 |

*Прааналізуйце даныя табліц і зрабіце высновы аб маштабах Першай сусветнай вайны.*



У дзень падпісання перамір'я ў Камп'енскім лесе англійскі прэм'ер-міністр, выступаючы ў палаце абшчын, сказаў: «Я спадзяюся, што мы можам таксама сказаць, што сёння, гэтай гістарычнай раніцай, закончыліся ўсе войны».

*Ці апраўдаліся надзеі прэм'ер-міністра Вялікабрытаніі?*



Зіма 1916—1917 гг. у Германіі была празвана «бручкавай». Менавіта бручка ў краіне стала асноўным, калі не адзіным, прадуктам харчавання. Голад прывёў да шматлікіх ахвяр, асабліва сярод старых і дзяцей.

## ВЫНІКОВАЕ АБАГУЛЬНЕННЕ

**1.** Якія карэнныя змены адбываліся ў дэмаграфічным, эканамічным, палітычным і духоўным жыцці Заходняй Еўропы і ЗША пры пераходзе ад традыцыйнага грамадства да грамадства індустрыяльнага?

**2.** Ці можна сцвярджаць, што гісторыя XIX ст. — гэта гісторыя нараджэння і развіцця індустрыяльнага грамадства ў працэсе мадэрнізацыі? Чаму?

**3.** Дайце ацэнку працэсу пераўтварэння традыцыйнай аграрнай цывілізацыі ў цывілізацыю індустрыяльную, або машынную, з пункта гледжання еўрапейца або амерыканца і з пункта гледжання жыхара Усходу.

**4.** Назавіце грамадска-палітычныя вучэнні, распаўсюджаныя ў грамадстве XIX ст. Інтарэсы якіх пластоў насельніцтва яны выказвалі? З ідэямі якога з гэтых вучэнняў вы можаце пагадзіцца?

**5.** Чым былі выклікаты рэвалюцыйныя ўзрушэнні ў эпоху мадэрнізацыі? Якую ролю адыгралі рэвалюцыі ў вырашэнні сацыяльных супярэчнасцей? Якія шляхі вырашэння сацыяльных супярэчнасцей, на ваш погляд, найбольш пажаданыя? Свой адказ аргументуйце.

**6.** Параўнайце гісторыю развіцця краін Усходу і Захаду ў перыяд Новага часу. Падумайце, чаму значная частка Азіі і Афрыкі трапілі ў каланіяльную залежнасць ад еўрапейскіх дзяржаў.

**7.** Падрыхтуйце паведамленне, карыстаючыся дадатковымі крыніцамі, аб росце нацыяналізму і яго небяспецы ў XIX — пачатку XX ст. У паведамленні падкрэсліце, што рост нацыяналізму садзейнічаў развязванню войнаў.

**8.** Ахарактарызуйце міжнародныя супярэчнасці, якія склаліся на мяжы XIX—XX стст. Ці лічыце вы іх найбольш небяспечнымі для грамадства і чаму? Ці магчыма было вырашыць мірным шляхам супярэчнасці, звязаныя з перадзелам калоній і сфер уплыву?

**9.** Першая сусветная вайна стала вынікам вострых супярэчнасцей, якія ўзніклі паміж вядучымі еўрапейскімі краінамі. Многія гісторыкі лічаць, што ў яе развязванні ў першую чаргу былі вінаваты германскія ваенныя і буржуазія. А як лічыце вы?

**10.** Чым Першая сусветная вайна адрознівалася ад усіх папярэдніх войнаў у гісторыі чалавецтва? Свой пункт гледжання пацвердзіце канкрэтнымі фактамі. Пры адказе выкарыстоўвайце карты.

**11.** Як вы лічыце, якім чынам Першая сусветная вайна паўплывала на жыццё людзей у краінах, што ваявалі? На падставе гістарычнай, мастацкай і дакументальнай літаратуры падрыхтуйце паведамленне аб канкрэтным чалавеку, які перанёс усе цяжкасці і жахі тых страшных падзей.

**12.** Дэвід Лойд Джордж, брытанскі прэм'ер-міністр у гады Першай сусветнай вайны, у 1939 г. пісаў: «Ідэалам Германіі з'яўляецца і заўсёды з'яўлялася вайна, якая хутка даводзілася да канца... У 1914 г. планы былі складзены дакладна з такой жа мэтай, і яны ледзь-ледзь не былі дасягнуты, калі б не Расія... Калі б не было ахвяр з боку Расіі ў 1914 г., то нямецкія войскі не толькі захапілі б Парыж, але іх гарнізоны да гэтага часу знаходзіліся б у Бельгіі і Францыі». Ці згодны вы з такой ацэнкай ролі Усходняга фронту ў Першай сусветнай вайне?

**13.** Абмяркуйце з аднакласнікамі веды, атрыманыя вамі пры вывучэнні другога перыяду гісторыі Новага часу. Якія з іх вы лічыце для сябе асабліва карыснымі і чаму?

## ЗАКЛЮЧЭННЕ

Другі перыяд гісторыі Новага часу характарызуецца кардынальнымі зменамі ў жыцці людзей, асабліва еўрапейцаў. Змены закранулі самыя аддаленыя куткі нашай планеты. Стракаты і разнастайны свет усё больш станавіўся падобным да таго, у якім мы жывём.

Дзякуючы прамысловай рэвалюцыі эканамічным, палітычным і ваенным цэнтрам свету стала Еўропа. Еўрапейцы і мячом, і словам распаўсюджвалі каштоўнасці сваёй цывілізацыі на іншыя кантыненты. Краіны Азіі і Афрыкі не маглі супрацьстаяць гэтаму магутнаму напору. У выніку амаль усе яны ператварыліся ў калоніі і паўкалоніі. Толькі Японіі ўдалося захаваць незалежнасць і дасягнуць высокіх вынікаў на шляху мадэрнізацыі традыцыйнага грамадства.

Рытм XIX ст. быў зададзены Французскай рэвалюцыяй канца XVIII ст. і прамысловым пераваротам. Пад іх уплывам пачалася дэмакратызацыя еўрапейскага грамадства. Буржуазія дамагалася абмежавання ўлады манархаў і арыстакратыі. Узнікалі масавыя рухі і партыі, адбываліся важныя змены ў навуцы, культуры і спосабе жыцця людзей. Аб сваіх сацыяльных правах у поўны голас заявіў рабочы клас.

У XIX ст. паскорыліся тэмпы гістарычнага развіцця, узмацнілася ўзаемазалежнасць народаў і краін свету. На працягу аднаго толькі дзесяцігоддзя (1861—1871) на трох кантынентах адбыліся найважнейшыя гістарычныя падзеі: адмена прыгоннага права ў Расіі, Грамадзянская вайна ў ЗША, рэвалюцыя Мэйдзі ў Японіі, абвяшчэнне Германскай імперыі ў Еўропе.

Падзеі, якія адбываліся ў адным месцы зямнога шара, маглі змяніць жыццё людзей у любым другім яго пункце. Так, тэрытарыяльны падзел Афрыкі закрануў лёсы народаў, якія нават не падазравалі аб існаванні еўрапейцаў.

У пачатку XX ст. хваля вызваленчых рухаў і рэвалюцый пад буржуазнымі лозунгамі, запазычанымі ў Еўропы, пракацілася па краінах Усходу. У Кітаі, напрыклад, рэвалюцыя прывяла да звяржэння манархіі і ўстанаўлення рэспублікі. Рэвалюцыі ў Еўропе і за яе межамі стваралі ўмовы для развіцця капіталізму. А капіталізм — гэта не толькі прамысловая рэвалюцыя з яе дабротамі, але яшчэ і канкурэнцыя, эканамічныя крызісы, пошукі рынкаў збыту тавараў і рынкаў сыравіны, бязлітасная барацьба паміж краінамі за тэрытарыяльны падзел свету.

Чалавек Новага часу верыў у прагрэс, г. зн. у тое, што ўсе сферы грамадскага жыцця ўдасканальваюцца. Аб гэтым гаварылі незалежна ад палітычных перакананняў і буржуазныя ідэолагі, і сацыялісты, і камуністы. Толькі ўсе яны па-свойму ўяўлялі будучыню.

Навукова-тэхнічныя дасягненні надавалі асаблівую сілу еўрапейскаму аптымізму. З дапамогай навукі і тэхнікі еўрапейцы авалодвалі прыродай, нанава адкрывалі моры і кантыненты.

Але ў пачатку XX ст. усе гэтыя спадзяванні і памкненні перакрэсліла Першая сусветная вайна. Як тут не ўспомніць мудрае біблейскае выслоўе: «Якая карысць чалавеку, калі ён прыдбае свет (г. зн. мірскія даброты. — *Аўт.*), а душы сваёй пашкодзіць?»

Першая сусветная вайна сведчыла аб глыбокім гістарычным пераломе, роўнага якому, бадай, яшчэ не ведала чалавечае грамадства. Вайна бязлітасна выявіла адмоўныя бакі еўрапейскай цывілізацыі — яе абыякавасць да чалавека і імкненне вырашаць грамадскія праблемы пры дапамозе насілля. Яна пахіснула веру чалавека ў будучае, у невычарпальныя магчымасці навукова-тэхнічнага прагрэсу. Аказалася, што навука і тэхніка з аднолькавым поспехам могуць служыць і дабру, і злу.

Разбуральныя маштабы вайны выклікалі сапраўднае замяшанне ў розумах сучаснікаў. Вось сведчанне аднаго з іх: «Сучасны свет перажывае вялікую гістарычную катастрофу — настолькі жахлівую, настолькі крывавую, настолькі багатую на самыя нечаканыя перспектывы, што перад ёй нямее думка, кружыцца галава... У небывалай гістарычнай буры, што лютуе цяпер, не толькі рэкамі льецца кроў, не толькі разбураюцца дзяржавы, не толькі гінуць і паўстаюць народы — адбываецца і нешта іншае. Разбураюцца старыя ідэалы, блякнуць ранейшыя надзеі і настойлівыя чаканні... а галоўнае — непапраўна і глыбока хістаецца сама наша вера ў сучасную культуру: з-за яе асноў раптам выглянула на нас такое страшнае звярынае аблічча, што мы міжволі адвярнуліся ад яго з агідай і неўразуменнем. І паўстае неадступнае пытанне: ды што ж такое, на самай справе, гэта культура?»

Прынята лічыць, што гісторыю вывучаюць толькі для таго, каб не паўтараць памылак мінулага. Але чаму тады чалавецтва не зрабіла высновы з трагічнага вопыту Першай сусветнай вайны? Чаму яно дапусціла яшчэ адну — страшную і разбуральную — Другую сусветную вайну?

XXI стагоддзе, што надышло, зноў называюць стагоддзем надзей. Але якім будзе твар планеты — прыгожым ці брыдкім, — залежыць ад самога чалавека.

## ХРАНАЛАГІЧНАЯ ТАБЛІЦА

| Дата | Падзея |
|---|---|
| **1799—1814, 1815 гг.** | Напалеонаўскія войны |
| **1804 г.** | Абвяшчэнне Напалеона Банапарта імператарам Францыі |
| **1804—1813 гг.** | Паўстанне ў Сербіі |
| **1810—1826 гг.** | Вайна за незалежнасць іспанскіх калоній у Лацінскай Амерыцы |
| **1812 г.** | Айчынная вайна ў Расіі |
| **26 жніўня 1812 г.** | Барадзінская бітва |
| **1814—1815 гг.** | Венскі кангрэс |
| **1815 г.** | Стварэнне Свяшчэннага саюза |
| **1822 гг.** | Аддзяленне Бразіліі ад Партугаліі. Абвяшчэнне Бразіліі імперыяй |
| **14 снежня 1825 г.** | Паўстанне дзекабрыстаў у Расіі |
| **27—29 ліпеня 1830 г.** | Ліпеньская рэвалюцыя ў Францыі |
| **1830—1831 гг.** | Нацыянальна-вызваленчае паўстанне ў Польшчы |
| **1830—1850-я гг.** | Чартысцкі рух у Англіі |
| **1838—1842 гг.** | Англа-афганская вайна |
| **1840—1842 гг.** | Англа-кітайская першая «опіумная» вайна |
| **1848 г.** | Рэвалюцыя ў Францыі |
| **1848—1849 гг.** | Рэвалюцыі ў Італіі, Аўстрыйскай імперыі і Германіі |

*Працяг*

| Дата | Падзея |
|---|---|
| **1848 г.** | Нацыянальна-вызваленчае паўстанне ў Чэхіі |
| **1850—1864 гг.** | Тайпінскае паўстанне ў Кітаі |
| **1853—1856 гг.** | Крымская вайна |
| **1856—1860 гг.** | Англа-франка-кітайская другая «опіумная» вайна |
| **1857—1859 гг.** | Антыкаланіяльнае паўстанне ў Індыі |
| **1860—1870-я гг.** | Буржуазныя рэформы ў Расіі |
| **19 лютага 1861 г.** | Адмена прыгоннага права ў Расіі |
| **1861 г.** | Стварэнне адзінага Італьянскага каралеўства |
| **1861—1865 гг.** | Грамадзянская вайна ў ЗША |
| **1863—1864 гг.** | Нацыянальна-вызваленчае паўстанне ў Польшчы |
| **1864 г.** | Заснаванне І Інтэрнацыянала |
| **1868 г.** | Рэстаўрацыя імператарскай улады ў Японіі |
| **1870 г.** | Далучэнне Рыма да Італьянскага каралеўства. Завяршэнне аб’яднання Італіі |
| **1870—1871 гг.** | Франка-пруская вайна |
| **4 верасня 1870 г.** | Вераснёўская рэвалюцыя ў Францыі |
| **Студзень 1871 г.** | Абвяшчэнне Германскай імперыі |
| **18 сакавіка — 28 мая 1871 г.** | Парыжская Камуна |
| **1874 г.** | «Хаджэнне ў народ» |
| **1875 г.** | Прыняцце канстытуцыі Трэцяй рэспублікі ў Францыі |
| **1877—1878 гг.** | Руска-турэцкая вайна |
| **1878—1880 гг.** | Англа-афганская вайна |
| **1884—1885 гг.** | Берлінская канферэнцыя |
| **1885 г.** | Марозаўская стачка ў Расіі |
| **1885 г.** | Стварэнне партыі Індыйскі нацыянальны кангрэс |
| **1889 г.** | Утварэнне ІІ Інтэрнацыянала |
| **1889 г.** | Абвяшчэнне Бразіліі рэспублікай |
| **1889 г.** | Абвяшчэнне канстытуцыі ў Японіі |

| Дата | Падзея |
|---|---|
| **1898 г.** | «Сто дзён рэформаў» у Кітаі |
| **Сакавік 1898 г.** | І з’езд РСДРП |
| **1899—1901 гг.** | Паўстанне іхэтуаняў («баксёраў») у Кітаі |
| **1899—1902 гг.** | Англа-бурская вайна |
| **1904—1905 гг.** | Руска-японская вайна |
| **1905—1907 гг.** | Буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя ў Расіі |
| **9 студзеня 1905 г.** | «Крывавая нядзеля» |
| **17 кастрычніка 1905 г.** | Маніфест цара Мікалая ІІ з абяцаннем дэмакратычных свабод і склікання заканадаўчай Думы |
| **Снежань 1905 г.** | Узброенае паўстанне ў Маскве |
| **1905—1911 гг.** | Рэвалюцыя ў Іране |
| **3 чэрвеня 1907 г.** | Трэцячэрвеньскі дзяржаўны пераварот у Расіі |
| **1908 г.** | Абвяшчэнне Балгарыі царствам |
| **1908 г.** | Младатурэцкая рэвалюцыя |
| **1910—1917 гг.** | Мексіканская рэвалюцыя |
| **1911—1913 гг.** | Сіньхайская рэвалюцыя ў Кітаі. Звяржэнне Цынскай дынастыі і абвяшчэнне Кітайскай рэспублікі |
| **1912—1913 гг.** | Балканскія войны |
| **1914—1918 гг.** | Першая сусветная вайна |
| **1917 г.** | Лютаўская і Кастрычніцкая рэвалюцыі ў Расіі |
| **2 сакавіка 1917 г.** | Адрачэнне цара Мікалая ІІ ад прастола |
| **3 сакавіка 1918 г.** | Падпісанне Брэсцкага міру паміж Германіяй і Савецкай Расіяй |

# СЛОЎНІК ГІСТАРЫЧНЫХ ТЭРМІНАЎ І ПАНЯЦЦЯЎ

**Абаліцыяні́зм** — рух за адмену рабства ў ЗША ў канцы XVIII—XIX ст.

**Агра́рная рэвалю́цыя** — пераход ад феадальных адносін у сельскай гаспадарцы да капіталістычных, ператварэнне феадалаў у сельскіх буржуа, а сялян — у фермераў або батракоў.

**Агрэ́сія** — прымяненне сілы адной дзяржавай супраць іншай з мэтай захопу яе тэрыторыі, ліквідацыі незалежнасці, змены палітычнага і грамадскага ладу.

**Акцыяне́рнае прадпрые́мства** — прадпрыемства, капітал якога ўтвараецца шляхам продажу акцый (каштоўных папер).

**Ана́рха-сіндыкалі́зм** — плынь у міжнародным рабочым руху, якая выступала за перадачу ўлады прафсаюзам і адмаўляла неабходнасць дзяржавы.

**Антыкаланія́льны рух** — нацыянальна-вызваленчы рух у каланіяльных і залежных краінах, скіраваны на барацьбу за нацыянальную незалежнасць.

**«Ар нуво́»** (мадэрн) — стыль у еўрапейскай архітэктуры канца XIX — пачатку XX ст., які характарызаваўся звілістымі плаўнымі абрысамі будынкаў.

**Арсена́л** — прадпрыемства, якое вырабляе зброю і ваенную амуніцыю.

**Аўтано́мія** — права самастойнага ажыццяўлення дзяржаўнай улады або кіравання, прадастаўленае якой-небудзь частцы дзяржавы.

**Байко́т** — 1) адмова адной дзяржавы падтрымліваць адносіны з іншай дзяржавай або групай дзяржаў; 2) форма палітычнай і эканамічнай барацьбы, якая прадугледжвае поўнае або частковае спыненне адносін з пэўнай асобай, арганізацыяй або прадпрыемствам.

**Буржуа́зная дэмакра́тыя** — палітычны лад, пры якім улада буржуазіі спалучаецца з шырокімі правамі грамадзян, іх удзелам у палітычным жыцці краіны.

**Буржуа́зная мана́рхія** — манархія, якая абапіраецца на буржуазію і абараняе яе інтарэсы.

**Грама́дскія кла́сы** — вялікія, адносна ўстойлівыя групы людзей. Адрозніваюцца па сваім месцы ў сістэме вытворчасці, арганізацыі працы, спосабах атрымання і памерах даходаў. Адносіны паміж імі характарызуюцца супрацоўніцтвам або барацьбой.

**Дыскрыміна́цыя** — абмежаванне або пазбаўленне правоў пэўнай групы людзей па расавай, рэлігійнай, нацыянальнай або іншай прымеце.

**Дэкадэ́нцтва** — назва крызісных з'яў у еўрапейскай культуры канца XIX ст., для якіх характэрны настроі заняпаду, безнадзейнасці і непрымання жыцця.

**Іміґра́цыя** — уезд іншаземцаў у якую-небудзь краіну на пастаяннае месца жыхарства.

**Імперыялі́зм** — 1) тэрмін, упершыню прапанаваны ў 1902 г. англійскім эканамістам Дж. А. Гобсанам. Склаліся дзве асноўныя тэорыі імперыялізму: геапалітычная (каланіяльнае панаванне) і эканамічная (экспансія капіталу). Характэрнымі рысамі імперыялізму былі панаванне капіталістычных манаполій, зліццё банкаўскага капіталу з прамысловым і ўтварэнне фінансавага капіталу, экспансія фінансавага капіталу ў выглядзе крэдытаў і інвестыцый у іншыя краіны, абвастрэнне барацьбы паміж вялікімі дзяржавамі за падзел і перадзел свету на сферы ўплыву; 2) у марксісцкай інтэрпрэтацыі гісторыі — вышэйшая стадыя капіталізму, галоўнай асаблівасцю якой з'яўляецца дзейнасць манаполій.

**Імпрэсіяні́зм** — кірунак у мастацтве канца XIX ст., які імкнуўся адлюстраваць вокамгненныя ўражанні, свет у яго рухомасці і зменлівасці.

**Інтэліге́нцыя** — людзі, якія займаюцца разумовай працай, развіццём і распаўсюджваннем культуры.

**Інтэрве́нцыя** — узброенае ўмяшанне адной або некалькіх дзяржаў ва ўнутраныя справы іншай.

**Кансерваты́зм** — сукупнасць ідэйна-палітычных і культурных плыней, якія абапіраюцца на ідэю пераемнасці ў грамадскім жыцці. Кансерватары прызнавалі каштоўнасці буржуазнай дэмакратыі, але лічылі імкненне да змен згубным для грамадства.

**Кантрыбу́цыя** — пасляваенныя прымусовыя плацяжы, якія збіраліся з пераможанай краіны дзяржавай-пераможцай.

**Канфедэра́цыя** — саюз, аб'яднанне якіх-небудзь грамадскіх арганізацый, а таксама дзяржаў.

**Канфе́сія** — пэўнае веравызнанне, а таксама афіцыйная прыналежнасць да якога-небудзь рэлігійнага кірунку.

**Капіталі́зм** — грамадскі лад, заснаваны на прыватнай уласнасці і рыначнай эканоміцы.

**Капітуля́цыя** — спыненне ўзброенага супраціўлення адной з ваюючых дзяржаў і здача пераможцу на прадыктаваных ім умовах.

**Карпара́цыя** — акцыянерная кампанія.

**Ка́тарга** — асаблівы від пакарання за крымінальныя і палітычныя злачынствы. Спалучала пазбаўленне волі з абавязковым прыцягненнем да цяжкай фізічнай працы (будаўніцтва флоту, крэпасцей, работа на рудніках, у шахтах).

**Лібералі́зм** — ідэйна-палітычная плынь у Еўропе, якая аб'ядноўвала прыхільнікаў парламенцкага ладу, роўнасці перад законам, свабоды прадпрымальніцтва, слова, веравызнання, сходаў.

**Мадэрніза́цыя** — 1) змены, удасканаленні, якія адпавядаюць сучасным патрабаванням; 2) гістарычны працэс сацыяльных змен і рэфармавання ў грамадстве, асаблівая форма развіцця пры пераходзе ад традыцыйнага грамадства да сучаснага.

**Мадэрні́зм** — агульнае абазначэнне з'яў мастацкай культуры канца XIX — першай паловы XX ст. Характарызуецца адмаўленнем традыцыйных падыходаў у мастацтве і літаратуры і пошукам новых мастацкіх сродкаў.

**Манапо́лія** — 1) гаспадарчае аб'яднанне, якое сканцэнтравала ў сваіх руках большую частку вытворчасці і збыту якога-небудзь тавару; 2) выключнае права адной асобы, групы асоб або дзяржавы на вытворчасць, гандаль або якую-небудзь іншую сферу дзейнасці.

**Маніфе́ст** — 1) урачысты пісьмовы зварот вярхоўнай улады да насельніцтва; 2) заклік, дэкларацыя палітычнай партыі, грамадскай арганізацыі, якія змяшчаюць праграму і прынцыпы дзейнасці; 3) пісьмовае выкладанне літаратурных або мастацкіх прынцыпаў якога-небудзь кірунку або групы ў літаратуры і мастацтве.

**Мілітарыза́цыя** — падпарадкаванне эканамічнага, палітычнага і грамадскага жыцця краіны ваенным мэтам.

**Навуко́ва-тэхні́чны прагрэ́с** — адзінае, узаемаабумоўленае, паступальнае развіццё розных галін навукі і тэхнікі.

**Наро́днікі** — прадстаўнікі разначыннай інтэлігенцыі ў Расіі ў другой палове XIX ст., якія выступалі супраць прыгону і самадзяржаўя. Верылі ў магчымасць развіцця Расіі па некапіталістычным шляху і ў сялянства як носьбіта сацыялістычных адносін.

**На́цыя** — супольнасць людзей, для якіх характэрны пражыванне на адной тэрыторыі, адзіная эканоміка, адна мова, агульныя рысы культуры і псіхалогіі.

**Нацыяналíзм** — ідэалогія і палітыка, якія прызнаюць нацыю найвышэйшай каштоўнасцю і найлепшай формай супольнасці людзей. Служыць магутнай аб'яднальнай сілай у барацьбе за нацыянальную незалежнасць. Нярэдка суправаджаецца прызнаннем перавагі адной нацыі над другой, што становіцца прычынай кровапралітных канфліктаў.

**Неагóтыка** (у архітэктуры) — стыль, які адраджаў архітэктурныя формы і дэкаратыўныя матывы готыкі.

**Неакласіцы́зм** (у архітэктуры) — стыль, для якога характэрна захаванне традыцый антычнасці, Адраджэння і класіцызму.

**Паліты́чная пáртыя** — палітычная арганізацыя, якая выказвае інтарэсы пэўнай сацыяльнай групы.

**Парлáменцкая рэспýбліка** — рэспубліка, для якой характэрны выразны падзел заканадаўчай і выканаўчай улад і кантраляванне парламентам дзейнасці ўрада.

**Піянéр** — чалавек, які першым пранікае ў якую-небудзь недаследаваную галіну, пракладвае новыя шляхі ў якой-небудзь дзейнасці. Так называлі людзей, якія перасяліліся на заходнія неасвоеныя землі Паўночнай Амерыкі.

**Праклама́цыя** — заклік, зварот у форме лістоўкі.

**Прамыслóвы перавapóт** (прамысловая рэвалюцыя) — пераход ад ручной вытворчасці да машыннай, стварэнне фабрычна-заводскай прамысловасці.

**Пратэктарáт** — адна з форм каланіяльнай залежнасці, пры якой залежная краіна перадае іншай дзяржаве права на вядзенне сваіх знешніх адносін і на абарону сваіх граніц.

**Пратэкцыянíзм** — палітыка дзяржавы, скіраваная на абарону нацыянальнай эканомікі ад замежнай канкурэнцыі шляхам увядзення высокіх пошлін на тавары, што ўвозяцца ў краіну.

**Прафсаю́з** — арганізацыя працоўных, якая імкнецца палепшыць аплату і ўмовы працы.

**Радыкáл** — прыхільнік карэнных, рашучых мер.

**Разначы́нцы** — у Расіі ў XIX ст. выхадцы з розных саслоўяў, якія займаліся пераважна разумовай працай.

**Рамантызм** — кірунак у мастацкай культуры канца XVIII — першай паловы XIX ст. Характарызуецца ўвагай да ўнутранага свету чалавека, ідэалізацыяй прыроды, паэтызацыяй гераічнай асобы, заменай рэальнай рэчаіснасці фантастычным або ідэалізаваным вобразам свету.

**Расíзм** — сукупнасць вучэнняў, у аснове якіх знаходзяцца палажэнні аб фізічнай і псіхічнай нераўнацэннасці рас і аб вырашальным уплыве расавых адрозненняў на гісторыю і культуру.

**Рэалі́зм** — кірунак у мастацкай культуры, прадстаўнікі якога імкнуцца аб'ектыўна адлюстроўваць навакольную рэчаіснасць.

**Рэвалюцы́йныя дэмакра́ты** — у Расіі ў XIX ст. прыхільнікі рэвалюцыйных грамадскіх пераўтварэнняў і актыўнай барацьбы з самадзяржаўем.

**Рэжы́м** — дзяржаўны лад; метад праўлення.

**Рэфармі́зм** — плынь у міжнародным рабочым руху, прыхільнікі якой выступалі за пераўтварэнне грамадства шляхам рэфармавання капіталізму.

**Сацыя́л-дэмакра́тыя** — палітычны рух, які абвясціў сваёй мэтай барацьбу за паляпшэнне жыцця людзей. Падзяліўся на два асноўныя кірункі: рэвалюцыйны і рэфармісцкі. Рэвалюцыянеры дабіваліся ўдасканалення грамадства шляхам узброенай барацьбы. Рэфармісты выступалі за паступовыя мірныя пераўтварэнні.

**Сентыменталі́зм** — кірунак у мастацкай культуры другой паловы XVIII — пачатку XIX ст. Вызначаўся павышанай увагай да пачуццяў чалавека, сузіральнасцю, элегічнымі і пастаральнымі настроямі, захапленнем натуральнай прыродай і ідэалізацыяй патрыярхальнага быту.

**Сімвалі́зм** — кірунак у мастацкай культуры другой паловы XIX — пачатку XX ст. Яго прадстаўнікі галоўнай мэтай мастацтва лічылі спасціжэнне тайнаў быцця праз інтуіцыю, паэтычную «магію», вобразнае, сімвалічнае пазнанне.

**Трэд-юніёны** — назва прафсаюзаў у Вялікабрытаніі і шэрагу іншых англамоўных краін.

**Цывіліза́цыя** — 1) матэрыяльная і духоўная культура; 2) асаблівы гістарычны этап, які настаў за перыядамі дзікасці і варварства; 3) ступень грамадскага развіцця, якая адрозніваецца параўнальна высокім узроўнем развіцця вытворчасці, сацыяльных адносін, палітычнага жыцця, навукі і іншых элементаў культуры; 4) супольнасць людзей, аб'яднаная падобнымі духоўнымі каштоўнасцямі і ідэаламі, што мае агульныя рысы ў матэрыяльнай культуры, эканоміцы, ладзе жыцця і г. д. (напрыклад, заходнееўрапейская, усходнія цывілізацыі).

**Цэнзу́ра** — сістэма дзяржаўнага нагляду за друкам.

**Чыно́ўнік** — дзяржаўны служачы. У Расіі чыноўнікі мелі класныя чыны згодна з Табелем аб рангах. Вышэйшых чыноўнікаў 1—4-га класаў неафіцыйна называлі саноўнікамі.

**Шавіні́зм** (ад імя Н. Шавэна, салдата, прыхільніка заваёўніцкай палітыкі Напалеона Банапарта) — крайняя форма нацыяналізму. Грунтуецца на прапагандзе нацыянальнай выключнасці, праяўляецца ў проціпастаўленні інтарэсаў адной нацыі інтарэсам іншых, распальванні міжнацыянальнай варожасці і нянавісці.

**Эканамі́чны кры́зіс** — парушэнне ў ходзе развіцця эканомікі. Праяўляецца ў абсалютным спадзе вытворчасці, росце беспрацоўя і г. д.

**Эклекты́зм** — адвольнае спалучэнне элементаў разнастайных стыляў у архітэктуры і выяўленчым мастацтве, а таксама разнастайных поглядаў і тэорый у навуцы.

**Экспа́нсія** — пашырэнне (часта гвалтоўнае) сферы эканамічнага і палітычнага панавання дзяржаў або грамадскіх груп.

**Э́кспарт** — вываз тавараў або капіталаў за мяжу.

**Эміgра́цыя** — вымушанае або добраахвотнае перасяленне са сваёй айчыны ў іншую краіну па эканамічных, палітычных або рэлігійных прычынах.

**Эмі́р** — правіцель, кіраўнік дзяржавы, военачальнік у краінах мусульманскага Усходу.

**Эпіта́фія** — надмагільны надпіс; кароткі верш, прысвечаны памерламу.

**Ю́нкер** — дваранін-землеўладальнік, памешчык у Прусіі.

## ПАДЗЕІ ГІСТОРЫІ НОВАГА ЧАСУ Ў МАСТАЦКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

*Бальзак, О. де.* Гобсек; Шагреневая кожа; Евгения Гранде / Оноре де Бальзак. — М., 2010.

*Бичер-Стоу, Г.* Хижина дяди Тома / Гарриет Бичер-Стоу. — М., 2010.

*Буссенар, Л.* Капитан Сорви-голова / Л. Буссенар. — М., 2010.

*Буссенар, Л.* Похитители бриллиантов / Л. Буссенар. — М., 2010.

*Вазов, И.* Под игом / Иван Вазов. — Алма-Ата, 1988.

*Вершинин, Л.* Рим или смерть: повесть о Гарибальди / Л. Вершинин. — М., 1991.

*Войнич, Э. Л.* Овод / Этель Лилиан Войнич. — М., 2009.

Всемирная история Нового времени (XIX — начало XX в.): 8 кл.: кн. для чтения / авт.-сост. А. И. Филимонов. — Минск, 2007.

*Выгодская, Э.* Опасный беглец / Э. Выгодская. — Мурманск, 1988.

*Гарт, Б.* Гэбриэль Конрой / Брет Гарт. — М., 2004.

*Гашек, Я.* Похождения бравого солдата Швейка / Ярослав Гашек. — М., 2008.

*Готье, Т.* Путешествие в Россию / Теофиль Готье. — М., 1990.

*Гусев, В.* Горизонты свободы: повесть о Симоне Боливаре / Владимир Гусев. — М., 1980.

*Гюго, В.* Девяносто третий год / Виктор Гюго. — СПб., 2010.

*Диккенс, Ч.* Приключения Оливера Твиста / Чарльз Диккенс. — М., 2010.

*Задорнов, Н.* Гонконг / Николай Задорнов. — М., 2009.

*Кальма, Н.* Джон Браун; Заколдованная рубашка / Н. Кальма. — М., 1985.

*Киплинг, Р.* Восток есть Восток / Редьярд Киплинг. — М., 1991.

*Кирова, К. Э.* Жизнь Джузеппе Мадзини (1805—1872) / К. Э. Кирова. — М., 1981.

*Лондон, Дж.* Белый Клык; Зов предков / Джек Лондон. — М., 2010.

*Митчелл, М.* Унесенные ветром: в 2 т. / Маргарет Митчелл. — М., 2010.

*Моруа, А.* Байрон / Андре Моруа. — М., 1998.

*Моруа, А.* Прометей, или Жизнь Бальзака / Андре Моруа. — Алма-Ата, 1990.

*Новиков-Прибой, А.* Цусима / Алексей Новиков-Прибой. — М., 2005.

*Ремарк, Э. М.* На Западном фронте без перемен / Эрих Мария Ремарк. — М., 2010.

*Рид, М.* В дебрях Южной Африки; Юные охотники; Охотники за жирафами / Майн Рид. — М., 1991.

*Стендаль.* Красное и черное; Ванина Ванини / Стендаль. — М., 1989.

*Степанов, А.* Порт-Артур: в 2 кн. / Александр Степанов. — М., 1993.

*Стоун, И.* Жажда жизни: биограф. повесть о Винсенте Ван Гоге / Ирвинг Стоун. — М., 2010.

*Стоун, И.* Происхождение: роман-биография Ч. Дарвина / Ирвинг Стоун. — М., 1989.

*Тагор, Р.* Золотая ладья: избр. произведения / Рабиндранат Тагор. — М., 1989.

*Твен, М.* Приключения Тома Сойера / Марк Твен. — М., 2010.

*Толстой, Л.* Севастопольские рассказы / Лев Толстой. — М., 2010.

*Тынянов, Ю.* Смерть Вазир-Мухтара; Кюхля / Юрий Тынянов. — М., 1981.

*Форш, О.* Одеты камнем; Михайловский замок / Ольга Форш. — М., 2004.

*Чубинский-Надеждин, В.* Бисмарк / Вадим Чубинский-Надеждин. — М., 1997.

## ЗМЕСТ

**Кошалеў, У. С.**
К76 Сусветная гісторыя Новага часу, XIX — пачатак XX ст. : вучэб. дапам. для 9-га кл. агульнаадукац. устаноў з беларус. мовай навучання / У. С. Кошалеў ; метад. забеспячэнне Н. В. Байдаковай. — 3-е выд., дап. і перагледж. — Мінск : Выд. цэнтр БДУ, 2010. — 231 с. : іл.
ISBN 978-985-476-867-0.

Папярэдняе выданне аўтараў У. С. Кошалева, В. І. Сініцы выйшла ў 2005 г.

**УДК 94(100)(075.3=161.3)**
**ББК 63.3(0)я721**

Вучэбнае выданне

**Кошалеў** Уладзімір Сяргеевіч

**СУСВЕТНАЯ ГІСТОРЫЯ НОВАГА ЧАСУ**
**XIX — пачатак XX ст.**

Вучэбны дапаможнік
для 9 класа агульнаадукацыйных устаноў
з беларускай мовай навучання

*3-е выданне, дапоўненае і перагледжанае*

Галоўны рэдактар *Т. Я. Янчук*
Рэдактары *М. І. Рэменіца, А. В. Семенчукова*
Мастацкі рэдактар *М. Я. Шкурпіт*
Пераклад з рускай мовы *С. У. Камісаравай, Т. М. Шахмуць*
Тэхнічны рэдактар *К. У. Раманчык*
Камп'ютарная вёрстка *Н. Я. Бацюковай*
Карэктары *Н. Б. Кучмель, Т. І. Рыбакова*

Падпісана да друку 14.12.2010. Фармат 70×90 1/16. Папера афсетная № 1. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 16,96. Ул.-выд. арк. 12,1. Тыраж 24 000 экз. Заказ

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства
«Выдавецкі цэнтр Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта».
ЛИ № 02330/0494361 ад 16.03.2009. Вул. Чырвонаармейская, 6, 220030, Мінск.

Вытворчае рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства
«Мінская фабрыка каляровага друку». ЛП № 02330/0494156 ад 03.04.2009.
Вул. Каржанеўскага, 20, 220024, Мінск.